# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

**8**

1 9 3 7



# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ВОСЬМАЯ*







МЕНСК—1937



*Шота Руставелі*

# ПЕСНЯ ПЕРШАЯ ПРА РОСТЭВАНА АРАБСКАГА ЦАРА

(*З паэмы „Віцязь у тыгравай скуры“*)

Ростэван быў цар арабаў, уладарыў з ласкі бога,
На чале стаяў вассалаў, шчодры быў ён правадыр.
Быў ён літасным суддзёю і прысуд пісаў ён строга,
Мужны воін быў у бойках і рачыстым вельмі слыў.

Уладарац не меў сына, як святло-ж была царэўна,
Ну як месяц у з'янні зорак выступае скрозь імглу.
Хто яе аднойчы ўбачыў, траціў той спакой імгненна,
Толькі мудрыя паэты смелі скласці ёй хвалу.

Тінатін—імя царэўны, той дзівоснае дзяўчыны;
Падрасла і засланіла сонца яснага святло.
Неяк склікаў цар візіраў і вялікасна і чынна
Ён сярод сваіх дарадцаў кажа колькі шчырых слоў:

„У мяне адзіны клопат, хай адказ ваш будзе ясны.
Калі ружа ападае ў адцвітання пэўны час,
Дык тагды другая ружа упрыгожыць сад заўчасна,
А жыцця астыне сонца, вечны змрок абдыме нас.

Старасць горш за ўсе хваробы, дні на схіле мае сёння.
Блізкі дзень майго скanaння,—што мне лёс наканаваў.
Свет—не свет, каторы меркне, патухаючы ў бяздонні—
Дык аддам дачцэ-ясноце трон і цяжар царскіх спраў.

А візіры адказалі: „Валадар ты наш славуты,
Калі ружа цветам вяне трэба памятаць аб тым,—
Прыгажосцю, роўнай пахам няма ў свеце краскі-руты,
Хай сабе шчарбаты месяц, не змагацца зоркам з ім!

„Цар! Пакуль у цвеце пышным ружа з венчыкам румяным,
Усіх другіх парад мудрэйшы нават хібны твой адказ.
Дык зрабі і не хістайся, ўсё што сэрцам падказана—
Перадай прастол царэўне, што зацміла сонца ўраз.

Вось жанчына, а ёй неба уладарыць прысудзіла;
Кажам проста: што дастойна Тінатін прыняць вянец.
Нам яна ў красе і ўчынках нават сонца замяніла.
Бо да льва—львянё падобна, хай то самка ці самец".

Аўтандзіл быў віцязь слаўны, з'яў як месяц ён, як сонца,
Ростам роўны з кіпарысам, быў цара Эміра сын.
Быў захоплены тагды ён Сонцатвараю бясконца,
Аж мертвілі яго стрэлы—вейкі дзіўнай Тінатін.

Раны горкія у сэрцы правадыр палкоў хавае—
Разлучыўшыся з свяцілам ружа цвет губляе свой.
Але ўбачыўшыся зноўку ружа пышна расцвітае.
Небарак той, чыё сэрца запалонена жальбой.

Цар панікнуўшы ў сумоце перадаў дачцэ дзяржаву,
Віцязь быў бязмерна рады і падзяку лёсу слаў!
„О раскоша—часта бачыць твар царэўны, яе славу:
Дык няўжо у цяжкім суме я уцеху адшукаў".

Вось імчаць ганцы бясконца па Аравіі ўладара:—
„Цар дачку сваю красуню ўжо вянчае у цары.
Хай-жа людзям ды на радасць заўжды будзе Сонцатварай,
Дык прыходзьце і прыносце віншавання ёй дары.

Ї прышоў натоўп арабаў, знаці іхняй радавітай,—
Аўтандзіл военачальнік, над усімі валадар,
Ї ў кругу Саграт візіраў, верны служка царскай світы,
Паглядзелі і сказалі: „Дзіўны-нібы сонца дар".

Тінатін сам бацька вывеў перад шумным людскім морам,
Ї вянчае на прастоле асляпляючым вянком,
Скіпетр ёй дае у рукі, злататканыя уборы;
Тінатін як сонца з'яе, асвятліўшы царскі дом.

Ї на трон благаславіўшы, усе царыцу прывіталі,
Цар тагды з правадырамі да зямлі паклоны б'юць.
Ґукі труб, цімпанаў гуды невымоўна загучалі,
Тінатін у слёзах: вейкі—як крылы да долу мкнуць.

Я не варта—мысліць гэтак—ў рукі ўзяць дзяржаву, ўладу;
Ї цякуць па шчоках слёзы, нібы садам пахкіх руж.
Кажа цар: „Заўсёды бацьку замяняе яго чада,
Табе уладу не ўручыўшы, сэрцам палкім я згару.

Тінатін, навошта плакаць, ты прымі мае ўладанні,
Будзь царыцай аравійскай над зямлёй і над вадой;
Шырыню сваіх прастораў забяспеч ад нападанняў,
Май-жа мудры і разважны уладарскі розум свой.

Свет на гніль і купы ружаў сонца роўна лье ў прасторы;
Жабракоў і багацеяў роўна светам надары.
Шчодрасць сцішыць непакорных, а пакорныя—ў пакоры,
Шчодрай будзь, як невычэрпны акіяны і мары.
Дабрата царам да твару, як эдэму цень элоэ,
Шчодраму пакорны кожны, нават хцівы чалавек.
Дом гасцям адчынен—добра; копіць толькі сэрца злое,
Дар аддаў—багатым станеш, захаваў—згубіў навек".
Бацькі мудрую гаворку дачка слухае уважна,
Слых—прыкуты да навукі, да вялічча—зрок вачэй.
Пеняць віны, цар гуляе, песня мкнецца недасяжна.
Тінатінна сонца з'яе, Тінатін—куды ярчэй.

---

## ЛІСТ НЭСТАН ДАРЭДЖАН СВАЙМУ КАХАНКУ

Вось каханку яна піша, слёзы льюцца несціханна,
Суцішаюць палыменне, ахапіла што яе.
У ружы вуснаў ледзь адкрытых жэмчуг белы захаваны,
Хто чытае—словы грудзі працінаюць як кап'е.

„Любы, ты перачытаеш аб усім што перажыта,
Сціласам мне цела служыць, кроўю-ж пісаны радкі.
А папірусам—дык сэрца, што з маім навекі зліта,
Сэрца беднае ў журбоце—з сэрцам злійся на вякі.

Глянь-жа, любы, што на свеце, гэтым свеце горкай былі!
Колькі-б сонца не свяціла, мне святлей не можа быць.
Мудрацы жыццё пазнаўшы, ўсё навекі асудзілі,
Мне не выказаць у словах, без цябе як цяжка жыць.

Разлучылі нас навекі век глухі і час жахлівы.
І не суджана мне ўбачыць сонца светлых воч твае!
Я таемнасць раскрываю, што хавала палахліва,
Як-жа быць, о любы, з сэрцам, раніць што твае кап'е.

Мёртвым я цябе лічыла і ў душы з глухой трывогай
У барацьбе цягала путы абяссілеўшы ад слёз.
А цяпер ад шчасця плачу і ў рыданні слаўлю бога,
І клянуся, меней гора і святлей далейшы лёс.

Я жыву тваім каханнем і навошта мне спагада,
Для душы ў журбоце доўгай, у чарзе ліхой бяды.
За замкамі ў падняволлі ты адзіная мне радасць
І каханне ў сэрцы палкім расцвітае праз гады.

Пра маё жыццё-атруту расказаць хто дапаможа?
Колькі я перацярпела, не паверыш мне у тым?
Прытуліла мяне фацьма, дай-жа ёй ратунак, божа.
Ды ўчыніў-жа свет зладзейства прызвычаенае ім.

Нечаканыя бядоты свет суровы мне ўсё множыў,
І прадбачнасць разрывала душу кволую не раз.
Я у Каджы у няволі, што нікім не пераможны,
Рокам суджаны удары, паражаючыя нас.

Ў замку я. Яго вяршыні не дасягнеш нават вокам
І бяссонная ахова над зямлёй вартуе шлях.
На сцянах несакрушальных там дазор стаіць навокал,
Пасылаючы пагібель і смяротнай буры жах.

Так, чароўна сіла Каджы, перашкод яны не знаюць.
Ведай, новага удара паражыць-бы не змагла:
Там памрэш—згару адразу, нібы трут ў агні, сканаю,
Ты забудзь мяне і сэрцам стань нязрушны як скала.

Будзь-жа мужны і цярплівы, хоць і горкая разлука.
Не цвісці мне ўжо як топаль у чужацкім тут саду.
Без цябе жыцця не будзе, будзе вечная мне мука—
З вежы кінуся на скалы, ці на шаблю я ўпаду.

Я жыццём тваім клянуся, для цябе як месяц стану,
Калі-б мне зіяла неба нават светам трох свяціл.
Я пакіну свет абрыдлы, бездань мора я дастану,
Вымалі мне вызваленне ад вышэйшых неба сіл.

Хай, адкінуўшы ўсе скрухі, бог ратуе ад зліяння
З морам і агнём, з паветрам, з хваляй срэбранай вады;
Дасць мне крыллі для ўзлёту, знішчыць праглівасць жадання,
І я ўбачу днём і ноччу воблік сонца малады.

Без цябе не будзе сонца, частка ты яго малая,
І як леў у зодыяку ты з ім зліты у адно.
Раз цябе убачу з сонцам, змрок мой сэрца прападае:
Мне было жыццё атрутай, смерць салодкім будзе сном!

Раз табе даверу душу, смерць сустрэну я без мукі.
Я каханне захавала, як вышэйшы сэрцу дар.
Але раны так балючы, што нанесены разлукай;
Ты не плач па мне, прашу я, і спакой мне вечны дай.

Ты ляці ў даліну Інда, бацька там мой у палоне.
Пакарыўся супастату, пад яго панік пятой.
Ў падняволлі бедны стогне—моц вярні яго кароне,
Дзеля той, што у няволі з закаханаю душой.

Больш журботаю смяротнай твой спакой не патрывожу.
Сэрца знае шлях да сэрца, непадкупнае ўсяму.
Хай лепш зграй варон пачую ў забыцці на смертным ложы,
Бо жывая—боль і мукі прычыняю я яму.

На ўспамін я шлю палоску мне падоранай вуалі,
Што ўпрыгожвала няволю, чорны мой пракляты лёс.
Гэта ўсё, што застаецца, ад надзей, што нас звязалі,
Нас клянуць смяротным гневам сферы ўсіх сямі нябёс".

Ліст напісаны да друга любага і дарагога,
І палоскаю узорнай ён любоўна апавіт.
Чорныя спадаюць косы без убрання галаўнога,
Як крыламі вейкі веюць, бровы—стрэламі ў блакіт.

І нявольнік той як каджа—нібы праляцеў дарогу,
І пісьмо прывёз да Фацьмы, і ў шляху не доўга быў.
Аўтандзіл быў вельмі рады і падзякі слаў ён богу,
І узняўшы рукі к небу найвышэйшага хваліў.

Кажа Фацьме: „ўжо адбыўся лёсу паварот шчаслівы.
Я павінен, ды не маю доўг чым з гонарам аддаць.
Надышоў-жа час расплаты і на месца палахлівым,
Мы на крэпасць зараз рушым ўсёзнішчаючую рать.

Фацьма кажа: „А паедзеш, мука полымная вочы
Мне тагды засцеле змрокам, свет патухне для мяне.
Ўсё-ж ляці ты да палоннай, цяжкім шляхам чорнай ночы,
А падойдуць блізка каджы, горкі лёс нас не міне.

Абвясціў слухмяным слугам, што ў цара Фрыдона ўзяты:
„Мерцвякамі ўсе былі мы, надышоў цяпер наш час.
Гэта вестка, як збавенне, будзе ворагу адплатай.
Прыме раны і пагібель ён ад нашага меча.

Дык спяшайце да Фрыдона, паважанага ўладарца;
З ім неўбачыўшыся еду невядомай старaной.
Хай-жа ён абвесціць нашым, я ў паход іду, змагацца,
Вам-жа аддаю багацце, што ў баях узята мной.

Вы мне шчыра паслужылі. Ўзнагароджу добрай платай,
Калі стрэнуся з Фрыдонам, за адданасць вашу я,
Аддаю пакуль здабычу, што забралі ў піратаў,
Не падумайце, скупая воля царская мая.

Бо казна мая далёка і аддзякаваць мне нечым",
І вось дорыць карабель ён, у якім бясцэнны клад:
„Забірайце і ўладайце, а ўладарцу пры сустрэчы
Гэты ліст вось перадайце—я пісаў як брату—брат.

---

# ЗАВЕТ АЎТАНДЗІЛА, ПАКІНУТЫ РОСТЭВАНУ ПЕРАД ПАТАЙНЫМ АДЫХОДАМ

Вось саджуся поўны суму і завет сабе пішу я,
Імкнучыся зноў да сонца, да ласкавага святла.
А калі-ж яго не стрэну, сэрцам палкім не адчую—
Ты пашлі мне ў развітанне шчырых позіркаў цяпла.

Знаю вельмі не асудзіш, хоць учынак нечаканы.
Хіба мудры друга кіне у агні сардэчных ран?
А што сказана Платонам, не забыцца Ростэвану:
„Услед за целам губяць душу крывадушша і абман".

У хлусні ляжыць пачатак і няшчасцяў, і ўсіх стратаў.
Як змагу ў бядзе пакінуць друга лепшага як брат.
А пасмешышча над дружбай—гэта мудрасцю расплата:
Дружба смерці не баіцца, ні выгнанняў, і ні крат.

Дума шчырая пра друга болем сэрца не спакусіць,
Праклінаю я падлізаў, што з душой як мокры снег.
Як дзяржаўнаму герою друг адзіны, ды нахлусіць?
Хто нікчэмней ратаборца, што сутычку абміне?

Хто нікчэмней ратаборца, што прыходзіць на змаганне
І калоціцца ад страху, як убачыць смерць і кроў?
Баязлівец—нібы ткалля, ў шэраг з мужным ён не стане.
Найбагатшы той на свеце, хто бессмерццем славы йшоў.

А для смерці не існуе вузкіх сцежак і дарогаў,
І асілка і слабога—роўніць ўсіх яе рука.
Юнака кладзе ў магілу побач ля касцей старога—
Смерць зняслаўленага ганьбай—горай смерці смельчака.

А цяпер, о цар, паслухай ты адвечнай праўды слова:
Слабы той, хто смерць сяброўку не чакае госцяй ў дом,
Для яе зямля і неба непадлеглыя высновы.
Памяні мяне, дзяржаўны, як засну я вечным сном.

А надыйдзе дзень апошні, смерць пачую прад сабою,
Спадарожнік невядомы—прыпаду на зямлю я,
Неабмыты, не адзеты, не аплаканы раднёю—
Пашкадуй мяне ўладарац—будзе воля ўжо твая.

Ты раздай мае багацці—хай збягуцца на растанне.
Бедных зробіш багачамі, забяспеч калек і ўдоў,
Прытулі бяздомных сірат—хай-жа будзе лікаванне
Ўсіх абдораных і шчасных колішніх маіх рабоў.

Хай-жа сэрцы ўсіх убогіх за мяне ўслаўляюць бога,
Каб згубіўшы цела пугы-дух не ведаў мой агня,
Каб мінуў я тое пекла, хай-жа моляць ўсе святога,
Можа траплю я ў прытулак вечна сонечнага дня.

Каб падняўся я над змрокам ў далёкія вышыні,
Дзе душа мая збавенне знойдзе ад зямных турбот.
Дзе не смокчуць сэрца чэрві, дзе святло нябеснай сіні,
Дзе крылаты дух спраўляе бесцялесны свой аблёт.

А з тых скарбаў уладарца пад замкамі што цяжкімі,
Частку дай на багадзельні, частку дай ты на масты.
Хай напоўненыя стануць свірны, сховы ўсе пустымі.
Хто маю уцешыць душу, калі ў тым адкажаш ты?

Ад мяне, вядома, вестак не чакайце болей з дому,
Даручаю табе душу прадсмяротным я лістом.
А хаўрус хлуса і д'ябла непатрэбны ўжо нікому;
Дык прабач-жа, бо судзіцца немагчыма з мерцвяком.

Ласкаў будзь з маім падручным, маім верным Шамадзінам,
Гэты год бяда як хмара колькі раз была над ім.
Супакой сваёю ласкай, шчырай ласкаю, як сына,
Так, каб слёз крывавых кроплі ў горы ён не ліў сваім.

Вось дапісаны рукою мой завет табе турботны;
Я бягу з шалёным сэрцам за пасланнем гэтым ў след.
О цары! Няхай міне вас лёс дакучлівы, бядотны,
На страх ворагу ўладарце бестурботна многа лет".

Дапісаў і вось звярнуўся да свайго ён Шамадзіна:
„Занясі ты валадару і раскажаш аб усім.
Быў ты раб паслушны, шчыры, для мяне заўжды адзіны".
Ён абняў слугу і горка слёзна плакаў перад ім.

*Пераклаў* МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ.

---



*Н. Шпанаў*

# ДВАНАЦЦАЦЬ ГАДЗІН ВАЙНЫ

Раман *)

Нас абкружаюць дзяржавы больш або менш варожыя нам, прычым многія „больш“ чым „менш“. Гэтыя варожыя дзяржавы маюць свае арміі, з сваёй ваеннай тэхнікай. І вось мы хочам па ўсіх відах зброі, па ўсёй баявой тэхніцы мець самыя лепшыя ўзоры, у дадатак з найбольшай дасканаласцю, дакладнасцю і акуратнасцю зробленыя.

*Варашылаў* („За магутны стаханаўскі рух у краіне і Чырвонай арміі“).

*19 г. 00 хв.—21 г. 00 хв.*
*18/VIII*

Атрымаўшы прызначэнне да камкора для сувязі, капітан Касых разлічваў мець шмат вольнага часу і прасачыць за ходам усёй аперацыі. Ён не ўлічваў таго, што ўпершыню ў сапраўдных баявых абставінах такая армада, як пяцьсот сорак бамбардыроўшчыкаў з прыданымі ім шасцідзесяццю самалётамі разведкі, г. зн. агулам шэсцьсот машын—пойдуць пад камандай аднаго чалавека ў агульны рэйд. У розных пунктах, групах, калонах гэтай армады маглі ўзнікнуць палажэнні, якія будуць патрабаваць неаднаразовых перастраенняў, можа нават перамены курсаў. Калі флагман не будзе кожнае хвіліны ведаць пра ўсе гэтыя змены і зусім выразна ўяўляць размяшчэнне калон, то ўрэшце атрымаецца блытаніна, разабрацца ў якой будзе немагчыма.

Перад Касых аказалася цэлая серыя планшэтаў з паказанымі на іх схемамі злучэнняў, у яго распараджэнне быў дадзены адвод ад прыёмніка флагманскай радыёстанцыі. Ён павінен быў выбіраць з данясенняў тое, што мае дачыненне да змены парадкаў і страёў у калонах і не марудзячы перадаваць гэтыя весткі ў цэнтральны пост кіравання флагмана.

Гэты абавязак, наўпярок чаканням Касых, амаль не пакідаў яму часу на тое, каб часам паназіраць у аптычную глядзельную трубу, што мелася ў падлозе. Моцныя лінзы давалі магчымасць бачыць на зямлі кожную дэталь. Не гледзячы на вышыню ў 7000 метраў, у круглым вочку трубы праходзіла, як жывое і яркае тое, што няўзброенаму воку здавалася плоскай картай, з выцвілымі аднастайнымі фарбамі.

*) Працяг. Пачатак у № 7 „Полымя Рэвалюцыі“.

Агульны характар мясцовасці, над якой ляцелі калоны асобага корпуса, пакуль што мала чым адрозніваўся ад добра знаёмага Касых украінскага ландшафта. Але моцная оптыка дазваляла вызначыць розніцу ў абставінах. Перш за ўсё кідалася на вочы мазаічная раздробненасць палёў. Жоўтыя квадрацікі ярыны чаргаваліся з касымі, пачварнымі клінкамі ўзараных папараў. Воку, якое прывыкла да стройных масіваў совецкіх палёў, і не разабрацца ў гэтай блытаніне. Часам відаць было, як панура цягнуцца чалавек з канём. Гэта здавалася тэатральнай няпраўдай. Чалавек і конь былі такімі бездапаможнымі, закінутымі ў гэтай блытаніне рознакаляровых шматкоў зямлі.

Большасць рабочых пасёлкаў у індустрыяльных раёнах станавілі сабою кучу хібарак, густа налепленых вакол пляцоўкі завода. Нейкія вузкія шчылінкі гэткага-ж брудна-бурага колеру, што і самі хацінкі, як відаць, былі праходамі паміж імі.

Час-ад-часу сярод шматковых сялянскіх палёў у аб'ектыў трубы ўваходзілі больш буйныя плямы. Дзе-небудзь на ўскраі гая або на ўзгорку каля ракі можна было ўбачыць групу прыгожых белых дамоў памешчыцкай сядзібы. Часамі гэта былі старажытныя замкі.

Усведамленне таго, што групы белых дамоў гэта не будынкі нашых соўгасаў, што расплюснутыя, брудныя бляхі рабочых пасёлкаў поўны людзей, якія з прагаю сочаць за самалётамі, напаўняла Касых пачуццём вострай цікаўнасці. Зусім забывалася, што ўнізе ёсць, пэўна, зенітныя батарэі, аэрадромы, знішчальнікі. А калі гэтая думка прыходзіла на памяць, рабілася дзіўна, амаль незразумела, чаму калоны з такой лёгкасцю вось ужо на працягу гадзіны ідуць над тэрыторыяй Паспалітаніі. Ім не аказвалася ніякага супраціўлення, хаця корпус зайшоў ужо амаль на трыста кіламетраў углыб варожай краіны.

Не гледзячы на падазронасць такой інертнасці паспалітанцаў, галоўныя сілы корпуса ішлі зусім спакойна. Корпусная разведка ішла наперадзе веерам, высунутым на пяцьдзесят кіламетраў. Разведчыкі ішлі звеннямі на вышыні ад 8 да $8\frac{1}{2}$ тысяч метраў. Яны аставаліся амаль нябачнымі і не чутнымі. Яшчэ некалькі год таму назад, яны былі-б на такой вышыні зусім сляпымі і, значыць, не маглі-б даваць ніякай карысці. Але магутная оптыка ў спалучэнні з аўтаматычна працуючымі фота-апаратамі, дазваляла цяпер весці плённае назіранне мясцовасці, над якою ляцелі. Разведвальная работа была арганізавана ў асобым корпусе зусім па-новаму. Па новаму настаўленню „Разведкі суправоджання дальняга рэйда“, абавязкам лётчыка-назіральніка было, галоўным чынам, назіранне за навакольнай паветранай прасторай. Пры сучасных хуткасцях, з'яўленне ў паветры знішчальнікаў або аэрастатаў загароды магло быць выяўлена толькі пры пастаянным і ўважлівым назіранні за паветрам. Вялікая хуткасць і вялікая вышыня палёту рабілі візуальнае назіранне за зямлёй вельмі цяжкім. Чалавечае вока, нават узброенае лепшай оптыкай, ужо не магло фіксаваць прадметы з дакладнасцю, якая патрэбна была разведчыку, каб „раскрыць“ мясцовасць.

Скрадваючы хуткасць руху, вялікая вышыня рабіла чалавека сляпым. Яму патрэбна была оптыка. А варта было лётчыку-назіральніку ўзброіцца трубой, якая давала-б магчымасць добра чытаць мясцовасць, як зямля пачынала мільгаць у акуляры з хуткасцю, перавышаючай здольнасць успрыймання чалавечага вока. Фіксаванне ўвагі назіральніка рабілася немагчымым і ён атрымліваў толькі самае агульнае ўяўленне пра пройдзены маршрут. Такім чынам стваралася супярэчнасць, якую, здавалася, нельга было вырашыць, не ахвяраваўшы адной з станоўчых якасцей сучаснага разведчыка—хуткасцю або вышынёю палёту. Але зрабіць гэта не дазвалялі ўмовы баявога палёту.

Вырашыць задачу назірання мясцовасці з вялікай вышыні на вялікай хуткасці дапамагла ўсё тая-ж тэхніка. Супольнымі намаганнямі радыётэхнікаў, оптыкаў і хімікаў быў сканструяваны агрэгат з дэманстрацыйнага, фота-здымачнага, лабараторнага і радыёбільд-апаратаў.

Цікавай дэталлю фотаграфічнай часткі гэтай устаноўкі было прымяненне новых адчувальных да колеру эмульсій, якія выяўлялі прыроду фарб, што фіксаваліся. Штучная афарбоўка (хімічная) дзейнічала на эмульсію зусім інакш, чым натуральныя колеры. Здымак атрымліваўся рэзка скажоным па колеру і адразу кідаўся на вочы назіральніку. Гэта давала магчымасць хутка выявіць усякія штучныя збудаванні і маскі. Маскаванне мясцовасці расфарбаванымі палотнамі, фанерай і т. п. было ў такіх умовах зусім выключаным. Такая ўласцівасць эмульсіі рабіла вялікую палёгку ў рабоце па дэшыфраванню аэрафотаздымкаў.

Галоўнай цяжкасцю для канструктараў гэтага фатаграфічнага „наглядальніка“ было скарачэнне часу, патрэбнага на фотахімічныя працэсы. Але яны справіліся і з гэтым. Праз 82 секунды пасля спуску затвора фотакамеры, пазітыў ужо праектаваўся на экран.

Заганай апаратуры „маршрутнага разведчыка“ была яе значная вага. Апрача таго, яе абслугоўванне патрабавала прысутнасці на самалёце лішняга чалавека. Давялося стварыць спецыяльны, больш магутны тып дальняга двухматорнага разведчыка суправаджэння, які атрымаў абазначэнне „ВРД“—высотны разведчык дальняга рэйда.

Высунуты наперад веер з некалькіх дзесяткаў такіх ВРД дазваляў галоўным сілам Асобага корпуса рухацца зусім упэўнена, ведаючы, што ўсякі сюрпрыз з боку праціўніка будзе выяўлены разведкай.

Разведчыкі ішлі па трое, трымаючыся на найбольшай вышыні, якую дапускала воблачнасць. Цырусы*) плылі разарванымі клінамі, разведчыкі трымаліся крыху ніжэй, каб была добрая бачнасць. Разведвальны веер вёў камандзір брыгады наглядання—палкоўнік Старун. Ён ляцеў у замку свайго перадавога звяна, увесь час падтрымліваючы радыё-сувязь з флагманскай машынай. Стары, асцярожны лётчык, спрактыкаваны і ўважлівы разведчык, ён не адрываючыся слухаў эфір і быў гатовы прыняць паведамленне лю-

*) Пёрыстыя воблакі.

бога з сваіх дваццаці звенняў. Тое, што да апошняга часу, за гадзіну палёта над варожай тэрыторыяй, ніводзін з самалётаў не данёс пра што-небудзь падазронае, прымушала палкоўніка непакоіцца.

Роўнядзь змянілася адхоністымі ўзгоркамі, што зараслі дробным хмызняком. Кантрольная фоталента па-ранейшаму не паказвала ніякіх адзнак аэрадромаў, зенітнай артылерыі, ніводнага напаміну пра штучную маскіроўку. Старун ведаў, што да асноўнай зоны супраціўлення яшчэ досыць далёка, але ён ніколі не думаў, што праціўнік так спакойна падпусціць да яе бальшэвікоў, не паспрабаваўшы нават збіць іх з маршрута. Такая вытрымка з боку паспалітанцаў была нечаканай. Старун не ацэньваў высока баявыя якасці паспалітанскай арміі і ў прыватнасці яе паветраных сіл. Яны хочуць падпусціць ворага да самога вузла свайго супраціўлення? Тым горш для іх: бальшэвікі не збіраюцца ісці да паспалітанскай сталіцы і хутка лягуць на новы курс. Тады ўжо будзе позна прыцягваць да барацьбы паветраныя сілы актыўнай абароны. Яны не справяцца нават уступіць у супраціўленне з корпусам Халюціна.

— Ну, што-ж, тым лепш, тым лепш для нас,—заспяваў ён паводле старой прывычкі, ведаючы, што ніхто не пачуе яго голаса, якога ён так сароміўся на зямлі. Тут ніхто не ўпікне, што ў яго дрэнны слых.—Тым горш для...—пачаў быў ён новую руладу, але абарваў на паўслове: галаўны самалёт пярэдняга звяна раптам перакруціўся вакол вертыкальнай восі. Перш чым Старун справіўся прааналізаваць гэты рух, правая паверхня пярэдняга самалёта адвалілася і пачала падаць. Сам самалёт зрабіў яшчэ некалькі бязладных рухаў і пайшоў уніз. Ад падаючай машыны аддзяліліся тры чалавекі і, праляцеўшы некалькі дзесяткаў метраў, раскрылі парашуты. К таму часу, як раскрыліся парашуты, падаючы самалёт ужо даўно знік з поля зроку Старуна. Лётчык яго уласнай машыны, следуючы рухам ішоўшых наперадзе машын галаўнога звяна, крута ўзяў на сябе. ВРД, узвіўшы маторамі, горкай палез у воблака. І ў той момант, калі Старун у думках адзначыў прыжок трэцяга парашутыста, у яго навушніках ужо гучэў голас: „Старун, Старун, Старун, гаворыць ВРД 2, гаворыць ВРД 2",— гэта клікаў яго па радыё-тэлефону аварыйны разведчык. Чацверты з яго экіпажа астаўся ў падаючай машыне, каб данесці: „Відаць наскочылі на трос загароды, гаворыць ВРД 2, чуеце?" Старун спяшаючыся сказаў у мікрафон:

— ВРД 2, ВРД 2, скакайце, скакайце, я вас бачыў, данясенне прыняў, данясенне прыняў. Старун".

Прывычным рухам пальцы пераключыліся на хвалю флагмана. І к таму часу, калі яго машына прабіўшы воблакі, вышла пад чыстае неба, Старун мог ужо зусім упэўнена данесці: „хваля, хваля, гаворыць ВРД 1, ВРД 1, квадрат 74. Аэрастаты загароды працягнуліся паміж вёскай Пук і горадам Замша. Квадрат 74—аэрастаты загароды працягнуліся ад вёскі Пук да горада Замша, ВРД 1— Старун".

Перад Старуном, дзе пад рэдкімі мазкамі воблакаў ляжаў гара-

док Замша, працягнулася лінія аэрастатаў. Падвешаных да іх тросаў загароды не было відаць. Гэта было самае страшнае. Схаваныя ў воблаках аэрастаты з тонкімі, звісаючымі на тысячу метраў стальнымі тросамі былі пасткай для самалётаў.

Некалькі год таму назад такая пастка была-б непраходнай, нават калі-б тросы загароды былі дратамі. Цяпер супроць такога прымітыўнага баража*) на разведчыках быў сродак—параваны**). Тое, што перадавы самалёт брыгады Старуна, усё-ткі пацярпеў аварыю, прымушала меркаваць адно з двух: або параван яго быў няспраўны, або праціўнік паставіў тут нейкую новую загароду. Не жадаючы рызыкаваць сваімі разведчыкамі, Старун даў загад апусціцца пад воблакі і ісці ўсцяж баража.

Флагман своечасова папярэджаны пра аэрастаты, таксама змяніў кірунак палёту галоўных сіл. Ён пайшоў да г. Замша, дзе канчаўся бараж і дзе можна было легчы на ранейшы курс.

Уся маса самалётаў, следуючы загаду флагмана, як на вучэнні выканала паварот. Бараж быў абойдзены. Аэрастаты маглі цяпер колькі заўгодна вісець над воблакамі.

На змену ўзгоркам, што зараслі рэдкім хмызняком, прышоў лясны масіў. Ён цягнуўся ў далячынь вялізнай чорнай плямай. Сярод цёмных мас дрэваў зрэдку бялелі памешчыцкія сядзібы.

У навушніках капітана Касых пачуліся пазыўныя флагманскага самалёта. Выразнай гаворкай нехта бубніў: „Хваля, хваля, хваля“... Касых адарваўся ад глядзельнай трубы. Голас у навушніках паўтараў: „Гаворыць Роба, гаворыць Роба“. Касых нават не паглядзеў у шыфр—гэты пазыўны ён ведаў добра:—яго родная эскадрылья. Капітан мімаволі паглядзеў у той бок, дзе павінны былі быць яго самалёты. Эскадрылья ляцела на крайнім левым флангу першай калоны. Не менш як пяць кілометраў было ад яе да флагмана. Касых і Сафар не маглі-б знайсці адзін аднаго ў небе, нават калі-б прамежак паміж імі не быў заняты некалькімі дзесяткамі рабаватых плям, падобных на размазаную па небу ікру. Гэтыя плямы здаваліся Сафару нерухомымі, таму што рухаліся з той-жа хуткасцю, што і яго ўласная машына. Толькі калі яго самалёт гайдаўся ў паветры, плямы гэтыя то адыходзілі пад крылом і знікалі на фоне зямлі, то рэзка праектаваліся на воблачным небе.

Сафар спакойна вёў машыну па зададзенаму курсу, пераключыўшы кіраванне на аўтапілот***) ён толькі зрэдку пазіраў на картушку****)—ці не сыйшла курсавая рыса з патрэбнага румба.

У часе палётаў у Сафара было адчуванне задавальнення, амаль радасці. Прыходзіла яно ад зусім такой-жа упэўненасці ў сабе, якую ён адчуваў калісьці, купаючыся ў моры. Сафару не трэба было рабіць ніякіх намаганняў для таго, каб трымацца на

---

*) Бараж—загарода.

**) Ахоўнае прыстасаванне, прымацаванае наперадзе самалёта і адсоўваючае тросы загароды.

***) Аўтапілот—прыстасаванне, якое дазваляе самалёту захоўваць зададзены ірунак палёта і ўстойлівасць, без удзелу лётчыка.

****) Дыск компаса з нанесеннымі на яго дзяленнямі.

паверхні. Здавалася, што каб і захацеў ён утапіцца і то вада не пусціць уніз. Такое-ж адчуванне было і цяпер. Але ў паветры яно прышло не адразу. Раней, калі ён лётаў на вялікім караблі, гэтага адчування не было. Самалёт быў староннім рэччу, вялікім механізмам—які ён—Сафар прымушаў трымацца ў паветры. Не пакідала думка пра тое, што трэба быць заўсёды насцярожаным: унізе зямля з яе непарушнай сілай прыцягвання.

А калі Сафар перайшоў на СБД, гэта адчуванне знікла. Прапала думка пра тое, што машына „цяжэйшая за паветра“. Паслухмянасць машыны фізіялагічна, да радаснай упэўненасці ў сваіх мускулах, выклікала ўздым у Сафара. Ён не ляцеў, а спакойна плыў у паветры.

Крыху ніжэй і наперадзе Сафар увесь час бачыў камандзірскую машыну. Каб не крыллі, яна была-б падобна на вялікага заснуўшага сазана, які ляніва, не рухаючыся плыве за вадой па ціхай рацэ. Рака і сазан. Толькі смешная ў сазана спіна, праз калпак, што прыкрывае сярэднюю частку фюзеляжа відаць рухавыя галовы людзей.

Унізе, пад камандзірскай машынай рабілася цямней. Гусцей рабіўся вялікі лес. Сафар з цікавасцю схіліўся да трубы. Сафару здавалася, што ён чуе, як шчабечуць птушкі, адчувае пах вільготнага ценю, што ляжыць пад густымі верхавінамі дрэваў. Ён быў не ад таго, каб пагуляць у такім лесе. Даўно ўжо ён не бачыў столькі зелені. Ён адвык ад яе у стэпавых прасторах Украіны.

А лес унізе сапраўды быў вялікі і густы. Верхавіны дрэваў сыходзіліся, закрываючы зямлю. У іхным пахкім жнівеньскім ценю было цемнавата і пахла прэлым лістом. Раптам цэлая стая птушак узнялася з дрэва і спалохана кінулася ў бок. Трэба было вельмі ўважліва прыгледзецца, каб зразумець, чаго спалохаліся птушкі: зялёная маса лістоты рушыла з месца і пачала павольна круціцца. Круцілася крона, ствол, нават цэлая пляцоўка зрэзанай карэннем зямлі круцілася разам з дрэвам. Павольна, метадычна круцілася гармата, сочачы ствалом за ледзь бачнай у небе шэрай ікрой самалётаў. Калі паглядзець бы цяпер на гэты вялікі, спакойны лес зверху, можна было-б убачыць шмат такіх дрэваў, што круцяцца. Пад кожным з іх хавалася зенітка. Каля кожнай гарматы моўчкі, застыгнуўшы ў напружаным чаканні, стаяла прыслуга. Наводчыкі, надзеўшы навушнікі, спяшаючыся круцілі махавічкі гарызантальнай і вертыкальнай наводкі. Загады прыходзілі з паста камандзіра батарэі, адкуль вялося назіранне за рухам калон.

У кантрольнай трубе камандзіра батарэі, раскіданы па небу россып ікры, ператвараўся ў самалёты. Можна было выразна разабраць іхныя абрысы і нават вызначыць тып машын.

Прыслуга каля гармат, якая бачыла толькі шэрае рабаціние у небе, нервавалася. Салдаты дзівіліся, як гэта камандзір дазваляе ворагу без перашкод мінуць зону найбольш дзейснага агня. А камандзір, бачучы, што пакуль ідуць разведчыкі і папярэджаны пра рух калон бамбардыроўшчыкаў, спакойна чакаў, пакуль у небе на фоне рэдкіх воблакаў, не паказаліся галоўныя сілы.

Справа гэтак-жа цярпліва пільнавала ворага другая батарэя, злева—трэцяя; цэлая чарада іх насцярожана маўчала, чакаючы найбольш спрыючага моманту, каб адкрыць агонь.

Пра пагражаючую калонам небяспеку не здолелі на гэты раз папярэдзіць і разведчыкі Старуна. Нават відушчыя фота-апараты не выявілі гармат, схаваных за густым лісцем дрэваў. Схіляючыся час ад часу да акуляра трубы, Сафар бачыў усё той-жа зялёны лес. Раптам адразу з некалькіх бакоў бліснулі шматкі разрываў і пырснула чорнае клочча дыму зенітных знарадаў. Аўтапілот выключаны, рукі на штурвале. Вуха адразу злавіла загад флагмана: „манеўраваць па вышыні, не мяняючы курса“. Рукі самі далі штурвал ад сябе, насустрач чорным клубкам дыму, што яшчэ віселі ў паветры. Разрывы наступнага залпа зенітак, пакрыўшыя тое месца, дзе толькі што быў самалёт, асталіся над галавой. Але раней чым Сафар зноў узяў штурвал на сябе, зусім побач бліснулі новыя разрывы. Яшчэ і яшчэ. Яны былі так блізка, што на момант закрылі камандзірскую машыну. Усяго на момант. Але калі іх чорныя ласкуты асталіся ззаду, камандзірскі самалёт ужо не займаў прывычнага для Сафэра месца на пяцьдзесят метраў наперадзе і сорак метраў ніжэй. Крута заварочваючыся ўлева без віража, ён імкліва адыходзіў у бок. Трапны знарад зрабіў сваю справу. Не чакаючы загаду, Сафар, як старшы ў атрадзе пасля камандзіра, пагойдваннем машыны прыцягнуў да сябе ўвагу лётчыкаў і даўшы абароты, хутка выйшаў на яго месца. Цяпер ён вёў атрады. Яшчэ раз азірнуўшыся, ён ужо не знайшоў свайго камандзіра сярод клочча разрываў.

Скора разрывы зенітак асталіся ззаду. Калоны прайшлі зону агня. Батарэі дзеля ачысткі сумлення паслалі яшчэ залп услед замыкаючым атрадам і змоўклі. Сабраўшы данясенні часцей, Халюцін падлічыў страты: восем самалётаў збіты, адзінаццаць атрымалі невялікія пашкоджанні, якія папраўляюцца бартавымі тэхнікамі ў палёце; адзін мае сур'ёзнае пашкоджанне органаў кіравання, спрабуе выправіць іх, але адстае ад калоны. Усе страты прыпадалі на другую і трэцюю калоны. Першая калона Брэдзіса не пацярпела, бо яна ішла наперадзе і справілася праляцець зону зенітак раней, чым іхны агонь стаў паражаючым.

Некалькі разоў Сафар спрабаваў уявіць сабе, што сталася з камандзірам ды так і не мог дадумаць—кожнага разу што-небудзь адцягвала ўвагу: то якое-небудзь данясенне сваіх лётчыкаў, то загады старшых начальнікаў, то ўрэшце нейкія незразумелыя абрыўкі каманд і сігналаў, у якіх адгадвалася ўмешванне праціўніка.

Пераймаючы метады імперцаў, паспалітанская радыёслужба спрабавала перашкаджаць працаваць нашым рацыям, пасылаючы падманныя загады і данясенні. Сафар атрымаў цыркулярнае радыё флагмана пра гэту перашкаджаючую работу праціўніка. Але ўсё-ткі як ні дрэнна была наладжана гэта служба ў паспалітанцаў, яна адыграла сваю ролю: флагман вымушаны быў двойчы мяняць шыфр. Хто мог ручацца за тое, што праціўнік не ведае нашага хода? Трэба было выявіць вялікае чуццё і добра разбірацца

ў абставінах, каб упэўнена адкідваць тое, чаму не асабліва можна было давяраць *).

Няма нічога дзіўнага ў тым, што Сафар паставіўся недаверліва да адной радыёграмы, у якой былі неразборчывыя словы, хоць пад ёю і быў подпіс Халюціна і складзена яна была апошнім шыфрам. Сэнс наступнай радыёграмы флагмана зводзіўся да таго, што без вялікай неабходнасці і без атакі з боку праціўніка самалётам корпуса ў бой не уступаць, ні пры якіх акалічнасцях не ўхіляючыся з маршрута. У заключэнне следваў загад першай калоне Брэдзіса прыняць на сябе ролю аховы, разбіўшыся на дзве брыгады, адыйсці на фланг галоўных сіл з перавышэннем да 1000 м і следваць так да таго часу, пакуль праціўнік не выйдзе з поля зроку.

Сафар вырашыў, што гэта мае дачыненне да магчымых будучых сустрэч з ворагам і спакойна прадаўжаў палёт. Калі б у яго не ўзнікла сумненне ў дрэнна зразуметай радыёграме і ён не палічыў бы яе за фальшыўку праціўніка—ён пастараўся-б у ёй разабрацца. Тады ён ведаў-бы, што разведкай корпуса выяўлена калона аўтажыраў праціўніка лікам да ста машын, якая ідзе на вышыні, крыху перавышаючай вышыню СБД і пад кутом да курса корпуса...

Ведаючы, што боездольнасць аўтажыраў нікчэмная, камкор Халюцін мог дапусціць толькі два варыянты: або гэта назіральнікі або аўтажыры маюць на мэце кідаць бомбы на калоны яго корпуса. Але разлік хуткасцей паказаў флагману, што калі курс аўтажыраў і перасячэцца з курсам корпуса, дык хіба толькі ў ар'ергарднай частцы апошняга. Толькі самы хвост калоны могуць зачапіць аўтажыры. У выпадку, калі ў аўтажыраў няма якіх-небудзь агрэсіўных намераў, прысутнасць іх ніякім чынам не пашкодзіць корпусу, наадварот, праціўнік пераканаецца ў тым, што Халюцін

*) Тут неабходна сказаць некалькі слоў пра самую сістэму радыёслужбы таго часу. Намаганні захаваць сакрэтнасць радыёразмовы былі накіраваны ў двух напрамках: схаваць ад праціўніка, адкуль ідзе радыёсігнал, каб не даць яму магчымасці шляхам простай радыёпеленгацыі выявіць, дзе знаходзіцца перадаючая станцыя, і па-другое, зашыфраваць змест перадачы.

Першая задача не была вырашана да канца: праціўнік мог заўжды выявіць прысутнасць сігналаў у пэўнай зоне. Дамагліся толькі таго, што дакладнае вызначэнне пункту пачатку хвалі было амаль немагчыма. Гэта дасягалася тым, што ультра-кароткая хваля пасылалася ў эфір строга накіраваным промнем, пры чым рух яе быў не прасталінейны, а крывалінейны, з радыусам адвольна вызначаным перадаючай станцыяй. Такім чынам, у апошнім ліку, хвалі апісвалі акружнасць, варочаючыся ў зыходны пункт. Пры дастаткова вялікім радыусе хвалі гэта стварала зусім здавальняючыя ўмовы для захавання ў тайне месца знаходжання вытокі, ці кажучы больш дакладна, пакідала праціўніку занадта вялікую прастору для пошукаў гэтай вытокі па ўсёй даўжыні акружнасці апісанай хваляй.

Другая задача—сакрэтнасць зместу радыёграм вырашалася рознымі спосабамі. У нашых ВПС для некаторых асабліва адказных выпадкаў прымянялася сістэма падобная на так-званую сістэму „Стэпджа". Асноўная ідэя яе заключаецца ў няспыннай змене даўжыні хвалі перадаючай станцыі і адпавядаючай ёй пераменнай настройцы прымаючай станцыі.

Усё гэта дазваляла Асобаму корпусу весці радыёразмовы без усякай боязні быць падслуханым, ці праўдзівей расшыфраваным імперцамі.

ідзе простым курсам на Кракау. Гэта можа адыграць толькі станоўчую ролю ў развіцці далейшай аперацыі: камандванне праціўніка будзе дэзарыентавана уласнай разведкай. Калі-ж аўтажыры захочуць кінуць бомбы на самалёты корпуса, дык ім давядзецца знізіцца. Гэта заўважаць СБД першай калоны, што нясе ахову, і атакуюць аўтажыраў. Для іх не будзе вялікай цяжкасцю адагнаць ціхаходныя і неўвароткія апараты. Пачынаць-жа бой з праціўнікам, прысутнасць якога можа і не зробіць ніякай шкоды, камкору не хацелася. Ён даражыў часам і кожным грамам гаручага ў баках СБД.

Нічога гэтага Сафар не ведаў. Ён не мог бачыць і перастраення калон, калі СБД Брэдзіса разыйшліся на флангі корпуса. Атрад Сафара ішоў у замку левай часткі кліна сваёй эскадрыллі. Менавіта яго эскадрыллі магла пагражаць бамбардыроўка аўтажыраў, калі-б яны яе пачалі. Але для Сафара з'яўленне іх злева і зверху было нечаканасцю. Ён нават не адразу зразумеў што гэта такое, убачыўшы ў паветры адны рыскі фюзеляжаў. Ротары круціліся і таму не былі відаць. Стваралася ўражанне: верацёны фюзеляжаў трымаюцца ў паветры самі па сабе.

Аўтажыры ішлі дзіўным строем: па два ў рад. Сафару здалося, што ён бачыць нешта працягнутае паміж кожнай парай, ці то трос, ці то жгут.

„Што за ліха,—падумаў ён,—лятаюць звязаныя, як на парадзе“.

Гэта было нешто зусім новае і здзіўляючае, заслугоўваючае таго, каб перадаць камандванню. Сафар спяшаючыся паслаў у эфір пазыўныя флагмана. Атрымаўшы адказ, ён пачаў перадаваць голасам, не шыфруючы:

„Аўтажыры праціўніка злучаны паміж сабою гарызантальным тросам“—гучэў у навушніках Касых знаёмы голас сябра. Але раптам ён змоўк. Перадача абарвалася. На выклік флагманскага радыста Сафар не адгукаўся.

У самы разгар перадачы, ён раптам адчуў штуршок і машына пачала рэзка заварачваць улева. Пры гэтым увесь самалёт вібрыраваў так, што стрэлкі прыбораў скакалі як у ліхаманцы. Дзве з іх, што паказвалі абароты правых вінтоў, рабілі дзіўныя рухі: яны то адразу падскаквалі за крытычную рыску, то рэзка падалі да нерабочага мінімума.

Сафар выключыў перадачу да правых вінтоў і праз хвіліну перад ім ужо ўспыхнула на камутатары гняздо бартавога тэхніка. Прыйшло данясенне: абодва правыя вінты выйшлі з строю. У аднаго зусім адарвана лопасць, другі дэфармаваны да такой ступені, што калі ён будзе круціцца, то можа разнесці ўсё крыло. На пытанне пра прычыну тэхнік нічога не мог сказаць. Ён нічога не заўважыў.

Ды і цяжка было заўважыць тонкія сталёвыя драты сетак загароды, выпушчаных аўтажырамі. Жгуты, якія Сафар бачыў паміж аўтажырамі, былі нічым іншым, як тонкімі сеткамі, скручанымі ў тугі рулон. Рулон раскручваўся паводле жадання камандзіра двойкі і скідваўся пры сустрэчы з праціўнікам. Вялікай удачай для Сафара было тое, што камандзір аўтажырнага звяна

паспяшаўся. Сетка толькі верхнім краем зачапіла вінты Сафаравай машыны і, адкінутая імі, зашчамілася ў шчыліне левага элерона. Каб Сафар сустрэўся з сеткаю на поўсекунды пазней, яна накрыла-б яго як рымскага гладыятара. Не толькі Сафар, але і ніхто не падазраваў небяспекі, якой пазбегнуў корпус.

Праціўнік ужыў новы спосаб загараджвання паветраных прастораў. У адрозненне ад баражоў, створаных аэрастатамі, аўтажырныя або гелікопцерныя баражы былі рухавымі і маглі манеўраваць. У гэтым выпадку аўтажыры былі сканцэнтраваны ў другім кірунку, не забяспечаным аэрастатамі загароды. І толькі таму, што разведка Старуна своечасова выявіла паспалітанскія аэрастаты і корпус змяніў кірунак, праціўніку прышлося кінуць наперад Халюціну загародныя аўтажыры. Лік іх быў-бы дастатковым, каб зрабіць корпусу значную шкоду, калі-б не малая хуткасць аўтажыраў. Яны не паспелі выйсці на курс Асобага корпуса і толькі зачапілі яго замыкаючую часць. Страты корпуса былі зусім невялікія. Два самалёты былі накрыты сеткамі і загінулі і адзін самалёт (СБД Сафара) быў зачэплены сеткай і страціў два вінты і адзін элерон.



Цяжка сказаць ці сплахаваў камкор Халюцін, што ў час не раскрыў замысел аўтажыраў. Такі спосаб скарыстання аўтажыраў яшчэ нікім не прымяняўся. Але пра тое, што паспалітанская тэрыторыя будзе абараняцца падобнымі да гэтых сродкамі пасіўнай абароны, можна было меркаваць ужо ў мірны час. З таго часу, як Паспалітанія перамяніла сваю палітычную арыентацыю з франкафільскай на імперафільскую і зрабілася патаемным (хоць і ўсім вядомым) саюзнікам цэнтральна-еўрапейскага фашызма, карэнным чынам змяніліся і метады арганізацыі нацыянальнай абароны, калі магчыма называць абаронай нацыі тое месца, якое было дадзена паспалітанскай арміі ў агульнай сістэме узброеных сіл саюзнікаў.

Франконцы разглядалі Паспалітанію як суверэнную дзяржаву з сваімі ўласнымі палітычнымі, нацыянальнымі і страгэгічнымі інтарэсамі. Франконія імкнулася да ўмацавання Паспалітаніі як свайго саюзніка на ўсходзе Еўропы. Франконія лічыла паспалітанскую армію самастойнай стратэгічнай сілай. Таму намаганні франконскага генеральнага штаба зводзіліся да таго, каб дапамагчы паспалітанцам авалодаць новымі відамі ваеннай тэхнікі, выхаваць асабісты склад у духу новых норм вайны і забяспечыць прамыслова слабую Паспалітанію сучаснай зброяй: авіяцыяй, танкамі і г. д. Зусім інакш паставіліся да гэтай справы імперцы. Яны з першага моманта пачалі разглядаць тэрыторыю Паспалітаніі толькі як плацдарм для разгортвання ваенных дзеянняў сваёй уласнай арміі. Яны перш за ўсё імкнуліся перанесці ўсе жахі вайны з сваёй тэрыторыі на чужую.

Апрача таго,—і гэта самае галоўнае,—імперскае камандванне не верыла ў баявую якасць паспалітанскай арміі. Яно схілялася падазраваць некаторы антаганізм паміж палітыкай паспалітанскіх вярхоў і шырокімі народнымі масамі і інтэлігенцыяй, настроенымі далёка не па-фашысцку і якія ненавідзелі імперцаў. Такім чынам імперыя лічыла небяспечным абапірацца на паспалітанскую армію і нават на малодшае афіцэрства. Трэба было шукаць такіх метадаў



прымянення „саюзнай“ арміі, дзе надзейнасць [мас адыгрывала-б мінімальную ролю. Вось чаму напярэдадні вайны асноўная паспалітанская армія была выведзена з межаў роднай краіны.

На паветранай абароне Паспалітаніі гэты погляд сказаўся ў тым, што баявая авіяцыя была зведзена да паказнога мінімума, не здольнага абараніць ад удара нават сталіцу Кракау. Асноўным метадам абароны стаў той, у якім патрэбны мінімальны ўдзел людзей і дзе ад іх не патрабуецца выяўлення асабістай адважнасці. Інакш кажучы, абарона зрабілася пасіўнай. Галоўнымі відамі абароны ад паветранага нападу былі: зенітная артылерыя, аэрастаты загароды, паветраныя міны, загароды, магнітныя хвалі. Зона актыўных сродкаў абароны пачыналася толькі за лініяй Кракау. Яна мела задачу затрымаць працўніка ў тым выпадку, калі рабіліся відавочнымі яго агрэсіўныя намеры ў дачыненні тэрыторыі самой Імперыі.

Адкрыта ставіць такія задачы перад паспалітанскай авіяцыяй было немагчыма. Яна не стала-б біцца за чужыя межы, пакінуўшы на ласку лёсу свае ўласныя. Таму сістэма абароны гэтай зоны была загадзя тонка прадумана і ўся сетка аэрадромаў знішчальнай авіяцыі СПА арганізоўвалася ў заходняй паласе Паспалітаніі пад выглядам абароны супроць магчымага нападу саміх імперцаў. Прапануючы гэтую лінію абароны, імперскі Вялікі генеральны штаб разыграваў найбольшую аб‘ектыўнасць: „Мы, бач, гатовы ўзброіць вас нават супроць саміх сябе“. У абсталяванні гэтай паласы СПА, імперцы далі паспалітанцам найбольшую дапамогу. Аэрадромы былі пабудаваны паводле апошняга слова тэхнікі. Поўнай неадпаведнасцю былі невялікія сілы паспалітанцаў, што базіраваліся на гэтыя аэрадромы. Але і тыя напярададні вайны былі перакінуты ў другія раёны (пераважна на франконскі фронт), а аэрадромы заняты зусім сучаснымі і добра абучанымі авіяцыйнымі часцямі імперцаў. Такім чынам, паводле думкі Вялікага штаба, першая сустрэча бальшэвікоў з імперскай СПА павінна была адбыцца не над імперскай тэрыторыяй.

Заслугоўвае ўвагі адна акалічнасць амаль анекдатычнага парадку. Еўрапейская дыпламатыя так заблытала міжнародныя адносіны, ахутала іх такім туманам двудушнасці і маны, што самі ўрады буржуазных краін і капіталістычныя групоўкі, што іх утрымлівалі, не маглі разабрацца ў абставінах. Ужо тады, калі адкрыты цынічны зговар паміж Паспалітаніяй і Пятай Імперыяй стаў сакрэтам палішынеля, франконская дыпламатыя працягвала рабіць выгляд, быццам нічога не заўважае. Нібы яна верыла запэўніванням у дружбе да Франконіі, што рабіліся паспалітанскімі дыпламатамі. Калі ўсе зразумелі, што Паспалітанія перайшла на ролю швейцара каля ўсходніх дзвярэй Пятай Імперыі, якога досыць дрэнна аплачваюць і якім адкрыта папіхаюць, групоўка франконскіх капіталістаў вымусіла свой урад даць велізарны заём паспалітанскаму ваеннаму ведамству. Грошы ішлі на закупку ваеннага снаражэння ў саміх-жа франконскіх прамыслоўцаў.

Ні для каго не было тайнай, што міжнародная шайка гандляроў смерцю забяспечвае зброяй армію, якая будзе біцца з гарантам

бяспечкі Франконіі на ўсходзе — Совецкім Саюзам. Але сапраўднасць перавысіла ўсе чаканні нават прывычнага да ўсяго еўрапейскага грамадства. У ноч на 18 жніўня стала ясна, што калі Еўропу ўцягнуць у вайну, паспалітанская армія будзе страляць з франконскіх гармат, франконскімі знарадамі ў франконскіх-жа салдат: паспалітанцы апынуліся на межах Франконіі. Васал Імперыі быў там, куды яго пасылаў гаспадар. Тое, што паспалітанскую армію перакінулі на Захад і занялі ўсходні тэатр сіламі амаль адных імперскіх войск—не было выпадковым. Гэта сведчыла пра тое, што сярэднееўрапейскі фашызм лічыць армію франконскай рэспублікі менш устойлівым і небяспечным праціўнікам, чым маналіт Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі. Фашысцкія сілы ўнутры Франконіі павінны былі зрабіць сваю справу.

У межах Паспалітаніі ўласна паспалітанскіх войск амаль не аставалася апрача паліцэйскіх і ахоўных атрадаў і часцей СПА першай чаргі. Вынікам паслабленай барацьбы паспалітанцаў былі нешматлікія страты Асобага корпуса. Выпадковай ахвярай іх зрабіўся Сафар.

Страціўшы два вінты, з заклінаваным элеронам, Сафар не мог прадаўжаць палёту. Цяжка нагружаная машына ішла са зніжэннем, не гледзячы на поўныя абароты левых вінтоў. Сафар з вялікімі цяжкасцямі трымаўся курса. Для гэтага прышлося ўвесь час трымаць руль паваротаў павернутым да адказу налева. Гэта быў першы выпадак у лётнай практыцы Сафара, калі ён мог скарыстаць сваю сілу.

Ён ліхаманкава абдумваў становішча. Прымусіць машыну ісці гарызантальна ён мог-бы, аблягчыўшы яе ад бомбаў. Але, калі скінуць цяпер усе бомбы, дык які-ж сэнс ад яго ўдзелу ў палёце? Апрача таго для Сафара было зусім ясна, што доўга манеўраваць і нават захоўваць кірунак палёту амаль немагчыма.

Радыёстанцыя Сафара прыняла загад Халюціна: „Калонам разыходзіцца згодна баявому заданню“. Гэта значыла, што корпус дасягнуў Любяціна. Адсюль першая калона пойдзе курсам на Пулен. Другая і трэцяя павінны павярнуць к поўдню, г. зн. улева. З другою калонаю павінен ляцець улева і Сафар. Але ён не мог гэтага зрабіць. Ён мог-бы яшчэ так-сяк ісці за першай калонай, г. зн. управа, але і то трацячы вышыню і толькі да першага манеўра, які запатрабуе разварота ўлева.

Пакуль пярэднія часці выконвалі манеўр, прышоў загад: Сафару здаць камандванне атрадам і пакінуўшы строй, паводле ўласных меркаванняў знайсці месца для пасадкі. Далей дзейнічаць па інструкцыі.

Пасадка на варожай тэрыторыі выклікала за сабой знішчэнне самалёта. Сафар добра памятаў інструкцыю, але ніякія параграфы не маглі зрабіць лёгкім і простым знішчэнне ўласнай машыны. Аднак трэба было выходзіць з строю, каб не затрымліваць перастраення атрада і манеўр усёй часці.

Сафар наважыўся ў далейшым усё-такі скарыстаць свое бомбы. Калі нельга іх скінуць паводле задання, дык можа трапіцца штонебудзь вартае тоны трацілу.

Развітаўшыся з атрадам, які зменшыўся да сямі машын, Сафар пакінуў строй. Машына нястрымна цягнула ўправа.

Сафар з тугою назіраў, як знікаюць на паўднёвым захадзе другая і трэцяя калоны Халюціна. Недзе там наперадзе другой калоны, на флагманскім самалёце, сядзіць Сандро Касых. Ён пэўна ўжо выкрэсліў з складу восьмай эскадрыльі яго „двойку“. Можа ён нават і не падумаў пра тое, што на гэтай двойцы ляціць Сафар, ён Сафар, яго сябар і дружака. Але, Касых не мог забыцца на яго! Сафар быў нядрэнным хлопцам і лётчык быў нішто сабе...

Тут Сафар злавіў сябе на тым, што думае пра самога сябе ў мінулым часе, нібы пра нябожчыка. Дудкі! Ён яшчэ паглядзіць, што з усяго гэтага выйдзе. Паглядзіць—ці не ўдасца Сафару выбрацца? Раптам возьме ды і не патане былы амбал? Дарма ці што ён плавае, што корак.

Між тым першая калона Брэдзіса хутка адыходзіла на паўночны захад. У хуткім часе апошнія рыскі яе машын зніклі ў воблачным небе.

Сафар быў ужо на шмат ніжэй за гэтыя воблакі, што схавалі яго таварышоў.

Ён быў адзін. Зусім адзін над варожай краінай.

Стрэлка высотамера няўхільна ішла ўніз. Больш не было неабходнасці гэтак старанна трымацца кірунку. Сафар прыняў здзервянелую нагу і самалёт пачаў плаўна заварачвацца ўправа.

Трацячы вышыню, Сафар мог ужо без дапамогі трубы бачыць зямлю. Цёмна-сіні масіў лесу перайшоў у шэрае рабаціінне хмызнякоў. Далей цягнуліся грывы невысокіх узгоркаў. На узгорках нічога не было. Ніякіх аб'ектаў для скарыстання сваіх бомб Сафар не бачыў. А ён цвёрда наважыў не садзіцца, не скарыстаўшы з карысцю бомб. Таму, надаўшы машыне найменшы кут зніжэння, на якім цягнулі ўцалелыя вінты, ён зноў даў сколькі хапіла нагу і рашуча павёў самалет у простым кірунку.

## 7

Каб нашы салдаты разумелі з-за чаго мы ваюем, дык нельга было-б весці ніводнай вайны.

*Фрыдрых II, кароль Прускі.*

*21 г. 00 хв.—21 г. 14 хв.*
*18/VIII*

Цёмна-сіняй рысай цягнецца на грабянях далёкіх узгоркаў лес. Размашыстай дугой акаймаваў ён прасторную даліну Пшуглованы. Даліна, нібы засланая ласкутным дыванам, пярэсціць клоччам палёў. Зялёныя, часам амаль бірузовыя, жоўтыя, што золата, бура-шэрыя, чырвоныя, чорныя; клінамі, квадратамі, трапецыямі і ромбамі зляпілася гэтае клочча ў адну непарыўную стракатасць. Утульна раскіданы па ёй прыгожыя вёскі. І хаткі ў іх прыгожыя, утульныя. З белымі сценамі, з дахамі чырвонымі, як з цацкавага магазіна. Правільнымі радамі выстраіліся хаткі ўсцяж прасторных вуліц.

На задах сакавітымі зялёнымі градкамі размясціліся агароды. Вялікія капусныя качаны з тугімі блакітнымі лістамі роўная, светлая зеляніна салата. Далей, за салатам, чырвоныя ад ягад кусты маліны і смародзіны. Сярод малінніка пудзіла ў страпаным ваенным мундзіры, з стальной каскай замест галавы. У ціхім перадвячэрнім паветры нерухома павіслі рукавы мундзіра. Прызвычаеныя да пудзіла вераб'і бязбоязна ласуюцца смародзінай. Бліжэй да дома, паміж градкамі і парканам, стаіць высокі каменны калодзеж з паўкругам кованай жалезнай дугі. Зусім такі як на малюнках да казак братоў Грым. І на шырокім каменным бар'еры калодзежа стаілася вялікая кошка. Яна злосна сочыць нерухомымі шклянымі вачыма за ласунамі-вераб'ямі. Ці то яна лянуецца, ці то не спадзяецца сцапаць каторага—спроб злавіць іх яна не робіць.

Вечарэе. Густы цень палісадніка пераходзіць на белую, што снег сцяну хаткі. Нізкае сонца барвовым заравам запальвае шыбы. Промні наскрозь прасвечваюць дом: у ім няма ні пераборак, ні мэблі, няма і людзей. Столі няма і за тканінай тонкіх жалезных кроквяў і лат відаць дах. Зверху ён чырвоны, рабрысты—чарапіца да чарапіцы—знізу гладкі жоўты картон-картонам. Сцены дома знутры гэткія-ж непрывабныя, жоўтыя. Па жоўтаму картону ідуць тонкія планкі жалезнага каркаса. І ўвесь гэты прыгожы домік аказваецца зробленым з картону на жалезным каркасе.

Другі, трэці, пяты, дзесяты—уся вёска картонная. Нават вось гэты ў цэнтры, з блакітнаю шыльдаю, дзе намалявана ўспененая піўная кварта над прыгожым гатычным надпісам „Прыют Патрыётаў“ і ён з картону. Дарэмна, хто любіць піва, пачаў-бы шукаць у „прыюце“ стойку і за ёю тоўстапузага ветлівага гаспадара ў зялёным фартуху. Ён убачыў-бы ў цэнтры зала тоўстую стальную трубу, што выходзіць з падлогі і ўпіраецца ў дах „прыюта“. На даху, замест мезанінчыка для патрыётаў, што любяць пагуляць, дзіўны шкляны поўшар. У яго лінзах адлюстроўваецца купал вячэрняга паспалітанскага неба. Каля ўзножжа трубы шырокі правал люка з вядучымі ўніз жалезнымі ступенямі. Там, дзе яны канчаюцца—кратчастыя дзверы пад'ёмнай шахты. А ўнізе, на глыбіні дваццаці метраў, куды вядзе гэта шахта, спакойна стаяць ліфты. Каля ярка асветленых электрычнасцю кабінак дрэмлюць ліфцеры. На іх форма імперскіх салдат. Насупроць ліфтаў—дзверы з белай эмаляванай дошчачкай самага мірнага выгляду (якія любяць зубныя ўрачы і акушоркі): „Дзяжурны афіцэр“.

Дзяжурны лейтэнант, паваяхаючы сядзеў перад вялікім цмяным шклом панарамы. У шкле купал перадвячэрняга неба. Неба паспалітанскае, натуральнае. А лейтэнант каля панарамы—імперскі. Ён глядзіць на паспалітанскае неба немігаючымі вачыма вышкаленага імперскага афіцэра. У шкле нічога не відаць апрача блакітнага неба і рэдкіх белых нетаропкіх воблачкаў, але лейтэнант пазірае ўважліва, смокчучы сігарэтку.

Ён толькі зрэдку ціхом касавурыцца на расчыненыя дзверы камандзірскага пакоя. Ён вельмі цікавіцца тым, што там адбываецца, і стараецца не прапусціць ніводнага слова. У полі яго зроку аб-

рузлы тоўсты твар камандзіра падземнай зоны фельдкамандора фон Грау. Вочы фон Грау наліваюцца крывёю. Яны зацягваюцца павалокай шаленства разам з тым, як камандзір чытае лістоўку.

*„Салдаты!*

*Ці ведаеце вы, дзеля чаго распачата гэта крывавая бойня? Ці ведаеце вы, што будзеце праліваць сваю кроў...“*

Прапускаючы тэкст, фон Грау пераве́ў позірк на канец лістоўкі:

*„... дык павернем-жа свае штыхі супроць тых, хто з'яўляецца нашым сапраўдным ворагам.*

*Чырвоны рабочы фронт.“*

Тлустая пяцярня фон Грау сударгава зграбла стопку лістовак на стале. Падбародак-жа камандора дрыжэў ад злосці. Ён пераве́ў вылупленыя вочы на салдата ў замазанай маслам куртцы механіка, што стаяў перад ім. За спіною механіка відаць была чырвоная морда фельдфебеля.

Далей з застыглым ад напружання позіркам, стаяў вартавы салдат.

Фон Грау павольна падняў заціснутую ў кулаку пачку лістовак, ткнуў ёю ў твар механіка:

— Адкуль, сволач?

Салдат быў спакойны. Яго шчыльна сціснутыя губы не здрыгануліся. Увесь яго твар, уся фігура выяўлялі рашучасць маўчаць.

Дрыглівы ад тлушчу твар камандора перакасіўся:

— Ну?

Салдат маўчаў.

Фон Грау з размаху ўдарыў кулаком у спакойны твар.

Лістоўкі веерам разляцеліся па пакою.

Салдат маўчаў.

Фон Грау расшпіліў каўнер і дастаўшы хустачку, выцер успацелую шыю. Ён кінуў фельдфебелю:

„— Займіся...“

Увагу дзяржурнага афіцэра прыцягнуў тэлефонны званок. Прывычаеным рухам ён працягнуў руку да камутатара:

— Обер- лейтэнант Штыль.

Голасна і выразна гучэла ў трубцы:

— Пан обер-лейтэнант, пост нумар шэсць чуе самалёты.

Не справіўся лейтэнант пакласці трубку, як зноў зазваніў званок і ўспыхнула другое гняздо камутатара. Пасты адзін за адным даносілі, што чуюць самалёты. Мяркуючы па кірунку гука, самалёты праходзілі к поўдню ад зоны. Толькі адзін пост данёс пра тое, што чуе гук адзіночнага самалёта к поўначы.

Прыняўшы паведамленне, лейтэнант Штыль аддаў загад:

— Нармальнае жыццё ва ўсёй зоне.

Крыкнуў у дзверы камандзіру:

— Пан фелькамандор, пасты чуюць праціўніка.

— Падрыхтавацца,—разануў фон Грау.

— Мною загадана: нармальнае жыццё,—з задавальненнем далажыў Штыль.

— Добра. Іду. Выклічце камандзіраў атрадаў і звенняў.

Грау ступіў цераз механіка, што ляжаў на падлозе. Яго погляд упаў на рассыпаныя лістоўкі:

— Прыбраць,—буркнуў ён фельдфебелю і выйшаў у цэнтральны пост.

Фельдфебель, апусціўшыся на калені, збіраў лістоўкі. Побач з ім поўзаў вартавы. Выбраўшы момант, калі фельдфебель адвярнуўся, салдат цішком сунуў у рукаў лісток...

На вёсцы рабілася дзіўнае.

Перш за ўсё з комінаў, як па камандзе, клапатлівымі гаспадарлівымі клубамі паваліў дым. Вароты двароў пачалі адчыняцца: з іх выязджалі двухколкі, фуры, вазы, акуратна нагружаныя і ўвязаныя як адзін. У полі раптам замахалі доўгімі рукамі жняяркі. Усё наваколле аджыло, як па ўзмаху чараўнічай палачкі.

На вуліцах вёсак, да таго зусім пустых, з'явіліся людзі. Яны рытмічным салдацкім крокам хадзілі ўсцяж вуліцы. Дойдуць да ваколіцы, павернуцца налева кругом і назад. Зноў налева кругом і зноў усцяж вёскі.

Дзіўныя жыхары. І вопратка на іх таксама незвычайная: форменныя штаны і ваенная куртка, а на галовах шырокія саламяныя капелюшы. Але зверху яны здаваліся такімі-ж, як і па ўсёй паўднёва-заходняй Паспалітаніі—плёнка „маршрутнага разведчыка“ фіксавала толькі мікраскапічныя жоўтыя кропкі шырокіх капелюшоў.

К таму часу, як аджыла акруга, разведчыкі Старуна былі ўжо над прыгожымі мірнымі вёскамі. Гаспадарлівы палкоўнік з задавальненнем адзначыў прывабнасць вёсак, адсутнасць пустэч у палях, працу сельска-гаспадарчых машын. Відаць край спяшаўся скончыць палявыя работы, пакуль сюды не перакінулася полымя вайны.

Палкоўнік Старун не падазраваў, што разам з вячэрнім паспалітанскім небам, разам з разматлашаным клоччам воблакаў усе яго разведчыкі сабраны лінзамі купала пад „Прыютам патрыётаў“ і выразным адбіткам адкінуты на падземную панараму. Вакол яе сабраліся афіцэры. У іхных вачах была нецярплівасць. Але камандор пазіраў на рыскі самалётаў падкрэслена абыякава. Каб супакоіць афіцэраў ён сказаў:—цярплівасць, паны, гэта разведчыкі. Усяго дзесяць хвілін. Іхныя галоўныя сілы праходзяць за пяцьдзесят кілометраў на поўдзень. Мы павінны ўдарыць ім у хвост.

Праз некалькі хвілін ён азірнуў стаіўшых дыханне афіцэраў і сказаў:

— Такім чынам, задача ясная: праціўнік павінен быць затрыман, што-б там ні было. Прашу растлумачыць гэта афіцэрам. Па сектарах, паны. Камандзірам атрадаў затрымацца.

Некалькі дзесяткаў чалавек уздыхнулі з палёгкай. Камандзіры звенняў паспешна разбегліся. Камандзіры атрадаў стаялі перад камандорам:

— Бліжэй, паны.

Яны сыйшліся шчыльным колам.

Камандор сцішыў голас да шыплівага шэпта:

— Усё, абсалютна усё правяраць асабіста. На ніжэйшых чыноў не звярацца ні ў чым. Зразумела? Вы вольныя...

Ён апусціўся на табурэт перад панарамай. Ад'ютант насунуў абажур на лямпу. Яшчэ ярчэй выступіла на цмяным шкле панарамы асветленае барвовасцю заката неба. Разведчыкі прайшлі. Нічога апрача воблакаў не асталося ў вышыні. Камандор сядзеў каля экрана, паклаўшы палец на невялікую панель з кнопкамі сігналаў. Ружавеў у святле панарамы чысты выбрыты падбародак. На каўняры яркія свастыкі пятліц, абкружаныя вышытымі дубовымі лісткамі і паміж свастыкамі цяжкі крыж—памяць нябожчыка імператара.

— Пан камандор, адзіночны бамбардыроўшчык над зонай.

Сапраўды ў поле зроку панарамы ўваходзіў адзінокі вялікі самалёт. На крыллі і хвастовым апярэнні выразна былі відаць совецкія знакі. Ён ішоў незвычайна нізка.

Камандор, не паварочваючыся, кінуў ад'ютанту:

— Трэці сектар. Адно звяно. Зняць!

Сафару даводзілася цяжкавата. Машына дацягвала апошнія кілометры. Вышыні аставалася пяцьсот метраў. Добрай мішэні ніяк не траплялася. Скідваць бомбы на прыгожыя вёскі, што варушацца ўнізе? Жыхары нават не хаваліся пры яго набліжэнні, відаць, нічога не разумеючы ў апазнавальных знаках. Навошта настройваць супроць сябе мірных сялян? Сафару нічога не аставалася, як садзіцца. Балазе месца для пасадкі было колькі заўгодна, не сесці-б толькі ўпоперак баразён пахаці. Тармазныя колы даюць магчымасць абыйсціся мінімальным прабегам. У гэтым сэнсе амаль няма чаго апасацца. Амаль! Вось іменна—амаль! Але ці мала выпадковасцей хаваецца ў самым факце пасадкі на невядомае поле пры наяўнасці на барту паўтары тоны бомб? У інструкцыі ясна гаворыцца: „калі ёсць магчымасць, то перад тым як зрабіць вымушаную пасадку на незнаёмай мясцовасці, камандзір павінен скінуць на парашутах увесь экіпаж самалёта, сам узяць кіраванне і садзіцца адзін". Сэнс інструкцыі ясны і не патрабуе тлумачэнняў.

Вышыня падыходзіла ўжо да мяжы, далей за якую экіпаж не здолее скарыстаць парашуты. Як ні цяжка было Сафару расставацца з таварышамі, ён уключыўся на ўсе пункты і даў загад:

— Скакаць усім.

Азірнуўшыся на другога пілота, Сафар убачыў яго здзіўленыя вочы. Сафар напусціў на твар люты выраз і жэстам паказаў: „Скакаць!" Зірнуўшы праз зашклёную падлогу, ён убачыў, як адзін за адным з-пад фюзеляжа падаюць яго таварышы. Момант і над падаючымі, як язык полымя, узвіваецца хвост парашута, расцвітае пругкі шаўковы паўшар. Сафар лічыў скакнуўшых. Восем! Ён пачакаў. Дзевятага не было. Сафар зноў азірнуўся на лётчыка і мімаволі замёр.

Падняўшы шырока раскрытыя вочы на камандзіра, той моўчкі паказваў на зямлю. І тут Сафар убачыў: зады вёскі, над якой

ішоў самалёт, пачалі шпарка ад'язджаць ад дамоў. Пудзіла на агародзе весела замахала рукамі. Разам з усыпанымі ягадамі кустамі, яно шпарка адыходзіла ад калодзежа, што астаўся на тым самым месцы. Агарод каля калодзежа расчапіўся папалам. Велізарныя качаны капусты адыходзілі ад нерухомага салата.

8

Марксізм ніколі не адмаўляў ролі героя. Наадварот, ролю гэту ён прызнае значнай...

*Сталін.* З гутаркі з нямецкім пісьменнікам Эмілем Людвігам.

*21 г. 14 хв.—21 г. 16 хв.*
*18/VIII*

У бетонным падзямеллі, на глыбіні 25 метраў, было нясцерпна тлумна. У першы момант нельга было нават вызначыць, чым ён выкліканы, такі ён быў моцны. Толькі прызвычаіўшыся, вуха вылучала пануючы над усім гуд авіяцыйных матораў. Трыццаць знішчальнікаў, што выстраіліся пад асляпляючымі лямпамі, блішчэлі дыскамі круцячыхся прапелераў. Вышэй і недзе ў задняй частцы падзямелля, магутнымі галасамі вылі вентылятары. Прапелеры віхорам гналі струмені выхлапных газаў, якія пад столлю імчаліся сінім патокам да шырокіх раструбаў вентылятараў.

За гудам матораў, выццём вентылятараў і свістам паветра, што рассякалася прапелерамі, амаль не было чуваць працуючых за сцяною вялікіх дызеляў. Іхны выхлап быў выведзен па доўгіх калектарах у коміны домікаў.

Здавалася, людзі ў самалётах і каля механізмаў, не заўважалі гэтага пякельнага тлуму і віхору. Іхныя позіркі былі накіраваны на афіцэра, што сядзеў у шкляной будцы каля сцяны. Перад афіцэрам бялелася некалькі размеркавальных дошчак. На адной былі светлыя сігналы, на другой серыя рубільнікаў і кнопак, трэцяя станавіла сабой шкляны экран.

Галава афіцэра была закрыта тоўстым гуканепранікальным шлемам з тэлефоннымі трубкамі на вушах. Ён адзін чуў голас з цэнтральнага паста. І цяпер падпарадкоўваючыся гэтаму голасу, ён націснуў кнопку. На першай дошцы загарэўся яркі надпіс „падрыхтавацца“. Такія-ж надпісы ўспыхнулі ў розных канцах падзямелля. Рукі электрыкаў ляглі на рубільнікі. Лётчыкі скасавурылі вочы на свае кантрольныя прыборы.

Націснуў на другую кнопку і экран перад афіцэрам пасвятлеў. У ім адлюстравалася вячэрняе неба, зады вёскі з яе агародамі, стандартнымі кустамі маліны, пудзіламі ў салдацкіх мундзірах, цаглянымі калодзежамі і з лупатымі кошкамі, што на іх с таіліся.

Рэагуючы на новы тэлефонны загад, афіцэр націснуў кнопку. Уключаны новыя рубільнікі на дошках электрыкаў. Да агульнага тлуму далучыўся магутны гул. Пачалі працаваць тысячасільныя маторы, што рухаюць пакрыццё. Столь плаўна скранулася і пачала адыходзіць. Мімаволі на момант ўсе галовы падняліся да пазало-

чанага закатам неба. Важкае перапляценне стальных ферм пачало адыходзіць. Усё больш неба, усё больш святла. Лётчыкі як адзін метадычным чоткім рухам апусцілі акуляры на вочы.

Новая кнопка, рубільнік, маторы.

Пярэдняя катапульта з чатырма самалётамі, што на ёй стаялі, шпарка і плаўна прысунулася да прорэзі ў столі, паднялася, закрываючы сабою светлую паласу неба, і выкінула ў паветра свой цяжар. Узляцелі два знішчальнікі, за імі яшчэ два. Праз дваццаць секунд на месцы першай катапульты была новая. І з яе чатыры машыны ўзляцелі насустрач падбітаму самалёту, што адзінока цягнуўся над самай зямлёй.

Яго адбітак у камандзірскай панараме рабіўся ўсё большым, яснейшым. Ён падышоў так блізка да зямлі, што знішчальнікі не адважваліся яго атакаваць. Камандору ўжо быў час выпускаць у паветра ўсе свае самалёты. Яны павінны ісці даганяць галоўныя сілы большэвікоў, што прайшлі недалёка збоку. А гэты бязглузды адзінокі самалёт пагражаў перашкодзіць. Пасылаць знішчальнікі, значыць свядома рызыкаваць сутычкай з гэтым вар'ятам, знішчаць сваю матэрыяльную частку, траціць людзей. Трэба было затрымаць вылет сваіх знішчальнікаў з-пад зямлі, пакуль не саб'юць большэвіка. Але камандор не мог ахвяраваць ніводнай хвілінай— ад своечасовага вылету яго самалётаў залежалі вынікі вялікай аперацыі. Камандор у шаленстве ірваў тэлефоны. Ад'ютант імчаўся ў ліфце наверх, каб кіраваць спробай зняць большэвіка з зямлі. Сяляне ў мундзірах пакідалі свае вазы і прыкленчыўшы на адно калена, пасылалі ў паветра ружэйныя залпы. Звенні і аддзяленні паветраных снайпераў узнікалі на вуліцах вёсак.

А Сафар, не маючы больш мажлівасці ляцець у простым кірунку або развярнуцца ўлева, ішоў бясконцым правым віражом. Радыус віража змяншаўся. Стрэлка альтыметра хутка схілялася да нуля. Сафару патрэбны былі яшчэ некалькі хвілін. Трымаючы адной рукой штурвал, ён другою ліхаманкава настройваў перадатчык. Нешта як на зло не ладзілася. Прайшло дзве хвіліны пакуль флагман адгукнуўся на пазыўныя Сафара і Сафар мог перадаць яму пра тое, што робіцца пад ім. Ён вачамі спрабаваў падлічыць шчыліны падземных аэрадромаў, што адчыняліся, але ўрэшце проста паведаміў: „Вельмі многа. Не паспею палічыць. Пастараюся зрабіць, каб іх было менш. Канчаю перадачу...“

Ён пакінуў перадатчык і выклікаў па перагаворнаму бамбардыра. Лётчык павінен быў ужо прабрацца ў бамбавы адсек, вось ён адказаў:

— Гатовы.

— Разумееш, магу ісці толькі кругамі. Кідай у шчыліны, як здолееш.

— Есць кідаць у шчыліны.

Машына зніжалася. Яна з выццём насілася над зонай падземных аэрадромаў. Здавалася, яна хоча сутыкнуцца з знішчальнікамі, што падніміліся.

Бачучы ў сваіх экранах самалёт, які як звяр'яцелы кружыць над іхнымі выходнымі адтулінамі, камандзіры аэрадромаў спынялі

выпуск знішчальнікаў. Катапульты бяздзейнічалі. Хвіліну панавала замяшанасць. Хвіліну! Цэлую хвіліну ніводзін з дзесяці аэрадромаў не выкідаў у паветра свае знішчальнікі. Камандор даў ад'ютанту загад:

— Камандзіру сёмага атрада аднаму тараніць праціўніка.

Але раней, чым ад'ютант перадаў загад па прызначэнню, казамат камандора здрыгануўся ад страшнага ўзрыва. Пагасла святло. Шырокая шчыліна прайшла ўпоперак шкла панарамы. Павольна, нібы ў задуменні, аселa стальная труба перыскопа разам з бетонным перакрыццем. Груды зямлі і распыленага бетона рынуліся ў падзямелле.

Лётчык прамахнуўся. Першая двухсотпяцідзесяцікілограмавая бомба замест шчыліны аэрадрома ўпала проста на чырвоны дах „Прыюта патрыётаў“.

Зона была пазбаўлена кіравання. Але Сафар пра гэта не ведаў. Ён выклікаў лётчыка:

— Я пайду над самай зямлёй, але калі ты прамахнешся яшчэ раз...

Лётчык і сам ведаў, што мазаць нельга—асталося чатыры бомбы. Але пра бамбаванне па ўсіх правілах, як вучылі ў школах, як практыкавалася на вучэннях і манеўрах,—не магло быць і гаворкі. Машына імчалася амаль над самай зямлёй. Прадметы на зямной паверхні мільгалі перад вачамі, як шалёныя. У прыцэл нельга было злавіць нічога. Лётчык чакаў, калі Сафар падыйдзе да зямлі настолькі, што ў намечаную мішэнь можна будзе папасці яблыкам. Тады, не карыстаючыся ніякімі прыборамі, на вока, ён вызваліў наступную бомбу з замаруджвальнікам.

Сілаю ўзрыва машыну ўсёткі падкінула з хваста так, што Сафар ледзь выцягнуў яе на сябе. Яна ўзнялася ад зямлі ледзь не зачапіўшы коміны дамоў.

Але затое праз шкло падлогі Сафар убачыў як шыбанулі ўгару агароды. Вялізным павуком узнялася з-пад іх катапульта. Чорны дым і языкі полымя схавалі астатняе.

Цяпер вышыня была такая, што яе хопіць не больш як на адно скідванне. На наступным самалёт уваткнецца ў зямлю. Сафар загадаў:

— Залп двумя бомбамі.

І адразу адчуў, як магутным патокам машыну шпурнула наперад. Усе шыбы ў падлозе самалёта ўціснула ў сярэдзіну кабіны.

Кратэр вулкана раскрыўся пад вёскай. У яго сыпаліся домікі. У паветры ўзнімаліся ў беспарадку счэпленыя знішчальнікі і грудам валіліся назад. Полымя шугала вышэй, чым ішоў Сафар.

— Вызваліць засцярагальнікі бомб,—крыкнуў Сафар у перагаворны.

Вышыня ўся. Ці здолее ён дацягнуць вунь да той вёскі, над якой зараз узляцела звяно знішчальнікаў? Адлегласць усяго пяцьсот метраў. Трыста. Дзвесце. Але іх трэба дацягнуць.

— Дацягнуць,—закрычаў узрадавана Сафар, нейкім поўным захаплення голасам. Ён узяў на сябе штурвал. Машына нехаця пад-

няла нос. Але раней чым яна паспела задрацца і слізнуць, Сафар рэзка адлаў штурвал і прыгажун СБД уткнуўся ў чарнеючую пад імі шчыліну аэрадрома.

Катапульта падыходзіла да паверхні, калі сваёю пяцітоннаю масаю на яе абрушыўся СБД. Разбіваючы бетон, ламаючы жалеза ферм, СБД прабіў столь і ўрэзаўся ў густэчу пастроеных у падзямеллі самалётаў. Ён быў занадта вялікі, каб знікнуць пад зямлёю. Яго хвост астаўся тырчаць. Вясёлыя языкі полымя клапатліва лізалі пакарэжаны метал фюзеляжа, узнімаючыся насустрач гэткаму ж палаючаму закатнаму небу. Чорныя клубы дыму, вырываючыся з-пад зямлі, засцілалі прыбраную вёску.

9

Суровая неабходнасць ваенных акалічнасцей раптам перакульвае лепшыя прадбачанні мірнага часу.

Камандан *Ланжэвен* (Францыя).

*К 21 г. 00 хв. 18/VIII*

## З нататак фельдмаёра Бунк

Я страціў лік попельніцам даверху набітым акуркамі. Брулоў жыве другія суткі на нікатыне. Сядаючы за машынку, або за апарат да простага правады стаўкі галоўнакамандуючага, я не трапляю пальцамі ў клавішы. Да нас ужо двойчы варочаліся дэпешы для праверкі. Амаль напэўна я зляжу, як толькі скончыцца калатніна. Ліха яго бяры! Я зрабіўся, як гумавая лялька. Усё адскаквае ад мяне. Перастаю адчуваць, думаць, скора перастану чуць і бачыць. Да мяне, як з-за ватнай сцяны далятае голас Вронскага. Ён робіць чарговы даклад (я згубіў ім лік). Ён таксама жалезны гэты Вронскі. Генералы сядзяць адзін супроць аднаго, падцягнутыя і насцярожаныя, як ворагі. Брулоў, не спускаючы вачэй з карты, ловіць кожнае слова начальніка штаба. Той суха выкладвае:

— ... далей, у раёне трэцяй арміі, лёгкія бамбардыроўшчыкі спрабавалі прабрацца да нашых разгрузачных вузлоў. Праціўнік адбіты і панёс вялікія страты. Толькі адной штурмавой эскадрыллі ўдалося прарвацца да чыгуначнага вузла Сорнье і выклікаць паніку ў момант высадкі хімічных войск. Былі пападанні бомб у балоны з АМ. Адбылося масавае атручванне сваіх войск і чыгуначнага персаналу.

Брулоў:

— Зноў штурмавікі! Я-ж папярэджваў вас, генерал,—максімум увагі ахове наземных войск ад налётаў. Я папрашу вас...

— Ваша прэвасхадзіцельства,—Вронскі зрабіўся яшчэ сушэй,— зямля сама кліча. Мы не можам нічога зрабіць супроць самалётаў, што ідуць на брэючым палёце на сто кілометраў у глыб нашага размяшчэння.

— Увесь час на брэючым?

У Вронскага з'явілася ўрачыстая нотка, нібы гаворка ішла пра яго ўласную заслугу:

— Так, ваша прэвасхадзіцельства,—месцамі пятнаццаць метраў. Барацьба сродкамі ВПС немагчыма. Мы іх проста не бачым.

— Выходзіць, што ратункам для нападаючага з'яўляецца ўжо не вышыня, а адсутнасць яе. Каб большэвікі паўзлі на бруху, мы проста-б развялі рукамі: бярыце жыўём.

І зноў урачыстасць у голасе Вронскага:

— Разам з вашым папярэднікам, ваша прэвасхадзіцельства, я рабіў прадстаўленне Вялікаму штабу пра неабходнасць наземнымі сродкамі затрудніць супраціўніку карыстанне зручнымі далінамі рэк, прагалінамі лясоў, што ідуць у наш глыбокі тыл. Мы прадбачылі: усё гэта будзе подступамі для штурмавікоў.

— І вы прапанавалі?

— Баражы, ваша прэвасхадзіцельства: баражы і ўзмоцненае ўзбраенне зямлі хуткастрэльнымі зенітнымі кулямётамі. Тут уласна кажучы, нават не патрэбна зенітнасць. Агнявая заслона буйнакаліберных кулямётаў магла-б спыніць любую атаку штурмавікоў. Гэта было-б больш танна і давала-б больш карысці.

Брулоў нечакана павярнуўся да мяне:

— З словаў генерала Вронскага вы перадасце ў стаўку тэлеграфны даклад: мы здымем з сябе адказнасць за ўсё, што ляціць ніжэй за сто метраў. Мы не можам няньчыцца з пяхотай як з грудным дзіцем. Ну іх к ліху! Няхай абараняюцца самі.

Ён з раздражненнем ткнуў акурак у перапоўненую попельніцу і пацягнуўся па свежую сігарэту. Вронскі маўчаў. Брулоў здзіўлена запытаўся:

— Усё?!

Вронскі, нібы ачнуўшыся, правёў па карце тлустую лінію. Ад горада Санта яна ўпартай чырвонай рысай пацягнулася ў паўднева-заходнім кірунку.

— Асобы корпус,—лаканічна кінуў Вронскі.

Бровы майго старога ўз'ехалі на лоб.

— Ён ідзе сюды,—паказаў ён на Пулен.

— Не. Апошнія данясенні: каля Любяціна большэвікі падзяліліся. Усяго сто з нечым машын ідуць да Пулена. Астатнія лікам прыблізна чатыраста павярнулі на паўднёвы захад.

— Наша агентура ні чорта не варта. Няўжо нельга было ведаць гэта загадзя? Што ім там трэба? Брацлава?

— Піваварныя заводы?—усміхнуўся Вронскі,—наўрад.

— Але там-жа больш нічога няма.—Брулоў ажывіўся.—А ці не думаеце вы, што яны могуць вось адгэтуль павярнуць на паўночны захад? Яны хочуць падыйсці к Пулену з двух бакоў.

— І дзеля гэтага палёт над адносна бяспечнай для іх Паспалітаніяй прамянялі на палёт над нашай тэрыторыяй? Не. Пулен ім не патрэбен.

— Сталіца.

— Яна магла-б іх цікавіць, калі-б там астаўся яшчэ хоць-бы Вялікі штаб, або стаўка. А на чыноўнікаў і гандляроў большэвікі не будуць траціць сілы.

Нават я ачнуўся ад свайго паўсна. Было зусім відавочна, што Вронскі здзекуецца з майго старога. Шкада Брулова. Чым ён ві-

наваты ва ўсёй гэтай кашы? Цэнячы Вронскага як знаўцу паветранага флота і выдатнага аператыўніка, дыктатар хацеў яго скарыстаць да канца. Але ён не мог даверыць камандаванне ВПС афіцэру, што меў у мінулым вялікія рознагалоссі з нацыянал-фашысцкай партыяй. Над Вронскім патрэбна было вока. Вось мой стары і стаў гэтым вокам, з званнем камандуючага. На плечы старога кавалерыста ўпала адказнасць за зброю, якую ён не ведаў і якой ён не ўмеў карыстацца. Брулоў не мог так хутка пазбавіцца шматгадовых звычак наезніка. Ён яшчэ не ахапіў усёй аператыўнай рухавасці і незалежнасці самалёта. Паверхня зямлі не перастала для яго існаваць. У Брулова ўсё яшчэ была псіхалогія, хаця і смелага, але кавалерыйскага, а не паветранага ваенаначальніка.

Ці было гэта прызначэнне памылкай? Я да гэтага часу не ведаю. Але ў той момант, калі Вронскі, дэманстратыўна адганяў вузкай далоняй папяросны дым, насмешліва пазіраў на Брулова, я гатовы быў усумніцца ў мудрасці дыктатара.

Жуючы папяросу, якую так і не паспеў запаліць, Брулоў здаўся:

— Што-ж вы думаеце?

— Вось!—амаль з урачыстасцю выкрыкнуў Вронскі і кароткім рухам алоўка адхапіў ад Імперыі ўвесь паўднева-ўсходні куток.— Тут сканцэнтравана добрая палова ваеннай прамысловасці краіны.

Брулоў нават адкінуўся ў крэсле. Ён, як трус у зяпу ўдава, пазіраў на адрэзаны смелым алоўкавым мазком куток Імперыі.

— Не можа быць.

— Зусім магчыма,—сказаў Вронскі.—Радыус дзеяння машын, што знаходзяцца ў страі Асобага корпуса, дапускае такі рэйд, пры захаванні вялікай бомбавай нагрузкі.

— Да рэчы: паўднёвы прамысловы раён усё-ткі вялікі. Яны павінны былі выбраць больш вузкую шчыліну.

— І, вядома, выбралі. Логіка гаворыць за тое, што першымі павінны быць знішчаны заводы, што даюць нам найбольш актыўную зброю—авіяцыю, бронемашыны, АМ. Вы згодны?

— Гэта ісціна.

— Значыць, першы ўдар павінен быць нанесены тут.

Вронскі абвёў кружком гару Форт.

— Так гэта ці не, на Форт не павінна ўпасці ніводная бомба.

— Так, трэба пастарацца, каб не ўпала.

— Ніводная,—рашуча сказаў мой стары. Ён супакоена запаліў сігарэту, нібы справа ўжо была зроблена.

Вронскі дакладваў:

— Такім чынам галоўныя намаганні абароны будуць сканцэнтраваны іменна тут,—вакол Форта. Але наша першая задача заключаецца ў тым, каб не дапусціць праціўніка да нашай граніцы наогул.

— Гэта праўда.

— Таму мы павінны вымусіць яго прыняць бой над славенскай тэрыторыяй.

— Там мы будзем пазбаўлены ўсякага падтрымання зямлі. Нават, наадварот, гэтыя славенцы могуць дапамагчы большэвікам.

— Не думаю, каб яны адважыліся адкрыта ўмяшацца. Але на-

ват калі-б і так, яны шмат не зробяць. Праз гадзіну павінна разыграцца рашучая бойка. Я распарадзіўся...

Брулоў раздражнена перабіў:

— Вы распарадзіліся?

— Вашым імем. Я загадаў: усе наяўныя сілы сканцэнтроўваюцца над раёнам Влош-Крона і чакаюць маіх... вашых загадаў па радыё. Сюды ж кідаюцца знішчальнікі зоны „у“*).

— Яны спозняцца.

— Не. Яны ўжо вылецелі. Чацвертая высотная разведвальная дывізія, што ляціць у раён арміі фельдмаршала Фіш, мяняе кірунак і ідзе сюды-ж.

— Гэта нямысліма. Я не маю права адмяніць загад стаўкі.

— Гэта неабходна.

— Але разведчыкі! Што яны могуць?

— Ваша прэвасхадзіцельства, разведчыкі зусім годныя там, дзе адыграюць сваю ролю нават пасажырскія машыны.

— Пасажырскія машыны? Навошта?

— Я кідаю ў бой усё, што можа трымацца ў паветры. І пахавальныя дрогі годныя, калі яны могуць адцягнуць на сябе агонь праціўніка. Апрача таго ў кожнага сумленнага імперца, хоць бы ён быў самым штацкім пілотам, заўсёды астанецца магчымасць шукаць сутычкі. Мы павінны спыніць гэтыя машыны любой цаной. Вы-ж не захочаце ўзяць на сябе адказнасць за такі пункт, як Форт.

Мне здалося, што Вронскі неяк па асабліваму падкрэсліў гэта слова „Форт“. Але Брулоў зрабіў пратэстуючы жэст.

— Я не магу скасаваць распараджэнне аб пасылцы дывізіі фельдмаршалу фон дэр Фіш.

— А вы можаце, ваша прэвасхадзіцельства,—голас Вронскага звінеў,—узяць на сябе адказнасць за знішчэнне Форта, палова заводаў каторага належыць дыктатару?

Брулоў ускочыў, ён адпіхнуў ад сябе дубовую махіну стала. Усё што было там—паляцела на падлогу.

— Вы не смееце!—закрычаў ён, чырванеючы.

Ён задыхнуўся і ўпаў у крэсла.

— Маёр!—ганарліва крыкнуў мне Вронскі.—Вады генералу!

Калі Брулоў расплюшчыў вочы, Вронскі спакойна сказаў:

— Глядзіце на рэчы рэальна. Я ведаю, што кажу. Калі вы хочаце выратаваць Форт з усімі яго заводамі нельга губляць ніводнай хвіліны.

— Тое, што вы сказалі—праўда?—запытаўся стары, не падымаючы вачэй.

— Праўда.

— Загад?—прахрыпеў Брулоў.

Вронскі паклаў перад ім ліст, стары падпісаў не гледзячы.

— Першая частка вашага загаду ўжо выканана; усе часці, прызначаныя для аперацыі—у паветры. Астаецца другая частка: знішчыць ворага. І гэтаму можа перашкодзіць толькі адно—змрок. У нашым распараджэнні, нажаль, хвіліны. Сонца ўжо за небасхілам.

*) „у“—абазначэнне падземных аэрадромаў у Імперскіх ВПС.

Брулоў сядзеў за сталом асунуты, пастарэлы. Ён неяк жаласна знізу ўгару паглядзеў на Вронскага.

— Можа, генерал, кінуць напярэймы праціўніку часці, што абараняюць Пулен?

Вронскі загаварыў усёроўна як прыяючы, што з вучнем:

— Па-першае, Пулен, усёткі сталіца—яе грамадскую думку трэба шанаваць. Па-другое, часці СПА не прыстасаваны для дзеяння на такіх дыстанцыях. Яны прыдуць да месца сутычкі, выдаткаваўшы ўсё паліва. Па-трэцяе, мы так і не ведаем намераў паўночнай калоны, а ў ёй усёткі больш за сто машын. І ў нашых інтарэсах уцягнуць гэтую групу ў бой. Яна слабейшая за паветраныя сілы абароны сталіцы. Там мы можам яе знішчыць, якія-б мэты яна не мела на ўвазе. Мы пастараемся зацягнуць яе к Пулену. Да таго-ж па рыдыё-дэпешах праціўніка можам меркаваць, што ёю камандуе брыгадзір Брэдзіс.

— Брэдзіс?—абыякава перапытаў Брулоў.

— Зусім так, брыгадзір Брэдзіс. Гэта вельмі смелы, я нават сказаў-бы—адчайны начальнік.

— Што-ж, вы іхных камандзіраў, ведаеце як сваіх.

Вронскі ўсміхнуўся.

— Лепш, ваша прэвасхадзіцельства. За іхным камандным складам я сачу ўжо чатыры гады, а нашы камадзіры мільгаюць, як метэоры. Я не заўсёды спраўляюся з імі пазнаёміцца.

Стары мірачыся працягнуў руку:

— Добра, добра, больш гэтага не будзе. Я вам абяцаю.

— Баюся, што абяцанне крыху спазнілася, ваша прэвасхадзіцельства.

— Лепш позна, чым ніколі, генерал.

— Часам позна гэта і ёсць ніколі. Дазволіце ісці?

— Вы вольныя, генерал.

10

*21 г. 17 хв.—22 г. 10 хв.*
*18/VIII*

Капітан Касых адзначыў, што Сафар выбыў і паставіў на яго месца, на чале атрада, другую машыну. Механічна ўлічваючы страты, капітан Касых глядзеў на змену фігур пастраенняў самалётаў так, як бывала гэта было на манеўрах. Толькі цяпер, калі трэба было закрэсліць слова „Сафар", Касых да канца адчуў сэнс сваіх крыжыкаў. Гэтае скрыжаванне кароткіх рысачак абазначала страту добрага лётчыка, разумнага, шматабяцаючага камандзіра і выдатнага, цікавага чалавека. Сафар з яго выглядам багатыра і сарамлівасцю дзяўчыны, з вялікай прагай да вучобы і страснай нянавісцю да ворага.—Сафар!

Калоны жылі напружаным баявым жыццём. Ход аперацыі рабіўся капітану Касых зразумелым. Мяркуючы па ўсім, разлік нашага камандвання быў правільны: тое, што другая і трэцяя калоны Халюціна павярнулі з пуленскага кірунку, было нечакана для праціўніка. Не гледзячы на тое, што калоны заляцелі ўжо за 600 кіламетраў ад лініі мяжы, яны не сустрэлі колькі-небудзь моцнага супраціў-

лення. Авіяцыя праціўніка прапусціла час для ўдару або яе ўвага была адцягнута рухам Брэдзіса. Тым цяжэй будзе Брэдзісу. Усе сілы праціўніка абрушацца на яго невялікую калону. І ўсё ж ён павінен будзе прабівацца да сталіцы, каб адцягнуць на сябе супраціўленне імперцаў. Сонца было ўжо ля гарызонта. Паверхня далёкай зямлі засцілалася змрокам.

Мяркуючы па ўсім, галоўныя сілы не сустрэнуць супраціўлення ў паветры. Не пойдзе-ж праціўнік на начны бой?!

Каб не кіслародная маска—мабыць на твары Халюціна можна было-б убачыць задаволеную ўсмешку. Капітан Касых пачуў загад перастроіць калоны ў начныя паходныя парадкі па-эскадрыльна і вывесці разведку на вялікую адлегласць уперад.

Але флагманская радыёстанцыя не паспела адправіць у часці гэтае распараджэнне. Разведка Старуна данесла пра вялікае скапленне самалётаў праціўніка адразу ў двух сектарах: першым і другім. Дрэнная бачнасць не дазваляла дакладна вызначыць з якіх машын складаліся сілы праціўніка. Але было вядома, што ішлі самыя рознастайныя віды авіяцыі. Больш за ўсё было знішчальнікаў, якія ляцелі на вялікай вышыні, у напрамку галоўных сіл...

Становішча адразу ўскладнілася. Да веера Старуна—50 кілометраў. Калі знішчальнікі праціўніка ляцяць з хуткасцю 400—450 кілометраў, то пры руху ўласных сіл СБД з хуткасцю 380 кілометраў у гадзіну, збліжэнне адбываецца з хуткасцю 800 кілометраў у гадзіну або 220 метраў у секунду. Пяцідзесяці кілометраў, якія аддзяляюць Старуна ад галоўных часцей СБД, хопіць менш як на чатыры мінуты, а да дыстанцыі бою менш за тры мінуты. Дапусцім што ўлічваючы цяжкасць далейшай разведкі ў надыходзячым змроку і ахвяруючы сабой, Старун...

Думкі Касых перарвала новая перадача палкоўніка Старуна: „Разведванне скончыў. Збіраю брыгаду для бою са знішчальнікамі праціўніка“.

Такім чынам, Старун сапраўды рызыкаваў шасцідзесяццю разведчыкамі, каб даць галоўным сілам час на падрыхтоўку да бою. Некалькі лішніх хвілін маюць вялікае значэнне для грозных калон. Гаспадарлівы, развяжлівы чалавек—палкоўнік Старун. Ён вырашыў правільна: яго разведчыкі сваю справу зрабілі, у гаспадарцы Халюціна яны больш не патрэбны. А кожны СБД —карта. І як ні любіў палкоўнік свае ВРД, ён без усякіх хістанняў кінуў іх насустрач ворагу, амаль на пэўнае знішчэнне, грудзямі прыкрываючы галоўныя сілы.

Дапусцім, што Старуну ўдасца прыцягнуць да сябе знішчальныя сілы праціўніка і навязаць ім бой. Дапусцім далей, што бой зацягнецца і знішчальнікам трэба будзе зрабіць некалькі паўторных атак, каб знішчыць брыгаду Старуна. Усё гэта займе не больш пяці хвілін. І то толькі ў часці праціўніка. Яго галоўныя сілы будуць прадаўжаць збліжэнне з корпусам. За астатнія тры хвіліны флагману трэба прыняць рашэнне аб схеме атакі і размяшчэнні сваіх сіл, перадаць гэта рашэнне камандзірам злучэнняў і часцей. Тыя ў сваю чаргу павінны змяніць свае парадкі на баявыя. Людзі на самалётах павінны падрыхтавацца да бою.

Праз 45 секунд загад флагмана быў прыняты часцямі. Касых

не без трывогі глядзеў, як у няпэўным вячэрнім святле адны самалёты імкліва імчаліся наперад на прызначаныя ім баявым раскладам месцы; другія, збавіўшы абароты прапускалі таварышоў. Групы мянялі выгляд. Цяпер яны, не зважаючы на змяркание, сышліся шчыльней. Маса самалётаў зрабілася больш кампактнай.

Касых разумеў адказнасць моманту: упершыню ў сапраўднасці павінен быў разыграцца вялікі паветраны бой, у якім старана, якая абараняецца—нашы калоны, складаецца з аднатыповых самалётаў незнішчальнікаў: у Халюціна не было звычайнай крэйсерскай аховы. Ён павінен быў абараняцца сам. СБД павінны былі на справе абвергнуць погляды, што склаліся на працягу гадоў на прымяненне баявых самалётаў. Мадэрнізаваныя бамбардыроўшчыкі павінны будуць змагацца з сіламі праціўніка, якія складаюцца з звычайных для таго часу тыпу баявых самалётаў. Супроць СБД будуць біцца і лёгкія аднамесныя кулямётныя знішчальнікі, і гарматныя знішчальнікі дальняга бою, і вялікія двухматорныя знішчальнікі, якія могуць весці зацяжны бой на паралельных курсах, дзякуючы наяўнасці ў іх турэльных кулямётных установак. Урэшце, мяркуючы па данясенню Старуна, праціўнік кінуў у бой усе рэзервы. Гэта значыць, што ў паветры будуць разведчыкі, устарэлыя машыны і можа нават пасажырскія экспрэсы. У мірны час у імперцаў былі распрацаваны шырокія планы ператварэння грамадзянскага паветранага флота ў дапаможныя часці ваенных паветраных сіл. Якія сюрпрызы хаваюцца ва ўсім гэтым для калон, на якія яны будуць нападаць?

Нават на кароткае апісанне паветранага бою не патрабавалася-б болей часу, як на манеўры праціўнікаў. Таму трэба абмежавацца сухой перадачай аперацыі.

На думку флагмана, адпаведна раней выпрацаванай сістэме абароны злучэнняў СБД, нагружаных бомбамі, групы павінны былі пастроіцца такім чынам, каб стварыць унутры сябе некалькі моцных, кампактных ядзер. Цэнтры іх маглі клапаціцца толькі аб абароне ўніз і ўверх. Уся агнявая сіла „кольцаў“ магла канцэнтравацца на фронце, тыле або адпаведным флангу. Такім чынам, з кожнай групы, па ліку машын роўнай прыблізна брыгадзе, ствараўся як-бы агнявы шар, клубок, які ляцеў у прасторы з хуткасцю 380 кілометраў у гадзіну і быў ашчацінены ва ўсе бакі праменнямі кулямётнага і артылерыйскага агню. Гэты баявы парадак, прапанаваны Брэдзісам і вобразна названы „вожыкам“, быў уведзен камкорам Халюціным у практыку Асобнага корпуса. Тут упершыню з усёй паўнатой была асвоена трохмернасць паветранай зброі.

Упершыню спалучэнне тэхнічных уласцівасцей самалёта і баявых парадкаў дазваляла выйсці ў самастойны бой аднароднаму злучэнню бамбардыроўшчыкаў, не патрабаваўшых абароны, і падтрымання другіх тыпаў машын.

У 21 г. 30 хв.—праз чатыры з паловай хвіліны пасля атрымання папераджальнага радыё Старуна,—з барта флагманскага самалёта ўбачылі паспешна адыходзячую пад націскам праціўніка разведвальную брыгаду. Не глядзячы на тое, што палкоўнік Старун, падаючы прыклад сваім лётчыкам, з галаўным атрадам першы атакаваў пераважаючыя яго ў шмат разоў сілы імперцаў, брыгадзе

не ўдалося затрымаць іх руху. Яна была змята, рассеяна. Узброенне разведчыкаў аказалася недастатковым для таго, каб супроцьстаяць агню знішчальнікаў, іх манеўранасць была ніжэй за манеўранасць самалётаў, створаных для паветранага бою. Рэшткі брыгады адыходзілі пад прыкрыцце галоўных сіл. Але на чале іх не было ўжо адважнага і гаспадарлівага палкоўніка. Старун загінуў у першай-жа схватцы з мацнейшым ворагам, грудзьмі прыкрываючы разгортванне свайго корпуса.

Капітан Касых дзівіўся, што праціўнік падыходзіў не толькі ў першым і другім сектарах: усе румбы былі пакрыты пунктамі набліжаючыхся самалётаў. Першымі на дыстанцыі ў тысячу метраў ўвайшлі ў бой з СБД гарматныя знішчальнікі імперцаў. Хоць СБД таксама мелі магутнае ўзбраенне з гармат, па ліку нават пераважаючых гарматы нападаючых, на баку імперцаў была перавага аўтаматычнага прыцэльвання. У першы момант бою вежавыя установкі СБД аказаліся ў менш выгодным палажэнні. Але затое праз некалькі секунд пасля пачатку агню, калі знішчальнікі павінны былі думаць пра выхад з атакі, перавага была перайшла на бок СБД. Яны абстрэльвалі адыходзячага праціўніка.

Характэрнай асаблівасцю першай фазы гэтага бою было тое, што звычайны прыём нападу знішчальнікаў з-пад сонца аказаўся для імперцаў трагічным. Іх камандзіры не ўлічылі таго, што заходзячае сонца не можа сляпіць ворага. І вышла так, што знішчальнікі, якія ляцелі з захаду, вельмі ярка праектаваліся на фоне афарбаванага захадам неба, а самалёты Халюціна, якія ішлі з цямнеючага ўсходу, былі вельмі дрэнна відаць. Сляпое выкананне параграфаў настаўлення паставіла імперскія знішчальнікі ў цяжкае становішча. Ім не ўдалося разбіць пастраення „вожыкаў" і прымусіць іх рассцціся на часткі, якія можна было-б лёгка атакаваць на блізкай дыстанцыі кулямётнымі знішчальнікамі імперцаў. Панёсшы некаторыя страты, „вожыкі" ўсё-ж захавалі сферычнасць свайго агню. Гэта значыла, што на працягу наступнай фазы бою, покуль гарматныя знішчальнікі, вышаўшы з атакі, здолеюць зноў нагнаць СБД, на баку большэвікоў будзе неаспрэчная агнявая перавага. Падаспеўшыя к таму часу насустрач корпусу, часці кулямётных знішчальнікаў не здолелі нават скарыстаць сваю зброю. Гарматны агонь СБД трымаў іх на занадта вялікай адлегласці. Толькі асобныя імперскія камандзіры, бачачы бескарыснасць стральбы з такіх дыстанцый, на скрут галавы павялі свае часці праз агнявую заслону савецкіх гармат. Не больш паловы іхных атрадаў дайшлі да дыстанцыі дзейснага кулямётнага агню, але затое тыя, якія прарваліся, як спуджаныя коні, прадаўжалі збліжацца, не зважаючы на надзвычай моцны агонь буйна-каліберных кулямётаў СБД. На вачах капітана Касых некалькі СБД брыгаднай групы, у якую ўваходзіў флагманскі самалёт, былі збіты. Касых бачыў, як суседні СБД першага падфлагмана, страціўшы кіраванне, пачаў рабіць нейкія дзіўныя фігуры і знік у напрамку цёмнай зямлі. Пакуль Касых стараўся адзначыць напрамак, у якім знікае падфлагман, у поле яго зроку папалі яшчэ некалькі падаючых СБД. Там і сям, скрозь змрок, што ахутаў зямлю, бліскалі ўнізе маленькія светлячкі—рваліся бомбы

збітых СБД. Але раптам яркі сноп полымя асляпіў Касых. Ірванула ў паветры, рэзкім штуршком падкінула флагманскі самалёт і саштурхнула з курса. Касых не адразу зразумеў, што здарылася: не паспеўшы выйсці з атакі, або тараніўшы наўмысля, імперскі знішчальнік урэзаўся ў адзін з суседніх самалётаў. Ад удару загарэліся бензінавыя бакі знішчальніка. Пажар у сваю чаргу выклікаў узрыў бомб на СБД. Праз секунду капітан Касых убачыў, як яшчэ адзін імперскі знішчальнік уваткнуўся ў спіну другога СБД. Ужо не было сумнення: ён зрабіў гэта наўмысна. Ён шукаў гэтай сутычкі і імкнуўся зрабіць ёю максімальнае разбурэнне, ён нават выключыў матор. Касых бачыў, як палаючай ракетай выляцеў са свайго месца пілот знішчальніка. Удар сутыкнуўшыхся самалётаў быў настолькі моцны, што Касых нават не ўлавіў моманту, калі СБД разламаўся. Ён бачыў толькі, як падае сярэдняя частка фюзеляжа з цэнтрапланам *) і разам з уваткнуўшымся ў яго верхнюю вежу знішчальнікам. Быццам несучы на спіне ўпіўшагася драпежніка, кусок самалёта куляўся і рабіў паспешныя віткі. Са спіны яго вырываліся языкі яркага полымя. З бензінам, які выліваўся са знішчальніка, полымя расцякалася па рэштках СБД.

Секундамер, пушчаны капітанам Касых у момант, калі ён убачыў упершыню самалёты праціўніка, паказваў ужо сямідзесятую секунду. Цяпер у сферы дзейснага кулямётнага і нават гарматнага агню нічога не было. Толькі значна далей шарэлі кропкі манеўруючых вялікіх злучэнняў праціўніка. Касых быў упэўнены, што яны мяняюць напрамак палёту і лажацца на паралельны курс, адначасова імкнучыся набраць вышыню. Пакуль ён імкнуўся разгадаць значэнне гэтага манеўра, гарматныя знішчальнікі, якія паспелі нагнаць страчаную ў баю адлегласць, яшчэ раз атакавалі групы СБД. Але гэта атака была слабейшай. Толькі нязначная частка знішчальнікаў нагнала СБД. Астатнія былі яшчэ далёка ззаду за хвастамі бамбардыровачных калон. Гэта раздробненасць аслабіла сілу другога ўдару. Відавочна, камандзіры і нават асобныя лётчыкі-імперцы бачылі, што іх атака не здолее зрабіць сур'ёзнага ўздзеяння на рух СБД. Тады, па прыкладу сваіх таварышоў—кулямётных знішчальнікаў, найбольш смелыя з гарматнікаў кінуліся ў самую гушчу савецкіх пастраенняў, імкнучыся парушыць няўмольную настойлівасць, з якою імчаліся ў паветры гэтыя агнявыя „вожыкі“. Не спадзяючыся ўжо на дзеянне сваёй зброі, імперцы адкрыта таранілі большэвікоў. І, трэба аддаць ім справядлівасць, дзёрзкасць гэтага манеўра, якая каштавала жыцця многім смелякам, зрабіла сваё. Ядры некалькіх вожыкаў расстроіліся. Асабліва гэта дало сябе знаць у брыгадзе, дзе два СБД адначасова ўзарваліся ад сутычкі са знішчальнікамі. Сіла ўзрыву трох тысяч кіло трацілу была настолькі вялікая, што суседнія самалёты пачало круціць паветранай хваляй, як у віры. Адзін СБД, падкінуты пад крыло, перавярнуўся вакол прадоўжнай восі на спіну. У двух СБД шквалам былі садраны паверхні хваставога апярэння. Ім прышлося імкліва пікіраваць, каб не расстроіць баявы парадак усёй брыгады. Але паблізу не было сіл імперцаў, якія маглі-б скарыстаць замяшанне. „Вожыкі“

*) Сярэдняя частка крылляў, якая складае адно цэлае з фюзеляжам самалёта.

паспелі перастроіцца, запоўніць прарывы і паставіць пашкоджаныя машыны ў найменш напружаныя месцы.

Калі стрэлка секундамера адлічыла пятую хвіліну, капітан Касых разабраў, нарэшце, што злучэнні праціўніка, якія перастройваюцца наперадзе, складзены з устарэлых бамбардыроўшчыкаў „Хайн 60" і пасажырскіх экспрэсаў „Юмерс". Яны ляцелі наперадзе і вышэй за корпус. Касых вырашыў, што яны пойдуць над калонамі корпуса паралельным курсам. Дзякуючы рознасці хуткасцей, СБД абгоняць праціўніка. Абганяць яны будуць значна павольней, як гэта было-б, калі-б ворагі сышліся на сустрэчных, або перасякаючыхся курсах. Гэтага часу ідучым вышэй самалётам будзе дастаткова, каб з вялікай пэўнасцю пападання скарыстаць запасы дробных бомб.

Меркаванне капітана Касых часткова было правільным. Устарэлыя бамбардыроўшчыкі „Хайн 60" сапраўды павінны былі дажджом дробных бомб—вагой ад 250 грам да аднаго кілограма,—засыпаць калоны большэвікоў. Пашкоджанні, зробленыя разрывамі бомбаў, у шмат разоў больш дзейсныя, чым вынікі кулямётнага і гарматнага агню. Аднаго удалага пападання такой бомбы было дастаткова, каб вывесці са строю вялікі самалёт. Дзякуючы вялікай чуллівасці запальнага прыстасавання і малой пачатковай хуткасці бомбы, яна ўзрывалася ў самы момант пранікнення ўнутр паражонага самалёта. Будзь там кабіна, корпус або крыло, разрыў бомбы, які разбураў усё на паўтара-два метры вакол цэнтра узрыву, забяспечваў пашкоджанне любога самалёта.

Выратаваць корпус ад гэтага ворага магла надыходзячая цемра. СБД будуць амаль не відны зверху, праектуючыся на цёмную зямлю. Калі флагману ўдасца майстэрскім манеўраваннем выйсці з курса „Хайнаў", іх работа будзе моцна затруднена.

І сапраўды, раней чым упалі першыя бомбы імперцаў, у навушніках Касых ужо прагучэў выклік Халюціна. Папярэджваючы свае часці пра паяўленне бамбардыроўшчыкаў, ён загадваў метадычным манеўраваннем бесперапынна мяняць курс у брыгадах. Абставіны дазвалялі, апроч таго, некалькі разрэдзіць строй. Было малаверагодна, што знішчальнікі імперцаў паўтораць атакі, гэтаму перашкаджае скапленне над корпусам іх уласных бамбардыроўшчыкаў. А к таму часу, як бамбардыроўшчыкі астануцца за хвастом галоўных сіл Халюціна, будзе ўжо зусім цёмна. Роля знішчальнікаў на сёння адыграна. Адыграна даволі няўдала.

Цяпер пачнецца небывалая яшчэ бамбардыроўка самалётаў самалётамі, чаго не ведае гісторыя авіяцыі.

За бамбардыроўшчыкамі „Хайн 60" Касых ледзь заўважаў яшчэ шматлікія сілуэты вялікіх самалётаў. Гэта былі манапланы Юмерс. Ён меркаваў, што Юмерсы павінны будуць працягваць работу „Хайнаў" па бамбардыраванню корпуса. Касых не ведаў пра тое, што на плечы Юмерсаў ускладзена зусім іншая задача. Ім было прызначана прарабіць крывавы вопыт, ідэя якога належала генералу Фольфгангу фон Вронскаму і была ім выказана ў дакладзе II аддзелу Вялікага генеральнага штаба яшчэ два гады таму назад. Праект генерала Вронскага быў наступны:

Юмерсы, рушачы шчыльнымі страямі, павінны зблізіцца з праціўнікам на мінімум адлегласці, які дапусціць яго агонь, але не перавышаючы дзвесце метраў. Вронскі зусім свядома ішоў на тое, што з такой дыстанцыі праціўнік будзе расстрэльваць Юмерсы, як курапатак. Страты ў радах пасажырскіх машын будуць вельмі вялікія. Дасягнуўшы ўказанага зблізэння, Юмерсы выпусцяць тросы, падобныя да тросаў палётных антэн. На канец троса падвешваецца міна вялікай узрыўнай сілы. Вытравіўшы трос, Юмерсы мяняюць свой паралельны курс на перасякаючыйся, з такім разлікам, каб, астаючыся як мага болей на шляху ніжняй калоны, коса перасекчы лінію палёту найбольшай колькасці самалётаў праціўніка. У такіх умовах сустрэча ніжніх самалётаў з мінамі амаль няўхільна. Пытанне зводзіцца да таго, колькі часу Юмерсам удасца пратрымацца над праціўнікам не будучы збітымі.

У процілегласць Хайнам, якім цемра перашкаджала працаваць, Юмерсам яна магла быць надзейнай аховай.

Калі цемра схавае Юмерсы ад вачэй стралкоў совецкіх калон, то для корпуса адзіным сродкам выратавання будзе зніжэнне. У гэтым выпадку Халюцін магчыма здолее прайсці незаўважаным пад рухавымі міннымі палямі імперцаў.

Апошняя частка бою,—увядзенне ў бой Хайнаў і Юмерсаў,—праходзіла ўжо значна больш цішэйшымі тэмпамі. У той час як за ўсе тры атакі знішчальнікаў секундамер капітана Касых адлічыў усяго 5 хвілін 50 секунд, зблізэнне з павольна насоўваючыміся Хайнамі цягнулася дваццаць пакутлівых хвілін. Упершыню за ўсю лётную практыку Касых давялося адчуваць на сабе такі дзіўны род атакі, калі праціўнік наблізаецца хвастом.

К таму часу, калі ўся маса Хайнаў асталася за хвастом, Касых паспеў налічыць не болей за дваццаць разрываў бомб. У цемры ўспышкі былі вельмі добра відаць, хаця ўжо і нельга было разгледзець машын, якія сталі ахвярамі пападанняў. Невялікі процант пападанняў бомб трэба тлумачыць тым, што СБД бесперапынна манеўравалі, мяняючы курс. Гэта прымушала Хайны, у сваю чаргу, увесь час мяняць курсы і куты прыцэльвання.

Ноч уступіла ў свае правы.

Зямля знікла.

Месяц, які паказаўся над гарызонтам, быў бяссільны дапамагчы праціўнікам. Яны імчаліся насустрач адзін аднаму, не бачачы ні праціўніка, ні сваіх.

Байцы на зямлі, ідучы ўначы разамкнутым строем, могуць перакінуцца словам, яны адчуваюць адзін аднаго па парывістым дыханні, па тупату ног, па шолаху зямлі, а калі ёсць хоць крышачку святла, байцы ўжо бачаць адзін аднаго. Пры хуткасці перабежкі 8—10 кілометраў у гадзіну іх уласны рух здаецца настолькі хуткім, што сустрэча з ворагам бывае раптоўнай, як стрэл. А караблі ў моры? Некалькі дзесяткаў караблёў, раскіданых на прасторы ў мільён квадратных кілометраў, пагражаюць адзін аднаму магчымасцю сутычкі, кожную секунду, што можа адбыцца больш хутка, чым гэта ўспрыймае вока вахценнага. І гэта пры хуткасці ходу ўсяго якіх-небудзь пяцьдзесят—шэсцьдзесят кілометраў.

Самалёты-ж, рушачы з хуткасцю чатырыста і больш кілометраў, маглі меркаваць пра прысутнасць сваіх бліжэйшых суседзяў па слабым святле малюсенькіх сігнальных аганькоў на дошцы з прыборамі. Толькі часу ад часу, пры удалым павароце, у слабым святле месяца паказваліся ім угадваемыя сілуэты бліжэйшых машын.

На старонках ваеннай гісторыі нельга знайсці другой такой бойкі армад, калі камбатанты не ведалі-б не толькі таго, што робіцца каля іх на чатырох галоўных румбах компаса, але нават таго, што робіцца пад імі, ні таго, што ёсць над галавой. Невядомасць ва ўсіх шасці напрамках таямнічай прасторы,—трохмерная невядомасць, вісела над флотаводцамі ў гэтай не маючай прыкладу бойцы.

Сілуэты Юмерсаў расталі ў цемры. Усё наўкола здавалася бясконцай безданню. Цемра рабіла бессэнсоўнай трату зарадаў. Толькі далёка, недзе на крайнім левым флангу, бліскалі ўспышкі каля надульнікаў. Можа асабліва дзёрзкія лётчыкі ворага падышлі там на занадта кароткую дыстанцыю, дазваляючую наводчыкам угадаць іх прысутнасць. Можа проста нервы стралкоў не вытрымалі пакутлівага чакання праціўніка.

Касых разумеў, што не ўсякія нервы могуць справіцца з чаканнем сутычкі з Юмерсамі. Хаця Халюцін і даў загад усім калонам зараз-жа зменшыць вышыню на тысячу метраў, але хто мог паручыцца, што вораг не зрабіў таго-ж.

Ад насцярожанага ўглядвання ў цемру капітана Касых адцягнуў загад флагмана: „Падлічыць страты і стан часцей". Касых успрыняў гэты загад Халюціна толькі як жаданне знайсці занятак экіпажам СБД і прымусіць іх забыцца пра небяспеку.

Заняты перагаворамі з камандзірамі часцей, Касых забыўся на час. Кожная часць даносіла пра якую-небудзь страту. Не лічачы разведвальнай брыгады, корпус страціў выбыўшымі са строю 32 СБД і 14 СБД атрымалі непапраўныя пашкоджанні, але маглі ляцець. Апрача таго 68 СБД аставаліся ў страю з пашкоджаннямі, якія можна выправіць у палёце.

Выслухаўшы даклад капітана Касых, Халюцін спакойна сказаў:

— Паведаміце пра страты начальніку ВПС. Дадайце словы: „Страты меншыя, чым я чакаў. Не сумняваюся ў выкананні задання".

Вярнуўшыся на сваё месца і глянуўшы на гадзіннік, Касых убачыў, што прайшло ўжо болей за поўгадзіны з часу зніжэння корпуса на тысячу метраў з-пад Юмерсаў. Можна было быць упэўненым, што імперцы ў цемры згубілі корпус. Небяспека асталася ззаду. Не гледзячы на тое, што Касых толькі цяпер пра яе ўспомніў, ён усё-ж уздыхнуў з палёгкай. Трэба думаць, што ўначы корпусу нішто не пагражае. Ён можа дайсці да мэты не панёсшы новых страт.

Не гледзячы на цемру, палёт часцей корпуса праходзіў у такім-жа парадку. Калі-б некалькі гадоў таму назад перад гэткім вялікім злучэннем была пастаўлена задача групавога палёту ўночы, то было-б няўхільным вялізнае эшаланаванне часцей па гарызанталі і вертыкалі. Пры ўмове ідэальнай пастаноўкі штурманскай службы ўвесь поспех палёту грунтаваўся-б на дакладным захаванні часовых інтэрвалаў між асобнымі часцямі і нават самалётамі. Весці злучэнні

ўначы (некалькі соцень машын) колькі-небудзь кампактнай масай было практычна немагчымым. Паветраныя сілы СССР былі к таму часу аднымі з вельмі нямногіх, дзе быў магчымы начны групавы палёт у любым складзе. Увядзенне ў практыку некалькіх спецыяльных прыбораў дазваляла нават у абсалютнай цемры захоўваць баявыя парадкі ў злучэннях і любыя страі ў часцях. Прыборы гэтыя былі розныя па канструкцыі: адны з іх былі асновавы на прымяненні інфра-чырвоных праменняў, другія на скарыстанні ультра-кароткіх і мікрарадыёхваль; трэція з' яўляліся камбінацыяй тых і другіх. Ва ўсякім выпадку ўсе яны, з той або іншай ступенню надзейнасці дазвалялі экіпажу самалёта сачыць за паводзінамі суседніх машын. Толькі старая прывычка „трымаць сувязь вокам“ прымушала лётчыкаў і ўначы час-ад часу паглядваць у бакі: ці не відаць суседа?..

Павалока, што закрывала неба, знікла. Над калонамі заблішчэлі зоркі. Пры некаторым напружанні можна было разгледзець расплывістыя сілуэты суседніх самалётаў.

Здавалася, зямля была непарушна спакойнай. Ні ззяючых белым заравам гарадоў, ні аганька ў вёсках. Толькі праз моцныя лінзы трубы можна зрэдку заўважыць гладкую паверхню возера, адлюстроўваючую зорнае святло.

Азёр станавілася ўсё болей.

Касых зірнуў на карту. Калоны ішлі над Вобласцю Масарыкавай — раёнам горных азёр Славеніі. Тут раскіданы дзесяткі гарадкоў і заводаў, якія скарыстоўваюць для свае прамысловасці энергію вадападаў. Але ўнізе ўсё было цёмна. Жыццё замерла. Усё жывое, напалоханае гудам тысяч мотораў, забралася пад зямлю.

Славенская артылерыя маўчала. Знішчальнікі насцярожана стаіліся на аэрадромах. Славенцы рабілі выгляд, што не чуюць большэвіцкіх калон.

11

Асобных гераічных людзей, людзей здольных на подвіг многа на свеце. Яны ёсць і ў буржуазных краінах,—і за акеанамі і на еўрапейскім кантыненце. Але не знойдзецца ў гэтых краінах дзесяткаў, соцень, тысяч людзей, якія-б парашутызм палюбілі, як сваю родную, неабходную справу. Не знойдзецца такіх людзей, як у нас, якія палюбілі гэтую справу і аўладалі ёю перш за ўсё таму, што разумеюць яе значэнне для справы абароны свае Радзімы, для аховы будаўніцтва соцыялізма.

*Варашылаў* (з прамовы 17 лістапада 1935 г.)

## Асобая задача.

Хаця баявы загад дэсантнай дывізіі не меў у сабе нічога нечаканага, Багульны не мог схаваць хвалявання, прапрацоўваючы яго з камандзірамі часцей. Упершыню ў гісторыі ваеннага майстэрства яго байцы павінны будуць у літаральным сэнсе слова ўпасці на

галаву праціўніка. Не на парадзе, не на манеўрах з халастымі стрэламі і палотнішчамі ўмоўна адваёваных рубяжоў. Іх спаткаюць не пасрэднікі з белымі павязкамі на руках. На зямлі будуць імперцы. Багульны разумеў, што гэта значыць.

Багульны ведаў імя кожнага з людзей, што сядзелі перад ім. Ён любіў іх усіх, іхных жонак, іхных дзяцей; ён ведаў усе іхныя справы і хатн'я клопаты, якія адбіралі ў яго заўсёды столькі дарагога службовага часу і раптам перасталі існаваць. Не стала ні жонак, ні дзяцей, ні клопатаў.

— Галаўныя атрады 1 і 2 робяць парашутны дэсант у мястэчку Сігізмундопаль,—Багульны адзначыў алоўкам на карце кропку,— тут знаходзіцца штаб фельдмаршала фон дэр Фіш,—камандуючага імперскай групай прарыву. Задача:

1-му атраду: паралізаваць штаб; знішчэнне сувязі, разбурэнне аўтастрады, звязваючай штаб з тылам і фронтам, паланенне або знішчэнне асабовага складу штаба.

2-му атраду—заняць штабны аэрадром і падрыхтаваць яго да прыняцця нашых самалётаў. У 3 г. 35 хв. на гэтым аэрадроме прызямляюцца самалёты маёй дывізіі і высаджваюць там сродкі зенітнай абароны самога аэрадрома і штаба нашага вайсковага злучэння, маючага прыбыць туды у 3 г. 50 хв.

3-ці галаўны атрад—робіць дэсант у пункце 172 і ў залежнасці ад абставін займае адзін з двух аэрадромаў, размешчаных каля гэтага пункта. У 3. г. 40 хв. на гэты аэрадром садзяцца самалёты другога эшалона маёй дывізіі з бронетанкавымі часцямі і артылерыяй.

4-ы галаўны атрад—робіць дэсант у пункце 174 і займае аэрадром, прымаючы ўсе меры да захавання непашкоджанымі бензінасховаў праціўніка. У 3 г. 30 хв. на гэты аэрадром прыбываюць нашы знішчальныя часці, якія будуць несці службу аховы далейшых аперацый дывізіі.

І брыгада дывізіі ў складзе двух мотамехпалкоў робіць высадку на аэрадромах 172 і 174. Задачы брыгады...

Ён стараўся гаварыць так, каб кожнае слова запаміналася, як напісанае.

Перадаўшы камандзірам загады і пачкі карт зоны высадкі, Багульны парывіста абняў бліжэйшага з камандзіраў.

— Родныя мае, хлопцы, я абняў-бы ўсіх, ды вас-жа многа—не абнімеш. Біцеся, як біліся. А мой адрас Сігізмундопаль. Буду там з 3 г. 30 хв. Калі што... ды што можа быць?! Мы з вамі ведаем чаго ля  ім. Мы будзем дыктаваць ім нашу волю. Яны заскачуць так, як хочам мы. І заскачуць на сваёй зямлі. Вось і ўсё. Айда, хлопцы...

Да вылету галаўных часцей заставалася гадзіна. Камдыў аддаў апошнія распараджэнні па штабу і паехаў на аэрадром, адкуль павінен быў стартаваць першы галаўны атрад.

Там ужо ўсё было ціха. Падрыхтаванні скончаны. Людзі, гатовыя заняць месцы, ляжалі на траве ля машын. Багульны скоса зірнуў на самалёт з вялікім чырвоным крыжам на фюзеляжы і крыллях, які стаяў сярод другіх самалётаў, але стрымаў сябе і пайшоў

у другі бок. Ён абыйшоў некалькі машын і праверыў матэрыяльную частку. Пагаварыў з байцамі. Яго здзівіла спакойнасць людзей. Была толькі некаторая ўзнятасць, як перад усякім адказным палётам, але Багульны не заўважыў нават таго хвалявання, якое сам ледзь стрымліваў.

— Можа сібірак і праў: ці не пастарэў я?

Ужо не хаваючы нецярпілівасці, пайшоў да санітарнага самалёта. Каманда ляжала пад шырокім фюзеляжам. Бялела вока ручнога ліхтарыка. Багульны пачуў прыглушанае пасміхванне. Ён спыніўся. Ціха, але выразна гучэў вібруючы дзявочы голас. Алеся чытала: „У Анакосціі ангары гідрааэрадрома знаходзяцца на адным беразе рэчкі, сухаземны аэрапорт размешчан на другім. Лятаючыя лодкі падымаюцца з ракі, самалёты—з аэрадрома. Адзін з мясцовых лётчыкаў некалькі месяцаў лётаў толькі на сухаземных машынах. Аднойчы ён падняўся на лятаючай лодцы. Разам з ім адправіўся ваенны лётчык у якасці другога пілота. Зрабіўшы некалькі кругоў, лётчык пачаў зніжацца. Але замест таго, каб сесці на ваду ён збіраўся садзіцца на аэрадром. Ваенны пілот, які з ім ляцеў, да апошняй мінуты не перашкаджаў яму, пасля штурхнуў яго ў бок і сказаў яму, што ён збіраецца пасадзіць лятаючую лодку на зямлю. Тады лётчык зноў уключыў матор, зрабіў круг і падрыхтаваўся да пасадкі на раку. Ён добра пасадзіў машыну. Тут ён павярнуўся да другога пілота і пачаў прасіць выбачэння. У час гутаркі ён адшпільваў рэмень:

— Я так доўга лятаў на сухаземных машынах,—сказаў ён,— што мабыць зніжаюся на зямлю не думаючы, па прывычцы. Вядома гэта ідыёцтва.

Ён быў засаромлены і відочна ў замяшанні.

— Так,—заключыў ён—гэта было сапраўды ідыёцтва,—і вышаў з кабінкі на крыло.

— Усяго,—сказаў ён і ступіў з крыла ў ваду...*)

Байцы ледзь стрымлівалі смех. Багульны кашлянуў і ступіў да самалёта. Насустрач паднялася цёмная фігура. Алеся аддала рапарт.

— Таварыш камандзір дывізіі, у санітарнай часці першага галаўнога атрада ўсе людзі на месцах. Самалёт гатовы да старту.

Багульнаму хацелася абняць дачку. Але ён толькі працягнуў ёй руку, як і астатнім камандзірам. Крыху больш затрымаў яе маленькую далонь у сваёй і ціхенька мармытнуў:

— Алёнак... ну?

Твару дачкі не было відаць, але Багульнаму здалося, што яна смяецца:

— Усё добра, тату.

Ён страсянуў яе руку і, крута павярнуўшыся, пайшоў.

Седзячы ў аўтамабілі, ён спрабаваў знайсці сярод самалётаў той, з чырвоным крыжам на корпусе, але сілуэты ў цемры былі ўсе як адзін. Перш чым даехаў да белай лінейкі, загудзелі першыя за-

*) Джымі Колінз: „Лётчык-выпрабавальнік".

ведзеныя маторы. Камандзір атрада—вясёлы маленькі Ізаксон вынырнуў з-пад самых фар камдыва.

— Дазволіце стартаваць?

Голас гучэў так, нібы ён збіраўся на цікавае вучэнне.

Багульны махнуў рукой.

Прытрымліваючы нязграбны парашут, Ізаксон пабег полем.

Камдыў не вытрымаў і, вылезшы з машыны, утаропіўся ў цемру.

Успыхвалі каляровыя вочкі сігналаў.

З агульнага роўнага гудзення вырваўся роў.

Самалёт Ізаксона пайшоў на ўзлёт.

Хлопцы адыходзілі ў першы ў гісторыі ваеннага майстэрства дэсантны рэйд.

Паляцелі яго хлопцы і... Алеся.

Багульны злавіў сябе на тым, што хвалюецца. Глупства! Ён занадта ўпэўнены ў тэхніцы сваёй справы, каб сумнявацца ў добрай пасадцы хаця-б аднаго байца. Хіба ўсе яны—інжынеры, лётчыкі, парашутысты, не працавалі апошнія гады зусім нястомна над удасканаленнем дэсантнай справы? Прадумана кожная дробязь, зроблена ўсё, што можа зрабіць чалавек для ўнікнення небяспекі для парашутыстаў і байцоў пасадачных часцей..

Стоячы ў цемры, Багульны перабіраў у памяці перыпетыі барацьбы за тэхніку дэсанта. Колькі сіл патрацілі самі парашутысты на тое, каб дабіцца кучнагаі дакладнага прызямлення?! Колькі выдумкі і смеласці патрабавала асвоенне ідэі камбінаванага прыстасавання з крылляў і парашута?! Але затое і вынікі! Праз некалькі хвілін пасля пасадкі байцы ўжо ў страю і могуць весці бой. Не менш працы патрабавалася і на перамаганне перашкод, што былі на шляху пасадачных часцей: колькі часу мучыліся над умацаваннем пад самалётам вялікага гарматнага танка, колькі перапрабавалі варыянтаў, пакуль, нарэшце, дабіліся таго, што дэсантнікі маюць цяпер магутныя танкі? Багульны добра памятае як асуджвалі яго вопыты на няўдачу, як недаверліва ківалі галовамі інжынеры, лічучы нерэальнай выдумку дэсантнікаў: ніхто, нідзе, ніколі не спрабаваў падвешваць да самалёта такія страшэнныя цяжары. Ды і наогул хіба не хімера: падняць на ТД*), які важыць крыху больш за адзінаццаць тон, дзесяцітонную махіну танка, ды яшчэ ўсцягнуць яе на вышыню трох тысяч метраў? Гэта здавалася бязглуздзіцай. Але лётчыкі і танкісты яго дывізіі давялі на справе, што гэта не бязглуздзіца. Тое, над чым пакіўвалі галовамі інжынеры і скептычна ўсміхаліся ваенныя аташэ прыязных дзяржаў, на паверку аказалася рэальным: танкісты зрабілі лягчэйшым танк на цэлую тону, лётчыкі вымаглі ад самалёта лішнюю тону грузапад'ёмнасці. Усё збалансавалася. Танк паляцеў.

А колькі намаганняў было затрачана на стварэнне дэсантнага парашута-аўтамата! Гэтая канструкцыя, створаная амаль цалкам у дывізіі Багульнага, стала неад'емным снаражэннем усіх часцей паветранай пяхоты. Ідэя парашута зводзілася да таго, каб даць магчымасць цяжка нагружаным байцам скакаць з самых большых вышынь, не адчуваючы ўсіх фізіялагічных непрыемнасцей,

якія выклікаюцца хуткай пераменай атмасфернага ціску. Гэта надзвычайна павысіла тактычную „выбіральнасць“ дэсанта, дакладнасць яго пасадкі. А з пункту гледжання аператыўнага вырашалася пытанне максімальнай глыбіні дэсантнай аперацыі і яе рагтоўнасці, якія ў вялікай меры залежалі ад вышыні палёту дэсантных злучэнняў...

Але ў душы Багульны больш за ўсё ганарыўся сваёй уласнай вынаходкай: дэсантным блакгаузам. Броневыя лісты, выгнутыя па форме крыла, зручна і проста прымацоўваліся да нясучых паверхняў дэсантных самалётаў. Адным рухам ручкі лісты аслабаняліся. Састаўляючы іх, можна было ствараць надзейныя ўкрыцці для байцоў, кулямётныя гнёзды, цэлыя апорныя пункты, мініятурныя форты. У выпадку пераходу першых дэсантных партый на абарончае становішча, такія блакгаузы былі незамяняльнымі. Гэта былі надзейныя агнявыя пункты, для якіх не страшны быў ружэйны кулямётны шрапнельны агонь працііўніка...

Равучы маторамі, над галавою Багульнага праносіліся цяжкія ТД. Яшчэ некалькі секунд іх сілуэты былі відны на фоне асветленых месяцам воблакаў. Потым асталося толькі настойлівае гудзенне матораў, адыходзячае на захад.

## 12

На вайне маральная сіла так стасуецца да фізічнай, як 3 да 1.

*Напалеон.*

*21 г. 00 хв.—22 г. 30 хв.*
*18/VIII*

З моманту раздзялення Асобага корпуса ля горада Любяціна, назіранне працііўніка даволі дакладна вызначыла напрамак першай калоны і нават прыблізную колькасць самалётаў. Але камандванне зноў і зноў штурхала разведку ўдакладніць дадзеныя. Начальнік штаба генерал Вронскі не дазваляў сабе думаць, каб большэвікі трацілі сродкі і жыццё людзей на бамбардыроўку горада чыноўнікаў і гандляроў. Прысутнасць Брэдзіса прымушала бачыць у простай дэманстрацыі нейкую захаваную мэту вялікага значэння і прыкоўвала да яе ўвагу Вронскага. У яго нават з‘явілася западозранне, што другія атрады робяць абходны манеўр, каб пад сховай ночы далучыцца да Брэдзіса? Але можна было дапусціць і тое, што Брэдзіс павінен скарыстаць цемру, каб перамяніць курс на паўднёвы і прайсці да раёну аперацый асноўных сіл корпуса. Аднак дапусціўшы думку, што канчатковай задачай Брэдзіса з'яўляецца рух па шляху, працярэбленым Халюціным, Вронскі ўжо не мог ад яе адмовіцца, яна здавалася яму найбольш правільнай.

Спачатку ў Вронскага быў намер даць Брэдзісу свабоду дзеянняў на подступах да сталіцы. Начальнік штаба не хацеў адрываць ні аднаго самалёта ад прамысловага раёну, які быў зусім відавочнай мэтай палёту Халюціна. Але разам з тым як умацоўвалася думка быццам Брэдзіс, урэшце, павінен павярнуць на злучэнне з Халюціным, закрадвалася і сумненне: ці мэтазгодна тры-

мацъ усе сілы супраціўлення прыкаванымі да аднаго напрамку? Ці не лепш у час, не даўшы праціўніку злучыць свае сілы, знішчыць яго калоны па адной? Калі з меркавання такая думка перайшла ў упэўненасць, Вронскі не хістаючыся адмяніў ранейшае заданне ўсім сілам сканцэнтроўвацца ў паўднёва-прамысловым раёне. Перад часткай сваіх ён паставіў задачу: ісці к раёну Санта-Ілер для сустрэчы з калонай Брэдзіса, калі ён паверне на поўдзень.

Такім чынам, незалежна ад таго, адбудзецца сустрэча першай калоны з праціўнікам ці не, задача Брэдзіса была выканана—праціўнік адцягнуў значныя сілы ад супраціўлення другой і трэцяй калонам. Справа магла ісці цяпер аб тым, якія страты панясе Брэдзіс у выпадку бою?

Калі-б Брэдзіс мог ведаць сапраўдныя абставіны, ён спакойна прадаўжаў бы рух да Пулена, паказаўся-б над сталіцай, выклікаючы на бой авіяцыю СПА, і з мінімальнымі стратамі пайшоў-бы назад. Але, па-першае, Брэдзіс не ведаў намеру Вронскага і па-другое, Халюцін не дарма даверыў камандванне першай калонай іменна гэтаму напорыстаму развражліваму камбрыгу. Не дарма і генерал Вронскі так уважліва сачыў за ім.

У працэсе развіцця аперацыі Брэдзіс сам сабе паставіў новую задачу. Бачачы, што яго палёт праходзіць без усякага супраціўлення, ён падумаў, што камандванне праціўніка, з-за малога ліку машын у першай калоне, не надало ёй значэння і кінула ўсе сілы супроць Халюціна. Брэдзіс вырашыў, што яго абавязак—прыцягнуць да сябе ўвагу праціўніка, прымусіць яго кінуць на супраціўленне першай калоне вялікія сілы. У эфір пайшла падманная радыёграма: „Камкору Халюціну. З прычыны адсутнасці на маім шляху супраціўлення праціўніка, які відавочна падаўся на вашу дэманстрацыю, прашу дазволіць мне павярнуць да мэты, не даходзячы да Пулена. Гэта мэта згодна зрабіць, раздзяліўшы маю калону на дзве і ахапіўшы мэту з двух бакоў. Брэдзіс“.

Камбрыг зрабіў так, каб праціўнік мог разабрацца ў шыфры. Аставалася толькі, каб імперцы паверылі ў радыё. Праз поўгадзіны расшыфраваная радыёграма ляжала перад Вронскім. Генерал задаволена паціраў рукі: яго меркаванні пацвердзіліся.

Вялікія сілы імперцаў прадаўжалі сканцэнтроўвацца ў раёне Санта Ілер, дарэмна чакаючы Брэдзіса. Але Брэдзіс пра гэта не ведаў і паранейшаму, не бачачы супраціўлення, зрабіў яшчэ адну спробу прыцягнуць да сябе ўвагу.

Яго ўласная машына хутка пайшла ўніз. Следам за ёй планіравалі адна за другой часці калоны. Але зямля была паранейшаму мёртвай.

Задоўга да падыходу калоны краіна хавалася ў цемру. Сярод вуліц заміралі скрыначкі трамваяў і аўтобусаў. Раптоўна абрывалася разнакалёрнае ззянне рэклам, у бездань змроку праваьваліся цэлыя кварталы, раёны, гарады.

Брэдзіса бачылі. Яго не маглі не бачыць: Брэдзіса чулі. Яго не маглі не чуць.

Дзве тысячы метраў! Ён амаль што цягнецца па імперскай зямлі. Ён падстаўляе сябе пад стрэлы зенітных батарэй. Дык

чаму-ж яны маўчаць? Чаму няма ліхаманкавай стральбы, чаму не раскрываюцца вароты славутых падземных аэрадромаў, пра якія столькі пісалі ў мірны час? Чаму хмары знішчальнікаў не падымаюцца ў паветра, каб выратаваць ад бомб мірныя гарады свае радзімы? Чаму, чорт вазьмі, ніхто не спрабуе яго спыніць!?!

Зямля маўчала. Гарады Усходняй Імперыі хаваліся ў змроку. У іх не было ні знішчальнікаў, ні зенітных гармат, ні нават газасховішчаў. Край не быў каштоўным для камандвання. Яго жывыя рэзервы—людзі,—даўно ў радах арміі, а тое, што асталося—жанчыны, дзеці, старыя,—не варта было сродкаў на абарону. Знішчальнікі і гарматы больш патрэбны ў другіх месцах. Яны павінны абараніць ад бальшэвіцкіх бомб станкі артылерыйскіх арсеналаў, канвееры танкавых заводаў, апаратуру хімічных фабрык. Без усяго гэтага нельга ваяваць. А ціхія гарады Усходняй імперыі патрэбны толькі іх ўласным жыхарам—гэта не прамысловы раён.

Адзінае, што было тут дарага імперскаму камандванню і што заслугоўвала з яго пункту гледжання абароны, былі чорныя вузкія палоскі зямлі, залітыя бетона-асфальтам,—аўтастрады. Бясперапынным патокам цяклі па іх аўтамабільныя паязды з войскамі, беглі бранявікі і танкі, дымячы вугальнымі маторамі, імчаліся грузавыя калоны са снаражэннем, знарадамі і гаручым. Гаручае, гаручае і гаручае! Тысячы, дзесяткі тысяч цыстэрн запруджвалі аўтастрады. Фронт як губка ўбіраў гаручае.

Хаця ўвесь рух на аўтастрадах і суцішваўся, як толькі набліжаліся самалёты, Брэдзіс з малой вышыні заўважаў часам бясконцыя чароды аўтамабіляў. Ён бачыў спіны танкаў. І ён праклінаў уласнае бяссілле: у яго былі толькі малыя бомбы, годныя толькі на тое, каб пужаць, але не на тое, каб зрабіць адчувальную шкоду. А тут з вялікай карысцю можна было-б скарыстаць тысячы тон трацілу. Чаму яго краіна яшчэ не такая бязмерна моцная, каб у першы-ж час вайны знішчыць усе яе сродкі, задушыць самую думку пра магчымасць яе працягвання. Не тысячы, а мільёны тон трацілу трэба трымаць дзень і ноч напагатове, каб мець магчымасць выпусціць у сцёчную канаву ўсе сокі вайны, якімі набраклі праклятыя гнёзды імперыялізма; разбіць на дробныя аскепкі, разбіць у пыл, у туман сталь, узятую з карыснага ўжывання і ператвораную ў танкі, у гарматы, у знарады, у броню.

Калі курс Брэдзіса занадта блізка падыходзіў да ліне́ек аўтастрад, на зямлі пачыналі шалець зеніткі. Клубкі разрываў зараз-жа стваралі заслону, праз якую і не збіраўся прарывацца камбрыг.

Брэдзіс вырашыў, што далейшы рух у напрамку да Пулена бескарысны. Прыцiўнік не жадаў абараняць сваю сталіцу. Ну й ліха з ёй! Брэдзіс знойдзе спосаб патрапаць ворагу нервы!

Камбрыг загадаў флагштурману праладзіць новы курс. Ён хацеў прайсці над усімі вядомымі яму ў гэтым раёне буйнымі авіяцыйнымі стаянкамі праціўніка. Ці не разварушыць ён яго нарэшце?

Гэта было цяжкай задачай для штурмана. У чужой краіне, не маючы абсалютна ніякіх арыентыраў на нябачнай зямлі, ён павінен быў уначы правесці калону па ломанай лініі, начырчанай на карце

жамбрыгам. Усё ўзбраенне сучаснай аэранавігацыі павінна было быць узята на дапамогу.

Адказнасць флагманскага штурмана павялічвалася яшчэ і тым, што ён вырашаў задачу не толькі для аднаго свайго самалёта, а для цэлай эскадры ў сто з лішнім машын. Палёт адбываўся ўночы і над незнаёмай тэрыторыяй. Пункты маглі вызначацца толькі тэарэтычна на карце. Усякая дапамога з зямлі, ужываемая на сваёй тэрыторыі, адпадала: радыё-маякі, радыёпеленгатары і г. д., усё было недаступна. Радыё-пеленгацыя на якіх-небудзь вядомых станцыях праціўніка не магла быць надзейнай. Праціўнік, дзеля стварэння перашкод, мог мяняць хвалю сваіх радыёпунктаў, блытаць іх паміж сабою, імітаваць хвалю нашых станцый і г. д. Нарэшце, мяркуючы па звестках, якія пранікалі ў друк за апошнія месяцы, імперцы рабілі шырокія доследы па стварэнню штучных перашкод для нармальных магнітных, электрамагнітных і жырамагнітных компасаў. Яны маглі адвольна мяняць велічыню адхілення стрэлкі прыбораў самалётаў, якія знаходзяцца ў паветры і, значыць, пазбавіць іх магчымасці карыстацца звычайнымі тыпамі прыбораў.

Не гледзячы на ўсё гэта, Брэдзіс нават не пацікавіўся, якая думка штурмана—задача дадзена і павінна быць выканана; калона павінна прайсці над заданымі пунктамі карты; пункты гэтыя матэматычна дакладна павінны адпавядаць пунктам мясцовасці—авіяцыйным базам імперцаў. Калі на гэтых базах яшчэ ёсць рэзервы, прызначаныя для вылету супроць Халюціна, Брэдзіс прымусіць іх разварушыцца раней часу.

Але разлікі Брэдзіса не апраўдваліся. Яго калона з матэматычнай дакладнасцю праходзіла над намечанымі пунктамі. Частка самалётаў, пад асабістым кіраўніцтвам камбрыга, зніжалася да нікчэмнай вышыні. Яны ішлі амаль над дахамі ангараў, якія ясна былі відны ў святле ўзыходзячага месяца. Імперцы маўчалі. Здавалася, яны наважылі не звяртаць увагі на Брэдзіса, нібы ведалі, што ў яго няма вялікіх фугасных і запальваючых бомб. Яны смяюцца з усіх спроб адцягнуць іх увагу ад сапраўднай пагрозы, схаванай у руху Халюціна.

Аэрадромы, над якімі пралятаў Брэдзіс,не падавалі адзнак жыцця. У адказ на стральбу ва ўпор па ангарах з гармат і кулямётаў СБД, не гледзячы на скідванне малых бомб, былі чутны толькі залпы зенітных батарэй, не робячыя ніякай шкоды групе, якая ляцела зусім нізка. Але ні адзін імперскі самалёт не падымаўся з лётнага поля. Ні адзін знішчальнік не выходзіў на бой з раз'юшанымі СБД. Абсалютна ўсё пераконвала Брэдзіса, што ангары пустыя, што ўсе паветраныя сілы, якія базіруюцца ў паласе Пулен—Форт, кінуты насустрач Халюціну. Зялёныя кругі ішлі перад яго вачыма ад аднае думкі пра тое, што рэйд яго ста дваццаці СБД аказаўся стрэлам, зробленым у паветра. Ён быў памылкова ўпэўнены, што не адыграў прызначанай яму ролі. Сто дваццаць бамбардыроўшчыкаў здаваліся яму дарэмна адарванымі ад асноўнай задачы. Яны не толькі не адцягнулі на сябе вялікіх сіл праціўніка, але проста злёталі на вясёлую пагулянку. А недзе там, на поўдні Імперыі, Халюцін, можа быць і нават напэўна, адчувае на сабе жорсткія ўдары

злучаных сіл ворага. СБД другой і трэцяй калоны, цяжка нагружаныя бомбамі, павінны весці паветраныя баі, а яго, Брэдзіса самалёты, ідучыя ўлегкавую, забаўляюцца стральбой па пустапарожніх ангарах!

Камбрыг і ў галаву не браў, што недзе там унізе, за некалькі соцень кілометраў, генерал Вольфганг фон Вронскі пакутліва ламае сабе галаву над тым, якія сюрпрызы рыхтуе яму Ян Брэдзіс. Адкуль мог ведаць камбрыг, што моцны паветраны заслон стаіць напагатове ў раёне Санта-Ілер упоперак яго мяркуемага шляху ад Пулена на поўдзень. Менш за ўсё мог Брэдзіс думаць, што начальнік штаба Імперскага паветранага флоту нервова грызе ногці, вырашаючы пытанне: ці можна ўзяць з заслоны хоць адзін самалёт, каб скарыстаць яго супроць Халюціна?

Цярплівасць Брэдзіса скончылася. Ён надзейным шыфрам радыраваў у СССР, начальніку Паветраных сіл.

„... Праціўнік не аказвае ніякага супраціўлення. Спробы выклікаць яго на бой беспаспяховыя. На гэтым напрамку няма ніводнага самалёта. Дазвольце павярнуць к Форту для аказання падтрымкі Халюціну і для прыкрыцця яго звароту. Брэдзіс“.

Прышоў адказ:

„Згодзен. Злучыцеся Халюціным“.

Узрадаваны Брэдзіс зараз-жа аддаў патрэбныя загады па калоне. Сто дваццаць СБД змянілі курс і сталі набіраць вышыню. Можа ў хуткім часе ім належала прыкрыць стомленых баямі таварышоў з другой і трэцяй калоны.

Схіляючыся на поўдзень, лагодна гудзелі ў змрочнай вышыні сто дваццаць СБД. Неадчэпна па іхных слядах паварочваліся на зямлі раструбы слухальных труб і імчаліся па правадах і па радыё данясенні пра рух калоны.

З гэтых данясенняў генерал Вронскі ўпэўніўся, што двойчы памыліўся. Брэдзіс не толькі не даў уцягнуць сябе ў бескарысны для яго бой з паветранымі сіламі абароны сталіцы, але і рухаючыся на злучэнне з Халюціным ляцеў зусім не тым шляхам, які здаваўся Вронскаму найбольш верагодным. Яго група хутка схілялася на паўднёвы ўсход для таго, каб праз поўгадзіны змяніць курс на строга заходні і пасля зноў ісці паўднёвым. Брэдзіс шныраў як лісіца нечаканымі зігзагамі. Змрок хаваў калону дастаткова надзейна. Вельмі скора Вронскі ўбачыў, што заслон, што крэйсіруе ў чаканні комбрыга на лініі Санта-Ілер, бескарысна траціць час. Брэдзіс абыходзіў яго з паўднёвага ўсходу. Адзіным сродкам выратаваць знішчальныя сілы гэтага заслона ад бяздзейнасці была хуткая перакідка на поўдзень у раён Форта, куды бессумненна, накіроўваўся Брэдзіс. Але і тут змрок павінен быў перашкодзіць належным чынам скарыстаць знішчальнікі ў аддаленасці ад размяшчэння пражэктарных батарэй СПА.

Вронскі вымушаны быў прызнацца, што дарэмна адарваў сілы на стварэнне заслона. Брэдзіс ашукаў яго. Але генерал прызнаўся ў гэтым толькі сабе. Няхай цяпер Брулоў сам разбіраецца ў абставінах.

*(Канец у наступным нумары).*

*А. Бачыла*

# БРЫГАДЗІРАВА ВЯСНА

Наўсцяж дарог абуджаныя травы,
Зямлю ўсцілаючы прыгожым дыванам
Вясны зялёную ўзнімаюць велічавасць,
Дзе лес узрос шумліваю сцяной.

У ціхай радасці палёў вітаюць ранне
Прыемнай песняй працы трактары
І між прасторных глебавых убранняў
Павольна коцяцца брыгадаю з гары.

Выходжу я, красою апавіты,
У гэты свет, яго бязмежнасць, шыр;
Насустрач мне з юнацкім сэрцам, спрытам
Высокі малажавы брыгадзір.

Мы ціснем рукі. Слаўная сустрэча.
Кругом вясна, і ў ранішняй цішы
Ён для мяне—узрушаным, дарэчы—
Казаў пра ўсё па-просту, ад душы.

А думы шчырыя, як хвалі ў светлым віры,
Усплывалі вобразам аб новым для мяне.
— Прыемна быць, хоць цяжка, брыгадзірам,
Дары работ прыносячы вясне.

З табою людзі, песень звонкіх радасць,
З табой бывае цяжкасць іх і сум,
З табой жыццём жыве твая брыгада,
Палёў багатых росцячы красу.

Бывае вось адведаеш чароўнасць:
У полі хіляцца к табе сцяной жыты,
І колас, зернем залацістым поўны,
Здаецца шэпча:—Уладар над намі ты.

Ідзем удвох, мінае лятуценнасць,
Працы шчасце тут агорне ўраз,
Бо я даў слова цвёрда і бяззменна,
Што выканаем Сталінскі наказ.

— О, гэта слаўна! Гэта будзе радасць,
Далёкая ад мараў і ад сну.
Дазволь вітаць цябе, тваю брыгаду
І гэтую ўраджайную вясну!

І я люблю яе. Такой яшчэ ніколі
Не адчуваў за свой юнацкі век,
Каб плён работ, як золата, у полі
Упартасцю адстоіў чалавек.

1937 год, в. Сініло.

*А. Міронаў*

# АДДАНАСЦЬ

Зіма стаяла глыбокая, снежная, марозная. Вятры хаваліся за сопкамі і ў лагчынах між сопак. Яны вырываліся на заснежаныя палянкі тугімі, пруткімі патокамі, зрываючы з ялін і піхт даўнейшыя, яшчэ з восені навісшыя сасулькі. Вятроў было многа і дзьмулі яны нечакана, з любых бакоў. Сопкі нагадвалі белых мядзведзяў, якія валяліся ў гразі: яны падымаліся пушыстымі мядзвежымі спінамі, а лес на іх здаваўся плямамі сухой на ветры шэрсці. Снег падаў густа, дні і ночы нарады, змяняючы адзін другога пратоптвалі новыя сцяжынкі па цаліне, ад заставы да сакрэтаў. Марозы здаваліся выдуманымі—такімі сярдзітымі былі яны. Дыханне, проста ад вуснаў падала інеем на паўкажушкі. Варанёны вінтовачны ствол прымярзаў да рукавіц.

... Ноч скончылася, калі ў сакрэт прышла змена—баец Сямён Катлаванаў. Ранне ўставала шэрае і нерашучае, нібы ноч усё яшчэ не жадала адыходзіць. Неба загубілася дзесьці за хмарамі за пялёнкаю снегу. Прывычныя сопкі раптам сталі незнаёмымі.

„Самы час гасцей чакаць",—падумаў Аляксей Сядых, крочачы да заставы. Ён уважліва ўглядаўся ў снег пад нагамі, стараючыся не збіцца з сцяжынкі. Сутулячыся на ветры, ён прыслухоўваўся да маўклівай, заўсёды насцярожанай пагранічнай цішыні. У мінулую ноч ніхто не парушыў граніцы на ўчастку Аляксея. Задаволены, ён спяшаўся на заставу да цяплыні, да адпачынку і да сну. Вакол ляжалі маўклівыя, блакітна-чыстыя снягі і высіліся няясныя ў гурбах снегу ствалы дрэваў.

— Ціха, значыць,—уздыхнуў Аляксей. Але праз некалькі крокаў спыніўся: на снезе ляжаў роўны ланцужок конскіх слядоў. Сляды цягнуліся з боку граніцы і былі зусім яшчэ свежыя. Аляксей зразумеў; вораг прайшоў нядаўна, прыкрываючыся за надзейнай абаронай пургі. Цела, якое жадала адпачынку, усхвалёвана наспрунжынілася. Думкі запрацавалі хутка і ліхаманкава. Марозная ноч, пурга, цішыня сталі раптам насцярожанымі і варожымі. Да заставы было далёка і ён адзін парашыў даганяць парушальнікаў. Ён завярнуў на след і правальваючыся ў мяккія рассыпчастыя намёты, пабег у глыбіню лесу.

Праз дзесяць хвілін яму стала цёпла, праз поўгадзіны ён абліваўся потам. Аляксей бег, задыхаючыся, хапаючы паветра, шырока раскрытым ротам, з перасохлым горлам. Бег ён ведаючы, што чалавек, які пакінуў сляды на снезе, нёс у сваім сэрцы звярыную воўчую нянавісць.

З кожнай хвілінай бегчы рабілася цяжэй. Аляксей сабраў усю волю, усю сілу і нянавісць, і бег папракаючы сябе за стому і за марудны бег. „Дагнаць“, стукала ў вісках—„дагнаць і абясшкодзіць!“

Паступова, адно за другім, ён скінуў шынель, шлем, рукавіцы. Яны перашкаджалі бегчы. Валёнкі глыбока правальваліся ў снег і вырываць ногі было вельмі цяжка. Ён некалькі разоў падаў, але зноў падымаўся, працягваючы бегчы.

Раптам на адзін момант вецер разарваў пургу. Сядых адразу ўбачыў парушальніка. Ён ехаў недалёка ўперадзе, на чорным кані, прыгнуўшыся і махаючы нагамі. Конь ішоў памалу, „ён таксама стаміўся“—падумаў Аляксей. Ён крыкам хацеў спыніць парушальніка, але замест рэзкага і пагражаючага крыка з перасохлага горла вырваўся прыдушаны хрып. Чалавек абярнуўся, закрычаў на каня і пачаў лупцаваць яго нагайкай. Конь цяжка затрухаў па снезе і зноў знік у снежных гурбах.

„Уцячэ!“—спалохаўся Сядых, ён ведаў—конь не доўга вытрымае цяжкі гэты бег. Усё залежыць ад мае вытрымкі,—думаў ён. Блізкасць ворага прыбавіла сілы і ён пабег хутчэй.

Конь уцякаў. Аляксей спатыкнуўся, упаў, ледзь не вывіхнуўшы нагу. Ён падняўся з тварам, залепленым снегам і моцна і злосна вылаяўся: праклятыя валёнкі, у іх не дагоніш! Парашыўшы, ён сеў і скінуў пудовы цяжар...

Бегчы стала адразу лягчэй, ён імчаў па следу, нібы па бегавой дарожцы стадыёна. „Даганю“!—хацелася крычаць яму. Марозны, калючы снег тысячамі іголак шчыпаў за босыя ногі. Хутка ён зноў убачыў каня. Конь плёўся пахістваючыся, спатыкаючыся, не адчуваючы нешчадных удараў ездака. Прытаіўшыся за дрэвамі, Аляксей дагнаў каня, зайшоўшы спераду раптам вынырнуў перад самай яго мордай:

— Стой!—гучна сказаў ён.

... На трэці дзень ён паправіўся ад пагоні. Ногі зноў сталі сваімі, яны па-троху нылі ад прастуды і Аляксей адчуваў на іх пяткі, пальцы і ступні.

— Вы толькі абмарозілі,—сказаў доктар.—Будуць служыць, нічога!

Аляксей радаваўся; яму ўдалося затрымаць парушальніка ў пурзе, уцалелі ногі і жыццё. Ён злаваў на доктара: здаровага чалавека і трымае ў пасцелі! І калі камандзір заставы—лейтэнант Ваеводзін прышоў наведаць яго, Аляксей пачаў пакрыўджана скардзіцца на доктара.

Ваеводзін слухаў, усміхаўся глыбокімі блакітнымі вачамі. Ён разумеў Аляксея: як многа прайшло іх такіх вось гарачых, нецярплівых, скрозь суровую школу заставы за доўгую яго службу. Добрыя, слаўныя рэбяты, якія любілі цяжкае цікавае жыццё. Лейтэнант, марудзячы з адказам, прысеў на заслончык каля пасцелі. Быў ён маленькі, падцягнуты і хударлявы, з кароткім ёжыкам сівых валасоў на галаве. Твар яго, смуглы ад вятроў і загараў, здаваўся абцягнуты замшаю. Гады і цяжкае жыццё ўсеялі яго сеткаю дробных і частых зморшчкаў. Толькі вочы—блакітныя, бяздонныя і вялікія—здаваліся зусім маладымі і ласкавымі. Аляксей ведаў як

цямнеюць вочы лейтэнанта ў часе небяспекі. Ён не раз бачыў у іх халодную, суровую рашучасць, мужнасць, якая ўзнімала таварышоў. Вочы Ваеводзіна ўмелі гаварыць лепшыя словы. Аляксей, размаўляючы з лейтэнантам, доўга не адрываючыся глядзеў у бяздонную іх глыбіню. „Як неба вясною“,—думаў ён аб вачах камандзіра.

— Устаць хочаш?—праказаў, нарэшце, Ваеводзін.—Рана ўставаць, таварыш Сядых. Доктару відней, як зрабіць. Ды ці варта спрачацца з ім? Яго не пераспрачаеш, хоць цэлым узводам дыспут адкрывай. Доктар у нас упарты! Ляжыце лепш, пакуль ён сам не пагоніць.

— Апрыкрала ляжаць,—прамармытаў Сядых.—Здаровы я.

— Ну адпачывайце. Вы заслужылі адпачынак. Ведаеце, якога карася вылавілі? Ого! Мы за ім больш трох гадоў сачылі.

І коратка, скупаватымі сказамі, лейтэнант паведаміў Аляксея аб вядомым праходчыку.

Чалавека гэтага было цяжка злавіць. Ён часта пераходзіў граніцу, і хоць яго чакалі, пільнавалі яго з'яўленне, ён праслізгваў, нібы мыш. Толькі аднойчы, гады паўтары назад, траім пагранічнікам удалося прыціснуць яго. Здавалася—усё. Некуды ісці, спёкся. Але і тут ён уцёк, аднаго забіўшы і двух моцна параніўшы. Уцёк і доўга не з'яўляўся. Мабыць залечваў раны, а потым зноў пайшоў, і што не пераход—дык новыя забойствы лепшых людзей прыгранічных раёнаў, новыя падпалы калгасаў, дыверсіі.

Ён стары воўк,—працягваў Ваеводзін,—і не мала меў сваіх людзей, па гэты бок граніцы, але іх палавілі. А яго ўзяць не змаглі. Месца ведаў добра, смелы быў—трэба сказаць праўду. Заўсёды такі час для пераходу выбярэ, калі гаспадар сабаку на двор не выганіць. Не зразумею я, як ён даўся вам так лёгка? Спалохаўся, мусіць, ад нечаканасці, убачыўшы перад сабою, у самую пургу, чалавека ў вельмі летнім адзенні.

— Ён думаў, што многа нас,—перабіў Сядых.—Я-ж спачатку ззаду яго напужаў.

— Добра ўзялі, умела,—працягваў лейтэнант, закурваючы.—Калі-б не дагадаліся скінуць валёнкі, уцёк-бы. Геройскі ваш учынак, таварыш Сядых.

— Ну, якое геройства?—сказаў сарамліва Аляксей.—Кожны на маім месцы так-бы зрабіў.

— А я, хіба кажу, што інакш зрабілі-б другія пагранічнікі?—прыжмурыў Ваеводзін у ўхмылцы вочы.—Вядома, кожны. Гэта і ёсць гераізм савецкіх людзей: радзіма даверыла пагранічнікам ахову сваіх рубяжоў, і іх абавязак—любою цаною апраўдаць іх давер'е. Ведаеце, як у песні сказана: „Калі краіна быць прыкажа героем, у нас героем робіцца любы“. Вось таму, што наш гераізм—гэта адданасць радзіме, сумленнае і самаадданае выкананне свайго абавязка. Наш гераізм—гераізм народа.

Аляксей слухаў камандзіра здзіўляючыся яскравай пераканальнасці простых яго слоў. За год службы на заставе пагранічнікі змаглі блізка ўведаць свайго камандзіра. Уведалі і палюбілі. Заўсёды спакойны, ураўнаважаны Ваеводзін у вольныя ад вучобы, ад дазораў і заняткаў гадзіны рабіўся простым і добрым таварышам

байцоў. Пагранічнікі збіраліся ў чырвоным кутку і клікалі да сябе камандзіра, ён прыходзіў да іх, прысаджваўся да стала і пачынаў гаварыць. Апавяданні Ваеводзіна былі больш захапляючыя, ніж у любой кнізе. Лейтэнант расказаў аб грамадзянскай вайне, калі стаў ён, да таго вясковы батрак, радавым байцом легендарнай чапаеўскай дывізіі, аб баях з калчакоўцамі, аб вучобе сваёй у ваеннай школе, аб гадах, прысвечаных ахове граніц. Ён успамінаў сотні людзей, з кім сутыкала яго яркае, змястоўнае кіпучае жыццё: аб партызанах і белагвардзейцах, аб пагранічніках і шпіёнах, аб лепшых людзях краіны. У апавяданнях лейтэнанта кожны баец мімівольна бачыў сябе, сваё жыццё і свае ўчынкі. Ваеводзін не проста расказваў—не: у яго перадачы людзі жылі, уваскрасалі з мёртвых. Тыя, што аддалі жыццё за рэволюцыю гадоў дзесяць таму назад прыходзілі, жывыя і блізкія, садзіліся за стол з байцамі, апавядалі ім аб сабе, аб сваім жыцці і справах.

Такія ўжо склаліся ўзаемаадносіны між лейтэнантам і байцамі (так было раней, з мінулымі прызывамі), што Ваеводзін стаў неаддымнай часткай кожнага з іх. Да яго ішлі за парадай, няслі свае радасці і крыўды, чыталі пісьмы з дому, з заводаў, калгасаў ад таварышоў, матак і жонак.

— Я ў вас як ашчадкаса перажыванняў,—жартаваў лейтэнант.

Аляксей даўно ўжо стаў прыкмячаць, як часта хацелася яму быць падобным да Ваеводзіна і ў цяжкія хвіліны ён пытаў у сябе: „а як-бы на маім месцы зрабіў камандзір?“—і падумаўшы рабіў так, каб вышла па-Ваеводзінску.

... Хутка пагоня за праходчыкам стала забывацца. Аляксей зноў хадзіў у дазоры, у напружаныя, трывожныя начныя вахты. Вечарамі ён займаўся ў школе на заставе, выпускаў насценгазету, слухаў апавяданні Ваеводзіна.

Жыццё зноў пацякло роўна.

Аднойчы раніцою, ледзь пачырванела маладая лясная парасль на спінах сопак, на заставе ўдарылі трывогу. Пагранічнікі, на конях, адзін за адным паімчаліся за камандзірам, скрозь прадсвітальную каламуту, у цішыню, якая разрывалася траскатнёю перастрэлкі. Наперадзе разгарнуўся сапраўдны бой: з таго боку з'явіўся вялікі і моцны атрад ворага. Ворагі прасоўваліся трохкутнікам, рассыпаючы густыя залпы ў снежную лясную цішыню. Пагранічнікі заляглі і акапаліся ў снезе. Аляксей бачыў, як у світальным змроку перабягалі цёмныя постаці прышэльцаў. Кулю за куляю пасылаў ён у іх, стараючыся біць без промаху.

Світанне разгаралася ружовымі танамі. Шэрае неба бялела і рабілася блакітным, як вочы ў лейтэнанта. Ваеводзін ляжаў побач з Аляксеем, спакойна камандуючы ён не згінаўся пад агнём варожых кулямётаў. Абярнуўшыся да Аляксея, ён ціха сказаў:

— Іх не менш трох соцень.

„А нас толькі трыццаць“—у думках дадаў Сядых.

Прышэльцы прасунуцца не змаглі. Яны акапаліся ў снезе, спрабуючы ўтрымацца. Байцы білі з кулямётаў па снежных акопах іх, па цёмных плямах на снезе.

— Трэба выбіць іх,—сказаў Ваеводзін,—прыпадымаючыся

на ногі. Ён вылучыў восем байцоў і тыя папаўзлі за ім да лесу. Яны ішлі адзін за адным, па глыбокім снезе, у абход. Дайшлі да шырокай паласы слядоў парушальнікаў, звярнуўшы на сляды яны папаўзлі на гукі страляніны, пакуль не падабраліся да самага ворага.

Ваеводзін сам пачаў расстрэльваць іх з кулямёта. У паніцы, пакідаючы вінтоўкі, кінуліся тыя назад,—на кулямёт, на байцоў, да граніцы. Восем пагранічнікаў прынялі на сябе ўдар усяе іх масы. Байцы адбіваліся штыхамі, прыкладамі, але супроць кожнага з іх былі дзесяткі. Аляксей бачыў як адзін за другім падалі таварышы. Ваеводзін упаў апошнім, абкружаны кальцом варожых цел. Ён ляжаў усё такі-ж спакойны і сур'ёзны, і ў апошнюю хвіліну Аляксей адчуў на сябе падбадзёрваючую ўсмешку яго блакітных воч.

Далей усё ахуталася боллю і змрокам.

Здавалася, усё гэта было сном. Прачынаючыся, Аляксей пачуў незнаёмую, гартанную бурклівую гутарку. „Нібы галька ў ручаі перакочваецца", падумаў ён прыадкрыўшы вочы.

— Ачнуліся?—вельмі чыста па-рускі запытаў усё той-жа голас.—Добра. Зараз вам дадуць паесці.

Аляксей паглядзеў на таго, хто гаварыў: гэта быў хударлявы, мускулісты чалавек з смуглявым тварам. Чалавек ветліва ўсміхаўся, пабліскваючы роўнымі белымі зубамі і шкелкамі вялікіх рагавых акуляраў. Быў ён у ваеннай форме японскага афіцэра, якіх прывык Сядых бачыць з таго боку граніцы. Побач стаяў другі японец, у белым халаце,—мусіць, доктар. „Як я папаў сюды?"—хацеў запытаць Аляксей, але замест гэтага праказаў:

— Я даўно беспрытомны?

Ён адразу ўсё зразумеў, ледзь пачуў бурклівую гартанную гутарку. Адначасова з падзеннем Ваеводзіна, ззаду, на галаву Аляксея апусцілася штосьці цяжкае і чорнае; скрозь чарнату гэту ён адчуваў пахістванне цела і ледзь чуў узбуджаную гартанную гутарку вакол.

— Вы што-ж, выкралі мяне?—запытаў ён. Афіцэр падцвердзіў:

— Так, так, выкралі.

Японец ветліва ўсміхаўся, ад яго рэзка пахла адэкалёнам. Доктар выйшаў. Афіцэр, прысеўшы на крэсла, доўга і жвава гаварыў аб блізкай вясне, аб прыгожых жанчынах у Харбіне, і аб тым, што кожны чалавек трымае сваё шчасце ва ўласных руках. Аляксей папрасіў папяросу.

— А скажыце,—прыкурыўшы, праказаў ён, гледзячы проста ў вочы афіцэру.—Многа вашых палягло ў сутычцы?

Японец пакінуў усміхацца і выцягнуўся на крэсле.

— Многа,—рэзка праказаў ён,—шэсцьдзесят чалавек. Але вашых мы перабілі дзевяноста тры і чатырох узялі з сабою.

— Хлусіце,—махнуў Сядых рукою,—нас было толькі трыццаць. А чатырох вы не маглі ўзяць: вы пасадзілі-б нас разам.

Афіцэр раптам устаў з крэсла. Аляксей заўважыў, як смуглявы твар яго пачырванеў ад злосці. „Зараз пачне лаяцца"—падумаў ён, але японец стрымліваючыся маўкліва прайшоў па пакоі. Ён загаварыў амаль спакойна:

— Я пажартаваў, я не ведаю колькі чырвоных забіта ў часе інцыдэнта. Нашых-жа забіта многа.

— А навошта вы мяне ўзялі?—зноў запытаўся Сядых. Ён стараўся гаварыць спакойна, нібы з ім нічога не адбылося.

Японец пачаў здалёк, ён расказаў, што некалькі год назад быў у Маскве і Масква яму вельмі спадабалася, яму спадабаўся рускі народ,—просты, сумленны, адкрыты і смелы.

— Мой народ таксама просты і сумленны,—сказаў ён,—і гэта родніць нас. Мы-б хацелі жыць у дружбе з рускімі, але комуністы перашкаджаюць нашай дружбе. Мы не маем да рускіх варожасці, і, запэўняю вас, што калі-б не рэжым, які пануе ў вашай краіне, мы-б даўно ўжо...

— Адхапілі-б кавалак нашай краіны, гэтак, прыблізна, да Урала?—сур'ёзна перабіў Сядых.

— Навошта вы так жорстка жартуеце?—крыва ўсміхнуўся афіцэр.—Вы малады і не ведаеце, як дружна жылі нашы народы раней.

— Не, чаму-ж, ведаю,—ажывіўся Аляксей.—Увесь Сібірскі шлях, усе вёскі і гарады Далёкага ўсходу, усе яны усеяны магіламі рускіх партызан, якія загінулі ад рук вашых землякоў.

— Вы не намераны мірна размаўляць?—холадна узняўся японец.

— Так,—пазяхнуў Аляксей.—Не маю намеру. Няма аб чым нам з вамі гутарыць...

... У наступную раніцу афіцэр прышоў, нібы напярэдадні між імі не адбылося гутаркі. Дзелавіта прысеўшы да стала, ён утаропіўся на Аляксея чорнымі, падобнымі на масліны, зрэнкамі.

— Я бачу,—праказаў ён,—што мы дарма губляем час. Давайце гутарыць карацей, па-дзелавому.

— Давайце,—згадзіўся Аляксей.—Даўно час!

Афіцэр задумаўся, папыхваючы дымам сігарэты. Нахіліўшыся да Аляксея, ён ціха праказаў:

— Я прашу вас аб адным,—спакойна і не перапыняючы выслухайце мяне. Я пастараюся коратка выкласці сутнасць справы. З лістоў, якія знойдзены ў вашай гімнасцёрцы, мы даведаліся аб вашым мінулым. Не вельмі глыбокія карэнні звязваюць вас з радзімай. У вас няма бацькі, лісты вы атрымлівалі толькі ад маткі. У вас ёсць каханка, яе завуць Вераю. Вы працавалі на авіяцыйным заводзе слесарам і былі стаханаўцам. Я ўсё ведаю! Па сутнасці вы не можаце прынесці нам тую карысць, на якую мы разлічвалі, забіраючы вас да сябе. Але нават і тое нямногае, што вы ведаеце, можа нам спатрэбіцца. Вы беспартыйны, вас не стрымліваюць клятвы ў вернасці партыі.

— Ад дробязей не адмаўляецеся?—усміхнуўся Сядых.

— Не перашкаджайце! Так, не адмаўляемся. Вы ў нашых руках, і ад вас саміх залежыць ваша шчасце. Калі будзеце падатлівымі, праз месяц вы зможаце жыць далёка ад граніцы і жыць нядрэнна. Мы забяспечым вам добрую будучыню: грошы, задавальненні, жанчыны. Выкажыце жаданне, і праз некаторы час мы прывязем ад вас Веру. Я ўпэўнены, што яна будзе больш адкрытай: яна жанчына, жанчыны практычней мужчын. Кароткая размова, аб якой

ніхто ніколі не даведаецца і вы станеце вольным, шчаслівым чалавекам. Некалькі дасканалых лічбаў і вестак. Ну?

Аляксей адказаў не адразу. Ён нават лёг на ложак, каб уцячы ад гэтых чорных, прагных зрэнкаў, у якія хацелася плюнуць альбо ўсадзіць кіпці. Ён да болі ў скіўіцах сціснуў зубы, стрымліваючы прыступ безутрымнай ярасці. І раптам на момант перад яго вачамі ўзніклі блакітныя, спакойныя, адчыненыя і трохі лятуценныя вочы Ваеводзіна, чалавека, на якога ён так хацеў быць падобным. „Як на маім месцы зрабіў-бы камандзір?“—падумаў ён.

Ён памалу прыпадняўшыся, глуха запытаў:

— Вы добра ведаеце рускую мову, афіцэр. Вы чытаеце нашы газеты? Сочыце за падзеямі ў нашай краіне?

— Так,—не разумеючы да чаго хіліць палонны, кіўнуў той.

— Дык вось, вы трапілі не па адрасу. З газет вы павінны былі ведаць назвы гандлёвых кампаній: гэта трацкісты прадаюць нашу радзіму оптам і ў розніцу. На метры! На чалавечае жыццё! На золата! А я... вы кажаце я беспартыйны? Памылка, пан японскі афіцэр. Я быў беспартыйным да таго моманту, як вашы салдаты перанеслі мяне праз граніцу. Проста раней я не паспеў уступіць у партыю, а зараз я комуніст. Чуеце? Комуніст! І... і пашлі адсюль вон, вы, сволата ў рагавых акулярах. Ну? Вон!..—Ён ускочыў перамагаючы боль у галаве, сціснуў кулакі, гатовы кінуцца на японца і раздушыць яго.

Афіцэр адскочыў да дзвярэй і накіраваў на Аляксея дула рэвольвера, чорнае, як і яго вочы. Устрывожаны з дрыготнымі вуснамі, з перакошаным ад сполаху і ненавісці тварам ён быў смешны. Аляксей супакоіўся, пазіраючы на ўзбураную яго постаць.

— Ах, так,—шапатліва выціснуў японец.—Ты не хочаш быць шчаслівым, сабака? Добра: ты паспееш тысячу разоў пашкадаваць аб сваім нараджэнні раней, ніж здохнеш. Я змагу прымусіць цябе гаварыць! Я выманташу з цябе жыццё па нітцы.

— Запужаць хочаш?—Пагардліва ўсміхнуўся Сядых.—Не выйдзе гэта: нас, мілок, ні купіць, ні запужаць, ні прымусіць нельга.

Японец выскачыў і ў шаленстве стукнуў дзвярыма. Аляксей гучна рассмяяўся ўслед яму і ў бурным смеху гэтым вылілася накіпеўшае ў ім напружанне. Ён быў спакойны, ён ведаў сваю будучыню і падрыхтаваўся сустрэць яе спакойна, мужна—як сустрэў удар ворага блакітнавокі камандзір Ваеводзін.

Ён падрыхтаваўся перамагчы сваю смерць.

---

# ВОРАГ

Марына прачнулася ад настойлівага, неасцярожнага стуку ў акно. Прыпадняўшыся на локці, яна прыслухалася. Стукалі палахліва з невялікімі перапынкамі, але патрабавальна.

У пакоі было светла. Стрэлка маленькага будзільніка-трашчоткі на століку, ля ложка, застыла на чорнай лічбе два. Вышытая фіранка на акне здавалася ружовай: супроць акна ўзыходзіла сонца. Калі стукалі, на фіранцы адбівалася шэрая і дрыжачая цень рукі.

— Хто яшчэ?—здзівілася Марына. Скінуўшы коўдру, яна падышла да акна. Выглянула асцярожна, адхіліўшы ля падаконніка ражок фіранкі. На дварэ стаяў худы і абарваны дзядуля. У густой барадзе яго, якая нібы торба звешвалася з шыі, ламаліся ружовыя сонечныя праменні: здавалася велізарная гэтая барада гарыць. Чалавек пастукаў кастлявымі пальцамі па шклу і трывожна азірнуўся.

Марына махнула рукою: не стукай! Яна таропка адзела плаццё, адчуваючы, як ад невыказнага хвалявання халадзее спіна і дрыжаць кончыкі пальцаў. У гэтай постаці за акном было штосьці вельмі знаёмае і адначасова пужаючае.

Сунуўшы ногі ў туфлі, яна расчыніла дзверы.

Чалавек стаяў ля ганка: маленькі, сухенькі, увесь у пыле. Ён стаяў цяпер спіною да сонца і барада не здавалася больш ружовай, яна была шэрай, сівой, пыльнай і бруднай. Чалавек стаяў напружаны, у чаканні, гатовы ў любую хвіліну звярыным скачком кінуцца ўцякаць. Чорныя зрэнкі яго вачэй амаль варожа абмацвалі Марыну, імкнучыся пранікнуць за яе, у сенцы, у пакой. У руках ён трымаў вялікую сукаватую палку. Дзяўчына адчувала, як узрастае яе хваляванне.

— Чаго?—не вытрымала Марына яго маўклівай насцярожанасці.

Чалавек, пахіснуўшыся падняўся на першую ступеньку ганка. Ціха, толькі губамі, ён праказаў:

— Не пазнала, дачушка?

— Бацька!—глуха крыкнула дзяўчына, не верачы сваім вачам.

... Яны амаль не размаўлялі, пакуль бацька прыводзіў сябе ў парадак. Марына слухала роднае, але амаль забытае чмыханне бацькі, паліваючы халодную ваду яму на галаву, на шыю і на спіну. Яна вытрасла пыл з яго адзежы, мокрай анучкай абцерла парваныя боты.

За стол бацька сеў чысты і ружовы ад халоднай вады. Цяпер барада яго стала белай, як зданьлівы свет паўночных белых начэй, як снег у шэрыя зімнія дні. Ён сядзеў маўкліва, выцягнуўшыся, не зводзячы з дачкі поўных немага запытання і (так здавалася Марыне), схаванага страху воч. Ён сачыў за кожным яе крокам, за кожным рухам яе рук. „Чаго ўтаропіўся“ незадаволена падумала дзяўчына. Пільны погляд яго чорных і чакаючых воч бянтэжыў яе, скоўваў рукі.

Марына таропка сабрала на стол: халодная бульба, хлеб, малако. Бацька падняўся, агледзеў куты пакоя і не знайшоўшы вобраза, таропка захрысціўся на ружовае акно.

— Без бога жывеш?—строга з дакорам запытаў ён, аблупліваючы бульбу. Марына не адказала. Прысунуўшы табурэтку яна села насупроць бацькі: хацелася бліжэй разглядзець гэтага чалавека, якога называла яна амаль забытым імем—„бацька“.

Так, гэта быў бацька,—Фёдар Афанасьевіч Сцепаненка: той-жа прадаўгаваты твар, той-ж пакаты, у зморшчках лоб, буйны нос з гарбінай. Падбародак схаваўся ў пушыстай сівой барадзе.

Марына памятала ўпарты, валявы яго квадратовы падбародак:

раней бацька акуратна брыўся, пакідаючы толькі маленькія чорныя вусікі. Барада рабіла яго непазнавальным, ды і вусы сталі большымі, тоўстымі і бела-карычневымі ад старасці і курэння. Толькі вочы не змяніліся: чорныя ў глыбокіх упадзінах, яны былі такімі-ж вострымі, злымі, як у дзяцінстве, калі ад аднаго погляду бацькі, Марына спужана шарахалася і ўцякала з дому.

Ёй вельмі хацелася даведацца—чаго прышоў бацька, дзе ён быў доўгіх сем год, дзе маці, хацелася распытаць аб яго жыцці, убачыць ласкавую ўсмешку на змучаным яго твары і многа, падрабязна расказаць аб сабе. Зараз яго вочы не здаваліся ёй страшнымі, як раней: Марына ўбачыла ў іх бязмерную стому, не знікаючую насцярожанасць і недаверлівасць. Бацька часта пакідаў жаваць і чула прыслухоўваўся да маўклівасці белай ночы, нібы ўвесь час чакаў небяспекі. У такія моманты яго барада апускалася ніжэй на грудзі, паказваючы чорныя правалы рота, а ў вачах, не тоячыся, успыхваў страх. Марыне раптам захацелася падыйсці да худога дзіўнага гэтага чалавека, абняць яго галаву, супакоіць, адкінуць яго страх. „Бацька-ж ён мне, бацька“,—пераканала яна сябе і з здзіўленнем успомніла, што нават пры сустрэчы, каля ганку, не пацалавалася з бацькам. Ёй стала няёмка, яна гатова была падыйсці да яго, але не ведала, як сустрэне ласку пахмуры гэты чалавек.

Бацька, здавалася, не адчуваў пяшчотнасці да Марыны, заняты сваімі думкамі і ядою. „Добра, хай есць“.—Парашыла дзяўчына.— Сам раскажа ўсё.

Пакінуўшы бульбу, Сцепаненка адзін за другім, выпіў тры шклянкі малака. Марына хацела адхіліць фіранку,—за акном пablакітнела, сонца высока паднялося над даляглядам,—але ён адмоўна страсянуў барадою:

— Не трэба!

Абцёршы вусы, бараду, ён усё яшчэ маўкліва круціў махорачную папяроску і прыкурыўшы, скрозь шызы дым, калючым сваім позіркам аглядаючы дачку, праказаў:

— Вялікая стала. Дзеўка што трэба. Не замужам?

Марына збянтэжылася. Халоднымі, чужымі былі яго словы. Не адводзячы вачэй ад чорных яго зрэнкаў, яна таксама холадна, абыякава адказала:

— Пакуль не, збіраюся.

— Жанішка падшукала?

— Падшукала. Добры хлопец, трактарыст з МТС. А што?

— Нічога, я так проста пытаю,—крыва ўсміхнуўся бацька.

Памаўчалі. Марына адчувала, як усмешка бацькі выклікала ў яе адказную непрыязнасць. Усё блізкае, роднае, што адшукала яна ў ім, пачало паступова знікаць ад яго халоднасці і абыякавасці да яе. Сцепаненка ўпарта думаў аб чымсьці сваім. Марына глянула на будзільнік. Для адпачынку заставалася чатыры гадзіны, але адпачынку, яна разумела, сягоння не будзе.

— Ну, дачушка, раскажы аб сабе,—глыбока ўздыхнуўшы, зноў парушыў маўклівасць Сцепаненка.—Жыла як адна, пакутвала як на чужых людзях?—Бацька сумна ўхмыльнуўся і цяпер ухмылка

яго не была больш абыякавай і чужой. Ён ухмыляўся як свой, як родны. Марына здзівілася нечаканай яго перамене і міжвольна ўхмыльнулася ў адказ. Зноў захацелася ёй усё расказаць бацьку, парадаваць яго сваімі поспехамі, паабяцаць яму добрае жыццё ў калгасе. „Яго прымуць у калгас,—падумала яна, баючыся, як-бы бацька зноў не змяніўся, яна паспешна загаварыла:

— Жыла як? Добра жыла, бацька. Спачатку толькі цяжка было: памятаеш, як згубілася я ад цябе і ад мамкі на станцыі, дык тады хлябнула гора трохі. Дзён шэсць ішла ад вёскі да вёскі. Вось у адной вёсцы мяне затрымалі, тут ужо быў калгас, і мяне не захацелі пусціць далей. Людзі запыталі ў мяне, дзе бацька і маці. Я адказваю, а сама плачу. Ну, яны нічога: „Ты, кажуць, за сваіх бацькоў не адказваеш, ты дзіця. Іх раскулачылі, так ім і трэба“...

— Нягоднікі!—усхапіўся Сцепаненка. Марына ўздрыганулася ад нечаканасці. Бацька пабялеў, у яго раздуваліся ноздры, а вочы акругліліся ад злосці. Дзяўчынка спужалася: зараз бацька быў такі, як у дзяцінстве: страшны і няшчадны, калі ён, за якую-небудзь віну збіваў батракоў. „Кулак“!—амаль не ўскрыкнула дзяўчынка.—„Як ёсць жывы куркуль“. І пачынаючы смутна здагадвацца аб думках бацькі, усё яшчэ не верачы сваім западозранням, яна карацей, сушэй працягвала:

— Ну, падабралі яны мяне, у калгасе пакінулі. Абулі, адзелі, у школе вучылі. Падрасла я, працаваць стала: спачатку ў свінарніку, цяпер, вось ужо два гады даяркай працую. Вось і ўсё маё жыццё.

Бацька ўстаў, засунуў рукі ў кішэні парток. Ен маўкліва, некалькі разоў, прайшоў па пакою. Марына нібы пільнуючы з-пад ілба наглядала за хударлявай яго постаццю. Бацька зноў паглыбіўся ў развважанні, Марына чакала: смутнае прадбачанне перашкодзіла ёй працягваць свой расказ: аб тым, як стала яна стаханаўкай, як ездзілі ў Архангельск на абласны з'езд ударнікаў жывёлагадоўлі, як уступіла ў комсамол і атрымала некалькі прэмій. Аб прэміях запытаў бацька сам: ён падышоў да сцяны, дзе ў чырвонай рамцы вісела Марыніна грамата ўдарніка жывёлагадоўлі і па-малу прачытаўшы яе, раптам пагардліва і нядобра ўсміхнуўся:

— Ударнічаеш, значыць? Паперачкі на сцяну наляпіла, партрэцікамі абвесілася? Так, так...

Твар Марыны заліўся ружовасцю гневу. Гэты чужы чалавек (цяпер ён адразу стаў ёй чужым, варожым), здзекваўся над тым, што было для яе гонарам, самым дарагім у жыцці. Яна далонямі прыкрыла шчокі, хаваючы гарачую ружовасць. Скажы бацька яшчэ слова, Марына не вытрымала-б, закрычала на яго. Але Сцепаненка раптам пахмурнеў, ссутуліўся і шаркаючы па падлозе падэшвамі, падышоў да табурэткі.

— Чуў аб табе, дачка, чуў,—стомлена праказаў ён, садзячыся на табурэтку,—у газеце чытаў. Толькі не верыў газеце, не можаш ты ад майго стада адбіцца, мая ў табе кроў. Ведаю,—недарэмна шукаў цябе лясамі, звярынымі сцежкамі, балотамі прабіраўся, ад людзей хаваючыся. Не магла ты забыць, бацьку пакрыўдзілі, жабраком зрабілі, ці забыла? А можа ім прадалася?

Ён напружана, з трывожнай надзеяй прыхінуўся да Марыны: нават шыя налілася крывёю. Дзяўчына спакойна вытрымала яго погляд. Запытала:

— Матка дзе?

— Матка? Яна далёка: у сваіх людзей, у добрых, хоць і наймічкай працуе. Яны не пакрыўдзяць: людзі яшчэ свае ёсць, яшчэ трымаюцца, чакаюць. Разумныя людзі, свядомыя, некаторыя нават у комуністы запісаліся. Да часу вядома. А ты?

— Спадзяецеся?—коса, па-бацькаўску пагардліва ўсміхнулася дзяўчына. Сцепаненка адкінуўся на табурэтку: толькі цяпер з усёй вастрынёй зразумеў ён, якая далёкая і чужая яму гэтая дзяўчына. Адразу адчуў слабасць і бязмерную стому. Усе надзеі зніклі. Ішоў, каб вярнуць яе на свой шлях, думаў убачыць верную, моцную, хітрую—як сам. Думаў, угаварыць лёгка будзе. А яна адным словам, усмешкай адной разбурыла ўсё,—адкінула яго як непатрэбнага і чужога. І пачынаючы злавацца, ён выпрастаўся:

— Спадзяемся! Думаеш зусім зламалі нас твае таварышы? Не-е, жартуеш! Мы яшчэ зубатыя. Я-ж цябе не баюся—не пасмееш на мяне данесці, пабаішся, за скуру сваю дрыжыш. Паспрабуй,—скажы, цябе-ж таварышы задушаць. „А,—табе скажуць,—вось хто ёсць твой бацька, куркуль украінскі! Жывадзёр! Махновец! Не данясеш, не баюся! Пагаворым вось, а к раніцы я і пайду. Зусім пайду, з даўгом сваім расплачвацца. Праўду кажу, хацеў тут застацца, думаў, мая дачка замест „таварышоў" суд спадцішка чыніць будзе. А бачу—памыліўся, не жыць нам разам, перагрыземся. Чужая ты. Ну, у другім мейсцы помсціць буду. За ўсё! І табе адпомшчу...

Цяпер яго Марына слухала спакойна. Сцепаненка хваляваўся, стараючыся ўкалупіць яе, ачарніць, але акрамя агіды і нарастаючай варожасці не мог выклікаць у ёй нічога. Ён зусім не ведаў яе і—яна адчувала—баяўся. Вось таму і стараўся запужаць, падпарадкаваць сабе. Ён бачыў у ёй не дваццацігадовую комсамолку, а дзяўчынку, якую можна біць па шчоках і замкнуць у цёмную, з павукамі і пацукамі камору. Гэта здавалася смешным. У ёй патухлі палахлівыя іскрынкі літасці да гэтага чалавека, якога як ні дзіўна яна павінна была назваць бацькам. „Завесці да старшыні"? падумала яна і раптам адчула як у душы зварухнулася непрыемнае „не": гэтага яна зрабіць не магла: „няўжо адпушчу? Спужалася яна.—Не можна! З глузду з'ехаць выпусціць яго" і стараючыся не думаць, што будзе далей, яна перабіла блытаную прамову Сцепаненка:

— Уцёк?

— Я? Уцёк. Я многа ўцякаў: чатыры разы. Пасадзяць мяне, а я ўцяку. Вышлюць—зноў уцяку. Чаго мне сядзець. Справа не чакае. Мяне не зломіш! Жыццё маё па вузкіх, па пустынных сцежках пашло. Воўчае жыццё, дачушка. Страшны стаў! Чалавека забіць, што муху. Асабліва такіх, як ты.

— Не пужай,—усміхнулася Марына.

— Не пужаю я. Кажу: цябе забіваць не буду: рука не падні-

мецца на цябе. Дачушка ты. Цябе другія заб'юць, пачакай. А шкадаваць не буду: туды і дарога.

Марына ўстала. Рашуча адхінула фіранку. У пакой хлынула сонца: вясёлае, жоўтае, скрозь шыбы яно пахла вясною. Бацька паспешліва адхінуўся ад акна.

— Не бойся,—груба сказала дзяўчына.—Спяць яшчэ, не ўбачаць. Які ты пужлівы...

Бацька сярдзіта скрыгануў зубамі.

— Смяешся? Не смейся, Марына. Не можна з майго страху смяяцца. Колькі гадоў ганяюць мяне. Пашкадавала-б хоць.

— А што мне цябе шкадаваць, не магу шкадаваць цябе. Проста скажу: вораг ты мне, сапраўдны вораг.

Сцепаненка пільна, доўга паглядзеў на яе. Цяпер у чорных зрэнках яго было здзіўленне. Ён не мог паверыць, каб з ім так размаўляла ўласная дачка.

... Марына сядзела на ложку, паглядаючы за зборамі бацькі. Ёй хацелася, каб хутчэй знік сівабароды гэты чалавек, які так нечакана ўварваўся ў яе жыццё і парушыў спакой. Яна спрабавала заспакоіць сябе: пойдзе і ўсё—нібы і не было. Засну, раніцою успомню аб ім, як аб непрыемным сне. Але ўгаворы не дзейнічалі: бацька быў тут у пакоі, жывы і рэальны, і Марына ведала, што ніколі не даруе сабе яго наведвання. У горле засела страшэннае слова, толькі якое адно можна было сказаць для вызначэння яе ўчынка. Яно рвалася напаверх і, прыдушаючы яго, Марына глытала сліну, нібы спадзяючыся разам з ёю праглынуць і яго. Але слова вярталася назад, яно моташна падпірала да горла і молатам стукала ў мозгу: „здрада!—Здрада“!

Бацька збіраўся паспешліва. У палатняную торбу ён паклаў астачу бульбы і акраец хлеба, торбу закінуў за плечы, узяў сукаватую палку, на галаву насунуў парваную шапку. Марына пачала дробна дрыжаць і сілай сціскала зубы, стараючыся суняць іх стук, не выпусціць страшнае слова, якое крыкам рвалася з грудзей.

— Ну, дачушка, бывай здаровенька,—нізка пакланіўся Сцепаненка ад парога.—Не памінай ліхам,—ён вышаў у сенцы і асцярожна зачыніў дзверы.

І ледзь праскрыпелі яго крокі па ганку, Марына моцна і вельмі спакойна праказала:

— Здрада...

Яна адчула, што цяпер пачынаецца для яе новае жыццё, без радасці, без вяселля і спакою, без веры ў будучыню. Усё жыццё зганьбавана гэтай ноччу, затоптана ў гразь, у ману. Марына абманула таварышоў, сяброў, калгас, які стаў ёй маткаю і бацькам, радзіму, якая адчыніла перад ёю шырокія дзверы ў будучыню. Здрадзіла сабе, выпусціўшы на волю ворага, яна зрабіла праступак, які згладзіць нельга нічым і ніякімі раскаяннямі, ніякай карай. Праступак перад уласным сумленнем, перад народам.

Саскочыўшы на падлогу яна здзівілася. Дрыжыкаў не было, не стукалі зубы, галаву і грудзі не ціснулі небачныя абручы. Яшчэ не ўсвядоміўшы, што яна робіць, Марына памалу вышла ў сенцы.

Тут на сцяне з вечара вісела вінтоўка (вечарам былі заняткі стралковага гуртка). Зняўшы вінтоўку, яна раптам заспяшалася, нібы баючыся, што не паспее зрабіць нешта вельмі важнае. Закінуўшы вінтоўку за плечы, яна выскачыла на ганак.

Сонца стаяла высока ў белым небе—усё яшчэ працягвалася сонечная паўночная ноч. Ноч пахла расою, свежым гноем і цялятамі. Домікі спалі, і ў сляпых іх вокнах адбіваліся дзесяткі сонцаў. У канцы вуліцы, амаль у ваколіцы бачна была постаць, якая шпарка ішла ў далячынь.

— Бацька!—крыкнула Марына. Бацька спыніўся. Дзяўчына сышла з ганку і цвёрда закрочыла пасярэдзіне вуліцы. Яна падыходзіла маўкліва, рашучая і неўмалімая. Сцепаненка не вытрымаў яе набліжэння і падскакваючы дробнай рысцою, засямяніў ёй насустрач.

— Ты што крычыш?—пачынаючы разумець, дрыготным голасам запытаў ён.—Народ пабудзіш...

Марына падышла, зняла вінтоўку і паставіла да нагі, як вучылі ў стралковым гуртку. Усё яшчэ маўчучы, яна ўважліва, глыбока паглядзела ў чорныя вочы бацькі, нібы жадаючы заглянуць у яго душу. Бацька дрыжаў, і барада яго абвісла на грудзі, паказаўшы чорны правал рота. Цяпер, у праменнях сонца, барада здавалася залатою.

— Дачка, ты што?—выціснуў, нарэшце, ён, аблізваючы перасохлыя губы.—Што ты робіш, пашкадуй ты маю старасць, не даруюць мне... Дачушка!..

Марына адказала цвёрда і глуха і голас яе быў мужчынскім:

— Грамадзянін Сцепаненка, вы арыштаваны.

... Неба было блакітнае. Сонца ўсё вышэй падымалася над даляглядам. Надыходзіў па летняму цёплы дзень.

---

*Мікола Жук*

# МАЕ ЖАДАННІ

1

Калі прычакаю, што песню маю
У полі калгасным красуні-дзяўчаты
Задумна і ласкава так прапяюць,
І вецер яе будзе гушкаць крылаты.
Акорды аздобяць багатую шыр,
Я іх адгалоскі злаўлю ў прасторах.
І песні другія наспеюць ў душы
Пра нашы калгасы, заводы і горад.

2

Калі прычакаю, што песню маю,
Каб стому прагнаць прапяюць у паходзе...
Цвярдзей势 стануць крочыць байцы ў страю,
Як песня ў даль хлыне вясновым разводдзем.
Няхай мая песня, як сталь празвініць,
Уварвецца ў суровую ціш прыгранічча.
Хай славіць вялікія нашыя дні,
Што часна да пільнасці мужнае кліча.

3

Калі прычакаю, што песню маю
Спяваць будуць вучні маленькія ў школе,
Ці ў лагеры летам, ў зялёным гаю,
За працай на лузе, у садзе і полі.
Азорацца тварыкі шчасцем жыцця,
І песень палюбяць дзівосныя гукі,
А вырастуць—з песняю ўвысь паляцяць,
Пілотамі стануць, байцамі навукі.

4

Як збудзецца гэтых жаданняў парыў,
Як прыдзе спакойная мудрая сталасць,
Не сціхну я пець і не буду старым
Да смерці мне песня жыццё ўсхвалявала.
Я буду шчаслівей усіх на зямлі
І гляну навокал далёка, далёка,
Дзе водгукі песні мае праплылі,
Як гімн да змагання, прачуты глыбока.

Менск, 1936 г.

Мікола Жук

# ПАДРЫХТОЎКА

„Мы мирные люди, но наш бронепоезд
Стоит на запасном пути".
„Каховка"

Сыплецца снег, і на лапках ялін
Белыя вяжа дасэні,
Цэлішся доўга. Стаю я адзін,
Погляд прыкован к мішэні.
Холадна пэўна—ляжыш на снягу,
Хочу адзежу на плечы накінуць.
Сам вось не знаю, чаму берагу
Мала знаёмую мне дзяўчыну.
Погляд задумны, вясёлы твой смех
Ласку гарачую ў сэрцы будзіць.
Я вось шкадую, што пульхны снег
Студзіць праз блузку крамяныя грудзі.
Ціхія думы звіваюць вянок,
Ціха падходзіць зімовы вечар...
Здаецца было гэта вельмі даўно—
Дзень нечаканае нашай сустрэчы.
Помніцца добра студэнцкі суботнік,
Бульбу ў калгасе капалі тады.
Сонца сушыла счарнелыя пожні,
Бронзавым лістам гарэлі сады.
Помніцца неба дзівоснае сіні,
Кволым праменнем спавітая шыр.
Ты насыпала, адносіў я ў скрыню
Бульбы вялікае поўны кашы.
Усмешкай ласкавай тады падарыла,
З часу таго да цябе я прывык.
У сэрцы адчуўшы вялікія сілы,
Радасны йшоў праз лугі, паплавы.
Дні паляцелі вучобы ўпартай.
Праца сур'ёзная—не да гульні.
Смех-жа ўрываўся, вясёлыя жарты
Сілаю поўнілі нашыя дні.
Часам да поўначы разам чытаем
І не прымецім, як час прабяжыць
К вокнам прытуліцца цемра густая,
Часта ад водбліскаў яркіх дрыжыць.
Моўчкі падыйдзем к вакну і застынем:
Ночка ў чароўным такім харастве,

Горад у зараве, у руху няспынным,
Бурным жыццём, як заўсёды жыве.
Радасці нашай не знойдзем мяжы,
Сэрцы напоўняцца палкім уздымам,
Разам адчуем, як хочацца жыць
І працаваць для шчаслівай радзімы.
У будаўнічым парыве яна—
Роўна, спакойна спяваюць машыны,
Але касцістаю зданню вайна
З-за Пірынейскіх устала вяршыняў...
Сонечны край спавіваюць пажары
Край той далёкі, а родны такі,
Быццам рунеюць там нашы абшары,
Там жывуць нашы браты і бацькі.
Родным братам мы працягваем руку,
Сілу і веру да іх нясучы.
Чуем вайны пагражаючы грукат,
Водбліск пажараў мы бачым ўначы.
З водбліскаў гэтых не зводзім вачэй...
Цяжкасць нідзе яшчэ нас не схіліла.
Мы не здымаем вінтовак з плячэй,
К бою рыхтуем вялікія сілы,
Хто разгадае—ў дзень, ці ў ноч,
Можа на Захадзе, ці за Амурам?
Ворагі ўстануць і прыдуць вайной,
Ціш узарвецца пагібельнай бурай.
Вось тады выйдзем сталёвым строем,
Кнігу заменім вінтоўкай, гранатай,
У полымя рушаць апошняга боя
Смела бясстрашныя нашы атрады.
Нам бараніць, што ў агні барыкад
Нашы бацькі здабывалі.
Вораг не ўвойдзе ў квяцісты наш сад,
Што ўзгадаваў наш любімы Сталін.

Часта ўвечар кнігі пакінем,
Крочым з вінтоўкамі ў снежную шыр,
Ёлкі прыветна хістаюць вяршынямі,
Быццам страчаюць прышоўшых у цір.
Многа хлапцоў і дзяўчат яснавокіх
Цвёрдасць прабуюць уласнай рукі.
Водгукі стрэлаў нясуцца далёка
Роняць сняжынкі на дол лазнякі.
Прыдзем дамоў, калі стане цямнець
Ночка згушчае таемныя цені.
У ціры спяшае засыпаць снег
Многа так метка прабітых мішэняў.

Менск, 1937 г.

---

*М. Цэлеш*

# ЗАКОН РЫЧАГА

(*Апавяданне чырвонаармейца*)

Зіма была лютая. Дзянікін узяў Орол. Мамантаў прарваў фронт пад Варонежам.

У гэты час я быў у санітарнай лятучцы. Усю зіму мы жылі ў цяплушцы. Нас было трое: два канцэлярысты, пісары, як нас называлі, і адзін санітар, малады хлапец Грыша В'юрок. Яшчэ з восені мы абабілі сценкі вагона цёплымі баваўнянымі коўдрамі. Звычайныя дзверы таварнага вагона забілі наглуха цвікамі, а замест іх прарэзалі маленькія з выхадам на пляцоўку. Звычайна ў такіх вагонах няма ніякіх пляцовак, але ў нашым быў тормаз з будкай на даху вагона. Там была і пляцоўка з жалезнымі драбінамі. Пасярод цяплушкі паставілі печку-буржуйку, вакол яе ложкі і іншыя гаспадарчыя і канцэлярскія прылады.

Мы звычайна ездзілі з месца на месца ў прыфрантавой паласе, падбіралі хворых і раненых (для гэтага ў нашай лятучцы былі адпаведна абсталяваныя вагоны) і развозілі іх па шпіталях.

Жыццё наша не сказаць, каб было дужа дрэннае. Хлопцы мы былі маладыя, здаровыя і вясёлыя. Не! Наконт вясёласці, дык тут незаўсёды было добра. Нярэдка наша лятучка на цэлыя тыдні спынялася дзе-небудзь на адзінока закінутай маленькай станцыі ці раз'ездзе, а то і проста ў полі. Тады знікала вясёласць.

У такіх выпадках нас пацяшаў Грыша В'юрок. Быў ён маленькі, але нейкі спрытны, жвавы і вельмі шчыры. Аднаго разу ён набыў балалайку, і за дзве ночы, амаль не кладучыся спаць, навучыўся іграць некалькі песень. З таго часу ён заўсёды весяліў нас сваёй музыкай і мне не раз здавалася пад грукат калёс, што лепшай музыкі няма і на свеце. Але здаралася, што і Грыша пачынаў сумаваць. Тады ён кідаў балалайку на стол і сам лажыўся на ложак, задраўшы ўверх бараду.

Адзін раз, у такім настроі, Грыша абвясціў:

— Не! Не магу я больш, не магу! Пайду лепш папрашуся на фронт: трэба хутчэй канчаць вайну! Так, трэба канчаць!

Ён задумаўся. Але праз хвілін пяць ён раптам ускочыў з ложка, схапіў балалайку і адбарабаніў нам такога „гапака“, якога мы яшчэ не чулі ад яго.

Пасля гэтага Грыша быў вясёлы ўвесь час, нават вельмі вясёлы!—і больш гутаркі аб тым, што ён пойдзе на фронт, што трэба канчаць вайну, не пачынаў. Але на чацверты дзень, калі мы на-

блізіліся да фронта, ён моўчкі ўзяў сваю балалайку, якая вісела на цвіку ў сцяне, загарнуў яе разам з зубным парашком і шчотачкай у ручнік і паклаў усё гэта ў мяшок. Потым звязаў у другі пакунак свае астатнія рэчы і падышоў да акенца, чакаючы, калі лятучка спыніцца.

— Што ты? Куды ты?—спыталі мы ў адзін голас.

Грыша зірнуў на нас затуманенымі вачамі і махнуў рукою.

— Бывайце, браткі! Вы не хочаце са мной,—ну як хочаце? Іду! Надакучыла!..—зноў адвярнуўся да акенца.

Калі лятучка спынілася, ён ускінуў мяшок на плечы і накіраваўся да дзвярэй.

— Ну, і ўсё... усяго... хлопцы! Дружылі, ну...—і вочы яго заміргалі, а ў кутках роту задрыжэлі, ледзь прыкметна, губы. Ён пачаў яшчэ нешта гаварыць, але не змог, махнуў рукою і выскачыў з вагона. Потым ужо, калі сэрца яго трохі астыла і высахлі расінкі на расніцах, ён усміхнуўся нам і сказаў:

— А рэчы мае,—пакунак пад ложкам ляжыць,—хай будуць пры вас. Убачымся калі, дык добра, не ўбачымся, ну... дык што-ж!

Ён пайшоў ад вагона ў напрамку станцыі.

І ў вагоне стала адразу неяк пуста і сумна, нібы толькі што вынеслі нябожчыка...

На гэтай станцыі мы затрымаліся да вечара. Калі семафор быў ужо адчынен і паравоз пыхцеў і соп у другім канцы лятучкі, набіраючы сілы, раптам, аднекуль зноў з'явіўся Грыша. На плячах у яго быў той-жа мяшок, але напоўнены нечым да верху:

— Грыша, ты адкуль?

— З фронта, браткі мае, іду! З фронта!—адказаў Грыша, весела ўсміхаючыся і многазначна паказваючы на мяшок.

— А што там у цябе, у мяшку? Можа самаго генерала Дзянікіна ў мяшок злавіў?

— Не, браткі, чорт яго ў мяшок зловіш?—нездаволена адказаў Грыша і зморшчыўся:—А гэта!? Гэта, о, гэта! Гэта, браткі вы мае, лепш за... прасяную кашу з салам, ды яшчэ з цыбуляй, ды... не, з кароўім маслам. О, гэта! Ай, яй, яй. Вось!

І ён развязаў мяшок і трасянуў яго.

З мяшка на падлогу вагона пасыпаліся томы: у чырвоных вокладках, у сініх, з залатымі літарамі і без літар на вокладках. Вочы разбягаліся ў Грышы, гледзячы на іх.

— Ну, зараз мы зажывем! Праўда, хлопцы?

В'юрок стаяў над кнігамі і радасна і любоўна, як заядлы растаўшчык зліткі золата, узвешваў у руках то адну, то другую кнігу.

— А во якая?! Га! Паглядзі-ж! Га! Што ты скажаш?! От, браткі, пачытаем...

— І дзе ты іх столькі нахватаў?—пыталіся мы.

— А гэта, браткі вы мае, у тым маёнтку, што я вам паказваў праз акно пры развітанні. Прыходжу я, бачыце, у штаб палка, куды ў мяне паперка была ад нашага глаўурача, а начальнік зірнуў у паперку ды і пытае: „Колькі табе год?"—„Столькі і столькі, таварыш начальнік".

— „Страляць умееш?“ „—Умею, таварыш начальнік. Што-ж тут умець—націснуць і выстраліць“. „—Кім служыў у шпіталі?“ „—Санітарам служыў“. „—За хворымі і раненымі ўмееш хадзіць?“ „—Во, чаму не! Умею, таварыш начальнік“,—адказваю і думаю, дай скажу, што і перавязкі ўмею самастойна рабіць. „—І перавязкі ўмееш?“—перапытаў начальнік ужо другім тонам. „—Ну, дык ідзі-ж у сваю часць і скажы свайму начальству, каб яны цябе больш не пасылалі на фронт. А мы тут і без цябе справімся!“ „—А ці справіцеся?“ „—Справімся!“.—Колькі не прасіў, нічога не дапамагло. „Такія там патрэбны“,—кажа. Іду назад. Раптам: бух! бух! Гарматы пачалі бахаць. Потым і кулямёт засакатаў. Дзе дзявацца? Чысты стэп. Толькі маёнтак паблізу. Я туды. Пуста, ціха. Паламаныя крэслы ляжаць дагары нагамі. І на падлозе расківаны кніжкі. Тыя, хто трымаў іх, выкінуў за непатрэбнасцю... І ніхто другі не ўзяў: вядома, на фронце! Шкада мне іх стала. Ну, выбраў я некалькі ды ў мяшок. Вось!

Праўда, выбар В‘юрка быў не зусім удалым. Сярод сапраўды каштоўных кніг пападаліся і такія, як кнігі Мережкоўскага. Грыша, як відаць, кіраваўся пры выбары хараством вокладкі. Але з таго часу ў нашай цяплушцы работа закіпела!

Асабліва моцна захапіўся чытаннем Грыша. Сярод прынесеных ім кніг папалася, нейкім чынам, механіка для сярэдніх школ. От і пачаў ён яе чытаць ды перачытваць. Але, мусіць, мала што ён зразумеў у ёй. Адно, што засталося ў яго памяці, гэта—закон рычага. А што гэта за закон, дык ён таксама не ведаў. А ведаць цікава было. Яму, мусіць, здавалася, што цікавей нічога і на свеце няма. І давай ён да нас прыставаць:

— Што гэта за такое—закон рычага?

— Ну, закон рычага.. Ну, гэта самае... як яго...

І ні я, ні мой таварыш, не маглі толкам растлумачыць В‘юрку гэты закон.

— Няўжо не ведаеце?

— Ведаем, але растлумачыць не можам...

— Як гэта—ведаеце, а сказаць не можаце. Я калі ведаю, дык і скажу!

— Ну, бачыш, гэта не так проста! Гэта, брат, навука... Сур‘ёзная штука такая! Ну?!..

— Эх, вы—чарнільныя затычкі!—лаяўся Грыша.—А яшчэ кнігі вам на сваім гарбу пёр. Што-ж вы тады за людзі такія? Толькі кашу псуеце, ды неба закурваеце сваёй жызняй!..

Некалькі дзён Грыша хадзіў, як ачумелы. То ён браў кніжку і сядзеў над ёй па некалькі гадзін, то цэлыя суткі зусім не дакранаўся да яе, хадзіў узад і ўперад па вагону, граў на балалайцы. Было відаць, што закон рычага захапіў яго ў палон.

Адзін раз стаяў ён каля печкі-буржуйкі і варыў кашу. Было гэта на нейкай вялікай, вузлавой станцыі, дзе паязды, раз-за-разам, манеўрыравалі з месца на месца. У руках у В‘юрка была кніжка, а за вухам, каб не траціць час на доўгія пошукі ў выпадку патрэбы, тырчэла лыжка. Каша была амаль што гатова, як, раптам,—моцны штуршок вагона аб вагон. Печка паваліласа. Жалезная труба

выскачыла з дзіркі ў даху і кускі яе разляцеліся па вагону. Каша паляцела ў адзін бок, а кацялок у другі. Рэчы, якія ляжалі на стале, разляцеліся ва ўсе бакі. Лыжка выляцела з-за вуха Грышы, і ён сам стаяў на адным месцы, нібы прыбіты громам. Мы таксама ўскочылі з месц.

— У чым справа? Што такое?

— Пусціце!—сказаў злосна Грыша, адпіхваючы нас з дарогі рукой.

— Куды ты?

— Пайду морду наб'ю машыністу!

— Што ты? Куды, звар'яцеў?!

Але Грыша вырваўся і без шапкі, закасваючы на хаду рукавы, пабег да паравоза.

Мы прывялі ў парадак вагон. Печку паднялі, паставілі на месца. Кашу сабралі ў кацялок. Рэчы таксама расставілі ў парадку. Пакуль мы ўсё гэта рабілі, прайшло не менш, чым мінут пятнаццаць. Але Грышы ўсё яшчэ няма з паравоза.

— Надавалі, мусіць быць, вашаму Грышы па патыліцы,—пачалі мы дагадвацца.—Машыністы з качагарам хлопцы спрытныя!

— А што ты думаеш? Грыша можа задрацца!

— Трэба было-б пайсці, паглядзець!

Мы зачынілі дзверы і пайшлі. Грыша сядзеў у паравозе побач з машыністам і зусім мірна вёў з ім гутарку. Машыніст нешта паказваў яму на механізмы паравоза.

Пасля высвятлілася: пакуль Грыша дабег да паравоза, пра кашу і печку забыўся зусім, бо ўспомніў у гэты час пра закон рычага.

Машыніст, прызнаючы сваю неасцярожнасць, і сапраўды сустракаў яго насцярожана, але Грыша падбег і сказаў:

— Што такое закон рычага?

— Закон рычага? Закон рычага!—недаверліва спытаў машыніст, углядаючыся хлопцу ў вочы, думаючы: зглузду з'ехаў хлопец, ці што?—На што табе закон рычага?

— Так, ведаеш...—Грыша замяўся, не хацеў казаць праўду.— От, хочу ведаць. Растлумач!

— Калі ласка. Заходзь!

І перад Грышам расчыніліся маленькія, чорныя дзверцы ў будку машыніста, якія яго даўно вабілі, але да гэтага часу былі для яго зачынены.

З таго часу В'юрок стаў усё часцей і часцей бегаць на паравоз да машыніста. Прыбяжыць, той папросіць у яго закурыць, загадае падкінуць у топку дроў або пару спусціць, вады падкачаць з запаснага бака на тэндары. А пасля, часцяком, пачаў давяраць і падкруціць той ці іншы кран, павярнуць рычаг. Усё гэта нам расказваў пасля Грыша.

Мы дражніліся:

— Ці не думаеш ты стаць машыністам?

— А што-ж! Хоць зараз, каб прышлося, мог-бы паехаць самастойна...

Прайшло з тыдзень.

Неяк раз лятучка наша варочалася з фронта. Напярэдадні адбыўся

вялікі бой і фронт, здавалася, быў далёка. Раптам, калі мы праехалі кілометраў з дзесяць, а можа і больш, у невялічкім ляску нас пачалі абстрэльваць. Недзе зноў, як відаць, прарваліся белыя. Нам не ўпершыню прыходзілася прарывацца праз лінію агня і быць пад абстрэлам. Машыніст, як відаць падкруціў дзе трэба кран, качагар падкінуў у топку паліва, і поезд, грукаючы і сапучы паімчаўся ўперад з яшчэ большай хуткасцю. Вось праехалі будку, другую. Вось прашумеў над калёсамі нейкі мост на вузкай рэчцы. Вось мы ўрэзаліся, здавалася, у ланцуг белых—і чуцен іх крык і мільгаюць шэрыя мундзіры, і ляскаюць вінтоўкі, а кулі ўзрываюць вагонную абшыўку. Вось мы выехалі з лесу, галасы ворагаў засталіся ззаду, заціх ляскат іх вінтовак і на сэрцы стала лёгка і спакойна. Але—што такое? Поезд не толькі, як звычайна, не сцішае свайго ходу, а наадварот—імчыцца ўсё з большай і большай хуткасцю. Хіба наперадзе зноў вораг? Не. Мы праляцелі нейкі маленькі раз'езд і начальнік раз'езда зусім мірна выскачыў насустрач поезду, але спалохана і ўстрывожана пачаў даваць сігналы, каб спыніліся. Поезд без свістка пайшоў далей. Што такое?

Раптам Грыша пабялеў, як палатно, і крыкнуў:

— Ах, усе прапалі! Мы ўсе прапалі!..

І не паспелі мы ў яго спытаць, што і чаму, як ён, што ёсць сілы, ірвануўся да дзвярэй. Мы, перапалоханыя, пабеглі за ім. Выскачыўшы на пляцоўку, ён кінуўся да драбін і хутка пачаў узбірацца на дах вагона.

— Грыша, куды ты? Што такое?

Грыша толькі махнуў рукой.

— Ідзіце назад, ідзіце,—усхвалявана памахаў рукой.

Хутка ён знік з вачэй.

Поезд не спыняў ходу. Было ясна, што вось-вось павінна адбыцца нешта страшнае. Язык не паварочваўся ў роце. Мы маўчалі.

Раптам поезд пайшоў цішэй. Праз хвіліну яшчэ цішэй, і яшчэ. І хутка сталі стукацца вагон аб вагон. Поезд спыніўся каля нейкай станцыі. Усе, хто мог, выскачылі і пабеглі да паравоза.

— Што такое?

— У чым справа?

— Дзе машыніст?—крычаў начальнік станцыі, палышоўшы таксама да паравоза.—Наперадзе састаў, а ён смаліць без астановак!

— Я машыніст!—сказаў раптам Грыша В'юрок, злазячы з паравоза і, як заўзяты машыніст, выціраючы пакуллем рукі.—Не! Няма ні машыніста, ні качагара!—Голас яго задрыжэў.—Яны забіты варожай куляй на перагоне паміж гэтай станцыяй і той, што праехалі.—Ён выцер потны лоб.—А поезд спыніў я!

Усе адразу змоўклі.

Некаторыя, асабліва жанчыны, заміргалі вачамі і адвярнуліся ў бок, каб не даць слязе скаціцца на твар. Але што было-б з намі усімі, каб не Грышаў закон рычага?

1937 г.

*Ю. Віцьбіч*

# ЯК ЕЗДЗІЎ У КОНГА ПАН ПРУН'Е*)

I

Раніцой нехта кінуў з вуліцы ў габінет праз адчыненае вакно пісьмо. Убачыўшы пісьмо на падлозе гаспадар паспрабаваў падняць яго, але дарэмна. Схіліцца перашкаджаў жывот, які нагадваў піўны бачонак, стаць-жа на калені не дазваляла годнасць. Нарэшце з дапамогай служанкі пісьмо апынулася ў падобных на сасіскі пальцах і пузач пераканаўся, што яно адрасавана сапраўды яму, а імення:

*Пану тэхнічнаму дырэктару фабрыкі „Дзвіна"*
*Карлу Людвігавічу Прун'е.*

Сеўшы за стол і разарваўшы канверт, ён пачаў чытаць:

*Высокашаноўны пане дырэктар!*

*Здаецца вы ўжо ведаеце, што злачынцы падрыхтоўваюць на Вас замах. Цяжка нават падумаць пра гэта, але менавіта на Вас, такога добрага і цудоўнага чалавека. Паміраць буду не забуду, як мы хадзілі на цецярукоў. Праўда я належу да партыі акцябрыстаў і заўсёды стаю на варце маніфеста, які даў бацюшка-цар 17-га акцябра, але ўсё-ж я самы звычайны рабочы, а вы тэхнічны дырэктар. І мы палявалі разам у Трубачэўскай дачы на цецярукоў і вы мне яшчэ так ветліва расказалі, як хадзілі ў Афрыцы на ільвоў. Пасля падарылі мне стрэльбу заграцічнай маркі. Потым абяцалі яшчэ пародзістага паляўнічага сабачку. І хапае-ж у іх нахабнасці падрыхтоўваць замах на такога чалавека? А яны рыхтуюць. Як столяр, я хаджу па ўсіх цэхах і надоечы заўважыў дрэннае. Вось толькі не ведаю калі і якім чынам яны хочуць здейсніць свой злачынны намер, але затое ведаю галоўных злачынцаў. Як акцябрыст, лічу сваім абавязкам паведаміць аб іх:*

*Рыбакова Наталья, ватэршчыца, мяшчанка Мітаўскай губерні. Яна хаця і зусім дзяўчынка, але стаіць на чале ўсіх латышак, выпісаных таварыствам з Рыгі і Мітавы. Заўсёды спрачаецца з майстрамі і ганяламі, заўсёды падбухторвае на бунт нашых тутэйшых работніц. Не адчувае ніякай пашаны да дырэктароў і наогул да сталых людзей. Мяне, напрыклад, проста*

*) Урывак з гісторыі Віцебскай ільнопрадзільнай фабрыкі „Дзвіна" імя Л. М. Кагановіча.

*называе Юдай Іскарыётам. Мы яе ўчора хацелі пачаставаць, каб яна ўсё жыццё сваё на кастылях хадзіла, але нічога ў нас, на вялікі жаль, не атрымалася.*

*Дзедзінкін Тарас, змазчык, з сялян Віцебскай губерні. Японцы яму выбілі адно вока і на жаль не два. Зжаўцеў зусім, крывёю харкае, адной нагой у магіле стаіць, а ненавідзіць Вас бясконца. Машыны змазвае—лае, дахаты ідзе—лае, нават калі спіць і то пэўна праз сон лае. Проста зубамі скрыгае. Заўчора Вы яго за беспадобную грубасць звольнілі, але ён усё ходзіць вакол фабрыкі. Яшчэ падпаліць што, або зарэжа каго. Мне ён тыдзень таму назад сказаў:—Я добра змазваю машыны, але яшчэ лепш змазваю па мордзе такіх падлюгаў, як ты. І адкуль такая злосць? Ну я разумею Рыбакову, дык тая-ж з Мітавы, а Дзедзінкін з тутэйшых вахлакоў.*

*Вось, пан дырэктар, пішу пра гэтых сабак, якіх трэба безадкладна зніштожыць, а ў думках усё мітусіцца сабачка, якога Вы мне абяцалі. Неўзабаве, як акцябрыст, падслухаю яшчэ і пра іншых злачынцаў з той банды. Спадзяюся, што мне ў гэтым дапаможа Макар Ерцкі. Ён хаця і блытаецца з імі, толькі ён больш наш чым іхні. Падазраваю Іванова і Казлова, але ёсць у мяне значная перашкода. Не хапае часу падслухоўваць. Будую на вёсцы хату, а таму і клопату шмат. Часам дошак няма, часам цэглы, бо бракуе грошай.*

*Застаюся Вашым пакорным слугой*

***Міхаіл Магучы.***

Дырэктар адклаў пісьмо ў бок і ўсміхнуўся. Ён ужо ведаў, што на яго падрыхтоўваецца замах, але не даваў гэтаму веры. Занадта нізка схіляюцца перад ім работніцы пры сустрэчах.

— Хіба гэта Еўропа? Гэта-ж Віцебск, а не Гент. Ха-ха!

Гент—прыгожая сталіца Фландрыі, „паўночная Венецыя“ на дваццаці шасці выспах, звязаных сотняй мастоў, рэзідэнцыя гаспадароў віцебскай ільнопрадзільнай фабрыкі „Дзвіна“, радзіма пана Прун‘е. Віды горада ўпрыгожвалі сцены дырэктарскага габінета.

Вось стары сярэднявяковы Гент. Чатырохкутовая вартаўнічая вежа, званы якой калісьці заклікалі продкаў пана дырэктара да зброі, кафедральны сабор святога Бавона, дзе пан дырэктар засёды маліўся, універсітэт, які пан дырэктар скончыў.

А вось від новага Гента ўначы. Куды ні зірнеш, усюды ўбачыш ярка асветленыя вокны палатняных, баваўняных і шарсцяных фабрык. Бельгійскі Манчэстэр з мільёнам верацёнаў, з тысячамі рабочых.

— Хіба гэта Віцебск?—усміхаўся дырэктар.— Хіба змазчык і ватэршчыцы Гента, прадзеды якіх таксама былі змазчыкамі і ватэршчыцамі, нагадваюць аднолькава Тараса Дзедзінкіна, або шаснаццацігадовую Натальлю Рыбакову. Вакол Гентскіх рабочых фабрыканты ходзяць, як дрэсіроўшчыкі вакол ільвоў, хіба параўнаеш іх з віцебскімі рабочымі.

Дырэктар смяяўся свайму параўнанню. Задаволены сваім дасціпам ён рашыў напісаць пісьмо ў Гент, горад ільвоў і дрэсіроўшчыкаў:

*Найдарагі пан Сальмон!*

*Калі я выязджаў, Вы мне сказалі—Дывідэнды, дывідэнды і яшчэ раз дывідэнды. Наша фабрыка, Пан Прун'е, знаходзіцца ў басейне Заходняй Дзвіны, які дае чвэртку ўсяго рускага ільна і пры гэтым самую высокаякасную чвэртку. Потым, яна знаходзіцца ў баку ад расійскіх прамысловых цэнтраў, што забяспечыць танныя рабочыя рукі і адсутнасць уплыву на гэтыя рукі з боку розных агітатараў. Ваша задача, Карл Людвігавіч, пры наяўнасці вельмі спрыяючых умоў скарыстаць найбольш рацыянальна-тэхнічныя сродкі, каб павысіць дывідэнды.*

*Прыехаўшы ў Віцебск я адразу пераканаўся, што Вы, пан Сальмон, цалкам правы. Лён тут каштуе на 20% таней, чым у нас. Зарплата віцебскага ватэршчыка роўна 15% зарплаты гентскага ватэршчыка і нават значна ніжэй зарплаты рабочых з рускіх прамысловых цэнтраў. Што датычыцца тэхнічных сродкаў, дык я ўжо павялічыў хуткасць трансмісіі, прымушаю з дапамогай штрафаў працаваць не на адной, а на двух-трох старонках, захоўваючы зразумела пры гэтым ранейшую зарплату. Праўда тутэйшыя рабочыя амаль што галадуюць, бо атрымоўваюць 120 рублёў у год, але я не хачу дарма атрымоўваць ад таварыства свае 4200 рублёў у год. Дывідэнды і гуманізм несумяшчальны.*

*Наогул я адчуваю сябе тут таксама як у Конга, як у афрыканскай калоніі нашага слаўнага каралеўства сярод дзікуноў. Сапраўды, хіба дазволіць калі гентскі рабочы, каб яго ўдарылі нагайкай, а тут па ватэрнаму цэху ходзяць людзі, якіх проста называюць ганяламі, і нагайкамі падганяюць рабочых, нібы быдла. У Генце нам прыходзілася больш скрыта эксплаатаваць рабочую працу, а тут не трэба ніякіх шырм.*

*Хіба не Конга, пан Сальмон?*

*Праўда, сёння мой шпіён, мой паляўнічы сабачка ў цэхах паведаміў, што на мяне з боку рабочых падрыхтоўваецца замах. Не думаю, каб гэта адпавядала сапраўднасці, бо занадта прыгнечаны тутэйшыя рабочыя, а потым у нас тут шмат саюзнікаў.*

*Праз вакно свайго габінета я бачу каля варот фабрыкі свайго першага саюзніка. Уявіце сабе высокага, плячыстага, шырокабародага чалавека, узброенага рэвальверам, шашкай і свістком. Нават паблізу ён падобны на мядзведзя, які адразу без усякай літасці падамне пад сябе любога агітатара. Гэта ураднік Клеменц'еў. Досыць толькі патэлефаніраваць у горад і праз чвэртку гадзіны на фабрыку прыбудзе на дапамогу Клеменц'еву атрад конных стражнікаў, якія акрамя шашак узброены яшчэ вінтоўкамі і нагайкамі. На чале атрада прыедзе высокі хударлявы дзед прыстаў Малееў. Трэба толькі зірнуць на яго драпежніцкае выражэнне твара, моцна сціснутыя вусны, бародку клінышкам, востры позірк, каб пераканацца ў дадатных*

*якасцях такога саюзніка. На дапамогу стражнікам прыстава Малеева і іспраўніка Альхімовіча заўсёды прыбудуць прысланыя губернатарам Бершаў-Флотавым, казакі і пяхота. Але цяпер у іх няма ніякай неабходнасці. Досыць Клеменц'ева і чаркесаў. Зразумела, што пры наяўнасці такіх верных саюзнікаў ад вураднікa да губернатара рост дывідэндаў цалкам забяспечаны.*

*Шчыра зычу вам усяго найлепшага*

*З глыбокай пашанай*
*Карл Прун'е.*

Расія. Віцебск.
30/VII 1909 г.

Заклеіўшы пісьмо і напісаўшы на канверце:
*Бельгія. Гент.*

*Старшыні праўлення Акцыянернага Таварыства віцебскай ільнопрадзільнай фабрыкі „Дзвіна“ пану САЛЬМОНУ*

— дырэктар пачаў рыхтавацца, каб ісці на фабрыку. Ён апрануў на сябе свой любімы белы касцюм і, шукаючы капялюш, выпадкова зірнуў у акно. Перад домам пасярод кветніка быў як звычайна фантан, але каля фантана чамусьці стаяў аднавокі рабочы, такі дзіўны сярод руж і лілій у сваёй абадранай прамасленай вопратцы. Пан Прун'е пазнаў змазчыка Тараса Дзедзінкіна, які, заўважыўшы дырэктара, моцна сціснуў кулакі. Але гэта не спалохала Прун'е, не засмуціла яго добры настрой. І праходзячы праз залу, дзе дочкі сядзелі за раялем, Карл Людвігавіч, махаючы ім рукой, жартаўліва запяяў сваю любімую папулярную бельгійскую песенку:

Бывай, мая дзяўчынка,
Бывай, вясёлы бар.
Іграй, іграй, катрынка,
Да Конга едзе Карл.

Калі дырэктар вышаў на вуліцу, ён не ўбачыў Тараса Дзедзінкіна. Біў фантан, цвілі кветкі, але змазчык знік.

II

Невядома дзе іменна адбылася гэтая схватка. Можа ў сасонніку ля Рыга-Арлоўскай чыгункі, можа ў алешніку ля Манастырскай вуліцы, можа ў рове, па якому бегла з цэхоў смярдзючая рэчка, але яна адбылася як раз напярэдадні таго дня, калі пан Прун'е пісаў пісьмо ў Гент. Ужо сабралася чалавек дзесяць рабочых. Першым прыйшоў Тарас Дзедзінкін, за ім токар Ефім Казлоў, потым слесар Іваноў і апошнім прыплёўся, азіраючыся па баках, Макар Ероцкі. Чакалі Рыбакову.

— Нешта забавілася дзеўка. Ці не здарылася з ёй чагонебудзь?—казаў нарэшце Казлоў. Па яго вымаўленню і нязвычай-

наму для беларусоў „оканню“ адразу адчуваўся рускі. Ён быў з кастрамскіх рабочых, якіх выпісала на „Дзвіну“ акцыянернае таварыства. Заўсёды вясёлы, токар ціха запяяў:

Измученный, истерзанный
Наш брат мастеровой
Идет, как тень загробная
С работы трудовой.

— Можа сапраўды з ёй што здарылася?—заўважыў усхвалявана Дзедзінкін.—Чакаем ужо мінут дзесяць, а Наташа заўсёды акуратная.

І з апошнімі словамі змазчыка прыйшла высокая, худая дзяўчына вельмі падобная да хлапца. Гэтую дзяўчыну добра ведала ўся фабрыка, пачынаючы ад дырэктароў і канчаючы чаркесамі. Яе вострага языка баяліся майстры і падмайстры. Асабліва не любілі дзяўчыну ганялы, ад нагаек якіх яна заўсёды абараняла з‘емшчыкаў.

— Што так спазнілася, Рыбакова?—спытаў Іваноў.

— Была справа пад Палтавай, браткі. Добра, што я яшчэ сваю зброю з сабой захапіла, а інакш забілі-б нягоднікі.

— Што?! Стражнікі? Казакі далёка?—Спалохаўся ўвесь пабялеўшы Ероцкі, хапаючыся за шапку.

— Сядзі, Аніка-воін, калі ўжо з-пад жончынай спадніцы вылез ды сюды трапіў,—заўважыла дзяўчына—якія там казакі. Яны цяпер з горнічнымі гуляюць, чубамі Замкаву падмятаюць. А вось вясковым мальцам з Лучосы, дык там дзвінскія ватэршчыцы спадабаліся, але слухайце.

Іду гэта я сюды бокам ад дарогі. Навошта дарэмна на ражон лезці, тым больш што падлюга Магучы сочыць за кожным маім крокам. Іду і раптам бачу ўперадзе за алешынай сядзяць вылупіўшы вочы на дарогу, два шырокаплечыя мальцы і гавораць паміж сабой:

— Нешта гэтая Рыбакова забавілася. Дужа гарэлкі хочацца выпіць.

Іду я, прыслухоўваюся.

— Дык той сталяр так і казаў—зніміце, малайцы, з нашага вока гэтае бяльмо. Збеце яе да паўсмерці, а калі да смерці дык яшчэ лепш. Ну, а потым хоць залійцеся гарэлкай у Андрэевым кабаку. Кожны ад бельгійцаў вядро атрымае.

Хацела я непрыкметна прайсці, але пракляты друз затрашчаў пад нагамі і мальцы мяне заўважылі. Ускочылі, ідуць на мяне бокам, як паляўнічыя на мядзведзя і ў кожнага ў руках тоўстая дубіна. Думала я спачатку закрычаць, каб людзі збегліся, але-ж пасля гэтага мне не давялося-б сюды трапіць. Тады я за сваю агнястрэльную зброю схапілася. Адной рукой гірку з ватэроў, прывязаную да шнурка над галавой кручу, у другой моцна трымаю нож, якім ачосы абрэзваюць і крычу:

— Вы што, суслікі, мяне забіць падрыхтаваліся? Дык давайце паспрабуем хто каго. Я вам дарма без усякай гарэлкі пакажу як абараняюцца ў нас у Мітаве.

Бачу, мальцы ад нечаканасці аж спыніліся. Адзін з іх усё-ж рынуўся на мяне і адразу захістаўся, атрымаўшы гіркай па галаве. Бачу, кідаюць дубінкі і пaціху на дарогу ідуць. Вось чаму я і забавілася.

— Здагадлівыя дзяцюкі,—казаў Дзедзінкін.—Як гарэлкі ім нехацелася, але ўраз сцямілі, што тут не Андрэевым кабаком запахла, а манастырскімі магілкамі. Натрапіў чорт на д'ябла. Ну што-ж, Наташа, табе, як пераможцы і першае слова на нашай сходцы належыць.

— Нельга больш трываць, браткі!—пачала гаварыць Рыбакова.— Учора звольнілі Тараса. Сёння ледзь не забілі мяне. Заўтра захочуць і купяць Ефіму білет да Кастрамы. Паслязаўтра, як ён не спрытны, а выкрыюць Іванова. Так яны паступова па адным з усімі намі расправяцца.

Пагарджаны пузаты гад павялічыў хуткасць трансмісіі, прымушае працаваць на дзве старонкі. Гэта не так ужо і цяжка, браткі. Я-б напрыклад здолела-б працаваць і на чатырох старонках. Але за што? На каго? Яны-ж нам не прыбавяць ні адной капейкі. За што-ж нам так убівацца? Мы будзем працаваць на чатырох старонках, а ганялы нас зверху будуць біць чатыроххвостай нагайкай? Праўда мяне яны не б'юць, бо баяцца, але калі яны б'юць з'ёмшчыкаў, мне таксама балюча. А хіба нам усім не балюча, калі работніцы раджаюць у цэхавой прыбіральні, альбо па дарозе ад фабрыкі да хаты, а потым паўзуць як кошкі, трымаючы ў падоле дзіцянё? Хіба нам усім не балюча, калі ганяла б'е матку за тое, што яна забавілася з кармленнем дзіцяці? Хіба нам усім не балюча, калі аднаму з нас адарве машынай руку ці нагу, а потым мы бачым, як ён жабруе ля царкоўных дзвярэй? Хіба нам усім не балюча, што калі адзін з нас памрэ, яго хаваюць не на агульных могілках, а на фабрычных, для якіх фабрыканты купілі дзесяціну балота?

Ад нараджэння ў прыбіральні да пахавання ў балоце—вось як жывуць дзвінцы і Прун'е яшчэ хоча, каб за ўсё гэта мы для іх працавалі на чатырох старонках. Не, ніколі гэтага не будзе! Ніколі!

Дзяўчына рэзка ўзмахнула рукой, па якой адразу можна было спазнаць ватэршчыцу. На далоні ад мізінца ўніз ішла агрубелая, жоўтая, нібы змазаная ёдам скура.

— Хіба такія вось рукі ў дачок Прун'е? Спыняеш на хаду тугія жалезныя верацёны. Спачатку на руцэ з'яўляецца крывавы мазоль, а потым яго змяняе адзін агрубелы мазоль амаль што на ўсю далонь. Не! У дачок Прун'е не такія рукі. Яны іграюць на раялі, а не на верацёнах. Надысь я цэлую гадзіну здалёк слухала, як яны ігралі. Добра іграюць і хіба-ж Рыбакова не навучылася-б іграць таксама? Досыць ужо нам слухаць здалёк панскую музыку. Як агрубела мая далонь, таксама агрубела і маё сэрца да іх. Ніякай літасці, ніякай спагады да паноў. У нас у Мітаве такіх мярзотнікаў вывозяць на тачцы. Заўтра-ж Прун'е паедзе за вароты. Даўно ўжо мех яго чакае.

— Ужо два тыдні чакае,—казаў Іваноў.—Ляжыць у кутку пад маім варштатам. Ды які добры мех, з трох мяхоў пашылі ватэршчыцы ў прыбіральні. Качагары прынеслі крыху сажы ды ў мех

пасыпалі. Цесляры не пашкадавалі для гэтай справы сурыку. Толькі-б за вароты яго вывезці, а там згодна з законамі ён ужо не мае права працаваць на фабрыцы.

— Вывязем Прун‘е,—заўважыў Казлоў,—прыедзе яму на змену які-небудзь Друн‘е, вывязем Друн‘е, Прыедзе Мрун‘е. Як раз так у нас у Кастраме было. Усіх іх на тачцы не вывезеш, а ўсё-ж правучыць трэба.

— Як-бы чаго, сябры тае, не здарылася дрэннага,—звярнуўся да рабочых Ероцкі.—Пачакаць яшчэ крышку трэба. Можа спачатку папросім фабрычнага інспектара, каб ён пагаварыў з Прун‘е. Га? Пачакаем крышку.

І раптам ускочыў з месца Тарас Дзедзінкін. Змазчык увесь час маўчаў, але ружовыя плямы на шчаках сведчылі, што ўнутры яго ўсё кіпела.

— Пачакай радзіць, дай Макару за бабай схадзіць!—закрычаў ён.—Усіх вывязем, браткі! Няма куды рабочаму чалавеку падацца, Абселі вакол розныя паразіты. П‘юць нашу кроў! Але мы іх раздушым! Разду-шым!—крыкнуў Тарас так, што Ероцкі аж засіпеў:

— Тсс! Як бы хто не пачуў,—але змазчык не звярнуўшы на яго ніякай увагі працягваў гаварыць далей:

— Ніколі не забуду аднаго хлапца-з‘ёмшчыка. Хто з нас яго не ведаў? Ён быў такі вялікі, што з-за кошыка, у якім ён цягаў шпулі, відаць былі толькі яго вочы, лоб і рыжыя валасы. Таму мы проста празвалі яго Рыжыкам. Аднойчы, калі Рыжык спыніўся са сваім кошыкам на сходах адпачыць, Прун‘е, праходзячы паўз яго, штурхануў хлопца са сходаў уніз. На другі дзень хлапец памёр. Доктар, якому яны пазалацілі руку, казаў, што хлапец быццам-бы памёр ад сухотаў. Усё-ж дырэкцыя, баючыся агалоскі, дала бацьку нябожчыка дваццаць пяць рублёў. Бацька, наш фабрычны качагар, прапіў гэтыя грошы ў Андрэевым кабаку. Калі піў—рыжабароды качагар плакаў і крычаў:

— Браткі, памяніце майго Гараську!

Тады мы ўсе даведаліся, як звалі нашага Рыжыка. І ці не прыйшоў час па-сапраўднаму памянуць Гараську? Трэба штурхануць Прун‘е з тых-жа самых сходаў уніз.

А за што мяне звольніў пузаты гад? Слухайце, браткі. Змазваю я ўчора машыны, стараюся, як найлепш, а ён падходзіць і зняважліва чмыхнуўшы ў нос, гаворыць:

— Нікуды не варта такая змазка. Наогул які гэта змазчык з адным вокам.

Хлынула мне ў галаву кроў. Прыгадалася вясковая хата пад Віцебскам, дзе я нарадзіўся і дзе прайшло мае маленства. Э-эх, сапраўды верна гаворыць прымоўка „Кепска ля Віцебска“. У панскіх сабак будкі лепшыя за гэтую хату. І хата на кастылях нарэшце павалілася, адзіную авечку зарэзаў не воўк, а падатковы чыноўнік, зямлю маю далонню прыкрыць было можна, але і яе адабраў валасны старшыня. Наогул пайшоў я ўгору аж вяроўкі затрашчалі. Спачатку ганяў плыты ў Рыгу. Ад гэтай працы соль

на кашулях выступала. Вось Вы з Мітавы і з Кастрамы, але можа чулі калі над нашай ракой Дзвіной стогн:

Худа, худа нам бурлакам
Ой! Ой! Ой!
Худзей нету ва ўсім свеце
Ой! Ой, Ой!

Гэта не стогн, гэта пяюць плытагоны. Потым прыйшоў я сюды ў горад. Няма-ж у мяне нічога акрамя пары вось гэтых рук. Крыху толькі папрацаваў, як мяне мабілізавалі біць японцаў. А што мне, змазчыку, дрэннага зрабілі японскія змазчыкі? Нават калі пасля пад Ляолянам японская куля выбіла мне вока, не адчуваю я да іх ніякай нянавісці. Сам-жа я віцебскі Тарас можа не аднаму японскаму Тарасу вока выбіў. Няма ў мяне нянавісці да японскай беднаты. Адзіная нянавісць да пузатых гадаў, і да сваіх і да японскіх. І тады адказаў я таму Прун'е, як шылам парнуў.

— Нават адным вокам я бачу, што ты крывасмок!

Мяне праз гадзіну звольнілі. Куды мне цяпер ісці? Хаты няма, зямлі няма. Уся маёмасць, кашуля ды порткі. Скажыце мне куды ісці? Ці пад Жлобінскі мост? Ці разам з жабракамі запяяць:

— Падарыце палаценца залапіць голае каленца?

Не! Трэба, на маю думку, ісці біць пузатых.

## III

Маркаўскія манахі ў сваіх казаннях заўсёды пагражалі дзвінцам пакутамі пекла. Патлатыя дармаеды не ведалі, што пекла гэта і ёсць ватэрны цэх ільнопрадзільнай фабрыкі „Дзвіна“.

Па абодвух баках вузкага праходу стаялі ватэры сістэмы „КОМБ“. Іх прывязлі разам з іншымі машынамі ў 1899-м годзе з Шарлеруа. Па дарозе ад Бельгіі да Расіі караблі моцна патрапала штормам. Ад салёнай марской хвалі і ватэры, і карды, і банкаброшы пакрыліся іржой вельмі падобнай на кроў. Машыны старанна чысцілі цыліндровым маслам, папы апырскалі іх хрышчэнскай вадой, але нават праз год яны здаваліся дзе-ндзе нібы акрываўленымі.

Сюды ў ватэрны цэх з банкаброшаў лентачнага цэха паступала роўніца—тонкая лента валакна. Тут з яе выраблялі пражу—скручаную ніць патрэбнай таўшчыні. Спачатку роўніца праходзіла праз жалабы з вадой, нагрэтай парам да 70-80 градусаў, пасля шумлівыя верацены скручвалі яе ў нітку. Таму ў цэху заўсёды панавалі сорокаградусная спякота, пар і шум.

— Плыве нібы туман над нашай рэчкай і шуміць нібы наша прасніца,—гаварылі маладыя ватэршчыцы, прыходзячы з беларускіх вёсак, але сустракалі іх не туман і не прасніца. А пар хутка афарбоўваў румяны здаровы твар у жоўты хваравіты колер. Ён дробным даждждом падаў з вільготнай столі на цэмантавую падлогу, прымушаючы работніц змяніць атопкі альбо лапці на цяжкія драў-

ляныя чаравікі. У першыя дні работы на фабрыцы, вясковыя дзяўчаты яшчэ часам спрабавалі пяяць:

Мушка на вакенцы ў цымбалікі б‘е,
Павучок на сценцы кросенцы снуе.

І зірнуўшы на шкляную брудную столь, праз якую блакітнае неба заўсёды здавалася шэрым ім адказвалі маладыя латышкі:

Ці ёсць дзе смачней сурмаліна,
Як на Зэльбургскіх лагчынах?
Ці ёсць дзе прывабней дзяўчына,
Як у Крэйцбургскіх хацінах?

Але пар сціскаў горла і верацёны глушылі песні. Гэты гул толькі перамагалі свісткі ганял, якімі яны загадвалі з‘ёмшчыкам, нібы сабакам, што час здымаць пражу з таго ці іншага ватэра. Каб хлопцы і дзяўчаты з‘ёмшчыкі працавалі хутчэй, ганялы білі іх нагайкамі, зробленымі з раменьчыкаў для сшывання пасоў. Каб хутчэй працавалі работніцы, майстры штрафавалі іх за кожную дробязь.

„Дывідэнды, дывідэнды і яшчэ раз дывідэнды“—патрабаваў пан Сальмон. Таму так стараліся яго халуі. Але ніякі бухгалтар, падлічваючы дывідэнды акцыянернага таварыства, не здолеў-бы ўзважыць нянавісць дзвінцаў да пана і яго халуёў.

Толькі паспеў Дзедзінкін прыбегчы на ватэры, як адразу за ім у дзвярах цэха паказаўся Прун‘е. На ім быў белы гарнітур, такія ж капялюш і чаравікі. Добры настрой не пакідаў сёння дырэктара. Ідучы павольна па праходу і, трымаючы за спіной табельны журнал, ён ці хутка пяяў сабе пад нос:

Бывай, мая дзяўчынка,
Бывай, вясёлы бар,
Іграй, іграй, катрынка
Да Конга едзе Карл.

Убачыўшы па дарозе з‘ёмшчыка Чыстабаева, які і слязмі і вадой абмываў твар, акрываўлены ганялам, Карл Людвігавіч што ёсць сілы штурхануў дзвенаццацігадовага хлапца нагой у бок:

— Марш працаваць, лодыр! Да твайго вяселля загоіцца, а з‘ём не чакае.

Зірнуўшы на з‘ёмшчыка, які, толькі цяпер заўважыўшы дырэктара, ускочыў і рынуўся ўцякаць ад яго, нібы ад драпежнага звера, Прун‘е задаволена ўсміхнуўся:

— Хіба не Афрыка? Дывідэнды і гуманізм несумяшчальны.

Ён зрабіў толькі некалькі крокаў далей, як да яго падыйшла цяжарная работніца. Яна мелася гэтымі днямі нарадзіць і сёння адчула моцныя прадрадавыя болі.

— Адпусціце да гудка, пан дырэктар?—пачала прасіць работніца і ледзь не закрычала ад болю, хапаючыся за жывот.

— Ніяк нельга да гудка. Ніяк нельга. Вось вы спыняеце на хаду верацёны і нараджаць трэба таксама на хаду. А вялікі жывот у працы не перашкаджае. Вось ён у мяне які, але-ж я працую.

І раптам дырэктар здзіўлена спыніўся. Яму здалося, што ён убачыў за бліжэйшым ватэрам адзінае вока Дзедзінкіна. Як і раней невыказная нянавісць адлюстроўвалася ў ім.

— Глупства нейкае,—рашыў Прун'е.—Проста мне толькі здаецца. Я-ж яго ўчора звольніў. Проста мне здаецца, але ўсё-ж пайшоў да ватэра, каб пераканацца, што яму толькі здаецца. І ў гэты момант заўважыў, што да яго ідзе Рыбакова.

Папярэджаная змазчыкам, Наташа паспела загадзя абарваць некалькі ніцей у сваёй машыне і цяпер звярнулася з просьбай:

— Пан дырэктар, паглядзіце калі ласка на маю машыну. Усё ніткі ірвуцца.

— Дык вы не ўмееце працаваць,—адказаў дырэктар, але спыніўся. Рыбакова-ж кваліфікаваная мітаўская ватэршчыца і ўжо калі ў яе ватэр кульгае, дык пэўна справа сур'ёзная. Так рашыў Прун'е, пайшоўшы за дзяўчынай да яе машыны.

І нечакана здарылася тое, чаго ён ніяк не чакаў. Нехта выхапіў у яго з рук табельны журнал і шпурнуў за машыну. Калі дырэктар абярнуўся, каб убачыць, хто гэта зрабіў, Дзедзінкін, Іваноў, Марозаў і Шаршынёў, падбегшы ззаду на цыпках, накінулі на яго мех са словамі:

— Ёсць гад.

Усё гэта зрабілася так хутка, што Прун'е нават не паспеў закрычаць і толькі схапіўся рукамі за прыклоны ватэраў. Рыбакова пачала біць яго роўніцай па руках. Дырэктар, не ведаючы нават, хто яго схапіў і хто яго б'е, выпусціў прыклоны. І ў тую хвіліну шум машын спыніўся, але Прун'е пачуў, як хутка нарастае іншы больш жудасны для яго шум. Крычалі, збягаючыся з усіх бакоў цэха людзі.

— Кідайце падлюгу ў вакно! Кідайце яго на каменні!

Дырэктар адразу ўявіў сабе, што ватэрны цэх знаходзіцца на другім паверсе, і закрычаў:

— Пусціце! Вам за мяне будзе вельмі дрэнна!

— Горш за тое, што ёсць не будзе!—адказалі яму, але ў вакно не кінулі. Прун'е павялі з мяхом на галаве да сходаў. У часальным цэху мех з дырэктарам паклалі ў цялежку на трох колах, на якой звычайна возяць роўніцу. Зверху на мех Дзедзінкін выліў вядро з цыліндровым маслам:

— Гэта каб яго, крый бог, халера не схапіла.

І потым Рыбакова, Дзедзінкін, Марозаў і іншыя павязлі Карла Людвігавіча па цэху да дзвярэй на двор. А на мяху сядзелі з'ёмшчыкі браты Чыстабаевы, ім абодвым было дваццаць пяць год.

Тое, што здарылася ў ватэрным цэху, маланкай абляцела ўсю фабрыку. Гэтай маланкай быў Ефім Казлоў, які абягаючы цэхі, каго заклікаў, а каго прымушаў ісці на двор. Фабрыка спынілася і ніхто з дырэкцыі, акрамя пана Прун'е, пра гэта яшчэ не ведаў. Ватэршчыцы і часальшчыцы, кардаўшчыцы і лентачніцы, запраўшчыкі і з'ёмшчыкі, возчыкі ільна і прасавальшчыкі кастры, змазчыкі і рымары, кавалі і малатабойцы, слесары і сталяры радасным натоўпам бегалі за цялежкай і крычалі:

— Ур-ра! Ур-ра! Ур-ра!

Зямля гудзела вакол ад грукату тысячы пар важкіх дзеравяных чаравікаў. І ўсім ім—і дарослым і дзецям—здавалася, што яны ў асобе дырэктара вывозяць назаўсёды за вароты той парадак, які іх бязлітасна прыгнятаў. Па дарозе цялежка разваліласа, перакла́ўшы Прун'е ў другую, упарта вязлі далей да варот. А тэхнічны дырэктар ільнопрадзільнай фабрыкі „Дзвіна“ ляжаў у гэты час у мяху, скурчыўшыся, як сабака ў будцы. Адчуваючы рух цялежкі ў невядомым яму напрамку, ён з болем прыгадаў песню, якую толькі што пяяў:

Іграй, іграй, катрынка,
Да Конга едзе Карл.

У той час, як пан Прун'е ехаў на цялежцы да „Конга“, прадстаўнікі дырэкцыі толькі што паабедалі. Ні аб чым не здагадваючыся, яны ішлі з сваіх кватэр у кантору. Тут былі галоўны дырэктар фабрыкі Тфэльд, бухгалтар Мартэнс, механік Ляеманд, майстар Гуд, прыказчык Дэльмонт і іншыя.

— А дзе-ж, панове, Карл Людвігавіч?—здзівіўся Тфэльд.

— Яшчэ пэўна абедае, Дэзірэ Аўгусцінавіч,—адказаў яму Ляеманд.

Як толькі ўвайшлі ў вароты, каля якіх стаялі на варце чаркесы і вураднік Клеменц'еў, нечакана ўбачылі, што насустрач ім рушыўся вялікі натоўп рабочых.

— Што вязеце?—спытаў у рабочых Тфэльд. Тыя на момант замяшаліся, але знаходчывая Рыбакова адразу адказала:

— Халернага.

Тфэльд спачатку, нібы паверыў. У Віцебску тады сапраўды лютавала халера, некалькі выпадкаў яе мелі месца на фабрыцы і хворых адразу-ж ізалявалі ад здаровых.

— Дзіўна, Дэзірэ Аўгусцінавіч. Вельмі дзіўна,—заўважыў раптам Мартэнс.—Калі гэта сапраўды халерны, дык чаму яго вязуць так урачыста ўсёй фабрыкай ды яшчэ з крыкамі: Ура! чаму столькі радасці? Потым, калі гэта халерны, дык чаму яго вязуць так урачыста і хлопцы сядзяць на ім зверху.

І раптам Тфэльда амаль што збіў з ног Казлоў. Гэта здарылася выпадкова для самага токара. Ён абабегшы ўсе цэхі, спяшаўся, каб дагнаць цялежку з Прун'е і нечакана наляцеў на Тфэльда. А Тфэльд добра ведаў высокакваліфікаванага кастраміча. Казлоў не аднойчы працаваў для дырэктароў на іх кватэрах, але чамусьці заўсёды ўпарта адмаўляўся ўдзельнічаць у дырэктарскіх паляваннях, хаця быў паляўнічым. І Тфэльд рашыў звярнуцца непасрэдна да токара.

— Каго вязеце, Казлоў?

— Халернага,—адказаў спачатку токар, пачуўшы раней здалёк адказ Рыбаковай.

— Гавары, Ефім, праўду!—пагражальна загадаў Тфэльд.

— Пана дырэктара Прун'е вязем,—вырвалася мімаволі ў кастраміча. Тады Тфэльд, выцягнуўшы з кішэні неадлучны рэвальвер, выстраліў у паветра і закрычаў.

— Чаркесы, сюды! Чаркесы, страляйце!

— Перакуліце цялежку ў канаву!—закрычалі рабочыя і сапраўды пацягнулі цялежку да рову, дзе ахалоджвалася кондэнсацыйная вада.

Пачалася бойка каля цялежкі. Дэльмонт сцягнуў з меху братоў Чыстабаевых, разадраўшы на адным з іх кашулю. Гуд штурхануў Дзедзінкіна, але ў адказ атрымаў такі моцны ўдар, ад якога нават расцягнуўся на зямлі. Дзвінцы рынуліся на дырэкцыю. Здавалася яшчэ крыху і яна паедзе разам з Прун'е за вароты. Але калі пачалі страляць чаркесы, рабочыя пачалі ўцякаць. Ужо працуючы кожны за сваёй машынай, нібы нічога асаблівага не здарылася, яны бачылі з вокан цэхаў, як выймалі з меху Прун'е. Жудасную карціну ўяўляў з сябе тэхнічны дырэктар у сваім толькі што беласнежным касцюме. Куды дзявалася звычайная самаўпэўненасць. Ён хістаўся. Не адказваў ні на адно пытанне. Яго пад рукі павялі да кватэры. І калі прывялі дамоў, Прун'е таксама не сказаў ні аднаго слова. Толькі праз гадзіну, падмацаваны партвейнам, прыняўшы ванну і прыйшоўшы ў свой габінет Карл Людвігавіч, раздзіраючы ў дробнае шкуматццё пісьмо пану Сальмону, сказаў:

— Аднак, я зусім не ведаю гэтых людзей...

## IV

Калі рабочыя на ватэрах нацягвалі без усякай пашаны на пана Прун'е мех, майстры і ганялы адразу пахаваліся хто куды. Ім сапраўды было чаго палохацца.

— Вось пана вязем за вароты,—крычалі вакол,—і падпанкаў туды-ж трэба.

Ні жывыя, ні мёртвыя сядзелі гэтыя падпанкі па розных кутах, як пацукі, пакуль не пачулі стрэл Тфэльда. Тады, выпаўзшы з кутоў, пабеглі да канторы на дапамогу чаркесам. І самым першым бег акцябрыст Міхаіл Магучы. Ён, уладальнік такога моцнага прозвішча, толькі што вылез з люку прыбіральні, дзе прасядзеў увесь небяспечны для сябе час. Ад вопраткі правакатара цяпер смярдзела, але яшчэ больш смярдзела яго паскудная душонка.

Як толькі Прун'е павялі дамоў, Тфэльд рынуўся ў кантору да тэлефону. Ён хацеў выклікаць з гораду паліцыю, але горад не адказваў. Ужо значна пазней высветлілася, што нехта загадзя перарэзаў нажніцамі тэлефонны дрот.

— Ало! На фабрыцы „Дзвіна“ бунт! Ало!—крычаў дарэмна Тфэльд і раптам пачуў побач ціхенькі голас:

— Пан Тфэльд. Пэўна тэлефон не работае-с. Дазвольце-с я збегаю ў маёнтак Язоўнева да пана Карташова і па яго тэлефону паведамлю паліцыю. Я-с маментам. Адна нага тут, другая—там.

Зірнуўшы, Тфэльд убачыў Магучага і загадаў яму:

— Бяжы хутчэй! Выклікай, каго хочаш! Паліцыю, казакаў, пяхоту. Усё адно. Толькі-б хутчэй.

І праз чвэртку гадзіны на фабрыку ўязджалі стражнікі на чале з Малеевым. Конь пристава кульгаў. Прычынай гэтаму была работніца Стэпаніда, вядомая больш сярод майстраў і ганял пад па-

гардлівай мянушкай—Стэпаніда Дурная. Мянушка падпанкаў не адпавядала сапраўднасці.

Прышла калісьці на фабрыку з беларускай вёскі дваццацігадовая кулацкая батрачка. Дзяўчыну згвалтаваў майстар і яна нарадзіла дзіцянё. За тое, што яна нарадзіла незамужняй, яе пачалі цкаваць майстры, падбухторваемыя самім гвалтоўнікам.

— Ну як, Стэпаніда, байстручок маецца?—здзекаваліся над ёю гады, пачынаючы ад дырэктара Прун'е і канчаючы правакатарам Магучым—як твой Багданчык жыве? Хэ-хэ-хэ!

Дзіцянё нарадзілася паралiжаваным і над ім таксама смяяліся.

Атрымоўваючы трыццаць капеек у дзень, гаротная матка плаціла і за дагляд за сынам і за кут у чужой хаце. Зразумела, што яна вельмі гаравала і як толькі сыходзіў снег хадзіла ўжо босай.

У тую змену, калі вывозілі на тачцы дырэктара, Стэпаніда не працавала, але даведаўшыся з радасцю пра ўсё і ўбачыўшы з болем, што да фабрыкі едзе паліцыя, яна, заўсёды маўклівая і пакорная, больш не вытрымала. Выскачыўшы на вуліцу Стэпаніда шпурнула начоўкі пад ногі каня прыстава. Стражнікі збілі яе нагайкамі, але нават уязджаючы ў фабрычныя вароты насцеж адчыненыя чаркесамі, яны чулі ззаду крык:

— Фараоны! Крывяпіўцы! Балюча вы б'еце, але асеннія мухі таксама раней як акалець балюча кусаюцца!

Толькі прыехалі на фабрыку стражнікі, як з боку горада пачулася зухаватая песня:

Лезеш з дуру да Порт-Артуру,
Патрапалі тваю скуру
Мы ў адзін міг.

— Гаўрылычы пяюць,—заўважыў Рыбаковай Дзедзінкін.—Пераможцы японцаў едуць. Ерусланы Лазарэвічы. З намі бяззброймымі, а не з японцамі яны толькі здольны ваяваць. Заціснуць яны нас цяпер, Наташа? Га?

— Нічога, Тарас,—адказала дзяўчына.—Усіх не заціснуць, бо з голаду самі пакалеюць. Нас арыштуюць, але на змену нам прыдуць з гораду.

Праз невялікі час у цэхах з'явіліся прадстаўнікі дырэкцыі разам з саюзнікамі пана Прун'е. Рабочых пачалі выклікаць па адным у кантору да іспраўніка Альхімовіча для дазнання. І як гэта не дзіўна, але першым выклікалі Макара Ероцкага.

— З Ероцкага пачніце, пан іспраўнік,—параіў Альхімовічу Магучы.—Ён хаця і прымаў удзел у іх злачынных сходах, але на маю думку трапіў туды зусім выпадкова. Крыху прыцісніце яго і ён адразу ўсё раскажа.

— А хіба ты нічога не ведаеш, хто вывозіў на тачцы пана дырэктара?

— Нічога не ведаю, пан іспраўнік, бо я ў той час назіраў здалёк з даху, схаваўшыся за комін,—адказаў Магучы, у якога не хапіла мужнасці прызнацца, дзе іменна ў той самы час ён знаходзіўся.

Калі стражнік прывёў Ероцкага, Альхімовіч толькі зірнуўшы спрактыкаваным вокам на арыштаванага адразу зразумеў, што тут няма ніякай патрэбы ў тым, каб прыціскаць.

— Мы цябе арыштуем,—казаў ісправнік,—але неўзабаве і адпусцім. Толькі ты падрабязна раскажы, хто ўдзельнічаў у сходах і хто ўдзельнічаў у замаху.

Абрадаваны Ероцкі адразу выдаў дваццаць чалавек, якіх адразу-ж і арыштавалі. Сярод дваццаці апынуліся Рыбакова, Дзедзінкін, Казлоў, Марозаў, Шарынёў, але не было Іванова. Дарэмна Ероцкі даводзіў дачыненне слесара да справы. Таго проста з пенай на вуснах абараняў такі аўтарытэтны ў вачах паліцыі сведка, як сын Прун'е, майстар рэмонтнай майстэрні.

Іваноў быў сапраўды, як яго ахарактарызавала Рыбакова, спрытны малец, але за гэтай спрытнасцю дзяўчына не заўважыла хітрую крывадушнасць. Нацягнуўшы на Прун'е мех, Іваноў не павёз яго разам з усімі за вароты, а па латку, па якому звычайна работніцы спускалі пражу ў ніжні паверх, спусціўся ў рамонтную майстэрню проста да свайго станка.

— Вы памыляецеся, пан ісправнік,—даводзіў таму сын Прун'е.— У той час, як тыя злачынцы вязлі майго бацьку, Іваноў добрасумленна працаваў побач са мной.

Потым, на працягу год „добрасумленны“ Іваноў спускаўся па латку сумлення ўсё ніжэй і ніжэй, пакуль нарэшце не апыніўся ў бандзе трацкісцкіх мярзотнікаў.

Арыштаваных пасадзілі ў пажарную пры фабрыцы. Сярод іх апынуліся і браты Чыстабаевы, якіх Дэльмонт знайшоў у ватэрным цэху на разадранай кашулі. Пятнаццаць чалавек вызвалілі ў дзень арышта, а дванаццаць перавялі ў арыштанцкі дом пры паліцэйскай управе.

Іх вяла паліцыя не днём, а ўначы, бо баялася дзвінцаў. Стражнікі ехалі па баках, трымаючы напагатове вінтоўкі. Першымі ішлі Рыбакова, Дзедзінкін і Казлоў. Апошнім Ероцкі, якога ўсё-ж не вызвалілі, прапанаваўшы сачыць за арыштаванымі і ў арыштанцкім доме. Ішлі моўчкі. Даўно засталася ззаду Маркаўшчына, калі Дзедзінкін ціхутка запяяў.

Худа, худа нам бурлакам
Ой! Ой! Ой!
Худзей нету ва ўсім свеце
Ой! Ой! Ой!

— Замаўчаць!—загарлапаніў стражнік, узмахваючы нагайкай.

Усё-ж зматчык спытаў у Рыбаковай:

— Няўжо гэта, Наташа, з нашым арыштам усё на фабрыцы скончылася.

— Не, Тарас,—адказала тая,—яшчэ толькі пачынаецца. Хіба ты не чуў пра сходку, якая адбылася ўчора ў фабрычным рове.

І сапраўды яшчэ толькі пачыналася. У той вечар, як гэта пачыналася, ісправнік у фабрычнай канторы пісаў рапарт у дэпартамент паліцыі:

*„30 ліпеня ў 4 гадзіны дня на Віцебскай ільнопрадзільнай фабрыцы „Дзвіна“ рабочыя фабрыкі, адчуваючы нездавальненне*

*нядаўна назначаным з 9 мая г. г. дырэктарам тэхнічных работ Прун'е за павялічэнне работ у сувязі з паскарэннем руху машын, выдачай недабраякаснага матэрыяла для пражы і зьмяншэннем заработнай платы спынілі работы і з мэтай перашкодзіць выкананню сваіх абавязкаў учынілі гвалтоўны замах на дырэктара Прун'е, якому накінулі на галаву мех, паклалі на цялежку для возкі ільна на фабрыцы, прычым трое з рабочых селі на Прун'е, а каля дзевяці рабочых падпіхвалі цялежку, вывезлі Прун'е з памяшкання фабрыкі і вазілі па двару дваццаць пяць мінут, пакуль галоўны дырэктар фабрыкі Тфэльд не спыніў гэтага і не адхіліў рабочых, пасля чаго работы зноў пачаліся.*

*Пры дазнанні высьвятлілася, што галоўныя зачыншчыкі былі Дзедзінкін, Марозаў і Шаршнёў, якія накідвалі на Прун'е мех. Цялежку падпіхвалі браты Шаўнёвы, Сямёнаў, Казлоў, Грышчэнка і Рыбакова, якія затрыманы і знаходзяцца пад вартай у парадку палажэння аб дзяржаўнай ахове.*

*Іспраўнік Альхімовіч.*

Рапарт ужо быў напісан, як у пакой увайшоў Тфэльд:

— Вы ўжо ўсё скончылі, пан іспраўнік? Запрашаю вас да сябе на абед.

— Зразумела, скончылі,—задаволена адказаў Альхімовіч.—Мае малайцы працуюць добра. Можна лічыць гэты бунт канчаткова падаўленым. Усе зачыншчыкі арыштаваны. Рабочыя спакойна працуюць. Маркаўшчына зноў заваявана намі.

І сапраўды Маркаўшчына ў той вечар нагадвала фронт. Дзвінцы ідучы пасля гудка з работы, праходзілі паміж двух шарэнгаў пяхоты. Па вуліцах слабады гарцавалі на конях чубатыя казакі і вусатыя стражнікі. Здавалася верабей не праляціць незаўважаным, але раптам у пакой, дзе размаўлялі Тфэльд з Альхімовічам, увайшоў стражнік:

— Ваша высокаблагароддзе. Нешта рабочыя ідуць з рову, што за фабрыкай. З нейкага хмызняку, лезуць ды лезуць.

— Дурні! Ідыёты! Абалдуі!—закрычаў іспраўнік, увесь пачырванеўшы і нават ускочыўшы з крэсла.

— Так точна, ваша высокаблагароддзе, дурні,—усміхнуўся стражнік.—З хмызняку адзін за адным так і вылазяць.

— Ды не яны дурні,—крычаў Альхімовіч ужо на двары,—а вы! У іх там сходка адбывалася, а я,—ён хацеў сказаць,—а я ў гэты час рапарт пісаў,—але сказаў,—а вы, дурні, у шапку спалі.

Пан іспраўнік не памыляўся. Як толькі сцямнела, у рове за фабрыкай, што выходзіў да ракі, і па абодвух баках якога рос густы беразняк, адбылася сходка. Арганізавалі яе тры невядомыя чалавекі, прыехаўшы ракой з гораду. Рабочыя, даведаўшыся аб гэтым, неўзаметку накіроўваліся з сваіх хат у роў. Нічога, таксама, як і стражнікі, не ведаў Магучы. Акцябрыст у гэты час моцна спаў, збіты з ног бутэлькай каньяка, якім яго толькі што пачаставалі на кватэры дырэктара. Гаду сніліся зграя чыстапсовых паляўнічых сабак, прывольны хутар і бляха валаснога старшыні.

А ў гэты момант гаварыў невядомы ў кепцы:

— Дзвінцы! Сёння агенты бельгійскага акцыянернага таварыства пераканаліся ў тым, што віцебскія рабочыя не каланіяльныя рабы. Агенты атрымалі ўрок, але непараўнальна больш значны ўрок атрымалі вы, дзвінцы. Пэўна вы пераканаліся сёння ў тым, што не з таго боку пачалі барацьбу з панамі, бо на вашай фабрыцы не хопіць тачак, каб вывезці іх усіх за вароты. Пэўна вы пераканаліся сёння таксама і ў тым, што супраць нас рабочых стаіць побач з фабрыкантамі дзяржава, якую нельга перамагчы, маючы ў руках толькі гіркі з ватэроў. Таму ў сваёй барацьбе вы пасля арышту дванаццаці чалавек адразу спыніліся.

Што больш каштоўна для вашых гаспадароў? Прун'е ці дывідэнды? Безумоўна дывідэнды, а Прун'е толькі пастольку, паскольку ён з вас гэтыя дывідэнды выкалачвае. Дык вы, дзвінцы, заўтра ўдарце забастоўкай па гэтых дывідэндах, а значыцца і па гаспадарах. Патрабуйце ад іх: неадкладнага вызвалення арыштаваных і неадкладнага ўдалення з фабрыкі Прун'е.

У час забастоўкі арганізуйце касы ўзаемадапамогі. Вам, дзвінцы, заўсёды дапамогуць і віцебскія рабочыя, якія цалкам на вашым баку.

Дарэмна праз невялікі час паліцыя шукала ў рове невядомых, але невядомыя прыходзілі ў роў не дарэмна.

## V

На другі дзень пасля здарэння з панам Прун'е дзвінцы прышлі як звычайна на фабрыку і пачалі працаваць.

— Нібы нічога і не здарылася, Дэзірэ Аўгусцінавіч,—заўважыў Тфэльду Ляламанд.—Толькі што я абыйшоў усе цэхі. Усе рабочыя па сваіх месцах. Цішыня.

На фабрыцы сапраўды была цішыня, але якраз тая цішыня, за якой ідзе навальніца. Адзін ад аднаго рабочыя паступова даведаліся пра ўчарашнюю сходку ў рове і пра перавод уначы дванаццаці чалавек з пажарнай у арыштанцкі дом. У дзесяць гадзін яны кінулі працаваць і пайшлі да канторы. Да іх выйшаў усхваляваны Тфэльд, якога дзвінцы сустрэлі крыкамі:

— Куды падзелі пузатыя нашых лепшых людзей? Мы ўсе дыхаем тым-жа чым і яны! Аддайце нам нашых людзей і вон з фабрыкі гада Прун'е! Вы такія пузатыя таму, што смокчаце нашу кроў! Сабакі Прун'е ядуць лепш за нас і нашых дзяцей!

— Вашы патрабаванні я выканаць не магу,—адказаў Тфэльд.— Аб вызваленні арыштаваных вам трэба хадатайнічаць не перада мной, а перад дзяржавай, якая іх арыштавала. Што датычыцца тэхнічнага дырэктара пана Прун'е, дык ён назначаны на сваю пасаду гаспадаром фабрыкі бельгійскім акцыянерным таварыствам і толькі таварыства зможа яго звольніць, калі знойдзе гэта для сябе патрэбным.

— Мы не пачнем працаваць, мы нават не сыйдзем з гэтага месца, пакуль нашы патрабаванні не задаволяць!—пачуліся крыкі.

— А я вам прапаноўваю,—сказаў галоўны дырэктар,—альбо пайсці на работу, альбо пакінуць тэрыторыю фабрыкі.

Рабочыя не паслухаліся і засталіся перад канторай. Не падзейнічала на іх нават аб'ява, якую выклеіў Тфэльд. У ёй гаварылася, што тыя, хто не выйдзе да 4 жніўня на работу, звальняюцца. Дзвінцы па-ранейшаму патрабавалі. Без поспеху зварачваўся да іх і фабрычны інспектар, які нібы лепшы сябра лісліва перасцерагаў, што забастоўка караецца па арт. 51 і па арт. 1358 Свода Законаў Расійскай імперыі.

— Аддайце нашых людзей і ўбярыце Прун'е! Толькі пасля гэтага пачнем работаць!—патрабавалі па-ранейшаму двінцы.

Тады Тфэльд зноў выпатрабаваў паліцыю. Неўзабаве стражнікі нагайкамі выгналі рабочых з фабрычнага двара на вуліцу, але яны не здольны былі замяніць іх ля машын. Фабрыка спынілася. Так пачалася забастоўка.

„Дзвіна" бастуе!—абудзіў раніцой арыштаваных радасным крыкам Дзедзінкін. Тыя рынуліся да вокан і зірнуўшы праз іржавыя краты таксама абрадаваліся. Яны ўбачылі за горадам паміж званіцай Маркава манастыра і Юр'евай Горкай высокі фабрычны комін. Заўсёды гэты комін зацягваў неба Маркаўшчыны густым чорным дымам, але сёння ён не дыміў. Адшураваў у топках ланкашырскіх катлоў Гараськін бацька.

— Эх, каб не гэтыя краты, ды каб яшчэ крыллі, паляцела-б здаецца туды,—сказала Рыбакова.—Хочацца быць цяпер разам з нашымі. Хочацца падрабязна ўсё ведаць пра іх.

І нечакана дзяўчына ўбачыла ў слухавым вакне на даху процілеглага дома дзвінскага каменшчыка Івана Шнідрэ, які не адрываў вачэй ад вакон арыштоўні, нібы шукаючы кагосьці. Заўважыўшы Рыбакову, каменшчык цёпла ўсміхаючыся закрычаў:

— Фабрыка стаіць. Патрабуем ад пузатых, каб вас вызвалілі і звольнілі Прун'е! Трымайцеся, браткі! Мы вас падтрымаем!

— Хто крычыць?!—загарланіў на двары арыштоўні гарадавы, але арыштаваныя, адыйшоўшы ад вокан крычалі каменшчыку:

— Не паддавайцеся на іхнія вудачкі! Наша возьме!

А ўвечары Шнідрэ прынёс арыштаваным з Маркаўшчыны вялікі хатыль і некалькі рублёў грошай. Самі галадуючы, забастоўшчыкі пасылалі арыштаваным хто капейку, хто дзве, хто тры, хто скібку хлеба, хто кавалак сала. Дзяліліся апошнім, бо ўжо на другі дзень забастоўкі Маркаўшчына галадавала.

У слабадзе налічвалася шмат дробна-гандлёвых крам. Карысталіся шырокай вядомасцю гандляры Савіцкі, Рублёўскі, Калістаў, Булайшчыха і іншыя. У кожнай з гэтых крам вісеў абраз і гандлявалі тут па божаску, а іменна абдзіралі рабочых як ліпку, але ўсё-ж ніякі гандляр так не грабіў іх, як фабрычная крама.

Фабрычная крама адчынілася ў Маркаўшчыне ў 1906-м годзе.

— Я гляджу на гэтую краму, як на дабрачыннасць з боку дырэкцыі да рабочых,—пісаў дырэктар Тфэльд віцебскаму губернатару хадайнічаючы аб тым, каб краму вызвалілі ад падаткаў. Нават

Казённай Палаце гэтая просьба здалася нахабнай і яна наклала на ёй рэзалюцыю:

*„Хадайніцтва аб вызваленні ад падатку пакінуць без увагі, бо крама дзейнічае не толькі ў інтарэсах рабочых, але і ў інтарэсах самога фабрычнага прадпрыемства“.*

Ї сапраўды ў руках дырэкцыі крама з'яўлялася найлепшым сродкам барацьбы з дзвінцамі. Калі гандляры Савіцкі і Рублеўскі, Калістаў і Булаўшчыха прадастаўлялі крэдыт толькі майстрам ды ганялам, дык фабрычная крама прадастаўляла яго ўсім рабочым незалежна ад іх заработку. Часам здаралася, што крэдытуемыя на працягу некалькіх месяцаў зусім грошай не атрымоўвалі, бо ўсё ішло на пакрыццё крэдыта. І на першы-жа дзень забастоўкі дырэкцыя зачыніла фабрычную краму, чым моцна ударыла па найменш забяспечанай рабочай большасці.

Цяжка прыйшлося дзвінцам. На вуліцах слабады ў тыя дні можна было пачуць, як крычалі дзеці:

— Матка, скібку хлеба? Ну, хоць маленькую? Дай матка? Дай?

— Цыц! Пачакай крыху,—атрымоўвалі яны ад бацькоў, сэрцы якіх ад гэтага ляманту абліваліся крывёю. І там дзе чуўся гэты крык заўсёды з'яўляўся, як каршак над птушанятамі, Міхаіл Магучы.

— Крычаць? Га?—нібы спачуваючы зварачваўся ён да той ці іншай гаротнай, маткі.—Дзеткі галадуюць? А грошы-ж проста на вуліцы валяюцца.

— І ты многа іх назбіраў?—пыталі ў яго.

— Ды яны мне і не патрэбны,—адказваў правакатар.—А вось вы іх атрымаеце сёння-ж увечары, калі пойдзеце выматваць мокрую пражу. Пан дырэктар баіцца, каб яна пад-час забастоўкі не сапсавалася і плаціць удвайне больш як звычайнае.

У адным месцы акцябрыста за такую прапанову моцна апляву шылі. Гэта зрабіла Стэпаніда.

— Рабочыя бастуюць, а я ім нож у спіну пачну ўсаджваць? Ах, ты, падлюга!—крычала яна наўздагон Магучаму, які пайшоў ад яе, трымаючыся рукой за адразу пачырванелую шчаку.

На дапамогу правакатару прыйшло чорнае манастырскае груганнё. У бліжэйшую нядзелю архімандрыт у сваім казанні гаварыў:

— Навошта хвалюецеся, нечэсцівыя? Чаго шукаеце ўсуе? Чулі сёння ў евангеллі? „Блажэнні кротцыі, яко тыя наследуюць землю“.

Штрэйкбрэхеры выматалі ўсю мокрую пражу, і гэтым часткова сарвалі забастоўку. Абураныя дзвінцы пайшлі на фабрыку, каб выгнаць з цэху здраднікаў, але ля варот іх затрымалі чаркесы, Усё-ж рабочыя праніклі на фабрычны двор з боку складу № 30. Падыйшоўшы да матальнага цэха яны нічога не ўбачылі ў ім, бо вокны былі замазаны крэйдай, але выразна пачулі шум матавіл. Тады пачалі шпурляць у вокны каменне з крыкам:

— Юды! За трыццаць сярэбранікаў братоў прадаеце!

Маркаўшчына галадала, але трымалася. Найбольш забяспечаныя слесары і пакоўшчыкі дапамагалі найменш забяспечаным ватэршчыкам і матальшчыкам. І ў той час, як у прадмесці

Віцебска слабадзе Маркаўшчыне пакутвалі галодныя дзеці ў газеце „Віцебскія Губернскія Ведамасці“ адзначалася:

З дазволу пана віцебскага губернатара пачаў дзейнічаць часовы дамскі камітэт „Віцебск-Месіна“, які мае сваёй мэтай дапамагчы ахвярам землятрасення ў Італіі.

Губернатар барон Гершаў-Флотаў—50 руб.
Епіскап Серафім— —20 руб.
Архімандрыд Пантэлеймон —10 руб.
Дырэктар фабрыкі „Дзвіна“ Тфэльд—5 руб.

І ў тыя-ж самыя дні нелегальны зборшчык для галоднай Маркаўшчыны каменшчык Шнідрэ пісаў на кавалках пакавальнай паперы:

Завод Грынберга —8 руб. 30 кап. і пуд хлеба
Завод „Левенбрэй“ —6 руб. 12 кап. і 30 куханаў
Батракі з маёнтку Язоўнева —42 кап. і 10 фунт. цыбулі
Слесар Крукоўскі—мерку бульбы
Каваль Галай —10 фунтаў капусты. і т. д.

Маркаўшчына трымалася, але на пяты дзень арыштаваныя з болем заўважылі над яе комінам дым. Гэты дым усё-ж не прымусіў Дзедзінкіна прасіць даравання. Ён як раз у гэты дзень на допыце паказаў:

„Я працую на ільнопрадзільні „Дзвіна“ ўжо чацверты год. Да 9 студзеня г. г. тэхнічным дырэктарам быў у нас Мартыні і быў ён чалавек больш-менш не дрэнны і патрабаванні прад'яўляў да рабочых умераныя. Новы-ж дырэктар Прун'е хацеў, каб ватэршчыцы працавалі адначасова не на адной машыне, як дагэтуль, а на двух. Ён заўсёды ўказваў, што шмат ёсць на фабрыцы лішніх рук рабочых і таму змяншаў іх колькасць. Ён таксама біў жанчын і дзяцей. За ўсё гэта рабочыя і былі нездаволены Прун'е“.

Дзедзінкін, Рыбакова і Казлоў на допытах ні аб чым не прасілі, што злавала следчых. Але затое браты Шаўнёвы, падбухтораваемыя Ероцкім, падалі просьбу на імя губарнатара:

*„Слёзна ўмаляем ваша прэвасхадзіцельства злітавацца над намі нешчаслівымі. Мы работалі на ільнопрадзільні „Дзвіна“ і зусім выпадкова апынуліся ў натоўпу, калі глупыя дзеўкі рашылі пакараць дырэктара. Злітуйцеся над намі і адпусціце нас дамоў, каб мы за вас малілі бога і прымусілі маліцца і дзяцей сваіх“.*

У той час, як Ероцкі з Шаўнёвымі прасілі літасці ў прэвасхадзіцельства, бацькі Марозава і Грышчэнкі, сяляне прыгараднай вёскі, валяліся ў нагах у прэасвяшчэнства. Цалуючы пухлыя рукі і падалы шоўкавай расы архімандрыта Панталеймона, яны прасілі:

— Ваша прэасвяшчэнства, мы-ж не фабрычныя, а манастырскія. Вёска наша здавен-даўна на манастырскай зямлі ляжыць. Дзяды нашы манастырскія прыгоннікі. Вы наш маліцвеннік перад богам і вы так блізкі да губернатара. Пахадатайнічайце за нашых няпоўналетніх дзяцей?

Пантэлеймон кожны раз заклікаў да цярпення, благаслаўляў і абяцаў. Толькі тады калі з Марозава і Грышчанкі знялі допыты, ён папрасіў за іх і ім скарацілі арышт на два месяцы. Пазней, калі арыштаваныя былі вызвалены, архімандрыт сказаў у Маркавым манастыры казанне:

— Бачыце, які вялікі промысел боскі. Бог вызваліў вашых чад і вы бацькі павінны пакі і пакі падзякаваць госпада бога...

Дзедзінкін, Рыбакова і Казлоў прасядзелі ў арыштанцкім доме тры месяцы. Увесь час дзвінцы падтрымлівалі з імі цесную сувязь. Зборшчыкі кожную палучку збіралі для іх па цэхах грошы. Нарэшце прыйшоў дзень вызвалення. Рыбакову і Казлова накіравалі па этапу на радзіму—першую ў Мітаву, другога ў Кастраму. Складаны шлях прайшла пасля Рыбакова і вызваленая рэвалюцыяй з турмы зноў з'явілася на фабрыцы. Далейшы лёс Казлова невядомы. Радзімай Тараса Дзедзінкіна была Віцебшчына, але ніхто пасля ў Віцебску яго не бачыў.

Забастоўка скончылася няўдала для рабочых. Прун'е застаўся на фабрыцы. Два тыдні пасля „паездкі ў Конга" ён прахварэў і нарэшце зноў з'явіўся ў цэхах. Маленькая група падхалімаў на чале з Магучым сустрэла яго крыкамі:

— Ура! Наш дырэктар! Качаць яго! Качаць!—але калі Карл Людвігавіч прыйшоў у свой кабінет у канторы, ён убачыў на стале пісьмо:

*Слухай, пузаты гад!*
*Альбо кідай фабрыку альбо мы табе спусцім на галаву трохпудовую гіру.*

Пасля гэтага Прун'е пачаў заўсёды хадзіць па цэхах з майстрамі і толькі праз іх аддаваць загады рабочым. Па цэхах ён заўсёды праходзіў ранейшай упэўненай паходкай, хаця і чуў часам ззаду:

— Дырэктар чамусьці пяшком ідзе і мех забыўся з сабой узяць.

Толькі як даходзіў да ватэрнага цэха, Карл Людвігавіч не гледзячы на сваю паўнату пралятаў праз яго куляй. Наўздагон яму з праходаў паміж машынамі крычалі:

— Ату яго! Ату гада!

Віцебск, 1937 г.

*Віктар Гольцаў*

# ПОШУКІ РУСТАВЕЛІ

Летам 1935 года разам з паэтамі Сіманам Чыкавані і Міколам Бажаном мы рабілі падарожжа па Месхэтыі. За Ахалцыхам дарога зноў наблізілася да Куры—вузкай і нямнагаводнай у вытоках, а потым перакінулася на другі бераг рэчкі і стала віцца ўздоўж суровых, бязлесых, бязлюдных узгор'яў. Абломкі шэраватых скал, што ляжалі на воддаль і нібы зрываліся ўніз, можна было палічыць за статак авечак, якія адпачываюць у поўдзень. А нерухомыя авечкі з сваімі сабакамі і пастухамі падобны былі на абпыленыя камені. Нечакана насустрач пачулася вясёлая песня—то нашы пагранічнікі ў зялёных фуражках спяшаліся кудысьці на грузавіку. Потым мы адчулі зноў пустынную цішыню, якая стаяла навокал. Сяленні, падобныя на аазісы, пападаліся рэдка. Праязджаючы паміж іх, мы бачылі, як маўклівыя людзі спакойна знімалі з дрэваў, якія гнуліся ад цяжару, спелыя плады. Мы ехалі па радзіме Шота Руставелі. Тут у сярэднія вякі была асяродкавана культура грузінскай дзяржавы, тут узвышаліся гарады, цытадэлі, манастыры. Тут жылі філосафы, мастакі і паэты. Вядомая царыца Тамара любіла ездзіць на поўдзень—у Вардзійскі Пячорны манастыр. У адхоне над Курою там захавалася больш трохсот многаярусных пячор. З пячорных царкоўных сцен і сёння паглядаюць аблупленыя твары святых з белымі вачамі, выкалатымі коп'ямі іншаземцаў. І сама Тамара ў цяжкім адзенні стаіць на фрэсцы так, як некалі задумаў невядомы мастак. Праз шырокі праход, прабіты ў скале, мы пранікалі да прахладнай вады падземнага Вардзійскага калодзежа. Мусіць, не раз праганяў там сваю смагу сам вялікі Шота.

Але я троху захапіўся і забег наперад. Аб Вардзіі трэба пагутарыць асобна. Пакуль мы ўсё яшчэ рухаемся па праваму берагу Куры, між Ахалцыхам і Аспіндзай. Вось узнікае з боку маленькае сяленне з малюсенькімі домікамі, якое прытулілася да яблынь і пірамідальных тапалёў. Не малады вусаты шофер убаўляе ход.

— Руставі,—з спакойнай гордасцю кажа ён, паказваючы налева. І дадае:—А вось гэты вялікі круглы ўзгорак пасярод поля—магіла Шота Руставелі.

Сіман Чыкавані ледзь усміхаецца ў адказ. Сапраўды: гістарычная памяць не захавала нічога бясспрэчнага аб жыцці і смерці Руставелі. На грузінскай зямлі размешчана некалькі сяленняў, якія носяць свяшчэнную назву Руставі. І ўсё-такі: ну як-жа нам не хвалявацца? Трэба думаць, што Руставелі нарадзіўся іменна тут, у Месхетыі, у гэтым самым Руставі, якое зараз перад намі. Няхай не

захаваўся яго дом, няхай засталася невядомай яго магіла, але ўсё-ж мы па асаблівому успамінаем на старажытнай месхецкай зямлі сціплыя словы, якія заключаюць незвычайную паэму аб тым „што носіць тыгравую скуру".

* * *

Набліжаецца вялікая гадавіна. Зразумела, 750-годдзе з дня нараджэння найвялікшага паэтычнага генія Грузіі—такая-ж умоўная дата, як дзень смерці Фірдаусі і многіх другіх вядомых людзей. Вядомы грузінскі гісторыограф Платон Іосселіані адносіў нараджэнне Руставелі да 1174 года, яго смерць—да 1212 года. А калі Канстантын Бальмант у 1916 годзе пісаў прадмову да свайго перакладу дзесяці песень „Вепхіс-ткаосані", яму сказалі, што Руставелі нарадзіўся ў 1172 годзе, памёр у 1216 годзе. Цяпер год нараджэння Руставелі ўмоўна лі-чаць 1187. Вядома, нельга не шкадаваць, што ў нашых руках няма біяграфіі творца „Той што носіць тыгравую скуру". Дзівосныя грузінскія летапісцы, якія пісалі на пергаментах „Картліс-ховрэба", захавалі маўклівасць аб ім. Грузінскі народ стварыў цудоўныя легенды аб народжаным ім паэце, акружыў імя паэта вялікай цяплынёю і любоўю. Нашы сучаснікі шукаюць вестак аб Шота Руставелі, імкнуцца ўлавіць хоць-бы слабы водгук мінулай эпохі, углядаюцца ў кожны старажытны след, можа быць пакінуты геніяльным паэтам за сем стагоддзяў да нас. Мы ведаем, што бясспрэчныя, але вельмі недастатковыя весткі аб творцу „Вепхіс-ткаосані" можна знайсці толькі ў самой паэме. Ён жыў на рубяжы 12-13 стагоддзяў. Гэта вядома хоць-бы вось чаму: васпяваючы ў сваім уступе і заключных строфах „Царыцу Тамару і яе мужа Давіда Саслані, паэт гаварыў аб іх, як аб сваіх сучасніках".

Але нават і гэта аспрэчваецца некаторымі вучонымі: нябожчык акадэмік Н. Я. Марр высунуў гіпотэзу, што Руставелі і Чахрухадзе, одапісец часоў царыцы Тамары—адзін і той-жа самы. А адзін буйны грузінскі вучоны нядаўна нават дапусціў своеасаблівае меркаванне, што Руставелі жыў... у XIV стагоддзі.

Дык вось: у Шота Руставелі няма біяграфіі; вучоныя губляюцца ў здагадках: калі ён і кім ён быў; у яго няма абрысаў твару, бо ніхто не паручыцца, што старажытная мініятура XVII стагоддзя адлюстроўвае іменна яго; а можа барадаты чалавек у механай шапцы, які сядзіць на зялёным каўры і піша залатым пяром— толькі ўяўны партрэт паэта?

Словы—за спецыялістамі. Што яны павінны даць чытачам СССР? Раней за ўсё, нам неабходна даведацца аб тым нямногім бясспрэчным, што наогул вядома аб жыцці і творчасці Руставелі, пакінуўшы пакуль што ў баку ўсялякія спрэчкі некаторых спецыялістаў, напрыклад: аб тым ці быў паэт маніхейцам, ці не. Потым, неабходна атрымаць марксісцкае асвятленне эпохі Руставелі, фактычныя дадзеныя аб культурна-палітычным жыцці ў Грузіі ў XII-XIII стагоддзях. Бо большасць нашых чытачоў зусім нічога не ведаюць аб ёй. Далей, мы чакаем глыбокага аналіза палітычных, філасофскіх і эстэтычных поглядаў вялікага Шота, а таксама дэталёвага разбору самой паэмы. Да гэтага часу нашы чытачы маюць вельмі цмя-

нае ўяўленне аб руставелеўскім вершы, які адрозніваецца непраўзойдзеным майстэрствам. Неабходна таксама, каб перад намі быў праследжаны ўплыў Руставелі на паследуючую паэзію Грузіі. Акрамя таго неабходны тлумачэнні тэкста паэмы, расшыфроўка мноства сымбаляў, алегорый, мала зразумелых месц. Напрыклад, чытачу— не грузіну застаецца незразумелым, што такое каджы—злыя чалавекападобныя істоты. Альбо чаму Фацьма Хатун валодала ўладаю над калдуном, які лётаў у паветры і бесперашкодна праходзіў праз вароты цытадэлі? Зрэшты, мы чакаем канчатковага ўстанаўлення кананічнага тэкста паэмы. У прыватнасці, нам хацелася-б хутчэй даведацца, ці апраўдана бясспрэчнае ўключэнне ў кананічны тэкст трох частак аб сумесным паходзе Тарыэла, Аўтандзіла і Прыдона ў Індыю. Як вядома, у выданні Вахтанга VI 1712 года гэтыя часткі адсутнічаюць зусім. Рэдактар апошняга грузінскага выдання паэт Канстанцін Чычынадзе лічыць, што гэтыя часткі безумоўна належаць пяру Руставелі. Затое шэраг іншых спецыялістаў (прафесар Паўле Інгороква, дацэнт Саламон Іорданішвілі і інш.) схільны ацэньваць іх, як паслядоўную інтэрпеляцыю. А ўсялякіх уставак і дапаўненняў было мноства. У вельмі цікавым рукапісным тэксту XVII стагоддзя, які мне паказвалі ў Тбілісі, ёсць нават малюнкі, якія ілюструюць яскрава апокрыфічны працяг „Вепхіс-ткаосані", напрыклад, смерць састарэлых Тарыэла Нестан-Дарэджан.

Паўтараю, слова—за грузінскімі літаратуразнаўцамі. Пакуль мы маем на рускай мове цікавыя артыкулы Геронці Кікодзе, праф. Шалва Нуцубідзе, Канст. Чычынадзе і яшчэ сёе-тое. Гэтага мала. Ды і нам, рускім літаратарам, час ужо падзяліцца сваімі ўражаннямі ад чытання „Той што носіць тыгравую скуру", калі не ў арыгінале, дык у поўных перакладах Канстантына Бальманта, Георгія Цагарэлі і заўчасна памершага Пантэлеймона Петрэнко. Асобныя песні паэмы перакладалі С. Шарці, С. Клычкоў, С. Канчэлі, А. Чачыкаў, О. Румер. Трэба вітаць усе пошукі, усе сур'ёзныя спробы хоць-бы часткова перадаць на рускай мове цудоўны непадражальны руставелеўскі верш. А слабым паэтам лепш за ўсё не брацца за гэтую адказную справу. Як відаць, у нас у СССР пальма пяршынства павінна быць прысуджана Міколу Бажану, які ўжо скончыў добры поўны пераклад „Вепхіс ткаосані" на украінскую мову. Між іншым, арганічна адчуць асобу і паэзію Руставелі яму дапамагло падарожжа па руставелеўскіх месцах.

Мы ведаем, што „Вепхіс-ткаосані" перакладаецца і на другія мовы брацкіх народаў. Вельмі прыемна, што мноства чытачоў адразу захапілася чытаннем бессмяротнай паэмы, якою нездарма ганарыцца ўся Грузія. Трэба адзначыць бясспрэчную, глыбокую і сур'ёзную цікавасць да тварца „Той што носіць тыгравую скуру". Усё гэта ізноў сведчыць аб тым, што на аснове ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі партыі ў нас зусім канкрэтна ўзмацнілася небачаная дружба народаў СССР. У такіх умовах набліжаючыяся руставелеўскія юбілейныя ўрачыстасці робяцца не толькі вялікай літаратурнай падзеяй ордэнаноснай Савецкай Соцыялістычнай рэспублікі Грузіі, але і ўсесаюзным святам культуры.

## II

Многія чытачы захоплены геніем Руставелі. Хоць-бы па далёка не конгеніяльных перакладах яны пазналі поўнацэннасць і дзівосную шматвобразнасць зместу яго паэмы. Іх здзіўляе незвычайнасць чалавечых характараў, сустрэч і падзей, абаяльны лірызм і эпічная сіла, глыбіня думкі, гучанне верша, яркасць вобразаў і метафар. Яны не могуць не цаніць своеасаблівае спалучэнне суровай простай героікі, вобразаў высокай мужнасці з дзівоснай казачнасцю і самымі тонкімі дзівоснымі вобразамі жаночай прыгажосці.

Ці запазычаны сюжэт паэмы? Сам аўтар яе заяўляе ў сваім уступе, што ім былі выкарыстаны некаторыя творы іранскай літаратуры, напрыклад, „Сказку персов, их намеки, влил в грузинские я строки“*). Аднак, да нас не дайшоў ні адзін іранскі тэкст калькі-небудзь выразна напамінаючы „Вепхіс-ткаосані“. Усе пошукі спецыялістаў не мелі вынікаў.

Якая тэма праходзіць праз усю паэму, гучыць у ёй як лейтматыў вялікай сімфоніі?—Тэма вернасці, поўнай непарушнасці дружбы герояў і вялікага кахання. Малады і цудоўны арабскі военачальнік Аўтанзіл, які прапанаваў сваю дружбу яшчэ больш цудоўнаму індыйскаму віцязю Тарыэлу, застаецца верным яму ва ўсіх жыццёвых іспытах. Тое самае можна сказаць аб узаемаадносінах харобрага уладарца Мульгазангары цара Прыдона з Тарыэлам і Аўтандзілам. Васал Аўтандзіла Шэрмадзін непарушна захоўвае да яго сваю адданасць, у той час, калі той прымушаны знікнуць з роднай краіны на тры гады. Калі Тарыэл і цудоўная індыйская царэўна Нестан-Дарэджан пакахалі адзін другога, дык гэтае поўнацэннае каханне пранізвае ўсю іх істоту; яно не паслабляецца, не гледзячы на доўгі адчай, невядомасць і ўсе горачы разлукі. Каханне маладой арабскай царыцы Тінатін таксама застаецца непарушным. Надзвычайна захапляючы вобраз Асмат, сяброўкі служанкі Нестан, здаецца нам нібы не раскрытым у паэме да канца; быць можа Асмат была патайна закахана ў Тарыэла; але цэлае дзесяцігоддзе, якое правёў Тарыэл у журбоце і бясплённых пошуках, яна была герою вернай уцехай і сястрою.

Параўноўваючы „Вепхіс-ткаосані“ з „Божественной поэмой“ Дантэ і з вершамі Петраркі, Канстанцін Бальмант пісаў: „Гэта лепшая паэма кахання, якая калі-небудзь была створана ў Еўропе.**) Сапраўды, у велізарным уступе да паэмы і ў самым паэтычным апавяданні Руставелі разгортвае свае ўяўленні аб каханні. Ён нястомна кажа аб незвычайнасці чалавечых пачуццяў, аб невычэрпнасці вялікага і высокага кахання, якое з'яўляецца вытокам свету, „любовь возвышает“; яна знамянуе сабою асобную мудрасць і

*) Усюды, за выключэннем асобна абмоўленых месц, мы карыстаемся перакладам К. Бальманта.

**) Паэма Руставелі. Прадмова да поўнага перакладу яе. Гл. выданне юбілейнага камітэта пры Саўнаркоме ССРГ, Тбілісі, 1935, стар. 8. У выданні „Академия“ (м. 19[illegible]6 г.) і ў паўторным яго выданні Дзяржлітвыдата (м. 1937 г.) гэта прадмова скарочана.

натхненне. Той, хто сапраўды кахае альбо закаханы, належыць, па думцы паэта да ліку „озаренных“ людзей.

У народных паданнях Грузіі Шота Руставелі звычайна паказаны безнадзейна закаханым у царыцу Тамару. Быццам-бы нават з-за гэтага ён адышоў у адзін з іерусалімскіх манастыроў.

Вядомы грузінскі гісторыограф Платон Іосселіані ў сваёй працы аб Руставелі пісаў у 1870 годзе: „Цімафей мітрапаліт грузінскі ў XVII стагоддзі бачыў у Іерусаліме, у царкві святога крыжа, якая пабудавана грузінскімі царамі і магілу яго, і партрэт яго на сцяне храма ў власяніцы падвіжвіка“.*)

Хто ведае, ці праўдзівае гэтае старажытнае паданне? Ці не наблытаў мітрапаліт Цімафей? Але ва ўступе да паэмы ёсць такое месца:

> Той, чей голос—звон свирели, нить свивая из кудели,
> Песнь сложил я, Руставели, умирая от любви.
> Мой недуг—неизлечимый. Разве только от любимой
> Свет придет неугасимый, или, смерть, к себе зови.

Далей Руставелі зноў і зноў пацвярджае, што закаханы павінен быць упартым, гатовым да гора і да выпрабаванняў з тым, каб усё перамагчы:

> Кто упорен в чувстве жадном, он пребудет постоянным
> Неизменным, необманным, гнет разлуки примет он.
> Тот, кто знал лишь сладость взгляда, ласки лишь—не любит он.

Партрэтызуючы і характарызуючы сваіх асноўных герояў і гераінь, перадаючы іх думкі і апісваючы іх паводзіны, Руставелі паказвае нам розныя абліччы кахання. Тінатін увасабленне цудоўнай і разумнай жаночасці. Яна і Аўтандзіл любяць адзін другога каханнем дзівосна спакойным і ясным. Яны абодвы ўсё сказалі адзін другому, усё шчасліва прадвырашана, іх нішто не падзяляе і не мучыць. Калі ў імя вялікай дружбы ім суджана разлука—яны гатовы цярпліва чакаць сустрэчы. Каханне Нестан-Дарэджан і Тарыэла зусім іншае—надзвычай напружанае і нестатычнае. Абодвы яны тыповыя „міджнуры“—вельмі закаханыя. Іх каханне поўнае горкасці, невядомасці і трывогі, суправаджаецца надзвычайнымі падзеямі. Пры ўсім сваім дзівосным абаянні, Нестан праяўляе часам своеасаблівую мужнасць, прадпрыймальнасць, смеласць; у гневе яна робіцца падобнай на раззлаваную пантэру альбо тыгрыцу. Толькі звярнуўшы ўвагу на гэтыя своеасаблівасці Нестан, чытачы змогуць як след зразумець самую назву паэмы Руставелі і вобраз асноўнага героя. Чаму Тарыэл увесь час носіць на сабе тыгравую скуру?—Вось іменна таму, што яна напамінае яму аб яго каханцы, былой дзікай і несутрымнай у гневе.**)

---

*) *П. Іосселіані.* Шота Руставелі, стар. 6. Асобны адбітак, які ўяўляе сабою перадрук з газ. „Каўказ“, прадастаўлены мне дац. С. Г. Іарданьшвілі.

**) Гэтае тлумачэнне дадзена ў самым тэксце „Вепхіс-ткаосані“, але Бальмант пераклаў гэтае месца з песні недасканальна і неясна. Уласна кажучы, герой носіць кафтан, які пашыты з скуры тыгра. У кафтане ён паказаны на старажытных мініатурах.

Зусім у іншых танах чым Тінатін і Нестан паказана Фацьма Хатун, жонка купца Усеня з прыморскага горада Гуляншаро. Яна жыве нестала і „свабодна“, часта захапляецца, мае любоўнікаў і не клапоціцца аб сваёй маральнай вышыні. Руставелі падкрэслівае, што абраны ёю шлях абяцае ў выніку непрыемнасці, гаркоты і пакуты.

Аб чым кажа тут мудры паэтычны геній Грузіі, аддалены ад нас сямю вякамі? Аб простай і вялікай праўдзе, аб тым, што чалавек знаходзіць радасць, весялосць і сапраўднае шчасце толькі ў паслядоўнай барацьбе, захоўваючы вернасць і пастаянства. Руставелі нястомна васхваляе гераізм, мужнасць і ўпартасць у чалавеку. Уся яго паэма, не гледзячы на яе казачнасць і нават фантастычнасць, глыбока рэалістычна, поўна велізарнай жыццерадаснасці і ўпэўненасці ва ўрачыстасці разумных сіл чалавека.

Вось таму ў нашу гераічную эпоху, у нашай вялікай савецкай краіне яна набывае асаблівае гучанне.

І тут мы шчыльна падыходзім да пытання *аб гуманізме* Шота Руставелі. І нездарма напрошваліся не раз параўнанні яго паэмы з творчасцю вялікіх італьянскіх паэтаў і мысліцеляў, у асаблівасці — Дантэ і Петраркам. Руставелі быў нібы вяшчуном магутнага гуманістычнага руху, які ахапіў у хуткім часе большасць краін Заходняй Еўропы, а часткова і краіны Бліжэйшага Усходу. Ен нязменна захапляўся чалавечым розумам і не бачыў мяжы магчымасцям адукаванага чалавека. Ен адстойваў свабоду індывідуальных імкненняў. Адкідаючы архаічныя ўяўленні, ён агалашаў раўнапраўе полаў, роўнасць між жанчынаю і мужчынам. Ен не толькі ўсхваляў каханне, але і праяўляў у паэме велізарную любоў да людзей.

Гуманістычныя ідэі паэта выяўляюцца хоць-бы ў павучаннях арабскага цара Ростэвана сваёй дачкі Тінатін. Яго вуснамі аўтар заклікае да літасці, да неабходнасці быць добрым да малых, раіць „наклоняться к усталым“, кажа аб „добром усердии“ і шчодрасці, якія падпарадкуюць сэрцы: „что ты спрятал—то пропало. Что ты отдал, то твое“. (Песня 1). Па волі Руставелі індыйскі цар Парсдан, бацька Нэстан-Дарэджан абыходзіцца з пераможаным хатаўскім уладцам літасліва і нават спачувае яму. А Тарыэл заяўляе: „Если храбрость не сурова, доблесть высшая есть в том“ (Песнь XI).

Аднак, трэба адзначыць: апісваючы харобрасць, сумленнасць і наогул маральную вышыню сваіх герояў, Руставелі часам упадае ў прыкметныя супярэчанні. Побач са з'яўленнем гуманістычнай мяккасці, мы знаходзім у паэме рысы незвычайнай жорсткасці. У вобразах Тарыэла і Аўтандзіла можна заўважыць нейкую двоістасць. Абодвы героі надзвычай чулыя, нават сантыментальныя і заўсёды праліваюць цэлыя патокі слёз. Разам з тым, Тарыэл не задумваючыся доўга, нечаканым здрадніцкім ударам забівае абяззброенага Хваразамскага царэвіча. А той быў вінаваты толькі ў тым, што цар Парсадан парашыў зрабіць яго мужам Нестан-Дарэджан. Далей Тарыэл (не зразумела нават чаму) спрабуе ашукаць і ўпэўніць Парсадана, што яму непатрэбна царская дачка і што яго прэтэнзіі носяць толькі чыста палітычны характар. Што датычыцца Аўтандзіла, дык ён, жадаючы вызваліць з бяды Фацьму-Хатун паспешна

забівае яе жорсткага любоўніка Шах-Нагіра, але зноў-такі не ў сумленным паедынку, а ноччу, у пасцелі. Потым Аўтандзіл спакойна адрэзвае ў забітага палец з пярсцём, каб Фацьма магла адразу ўпэўніцца ў тым, што пагражаючая ёй небяспека адхілена.

Руставелі нібы апраўдваў каварства і жорсткасць лепшых герояў сваёй паэмы. Гэта кажа аб тым, што пры ўсёй сваёй гуманістычнай адукаванасці і высокіх маральных патрабаваннях, ён усё-такі прызнаваў дапушчальнымі і разумнымі не простыя шляхі. Тут паэт аддаваў даніну свайму часу. Але паказаныя супярэчнасці не парушаюць асноўны гуманістычны характар паэмы Руставелі. Чытачам не цяжка пераканацца, што ў ёй адсутнічае ўсякая царкоўнасць. Кідаецца ў вочы тая цярпімасць, з якой ранні грузінскі гуманіст Руставелі гаворыць аб мусульманах. Бясспрэчна, што аўтар „Той што носіць тыгравую скуру“ не меў нічога агульнага з дагматычным і змрочным хрысціянскім мышленнем, з адцягнутай і сухой манастырскай схаластыкай. Творчая ўвага вялікага паэта Грузіі была звернута да рэальнага чалавечага жыцця, а не да якіх-небудзь тэм аб загробным існаванні, аб „страшным судзе“, аб „пекле“ і аб „раю“. Ў рознастайнейшых мастацкіх вобразах Руставелі паказаў, што арэнай дзейнасці людзей з'яўляецца зямля і толькі зямля. Здзіўляючым поўнакроўем і творчым здароўем вее са старонак „Вепхіс-ткаосані“.

У сярэднія вякі падобная свецкасць была вельмі рэдкай з'явай. Вось таму і не дзіва, што бліскучы твор Шота Руставелі быў сустрэты грузінскім духавенствам, як „еретическая“ кніга. Як вядома, большая частка першага друкаванага грузінскага выдання 1712 года была публічна спалена па ўказу каталікоса Грузіі Антонія I. Чытанне паэмы было забаронена. П. Іосселіані, будучы сам багабаязным царкоўнікам, пісаў з гэтае прычыны: „Народ шукаў у ім (г. зн. у Руставелі — *В. Г.*) мёду і знаходзіў атруту. Каталікос, якога многія не апраўдвалі, і не без падстаў, меў некаторае права, жадаючы накіраваць народ не на чытанне *забаўных* строф паэта, а накіраваць увагу ў вяшчаннях слоў веры ў Хрыста“ *). Цікава адзначыць, што сам гэты каталікос Антоній быў паэтам.

Захавалася паданне, што каталікос Іоані яшчэ пры жыцці царыцы Тамары „воздвиг гонение“ на вялікага паэта **).

## III

У народным паданні Шота Руставелі быў вядомы як прыбліжаны царыцы Тамары. Як быццам ён быў не толькі прыдворным паэтам, але і казнахавальнікам царыцы ***). Быццам-бы Тамара нала-

*) *П. Іосселіані*, там-жа, стар. 27—28.

**) *А. Хаханаў*, Энцыклапедыя Брокгауз—Эфрона, т. 53.

***) П. Іосселіані піша: „Аб Шота Руставелі вядома толькі тое, што ён вучыўся ў Афінах, ведаў мову персідскую і быў казнахавальнікам царыцы Тамары“. (там-жа стар. 5). Прафесар А. Хаханаў (Хаханашвілі) таксама ўказвае, што паэт быў казнахавальнікам гэтай царыцы і паведамляе, дадаткова без усякіх агаворак: „Мы маем подпіс яго на адным акце 1190 г.“ (гл. Большая Энциклопедия Брокгауз-Эфрон, т. 53, а таксама яго „Нарысы па гісторыі грузінскай славеснасці“, выпуск П. М. 1897. Выданне „Таварыства гісторыі старажытнасці Расійскай“).

дзіла ў гонар Руставелі велізарны турнір на Дзідубійскай раўніне, калі „Вепхіс-ткаосані“ быў скончаны. Быццам-бы яна вянчала паэта залатым вянцом, асыпала ўсялякімі міласцямі. Наўрад ці адпавядае гэта сапраўднасці. Многія грузінскія спецыялісты схільны думаць, што сучаснікі не лічылі Руставелі вядомасцю. Інакш бы хоць якія-небудзь гістарычныя весткі дайшлі-б да нас. „Слава вялікага паэта прышла да яго мусіць пазней, мінуўшы дзесяткі гадоў пасля яго смерці“, піша Канстанцін Чычынадзе *).

Не будзем дарэмна гадаць аб дэталях жыцця вялікага паэта. Пастараемся ўчытацца ў тэкст руставелеўскай паэмы, каб мець сабе ўяўленне аб палітычных поглядах аўтара. Гэта не так ужо цяжка зрабіць нават рускаму чытачу „Вепхіс-ткаосані“.

Паказваючы арабскага цара Ростэвана з яго пышным дваром альбо індыйскага цара Парсадана, альбо Мульгазанзаргскага цара Прыдона, Шота Руставелі ўсюды з пачцівасцю адгукаецца аб царскай уладзе. Паэт усхваляе мудрасць, справядлівасць і вялікасць законных уладарцаў. Для гэтага ён не шкадуе фарбаў. Па яго думцы ўсякае павяленне цара патрабуе безумоўнага выканання. Побач з ідэямі законнасці і абсалютызма, ён, безумоўна, праводзіць у паэме ідэю цэнтралізма. Дзяржава павінна быць цэльнай і адзінай. Асобныя феадалы, уладарцы правінцый і дробных „царств“, якія ўваходзяць у склад вялікай дзяржавы, павінны падпарадкавацца цэнтральнай уладзе. У 5-ай песні Тарыэл расказвае Аўтандзілу, як яго бацька, цар Сарыдан, уладарац аднаго з сямі індыйскіх царстваў, дабраахвотна прызнаў вярхоўную ўладу цара Парсадана і падпарадкаваўся яму. Апісваючы палітычнае аб'яднанне індыйскай дзяржавы, Руставелі, як факт вельмі важны, станоўчы і мудры, адзначае пастулак бацькі свайго любімага героя. Далей, у песнях 7, 9, 10 і 11 ён гаворыць аб барацьбе цэнтральнага ўраду Індыі з непакорным уладарцам Хатайі царом Рамазам, які адмовіўся падпарадкавацца Парсадану і плаціць яму даніну. У вышэйшай ступені характэрна, што ў шэрагу патрасаючых эпізодаў апісваецца спачатку—каварства Рамаза, а потым поўная перамога, якую атрымаў над ім Тарыэл. А ў трох апошніх песнях „Той хто носіць тыгравую скуру“ (якія не ўвайшлі ў Вахтангаўскую рэдакцыю) мы зноў знаходзім апісанне феадальных спрэчак у Індыі **). Той-жа самы Рамаз, выкарыстаўшы адсутнасць Тарыэла і смерць Парсадана сее смуту ў краіне і ўзурпіруе Індыйскі трон. Аднак, вярнуўшыся, Тарыэл без асаблівых цяжкасцей атрымлівае перамогу над Рамазам і аднаўляе законнае кіраванне.

Звернем увагу вось яшчэ на што: хоць Аўтандзіл парушыў волю свайго уладарца Ростэвана, толькі накіраваўшыся другі раз да Тарыэла, усё-ж такі ён неаднаразова падкрэслівае свае вернападаныя пачуцці. У песні 45 Аўтандзіл асабліва выразна заяўляе аб недапушчальнасці пасеяць спрэчкі з царом: „не могу на господина я, слуга, поднять меча“.

*) Шота Руставелі „Литературная газета“ 1936 г., № 2.

**) Трэба ўлічваць, што наўрад ці Руставелі імкнуўся даць зусім рэальнае і сапраўднае апісанне розных краін. Многае з'яўляецца ў паэме хутчэй мастацкім вымыслам, фантастычнымі вобразамі.

Разабраўшыся ў гэтых многалікіх апісаннях, мы можам вызначыць асноўныя палітычныя ідэі, якія настойліва прыводзяцца аўтарам: 1) асобныя ўладарцы павінны аб'яднацца вакол вярхоўнай цэнтральнай улады; 2) калі хто-небудзь з буйных феадалаў адмаўляецца падпарадкавацца главе ўсей дзяржавы—ён павінен быць прыведзены ў пакору, хоць-бы сілай зброі.

Падобны вывад, зроблены на аснове аналіза самога тэкста паэмы, набывае асобны сэнс, калі мы хоць-бы самым беглым поглядам акінем грузінскую соцыяльна-палітычную сапраўднасць XI-XII стагоддзяў. Бо пачынаючы з Давіда-Аднавіцеля (1089—1125 г.), які пачаў палітычнае аб'яднанне раздробленай Грузіі, усе грузінскія цары былі вымушаны ўпарта змагацца з буйнымі феадаламі. Падобна да цара Рамаза з „Вепхіс-ткаосані", тыя часта не жадалі прызнаваць вярхоўную ўладу грузінскага цара. І бацьку царыцы Тамары—Георгію III і самой Тамары неаднаразова даводзілася падаўляць феадальныя спрэчкі, робячы часам уступкі тым ці іншым феадалам. Такім чынам, Шота Руставелі паслядоўна праводзіў канцэпцыю неабмежаванай і цэнтралізаванай улады, фактычна надаваў сваёй паэме своеасаблівы, „злабадзенны", палітычна-актуальны сэнс.

Барацьба грузінскіх цароў за паўнату і цэнтралізацыю ўлады супроць неабмежаванага сваволства буйных феадалаў, барацьба, да якой далучыўся Руставелі, была прагрэсіўнай, бо старая замкнутая феадальная сістэма з перавагай натуральнай гаспадаркі тармазіла нармальнае соцыяльна-эканамічнае развіццё Грузіі, перашкаджала росквіту гандля, гарадскіх рамёслаў і г. д.

Трэба, таксама, звярнуць увагу нашых чытачоў яшчэ на адну акалічнасць. У першай песні „Той хто носіць тыгравую скуру" паэт дэтальна апісвае, як Руставелі, адчуваючы набліжэнне старасці, перадае свой прастол адзінай дачцы Тінатін. Прыдворныя адзначаюць мудрасць царскага рашэння і заяўляюць: „Льву величьем равен львенок, будь то самка иль самец" (пераклад Г. Цагарэлі). Інакш кажучы вяльможы прызнаюць поўную законнасць пераходу царскай улады не толькі да царскага сына, але і да „царскай дачкі.

Нажаль, Бальмант, як відаць, не зразумеўшы сэнса гэтага істотнага радка, пераклаў яго сапраўды кур'ёзна: „Уж когда в пещере львята—львица, лев вполне равны". Такім чынам, ён не толькі выдумаў нейкую „пячору", але зусім сказіў сэнс тэкста. А тут мы якраз знаходзім своеасаблівую палітычную актуальнасць: бо тое, што Георгій III памёр, не пакінуўшы пасля сябе сына і тое, што яго дачцы Тамары давялося заняць грузінскі трон, не абышлося без палітычных інтрыг і ускладненняў *). Як відаць, улічваючы складанасць гэтага пытання, Георгій III, яшчэ за пяць гадоў да смерці ў 1179 годзе узвёў на трон сваю дачку, зусім таксама,

* У далейшым вакол яе шлюбу з рускім царэвічам Георгіем, малодшым сынам Андрэя Багалюбскага разгарэліся палітычныя спрэчкі. Калі гэты шлюб быў расторгнуты, некаторыя грузінскія феадалы сталі падтрымліваць Георгія, які імкнуўся адваяваць свае „правы" на грузінскі прастол.

як і Ростэван пры жыцці зрабіў царыцаю Тінатін. Бяспрэчна, што кажучы аб вацарэнні Тінатін і аб тым, што жанчына-царыца не ўступае мужчыне-цару, Руставелі поўнасцю прызнае за царыцаю Тамарай права на прастоланаследдзе.

Пойдзем далей. Прызнаючы абсалютную царскую ўладу, Шота Руставелі ў многіх радках усхваляе дабрачыннасць цароў, іх свецкасць і гуманнасць, „бацькаўскую" мяккасць у абыходжанні з падданымі, нежаданне выкарыстоўваць жорсткія меры. Побач з гэтым усхваляецца іх тонкі густ, любоў да адменных задаволенняў, да песняў, да твораў мастацтва. Вось таму паэта можна лічыць як староннікa адукаванага абсалютызма.

## IV

Увесь тэкст паэмы сведчыць аб тым, што Шота Руставелі стаяў на высокай ступені культуры свайго часу. А час, у які жыў творца „Вепхіс-ткаосані", быў „залатым векам" грузінскай манархіі—перыядам найвышэйшага росквіту феадальнай Грузіі і яе найбольшай палітычнай магутнасці і культурнага ўздыму. Пасля многіх паспяховых войнаў Грузінская дзяржава значна павысіла свой эканамічны дабрабыт, у прыватнасці, яна атрымала магчымасць шырока развіць гандаль і з краінамі Заходняй Еўропы і з краінамі Азіяцкімі. Грузія ўвайшла ў сістэму міжнародных культурна-палітычных узаемаадносін, арэнай якіх з аднаго боку з'яўляўся Бліжэйшы Усход, а з другога Візантыя.

Грузінская паэтычная свядомасць, пераступіўшы праз вузка-нацыянальныя рамкі, бязмерна пашырылася. Невыпадкова пры чытанні „Той хто носіць тыгравую скуру" нас здзіўляе магутнае адчуванне шырыні зямлі. Велізарны свет, багаты, квятлівы і такі шматвобразны, з яго сушаю, марамі, рэкамі і ўсякім звяр'ём, заселёны многімі народамі, паўстае перад намі. Мы адрозніваем складаныя спалучэнні людзей у муках, бадзянні, якія ваююць і гандлююць у бясконцых прасторах. Праўда, у арабскіх, індыйскіх і іншых героях Руставелі звычайна прынята бачыць нацыянальных герояў Грузіі. Але калі гэта нават і правільна, дык па сутнасці не ўмаляецца свабодны універсалізм вялікага паэта, не парушаецца сусветна-гістарычная сутнасць яго мышлення.

Несумненна, што Шота Руставелі надзвычай характэрны для грузінскай соцыяльна-палітычнай рэчаіснасці XII-XIII стагоддзяў.

Вось што піша Канстантын Чычынадзе аб павышэнні цікавасці да мастацтва ў эпоху Руставелі:*) „Накопленыя багацці выклікалі ў пануючым класе павышаную патрэбу да дабрабыту жыцця і нават да раскошы. Феадальнае саслоўе перастала задавальняцца аднымі царкоўнымі песнапеннямі. Яно патрабавала ўсхваленне не толькі „божай дабраты", але і сваіх земных спраў. Яму патрэбна была вялікая люстра, у якім яно магло-б любавацца сваім, крыху ўпрыго-

*) Цытую яшчэ не апублікаваны на рускай мове артыкул.

жаным, адлюстраваннем. І такое люстра сапраўды з'явілася: гэта была паэма Руставелі, яна ўся прасякнута духам таго часу".

А прафесар Шалва Нуцубідзе падкрэслівае, што пытанне аб светапоглядзе найвялікшага паэтычнага генія Грузіі не з'яўляецца толькі пытаннем нацыянальна-грузінскай культуры. Вывучэнне гэтага пытання вельмі істотна для ўстанаўлення складаных шляхоў развіцця ўзаемаадносін розных культур. Светаназіранне Руставелі адлюстроўвае ў соцыяльна-класавых умовах Грузіі XII-XIII стагоддзяў шлях, пройдзены Грузіяй па лініі развіцця культуры ад 5-6 да 12-13 стагоддзяў. Значэнне паэмы Руставелі—у выяўленні ўсяго таго, што ў галіне духоўнай культуры было атрымана Грузіяй у рэзультаце спалучэння двух культур—Усхода і Захада" *). Упамінанне аб Платоне невыпадкова ў „Той хто носіць тыгравую скуру". У эпоху, папярэднюю з'яўленню паэмы, традыцыі антычнай філасофіі былі ўжо вельмі моцнымі ў Грузіі. Сутыкненне гэтых свецкіх традыцый з схаластычнай дагматыкай з'яўлялася адлюстраваннем барацьбы паміж адсталай феадальнай знаццю і прагрэсіўнымі элементамі Грузіі, да якіх як відаць належаў Шота Руставелі.

Адзначаючы, што Руставелі многае ўзяў з паэтычна-філасофскіх уяўленняў Усхода (ад індыйскай паэзіі Магабарата да Эльфарабі), праф. Нуцубідзе піша далей: „Руставелі дасягае здзіўляючай меры ў суадносінах паэтычнага і філасофскага. Ён перш за ўсё паэт, але ніколі не перастае быць мысліцелем. Сюжэт яго паэмы—гісторыя кахання, поўная ўсякіх трывог і імкненняў, але ў выніку асветленая светам сонечнасці і шчасця.

Ва ўяўленні паэта сонечны свет з'яўляецца вытокам сусветнага парадку. Недарма асноўныя, любімыя героі і гераіні Руставелі—Тарыэл і Нэстан, Аўтандзіл і Тінатін заўсёды ўзнагароджваюцца эпітэтамі, якія ідуць ад разумення сонечнага свету.

Уражаны раб кажа аб Тарыэлю, які сядзіць каля ручая: „Ослеплял он словно солнце, дивен будто колдовство" (Пераклад П. Петрэнка). Сам цар Ростэван усхвалёвана прыкмячае: „Шел сияньем над вселенной от него лучей поток" (Пераклад П. Петрэнка). Нестан-Дарэджан у пісьме да Тарыэла з Каджэтскай крэпасці самотна заяўляе: „Без тебя не будет солнца, ибо ты частица солнца". А ад асобы аўтара аб Тарыэлю гаворыцца, што ён „солнечного света ярче был".

Нестан Дарэджан, якая піша лісты свайму каханаму, упадабляецца паэтам промню, які ізлівае „слова-сияния". Тарыэл кажа аб ёй: „О свет высокий, проницавший синеву", ён паказвае яе як „высшее светило", называе „солнцеликой" і „солнцесветной". Тарыэл, Асмат, ды і сам аўтар называе Нестан проста сонцам.

Тінатін таксама паказваецца як сонечны (альбо месячны) свет, як „облик солнца" альбо „неущербная луна" (пераклад П. Петрэнка). Аўтандзіл звяртаецца да яе: „Ты, златая, светишь, страхи рассевая"; альбо „Бог всевышний, создавая, быть тебе здесь солнцем дал".

---

*) Праф. *Ш. Нуцубідзе*. Праблема светапогляду Руставелі. Працы Тбіліскага дзяржаўнага Універсітэта. I. Тыфліс 1936 г. стар. 54-55.

Аўтандзіла Ростэван называе сонцам. Даведаўшыся, што ён знік, цар у горы ўсклікае: „Где же светоч мой сияет? Я один средь темноты“. Прыдон жа называе Аўтандзіла сонцам, асвятліцелем „звезд блестящих“, „светом единственным во мгле“; развітаўшыся з Аўтандзілам, Прыдон усклікае: „Где он, солнце, день златой?“ Нарэшце, спадарожнікі-купцы і напатканы ў Гуляншаро садоўнік таксама называе Аўтандзіла „солнцеликим“.

Ва ўсім гэтым трэба бачыць своеасаблівы паганскі культ сонца, а не простыя „сонечныя метафары“. Падобны да сонца ў паэме і асабістыя якасці герояў.

## V

Нашым чытачам, якія азнаёміліся з „Вепхіс-ткаосані“, толькі па перакладу „перапеву“ Бальманта, пакуль што амаль яшчэ зусім невядома праслаўленая афарыстычнасць паэмы. Між тым, у кожнай песні Руставелі выказвае вельмі цікавыя думкі не толькі аб вернасці, дружбе і каханні, але і на самыя рознастайныя тэмы. Напрыклад, ва ўступе да паэмы даецца своеасаблівае „l'art poetique“—вызначэнне мастацтва паэзіі. Па думцы Руставелі, чалавек, які ўмее скласці дзве-тры страфы, яшчэ не можа называцца паэтам. У паэзіі патрэбен „долгий рассказ“, „течение слов премудрых“, важкасць і насычанасць сэнсам. Разам з тым, упарта працуючы і перамагаючы цяжкасці паэт павінен максімальна сціскаць свой твор, адбіраючы толькі неабходнае і адкідаючы ўсе лішнія ўпрыгожванні: „Весь простор могучих мыслей заключает краткий стих“. (Пераклад П. Петрэнка).

Мудрыя і выразныя думкі Шота Руставелі да гэтага часу жывуць у грузінскім народзе, як народныя прыказкі. Грузінскія спецыялісты зазначаюць, што масаваму поспеху „Вепхіс-ткаосані“ на працягу сямі стагоддзяў не мала дапамагала народнасць паэмы*). Абагачаючы грузінскую літаратурную мову, ствараючы новыя словы і новыя спалучэнні слоў, Руставелі пісаў, разам з тым, значна прасцей, ясней і даступней, чым яго літаратурныя папярэднікі. Пры гэтым ён быў першым, які асмеліўся ўводзіць у паэтычны тэкст „простанародныя“ выразы. Ён выкарыстаў у паэме мноства народных уяўленняў, міфаў і легенд.

Аб усёй бліскучасці і дасканаласці паэтычнага майстэрства Шота Руставелі мы можам мець сапраўднае ўяўленне, толькі добра авалодаўшы грузінскай мовай. Дзіўнае багацце і своеасаблівасць яго верша амаль зусім непадаецца перадачы на рускую мову. Але ўсё-ж нас і зараз здзіўляе надзвычайная строфіка паэмы, своеасаблівая музычнасць верша, чаргаванне розных—„мажорных“ і „мінорных“ тонаў, дзівосны падбор рыфм і алітэрацый. Калі руставелеўскія строфы патэтычна дэкламуе на роднай мове народны артыст СССР Акакій Васадзе; калі голасам іх размерана скандыруюць паэты Тыцыян Табідзе і Сімон Чыкавані альбо Іраклій Абашыдзе; калі хеў-

*) На рускай мове ёсць артыкул *А. Балотнікава* „Народнасць Шота Руставелі“ (Совецкае мастацтва“ 1927 г. № 1 (347).

суры ў горнай вёсцы пастукваючы мячамі і круглымі шчытамі, спаборнічаюць у веданні паэмы; калі карталінскія, кахетынскія, імерэтынскія калгаснікі альбо рабочыя любога завода чытаннем напамяць наглядна паказваюць жыццё Руставелі ў народзе,—усякі слухач не можа не захапіцца.

Мы будзем чытаць і перачытваць вялікія творы Шота Руставелі, працягваць нашы пошукі, вывучаць усё, што датычыцца да гэтага вялікага імя.

---

*П. Юдзін*

# ПРА АВЕРБАХАЎШЧЫНУ*)

## I

Рашэнне ЦК партыі пра ліквідацыю РАПП было ўспрынята ў свой час не толькі пісьменнікамі, але і самымі шырокімі совецкімі коламі з велізарным задавальненнем, і выклікала выключную цікавасць совецкай грамадскасці.

Рашэнне пра ліквідацыю РАПП на першы погляд уяўляецца нібы прыватным пытаннем, датычным жыцця літаратурнай арганізацыі, але на самай справе яна мела вялікае значэнне для развіцця мастацкай творчасці ў Совецкім Саюзе і для ўсяго культурнага развіцця Совецкага Саюза.

Рашэнне ЦК фармулявала ў надзвычай яркай форме тыя працэсы, якія праходзілі ў той час сярод розных пластоў нашай совецкай інтэлігенцыі. І гэта рашэнне падводзіла вынікі развіццю ў галіне культуры, у асаблівасці ў галіне мастацкай творчасці.

Як вядома, Вялікая соцыялістычная рэволюцыя ўзняла да творчай дзейнасці агромністыя народныя масы. Але першыя гады існавання совецкай улады былі звязаны з вельмі цяжкімі працэсамі вырошчвання розных спецыялістаў, вырошчвання культурных, творчых кадраў ва ўсіх галінах тэхнікі, эканомікі, дзяржаўнай дзейнасці, у галіне навукі, мастацтва і г. д.

Адно з прынцыповых і карэнных адрозненняў буржуазнай рэволюцыі ад соцыялістычнай заключаецца ў тым, што буржуазная рэволюцыя застае ў асноўным гатовымі і эканамічны ўклад, які склаўся ў нетрах феадалізма, і кадры новага буржуазнага грамадства. Соцыялістычная рэволюцыя не застае гатовымі ні эканамічны ўклад, ні кадры новага эканамічнага ладу. Толькі з захопам улады пролетарыятам ствараецца новы эканамічны ўклад і ў асноўным выпрацоўваюцца кадры ва ўсіх галінах эканамічнай, дзяржаўнай і культурнай дзейнасці.

Патрабавалася, значыць, паўтара дзесятка гадоў, пакуль у нашай краіне склаўся эканамічны фундамент новага грамадскага парадку, скλаліся, выраслі і аформіліся кадры, дзеячы, вырашчаныя новым грамадскім ладам—іменна соцыялізмам.

---

*) У аснову гэтага артыкула ляглі апрацаваныя стэнаграмы выступленняў на сходзе пісьменнікаў у Маскве, прысвечаным пяцігоддзю рашэння ЦК ВКП(б) пра ліквідацыю РАПП і на сходзе секцыі драматургаў.

З другога боку, гэтыя гады патрабаваліся і для таго, каб старыя культурныя кадры, якія к моманту рэволюцыі былі ўжо сфармаваны ідэйна і творча, перавыхаваліся, зрасліся з інтарэсамі рэволюцыі, каб інтарэсы новага грамадскага ладу зрабіліся іхнымі інтарэсамі, іхнай справай.

І рашэнне ЦК партыі пра ліквідацыю РАПП нельга разглядаць толькі з таго пункту гледжання, што кіраўніцтва гэтай арганізацыі, на чале якой стаяў Авербах, цяпер выкрыты як вораг народу, як трацкісцкі агент у літаратуры, не справілася з задачамі, што стаяць перад аб'яднаннем пісьменнікаў.

Рашэнне ЦК выражала велізарныя зрухі і ў галіне эканамічнай і ў галіне культурнай, і ў галіне ідэялагічнай.

Асобая пролетарская арганізацыя ў галіне культуры, якая падкрэслівала-б свой пролетарскі светапогляд, сваю пролетарскую прыроду, сваю накіраванасць у адрозненне ад іншых арганізацый, ад іншых кадраў, зрабілася лішняй. Існаванне такой асобай пролетарскай арганізацыі ў галіне мастацкай творчасці зрабілася яўным тормазам. І стварылася такая абстаноўка, што пісьменнікі, не належачыя да РАПП, але разам з тым давёўшыя і сваімі мастацкімі творамі, і сваёй грамадскай дзейнасцю, што яны за совецкую ўладу, за соцыялізм, пісьменнікі, якія ў той-жа час паводле тых або іншых матываў (творчых, арганізацыйных, па асабістых сімпатыях, калі хочаце) не належалі да РАПП,— гэтыя пісьменнікі адсоўваліся як-бы ў бок ад вялікай дарогі культурнага развіцця нашай краіны. „Напастоўцы“ глядзелі на такога пісьменніка, як на чалавека непоўнацэннага з „напастоўскага“ пункту гледжання.

Такім чынам, стала відавочным і бясспрэчным з пункту гледжання агульнага становішча ў краіне, з пункту гледжання агульнагістарычнага руху да соцыялізма і перавыхавання людзей, што такое драбненне культурных арганізацый і вылучэнне пролетарскіх пісьменнікаў у асобы атрад стала непатрэбным. Відавочнасць і яснасць гэтага падкрэслівалася той акалічнасцю, што РАПП за апошні перыяд сваёй дзейнасці нарабіў незвычайна шмат памылак.

Чым была арганізацыя РАПП і чым, галоўным чынам, падкрэсліваем, былі некаторыя яе кіраўнікі, некаторае яе крыло? Я бяру авербахаўскую напастоўскую групу, да якой адношу Авербаха, Кіршона, Макар'ева, Мазніна, Селіванаўскага, Афінагенава, Карабельнікава і цэлы рад іншых сошак—хто большы, хто меншы. Гэта—цэнтральнае ядро „напастоўскай“ групы.

Калі ўзяць гэту групу і галоўнага яе ідэолага і арганізатара—Авербаха—то вынік такі, што да цяперашняга часу гэта група, гэты кірунак у літаратуры і ў літаратурнай палітыцы пацярпеў крах, як агентура трацкізма. Гэта група павінна быць выкрыта палітычна, і літаратурна, і арганізацыйна, да канца і ва ўсіх адносінах. З авербахаўшчынай, як з палітычнай плынню ў літаратуры, павінна быць пакончана назаўсёды, і ў авербахаўшчыну павінен быць забіты асінавы кол.

II

Калі параўнаць тое, што было ў літаратуры, з іншымі ўчасткамі ідэалагічнага фронту, то мы знойдзем шмат агульнага і блізкага. Вазьміце сярод гісторыкаў такую групу трацкістаў, як Фрыдлянд, Ванаг, Дуброўскі і цэлы рад іншых. У галіне філасофіі была група, прадстаўленая меншавіствуючым ідэалізмам, гэта група Дэборына, Карэва, Стэна, Падвалоцкага і іншых. Сярод прававікоў была школка Пашуканіса.

Агульнае паміж усімі гэтымі групамі дэборынцаў, авербахаўцаў, пашуканісаўцаў было тое, што ўсе яны ў аснове сваёй былі глыбока варожыя соцыялізму. Палітычным эквівалентам гэтых плыняў з'яўляецца трацкізм. Гэта—трацкізм, прыстасаваны і да галіны гісторыі, і да галіны літаратуры, і да галіны філасофіі, і да галіны права. Трацкізм з усім яго нутром—гнілым, варожым соцыялізму.

Асноўным тэзісам авербахаўцаў у галіне літаратуры быў тэзіс пра культуру пролетарскую і культуру соцыялістычную. Трацкізм адмаўляў соцыялістычны характар усяго нашага будаўніцтва, у тым ліку і культуры.

Авербах у сваіх кніжках, і гэта паўтараў Афінагенаў, і гэта паўтараў таксама Кіршон,—гаварыў, што ў нас будуецца культура пролетарская, але не соцыялістычная.

Што-ж гэта значыла? Гэта было прыкладаннем да пытанняў культуры трацкісцкай пастаноўкі пытання пра немагчымасць пабудовы соцыялістычнага грамадства, пабудовы соцыялізма ў нас у краіне.

Што такое культура? Культура ахоплівае не толькі галіну духоўнага жыцця людзей, але і галіну матэрыяльнага жыцця людзей. Гэта не толькі духоўная вытворчасць, але і матэрыяльная вытворчасць.

Незадоўга да ліквідацыі РАПП а па поваду XVII партыйнай канферэнцыі адзін з чарговых пленумаў РАППа прыняў рэзалюцыю, дзе проста ўжо расп сваўся ў тым, што літаратура, якая стварылася ў СССР, як і культура, яшчэ не з'яўляюцца соцыялістычнымі. Гэта трацкісцкае адмаўленне соцыялістычнага характару нашай літаратуры і культуры.

Соцыялізм ствараецца ва ўпартай і жорсткай барацьбе. Крок за крокам заваёўваюцца ў гэтай барацьбе пазіцыі соцыялізма, і толькі трацкісты маглі адстойваць палажэнне, што пролетарская культура, пролетарская літаратура, па сваёй сутнасці не з'яўляюцца соцыялістычнымі.

Авербах паслядоўна праводзіў трацкісцкую лінію і іменна з авербахаўскага трацкісцкага непрызнання соцыялістычнага характару культуры і літаратуры выцякаў тэзіс „саюзнік або вораг“, а гэта значыла—пасварыць, нацкаваць адну групу совецкіх пісьменнікаў на другую, стварыць такія ўмовы для пісьменнікаў, стварыць такія паміж імі ўзаемаадносіны, пры якіх творчае жыццё і работа на карысць соцыялізма былі-б вельмі затруднены.

Што мелася на ўвазе пад саюзнікам або ворагам? Саюзнік—

гэта значыць саюзнік Авербаха. Калі ты з Авербахам у саюзе, значыць ты, нібы, у саюзе з совецкай літаратурай.

Не саюзнік Авербаха—вораг і Авербаха і, нібы, совецкай улады.

Гэта ні што іншае, як шкодніцкая, трацкісцкая работа.

Цэлая сістэма лозунгаў, што высоўваліся Авербахам і яго кампаніяй, у сукупнасці сваёй становяць выражэнне трацкізма ў літаратуры, трацкісцкае адмаўленне магчымасці стварэння соцыялістычнай літаратуры, соцыялістычнай культуры. Іменна з гэтага выходзілі Авербах і яго зброяносцы ў літаратурнай практыцы таго часу.

Некаторыя таварышы скажуць: як-жа так, у РАПП былі ўсё-ж людзі не толькі тыпу Авербаха, не толькі ярыя, непапраўныя трацкісты, але і сумленныя, шчырыя, совецкія, партыйныя людзі і не ўся-ж работа РАПП насіла трацкісцкі характар, не на працягу ўсіх этапаў. Вядома, гэта не так! Я бяру крайняе выражэнне адмоўных бакоў у літаратурнай дзейнасці РАПП і выражанае ў авербахаўшчыне. Але побач з гэтым, асабліва ў першы перыяд РАПП праводзіў станоўчую работу, неабходную для развіцця і росту совецкай соцыялістычнай культуры і соцыялістычнай літаратуры. У РАПП былі людзі глыбока партыйныя, совецкія, якія цалкам працавалі ў інтарэсах соцыялізма і ні ў якой ступені не звязаныя з дзейнасцю Авербаха.

Няправільным, памылковым было-б думаць, што з авербахаўшчынай у літаратуры, у тым ліку і ў РАППе не вялося барацьбы. Наадварот, уся гісторыя літаратурнага развіцця апошніх год была напоўнена барацьбой сумленных, адданых партыі пісьменнікаў з авербахаўшчынай.

Дастаткова ўспомніць неаднаразовае выступленне „Правды“ і ў прыватнасці тав. Мехліса супроць Авербаха, супроць панаваўшай у РАППе абстаноўкі заціску самакрытыкі. Або ўзяць барацьбу Ленінскага комсамола, выступленні таварыша А. Косарэва супроць авербахаўшчыны. Нарэшце, наскрозь гнілыя трацкісцкія тэорыйкі авербахаўцаў неаднаразова крытыкаваліся з боку работнікаў філасофскага фронту.

Рад пісьменнікаў адчувалі і разумелі, што напастоўская група праводзіць у РАППе няправільную лінію. Ва ўмовах заціску самакрытыкі, разбэшчанага цкавання адданых партыі літаратараў пачалася ўнутры РАППа барацьба супроць авербахаўшчыны. На працягу многіх гадоў Фурманаў, Серафімовіч, Панфёраў і іншыя вялі з партыйных пазіцый барацьбу супроць авербахаўскай групы.

Колькі ўсякіх пошласцей было нагароджана авербахаўцамі!

Кожны ведае, якая д'ябальская хітрасць, спрытнасць, вынаходлівасць, умельства і сапраўды таленавітасць у гэтай галіне былі праяўлены Авербахам і Кіршонам у іхным прыстасоўніцтве да рэволюцыі, у скарыстанні высокага звання члена партыі, у скарыстанні ўсіх сваіх асабістых і іншых сувязей. Як яны чапляліся, як яны лезлі, як умелі нацкаваць адных, супроцьпаставіць другіх, напаклёпнічаць на трэціх, абы самім пратрымацца, абы весці сваю падрыўную работу.

Варта ўзяць хоць-бы тэорыю жывога чалавека. Колькі было траскатні з гэтае прычыны. Пісьменнікі павінны, гаварылі авербахаўцы, паказаць жывога чалавека. Сам па сабе гэты лозунг, якбыццам нічога дрэннага не становіць. Але як яны яго абгрунтоўвалі і які змест у яго ўкладвалі?

Што станавіў сабою з іхнага пункту гледжання жывы чалавек? Знешнасць чалавека, як ён працуе, як жыве, як выступае на сходах—усё гэта,—гаварылі яны,—яшчэ не сапраўдны чалавек. А вось сапраўднае—гэта тое, што схавана ў ім унутры. Вонкава ён выступае як быццам добра: ён ударнік на вытворчасці, ён актыўны член профсаюза, рабкор і г. д., але гэта яшчэ не ўсё.

Каб даць жывога чалавека, трэба, як яны казалі, даць дыялектыку чалавека, а дыялектыка павінна заключацца ў тым, што абавязкова ў чалавеку трэба знайсці і дрэннае і добрае, і галоўным чынам дрэннае, патрэбнае трацкістам.

А лозунг зрывання ўсіх і ўсякіх масак!

Яны па-фальсіфікатарску, па-жульніцку перадзёргівалі цытаты з Леніна. У Леніна сказана, што Талстой зрывае з самадзяржаўя і прыгонніцкага ладу ўсе і ўсякія маскі. Авербахаўцы механічна бяруць у двукоссі гэта, як лозунг совецкай літаратуры,—і прапануюць зрываць усе і ўсякія маскі.

З каго? З комуністычнай партыі, з совецкай улады. Так яно выходзіць. Гэта чыста трацкісцкі лозунг.

Была яшчэ тэорыя псіхалагічнага рэалізма. Авербах у адным з артыкулаў пісаў—мы стаім за псіхалагічны рэалізм. Што гэта за псіхалагічны рэалізм, ніхто з іх не растлумачваў. З пункту гледжання тэарэтычнага—гэта чысцейшая суб'ектыўна-ідэалістычная дрэбедзень. Усе гэтыя лозунгі высоўваліся авербахаўскай школкай супроць партыі, супроць асноў соцыялізма.

І ўсёткі хітрасць і подласць авербахаўскай работы выкрыты. Было-б лепш, калі-б гэта было зроблена на шэраг гадоў раней. Было-б яшчэ лепш, каб наогул не было авербахаўшчыны.

Але нельга забываць, што існуе такая аб'ектыўная з'ява, як класавая барацьба.

Яна існуе і ў літаратуры. Калі-б з класавай барацьбой справа стаяла як-небудзь зусім проста, калі-б класавых ворагаў можна было разбіць па плану з сёння на заўтра і абвясціць, што ў нуль гадзін з 23 на 24 класавы вораг разбіты і ўсё скончана, усё было-б па іншаму. На самай справе становішча не такое. Класавая барацьба складаная. Грамадскія адносіны складаныя.

Ленін гаварыў, што хаця мы буржуазію разбілі, але нельга забываць таго, што ў буржуазіі за спіной векавы вопыт, вопыт кіравання дзяржаваю, прамысловасцю, валоданне ўсімі відамі мастацтва і г. д. Да апошняга ўздыху яны будуць скарыстоўваць яго, усякім чынам прыстасоўваючыся і вывярачваючыся. Яны будуць скарыстоўваць свой вопыт і пры падтрыманні чужаземных дзяржаў весці з намі барацьбу.

Авербахаўшчына ў літаратуры—гэта ёсць адно з разгаліненняў класавай барацьбы супроць соцыялізма. Іменна з гэтага пункту гледжання трэба падыходзіць да авербахаўшчыны і разглядаць яе

Большасць з літаратараў памятаюць, як раптам з незвычайным апломбам быў абвешчаны раппаўскі лозунг пра тое, што для таго, каб сапраўды па-совецку пісаць, пісьменнік павінен авалодаць метадам дыялектычнага матэрыялізма.

Але што-ж гэта за „дыялектыка-матэрыялістычны творчы метад у літаратуры"?

Калі аўтары гэтага лозунга пачалі растлумачваць яго, то нагарадзілі столькі несусветнага глупства, што нічога ніхто не мог зразумець. Ды і нельга тут нічога зразумець! Гэтую тэорыю маглі выдумаць толькі людзі, глыбока чужыя самому духу совецкай літаратуры, людзі, якія спрабавалі схаластычнымі лозунгамі адцягнуць пісьменніка ад удзелу ў соцыялістычным будаўніцтве.

Надзвычай дзіўнае ўражанне рабіў тэарытычны бок дзейнасці авербахаўскай групы. Светапогляд і тэарытычныя погляды гэтых „тэарэтыкаў" былі складзены з акрошкі самых рознастайных тэорый, самых рознастайных школ. У іх ужываліся разам вульгарны соцыялагізм, грубы механічны матэрыялізм з самым чыстапробным суб'ектыўным ідэалізмам.

Авербах у сваей кніжцы „Спрэчныя пытанні культурнай рэволюцыі" прысвячае адзін раздзел так званым рэгулятыўным ідэям. Ён высоўвае тут думку, што ў аснове ўсёй мастацкай творчасці павінны ляжаць рэгулятыўныя ідэі. Чалавек, крыху знаёмы з соцыялогіяй і філасофіяй, хоць-бы канца XIX і пачатку XX стагоддзяў, адразу ўспомніць, што гэтыя рэгулятыўныя ідэі ідуць з школы Авенарыуса-Маха, праз Багданава і праз Бухарына. Гэта толькі адзін з нешматлікіх прыкладаў. Але, апрача таго, Авербах і яго школа выяўлялі яўнае невуцтва ў элементарных пытаннях. Здзіўляючае невуцтва, прынцыпова варожыя адносіны да ўсякай навукі, да ўсякай культуры, арганічнае нежаданне хоць-бы ў элементарных межах азнаёміцца і вывучыць тую або іншую навуку прыводзіла да таго, што так-званыя тэарытычныя погляды Авербаха і яго падручных складаліся з самых рознастайных абрыўкаў, самых рознастайных тэорый. Раптам у авербахаўцаў з'яўляецца чыстае бергсоніанства, раптам, ні з таго, ні з гэтага, з'яўляецца вульгарнейшы матэрыялізм, пасля—чыстая дэборыншчына, і ўсё гэта звалена ў адну кучу, прычым ім нічога не абыходзіла, што ўчора гэта выдавалася за адно, а сёння за другое. Да чаго гэта прыводзіла ў літаратуры і на практыцы?

Адной з спроб прыстасавання гэтага метада ў літаратуры была тады кніжка Лібедзінскага „Нараджэнне героя". Тав. Лібедзінскі спрабаваў на падставе гэтай тэарытычнай кашы паказаць, як трэба пісаць паводле метада дыялектычнага матэрыялізма. Што з гэтага вышла, мы ўсе ведаем. Па рэцэптах Авербаха пісалі ўсе свае творы Афінагенаў і Кіршон. Яны спрабавалі па-свойму прадоўжыць гэтыя раппаўскія традыцыі. Афінагенаў спрабаваў прэтэндаваць у свой час на тэарэтыка. Яго кніжка пра творчы метад тэатра становіць сабой неўявімую бязглуздзіцу. І Кіршон, і Афінагенаў сфармулявалі так-сяк свае творчыя пазіцыі, якія выяўляюць, што гэтыя людзі знаёмы з марксізмам толькі па цытатах.

У Энгельса, як вы ведаеце, ёсць шырока вядомае палажэнне

пра тыповыя ўмовы і тыповыя характары. Афінагенаў і Кіршон бяруць апошнюю частку палажэння Энгельса і кажуць, што ў нашых умовах галоўнае— гэта стварыць тыповы характар, а тыповыя абставіны дадзены нам самі па сабе і пра іх няма чаго пісаць. Гэта разрыў з асновамі марксізма. Тыповы характар павінен быць дадзены ў тыповых абставінах. Гэтага няма ў Кіршона і Афінагенава. Для таго, каб вывучыць тыповыя абставіны, трэба веданне жыцця і жаданне, і ўмельства, і страсць, а паколькі гэтага ім не хочацца і няма калі, таму што гэта звязана з вельмі цяжкой, упартай працай, дык яны высоўвалі тэарэтычнае абгрунтаванне сваёй ляноты. Вывучэнне рэчаіснасці і адлюстраванне яе лічылі для сябе не абавязковым.

Такі „творчы метад“ ёсць адмаўленне ад сур'ёзнага вывучэння рэчаіснасці, яны не задаюцца мэтаю даць тыповыя абставіны, а проста хочуць даць тыповыя характары адвольныя, высмактаныя з пальца, атрымоўваецца непераканаўча і падманна.

Вазьміце Афінагенаўскае „Далёкае“. Гэта п'еса пра падзеі, пра справы і людзей Далёкага ўсходу напісана чалавекам, які не выходзіў за межы ўборных МХАТ... І не выйшла ні па-мастацку, ні праўдзіва. А мастацкае і праўдзівае—гэта адзінства.

Што становіць сабой Кожын. галоўны герой п'есы Кіршона „Вялікі дзень“? Калі-б у нас былі такія камандзіры як Кожын, то наша Чырвоная армія не магла-б ваяваць у сучасных умовах. Гэта—неўрастэнік, чалавек, які не валодае сабой, чалавек, які не вывучае ваеннай тэорыі, варожа глядзіць на ўсё новае.

Адкуль Кіршон узяў такую праблему ў Чырвонай арміі, як канфлікт паміж маладымі і старымі камандзірамі? Такога канфлікта няма. А на гэтым-жа пабудавана значная частка кіршонаўскай п'есы.

П'еса ў аснове сваёй парочная, гэта паклёп на Чырвоную армію.

## III

Можна падаць вялікую колькасць прыкладаў шкодніцкай работы авербахаўцаў на літаратурным фронце. І ўся гэта шкодніцкая работа магла працякаць толькі ў створанай авербахаўцамі абстаноўцы заціску самакрытыкі, сямейственасці ў падборы кадраў. Авербахаўцы расставілі сваіх людзей на ўсе ўчасткі літаратуры. Нават пасля рашэння ЦК пра ліквідацыю РАППа, прадстаўнікі авербахаўскай групы акапаліся ў радзе рэдакцый, у тым ліку ў „Гісторыі фабрык і заводаў“ (Шушканаў і Лузгін), у секцыі драматургаў (Кіршон і Афінагенаў) і г. д.

Можна падаць некаторыя прыклады таго, якім чынам Кіршон і Афінагенаў заціскалі крытыку, якая была супроць іх. На п'есу Кіршона „Суд“ Луначарскі напісаў артыкул у свой час, у якім рэзка крытыкаваў „Суд“, даводзіў, што гэты твор парочны, стаіць на нізкім мастацкім узроўні, напісаны з дрэнным веданнем справы.

Гэты артыкул пасылаецца ў „Тэатр і драматургію“. Там не друкуюць. Артыкул пасылаецца яшчэ ў рад месцаў. Яго не дру-

куюць. Нарэшце артыкул трапляе ў „Літаратурны крытык". Кіршон даведваецца, што ён у „Літаратурным крытыку" і арганізуецца рад званкоў. Ужо не сам Кіршон звоніць, а звоняць з радуарганізацыі і кажуць, што гэты артыкул Луначарскага друкаваць не рэкамендуюць.

Артыкул быў надрукаваны намі ў часопісу „Літаратурны крытык", бо гэта быў цалкам правільны артыкул.

Варта асобна спыніцца на метадах, якімі дзейнічаў у літаратуры трацкісцка-авербахаўскі цэнтр.

На пленуме аргкамітэта перад з'ездам абмяркоўваўся парадак дня з'езда пісьменнікаў.

У часе гэтага абмеркавання ўносіцца прапанова ўключыць у абвестку дня з'езда даклад пра работу рэдакцыі „Гісторыі фабрык і заводаў". Хто там работаў? Авербах. Такім чынам, просты сэнс быў такі, каб на з'ездзе пісьменнікаў зрабіць Авербаха дакладчыкам.

Нажаль, на гэтым пленуме, з прычыны таго, што рад таварышоў не разабраліся ў гэтым, праўда, нязначнай большасцю прапанова была прынята. Прышлося пасля аргкамітэту адмяняць гэта рашэнне і зняць даклад Авербаха з абвесткі дня.

Перад з'ездам пісьменнікаў на пасяджэнні аргкамітэта абмяркоўваецца пытанне пра кандыдатаў на з'езд ад маскоўскай арганізацыі. На паседжанні выступае Кіршон і гаворыць, што прапануе абавязкова ўключыць Авербаха ў лік дэлегатаў на з'езд ад маскоўскіх пісьменнікаў. За гэтую-ж прапанову выступаюць Бруно Ясенскі, Балотнікаў, Афінагенаў.

Прапанова авербахаўцаў правальваецца.

У часе самога з'езда, у дзень яго адкрыцця арганізуецца заява за калектыўнымі подпісамі Кіршона, Афінагенава, Бруно Ясенскага. Збіраюцца ад рада пісьменнікаў подпісы пад заяваю, накіраванаю на тое, каб зрабіць Авербаха „правадыром", вярнуць яму страчанае права кіраваць літаратурай і працягваць насаджваць трацкісцкія традыцыі і нравы ў літаратуры.

Напомнім яшчэ пару выпадкаў, характэрызуючых Кіршона з пункту гледжання палітычных адносін да Авербаха, да трацкізма. У № 9 „Літаратурнага крытыка" за 1936 год у перадавым артыкуле было напісана, што трацкісцкія нравы ў літаратуры насаджваў Авербах, што Авербах быў трацкістам у 1923 годзе, ламінадзеўцам у 1928-29 гг.

Як толькі вышаў гэты нумар, Кіршон з велізарным абурэннем заяўляў нам, работнікам рэдакцыі:

— Безабразна, абураюча, якое вы мелі права пісаць пра Авербаха, што ён трацкіст? Авербах сумленны чалавек, адданы партыі, я яго асабіста ведаю. Ён мне друг, больш чым асабісты друг. Якое права вы маеце ператвараць яго ў ворага народу?

Тое-ж самае мела месца на адным з паседжанняў пушкінскага пленума саюза пісьменнікаў. Кіршон усюды праяўляў сябе, як зброяносец авербахаўшчыны, як подлы агент трацкісцка-авербахаўскай групы ў літаратуры.

Авербахаўшчына—гэта закончаная сістэма трацкізма ў літара-

туры. І арганізацыйна, і палітычна гэта паслядоўная лінія трацкізма ў літаратуры.

Партыя трымаецца адных арганізацыйных прынцыпаў у пытаннях літаратуры, трацкізм—другіх. Партыя стварае адну арганізацыю для палітычнага кіравання літаратурай, трацкізм стварае другую арганізацыю для свайго трацкісцкага, антысовецкага контррэвалюцыйнага кіраўніцтва літаратурай.

Яны выходзілі з таго, што яны павінны дыктаваць лінію ў літаратуры, а не ЦК партыі. Яны—Авербах, Кіршон, Карабельнікаў, Ясенскі і іншыя. ЦК выносіць рашэнне ў красавіку 1932 года пра ліквідацыю РАПП'а. Яны, як трацкісцкая арганізацыя, стараюцца супроцьдзейнічаць правядзенню рашэння ЦК у жыццё.

Да самага з'езда пісьменнікаў і пасля з'езда пісьменнікаў існаваў трацкісцка-літаратурны цэнтр, наўпярок устаноўленаму партыяй літаратурнаму цэнтру—Аргкамітэту ССП. Гэты паралельны трацкісцкі цэнтр збіраўся сістэматычна, абмяркоўваў пытанні, намячаў сваю лінію.

Лінія ў арганізацыйных пытаннях у іх была наступная: усяк падрываць дзейнасць аргкамітэта. Яны спрабавалі ў сваіх контррэвалюцыйных мэтах палітычна дыскрэдытаваць найбольш палітычна вытрыманых людзей, работнікаў ССП і совецкіх пісьменнікаў.

Складаецца платформа рукамі былога белагвардзейскага афіцэра Мірскага. Рэдагуецца гэта платформа Карабельнікавым, Ясенскім пры ўдзеле Балотнікава. Яна абмяркоўваецца разам. Разглядаецца першы варыянт—Карабельнікаў, Ясенскі кажуць:

— Дрэнна, недастаткова востра.

Даецца другі варыянт гэтай платформы.

Фадзееў будучы ў „напастоўскім" кіраўніцтве, нарабіў памылак, але своечасова парваў з Авербахам і, як бальшэвік, не толькі парваў, але і павёў барацьбу супроць усёй групы Авербаха за лінію партыі ў літаратуры. Што авербахаўцы робяць з Фадзеевым? Яны дыскрэдытуюць яго не як-небудзь, а палітычна. У артыкуле-ж Мірскага быў тэзіс, адобраны Карабельнікавым і Ясенскім, што Фадзееў развіваўся ў адваротным кірунку, у адносінах да совецкай літаратуры і совецкая літаратура развівалася без Фадзеева. Гэта значыць, выкідвалі Фадзеева з совецкай літаратуры. А вазьміце для прыкладу такога комуніста пісьменніка, як А. С. Серафімовіч, твор якога „Жалезны паток" невыпадкова Цэнтральны камітэт партыі назваў класічным. Што рабілі з ім „напастоўцы"? Не гледзячы на пратэст з боку совецкай грамадскасці, не гледзячы на ўказанні з боку ЦК ВКП(б), авербахаўцы ўсякім чынам імкнуліся ахаіць Серафімовіча, запэцкаць яго, звесці на нішто, выкінуць з совецкай літаратуры, пасварыць з Горкім.

Наогул Авербах паслядоўна праводзіў у жыццё свой лозунг:

— Хто са мной—той пролетарскі, хто не са мной—той не пролетарскі...—І ў гэтым старанна яму дапамагалі Макар'еў, Мазнін, Кіршон, Ясенскі і такія літаратурныя гарлапаны як Карабельнікаў, Кір'янаў і іншыя.

Пакуль Панфёраў не выступаў супроць Авербаха, Авербах і ўся кліка ўзносілі раман „Бruскі", нават заявіўшы, што „Бруск"

большэвізуюць партыю, але вось Панфёраў рэзка выступіў супроць Авербаха і ўсёй яго „напастоўскай“ кампаніі, авербахаўцы адразу-ж пачалі цкаваць Панфёрава, прыклеіўшы ярлычкі „эмпірык“, „натураліст“, „неанароднік“ і г. д.

Так дзейнічалі, так рабілі і са Стаўскім, з Ільенковым і з усякімі, хто ўзнімаў голас супроць „напастоўцаў“ за лінію партыі.

Авербахаўская напастоўская група—гэта была закончаная сістэма трацкізма ў літаратуры і з пункту гледжання арганізацыйных прынцыпаў і з пункту гледжання палітычнай лініі.

## IV

Стварэнне адзінага Саюза савецкіх пісьменнікаў з'явілася велізарным палітычным крокам наперад у жыцці ўсіх савецкіх пісьменнікаў.

Калі ў кнігах ранейшага перыяду значная ўвага аддавалася пытанням перабудовы старой інтэлігенцыі, яе сумненням, пакутам,—то пасля гістарычнага рашэння ЦК пісьменнікі ў масе сваёй зразумелі, што гэты самы інтэлігент з сваёй карузлай дарэвалюцыйнай душонкай зусім не з'яўляецца галоўным героям і ў жыцці, і ў літаратуры. Гэта пісьменнікі зразумелі.

Пяць год, што прайшлі, былі велізарным палітычным крокам і ў сэнсе выхаду пісьменнікаў на вялікую палітычную арэну. Але было-б няправільна думаць, што ўсе пытанні, якія пастаўлены перад савецкай літаратурай, перад саюзам пісьменнікаў, зразуметы і саюзам пісьменнікаў і пісьменнікамі, і што пісьменнікі пакончылі з усімі старымі перажыткамі і ідуць наперадзе рада іншых участкаў культурнага фронту. Гэтага сказаць, нажаль, яшчэ нельга.

Самы распаўсюджаны парок у пісьменніцкім асяроддзі—сузіральны падыход да жыцця.

Сярод пісьменнікаў шырока распаўсюджаны погляд, што жыццё трэба, як пісьменнікі кажуць „вывучаць“. Яны падыходзяць да жыцця, як да аб'екта свайго вывучэння, як да аб'екта наглядання з боку.

Пісьменнік, які да жыцця адносіцца з пункту гледжання сузірання і „вывучэння“ яго з акна міжнароднага вагона, не можа быць пісьменнікам нават пры вялікім дараванні. Пісьменнікі павінны зразумець, што нельга быць сапраўдным мастаком, не прымаючы актыўнага ўдзелу ў барацьбе за соцыялізм.

Пісьменнікам і крытыкам і ўсім працуючым у літаратуры трэба вельмі сур'ёзна прадумаць той факт, што мы жывём у соцыялістычным грамадстве.

Пабудавана соцыялістычнае грамадства, створана новая грамадская эканамічная фармацыя.

Пачалася тая эра, тая гістарычная эпоха, пра якую Энгельс казаў, што ўсё папярэдняе ёсць толькі прадгісторыя, а сапраўды чалавечая гісторыя пачынаецца з соцыялізма.

Соцыялізм пабудаваны. Трэба зразумець, да чаго абавязвае соцыялізм кожнага творчага работніка. Вядома, што сапраўды народ-

ная творчасць з'яўляецца найвялікшай сілай натхнення ва ўсіх галінах мастацтва.

Народная творчасць, праяўленне народных дараванняў, праяўленне народнай геніяльнасці ў нашай краіне знаходзяць найвялікшае развіццё.

І вось гэты народны характар, характар шырокай народнай самадзейнасці, народнай творчасці, калектыўная воля, калектыўны розум сказваюцца ва ўсіх галінах нашага жыцця. З гэтым нельга не лічыцца. Гэтага нельга не разумець і ад гэтага нельга адыходзіць.

Дэмакратызм—сапраўднае праяўленне народных якасцей, народных уласцівасцей чалавека. Соцыялізм дае сапраўдную свабоду народу: свабоду друку, свабоду слова; соцыялізм забяспечвае шырокае развіццё высокіх маральных вартасцей чалавека.

Соцыялізм забяспечвае з кожным годам усё большыя магчымасці бясконцага ўдасканальвання ўсіх уласцівасцей выдатных людзей нашай краіны. І пісьменнікі павінны думаць над пытаннямі соцыялізма, узнімаючы гэтыя пытанні ў мастацкай творчасці на такі ўзровень, на якім жыве наша краіна.

---

М. Кальцоў

# СПРАВА НАШАГА ГОНАРУ

*(Прамова на кангрэсе)*

Накіроўваючыся на гэты кангрэс, я пытаўся ў сябе, што-ж гэта па сутнасці такое: з'езд донкіхотаў, літаратурны малебен аб ніспасланні перамогі над фашызмам або яшчэ адзін інтэрнацыянальны батальён дабраахвотнікаў у акулярах? Што і каму можа даць гэты з'езд і дыскусіі людзей, узброеных толькі сваім словам, што яны могуць даць тут, дзе метал і агонь зрабіліся аргументамі, а смерць— асноўным доказам у спрэчцы?

З самых старадаўных часоў, як толькі ўзнікла мастацтва думкі, выказанай у слове, да сёнешняга дня пісьменнік пытаецца, хто ён— прарок ці камедыянт, палкаводзец ці барабаншчык свайго пакалення? Адказы атрымліваліся заўсёды розныя, часам трыумфальныя, часам знішчальныя. У той краіне, у якой мы зараз знаходзімся, у Іспаніі, пісьменнікі зналіся і з крыўдамі, прыніжэннямі, і з вышэйшай пашанаю да сябе саміх і да свайго рамяства. Ёсць краіны, дзе пісьменнікаў лічаць нечым накшталт гіпнатызёраў. Ёсць адна краіна, дзе пісьменнікі прымаюць удзел у кіраванні дзяржавай,—як між іншым, і кухаркі,—як, між іншым, і ўсе, хто працуе рукамі або галавой.

Калі пісьменнікі паспрабавалі на сабе шмат спакус і заблуджэнняў у ацэнцы сваёй ролі ў грамадстве, то ў гэтым часткова вінаваты асаблівы характар іхнай прафесіі. Праца літаратара, яго прадукцыя амаль ніколі не былі ананімнымі. Імя аўтара, яго індывідуальнасць, хоць бы самая нікчэмная, з'яўляецца афіцыйна прадметам попыту публікі і ўваходзіць неадлучным элементам меркавання пра якасць кнігі. Калі рабочы вырабляе, напрыклад, запалкі або селянін збожжа, то ён можа ўкласці ў сваю працу ўсю сваю індывідуальнасць, усё сваё асабістае ўменне, усю душу і ўсё-ткі вынік яго творчасці будзе ананімным, гэта будуць проста запалкі або збожжа. Калі пісьменнік стварыў хоць-бы дзесяць, хоць-бы бескаляровых, хоць-бы беззмястоўных і неахайных радкоў,—ён падпісвае пад імі сваё імя, і гэта лічыцца нармальным, гэта амаль абавязкова, і чым менш радкоў напісана, чым менш яны могуць сказаць, тым больш неабходным робіцца пад імі подпіс аўтара.

Часткова гэта і стварыла ў пісьменнікаў розных эпох і розных народаў ложную тэорыю „выражэння“, якая (тэорыя), змяняючы свой воблік і тэрміналогію, заўсёды зводзілася прыкладам да таго, што

пісьменнік мае унутры сябе, можа дзе-небудзь паміж пячонкаю і почкамі, нейкую таямнічую жэлезу, якая, нібы „філасофскі камень" старых алхімікаў, сама па сабе вырабляе дарагую матэрыю—літаратуру. Згодна тэорыі „выражэння", уся задача пісьменнікаў у тым, каб знайсці найбольшую сілу ў расшыфроўцы сябе самога, для чаго найглыбей уйсці ў сябе-ж, адгарадзіцца ад староннiх уплываў, даць цудадзейнай жэлезе выпрацаваць свой сіроп мастацтва.

Я схільны думаць, што ў гэтай залі, на гэтым кангрэсе няма людзей, з якімі трэба спрачацца адносна тэорыі „выражэння". Творчы і грамадскі шлях кожнага, хто тут прысутнічае, перш чым прывёў яго сюды, у гераічны антыфашысцкі Мадрыд 1937 года, даўно пазбавіў яго такіх ілюзій. Мы з вамі даўно пераканаліся і праверылі тысячу разоў, што нашы пісьменніцкія пачуцці і настроі нараджаюцца не знутры, а выражаюць стан розумаў народаў і класаў, іхных імкненняў і надзей, іхных расчараванняў і гневу. Наш надзвычайны сябра Ромэн Ролан выказаў гэта ўзмацнелае пачуццё сувязі пісьменніка з грамадствам у наступных словах:

„Новае тут не тое, што вялікія мастакі—прадвеснікі—апяваюць сонца да яго ўзыходу, а тое, што дзень нарэшце пачынаецца, што перакінут мост паміж мараю мастацтва і соцыяльным дзеяннем. Зараз мара мастацтва не саткана больш з аднаго толькі прадбачання: яна ствараецца з матэрыяльнага жыцця. Яна ажыццяўляецца ў рэальнасці. У нас з'явілася новае, ніколі нязведанае пачуццё бяспекі. Мы больш не людзі, што ідуць па вадзе. Калі Вагнер ствараў свайго „Трыстана", ён не спадзяваўся калі-небудзь знайсці ў Еўропе публіку, якая магла-б яго слухаць і разумець, і пісаў, кажуць, для ўяўляемай публікі Рыо-дэ-Жанэйро... Геніі мастацтва былі вымушаны ствараць сабе адначасова з перадавымі творамі ілюзію—прадбачанне будучага народу, які пазнае ў гэтых творах сваю песню. Цяпер гэты народ ёсць. Мы больш не адны. Мы ствараем разам. Нават калі роля вялікага мастака заўсёды будзе заключацца ў тым, каб апярэджваць існуючую стадыю, бачыць паўнату таго, што ў даны час толькі намячаецца, ён усё-ж належыць да таго-ж стагоддзя, што і іншыя брыгады работнікаў. І ўсе яны разам будуюць па аднаму плану, як калісьці народы будавалі саборы".

Якая ў нашу эпоху норма паводзін сумленнага пісьменніка, які ўсведамляе сваю сувязь з грамадствам і сваім класам? Як ён лепш можа служыць працоўным?

Ці трэба даваць парады машыністу поезда або забаўляць пасажыраў, каб прымусіць іх цярпець працягласць падарожжа? Ці выскачыць з вагона і штурхаць поезд на крутым уздыме?

Вы ведаеце, што тэмперамент і шчырасць цэлага раду пісьменнікаў антыфашыстаў прывялі іх да простага ўдзелу ў гэтай грамадзянскай вайне ў ролі дабраахвотнікаў. Адны яшчэ ў сябе дома заперлі ў шафу свае рукапісы і адправіліся адразу байцамі інтэрнацыянальных брыгад іспанскай народнай арміі. Другія прыехалі сюды з добрымі намерамі глядзець і пісаць, але, убачыўшы вайну, убачыўшы небяспеку для іспанскага народу прыпынілі літаратурную работу і ўзяліся за зброю.

Пра гэта ідуць спрэчкі: як павінен праявіць сябе пісьменнік у судатыкненні з грамадзянскай вайной у Іспаніі? Вядома, у правах тыя, хто даводзіць, што пісьменнік павінен біцца супроць фашызма зброяй, якой ён лепш за ўсё валодае, г. ё. сваім словам. Байран больш зрабіў сваім жыццём для вызвалення ўсяго чалавецтва, чым сваёй смерцю для вызвалення адной Грэцыі. Але ёсць моманты, калі пісьменнік,—я кажу пра некаторых,—вымушаны зрабіцца дзейнай асобай свайго твору, калі ён не можа даверыцца выдуманым хаця-б нават ім самім героям. Без гэтага перарываецца нітка яго творчасці, ён адчувае, што героі яго пайшлі наперад, а сам ён застаўся ззаду. Але, вядома, пісьменнікі павінны прымаць удзел у барацьбе перш за ўсё як пісьменнікі.

Наш сябра Людвіг Рэн на Гвадалахары ішоў пад агнём італьянскіх кулямётаў наперадзе першага раду германскіх антыфашыстаў, камандаваў з алоўкам у руцэ. Але палонныя германскія лётчыкі-фашысты прызнаваліся, што па ўсёй нямецкай эскадрыльі ў Севільі, як забаронены плод ходзіць па руках кніга Людвіга Рэна „Пасля вайны". Многія з нас павінны паследаваць прыкладу Андрэ Мальро, які даў іспанскаму народу антыфашысцкую эскадрылью, а цяпер дае антыфашысцкі раман.

Але, каб дапамагчы гэтаму народу, зусім не абавязкова біцца на фронце або нават прыязджаць у Іспанію. Можна прымаць удзел у барацьбе, знаходзячыся ў любым кутку земнага шара. Фронт расцягнуўся вельмі далёка. Ён выходзіць з акопаў Мадрыда, ён праходзіць праз усю Еўропу, праз увесь свет. Ён перасякае краіны, вёскі і гарады, ён праходзіць праз шумлівыя мітынговыя залы, ён ціха віецца па паліцах кніжных магазінаў. Галоўная асаблівасць гэтага небачанага баявога фронта ў барацьбе чалавецтва за мір і культуру—у тым, што нідзе вы не знойдзеце цяпер зоны, у якой мог-бы схавацца хто-небудзь, хто прагне цішыні, спакою і нейтральнасці.

На працягу аднаго апошняга месяца я бачыў у Еўропе людзей, што называлі сябе матэрыялістамі і ультра-левымі рэвалюцыянерамі, якія даводзілі неабходнасць кампраміса з Гітлерам, я бачыў каталіцкіх свяшчэннікаў-баскаў, якія разам з войскамі свайго народу, побач з комуністамі, ішлі ў атаку на італьянскія фашысцкія легіёны, што атрымалі благаславенне Ватыкана.

Рэспубліканцы, анархісты, марксісты, каталікі, проста беспартыйныя людзі—усім ёсць месца ў шэрагах барацьбітоў супроць агульнага ворага—фашызма. Няма месца толькі тым, хто хоча або верыць у якую-небудзь магчымасць кампраміса з гэтым ворагам. І тут, як бы глыбока ні была захавана думка пра капітуляцыю або зговар, якімі складанымі палітычнымі, філасофскімі або мастацкімі пабудаваннямі яна ні была-б прыкрыта—ўсёроўна яна выйдзе на паверх, усёроўна яна выкрые сябе.

Скажыце сто тысяч слоў пра што заўгодна, хваліце, крытыкуйце, захапляйцеся, плачце, аналізуйце, абагульняйце, давайце геніяльныя параўнанні і патрасаючыя характарыстыкі,—усёроўна,—такая логіка нашага часу,—вы павінны сказаць фашызму „так" або „не" Мір паміж народамі зрабіўся непадзельным і непадзельнай зрабі-

лася барацьба за мір народаў. Для нас, людзей, што прынялі Сталінскую Канстытуцыю, дастаткова далёкія і амерыканскі, і французскі, і нават іспанскі парламентарызм. Але мы лічым, што ўсё гэта стаіць па адзін бок рысы. Па другі бок стаяць гітлераўская тыранія, бяздушнае ўладалюбства італьянскага дыктатара, трацкісцкі тэрарызм, неутольная драпежнасць японскіх мілітарыстаў, гебельсаўская нянавісць да навукі і культуры, расавае шаленства Штрэйхера.

Ад гэтай рысы няма дзе схавацца, няма дзе ўкрыцца, ні ў першай лініі агня, ні ў самым глыбокім тылу. Нельга сказаць: „я не хачу ні таго, ні другога“, як і нельга сказаць: „я хачу і таго і другога“, „я наогул супроць гвалту і наогул супроць палітыкі“. Менш за ўсё гэта можа сказаць пісьменнік. Якую кнігу ён ні напісаў бы, пра што яна ні была-б напісана,—чытач у яе пранікне да самых патаемных радкоў і знойдзе адказ: за або супроць.

Лепш за ўсё гэта ісціна пацвердзілася на прыкладзе Андрэ Жыда. Выпускаючы сваю кніжку, поўную бруднага паклёпу на Совецкі Саюз, гэты аўтар спрабаваў захаваць бачнасць нейтральнасці і спадзяваўся астацца ў коле „левых“ чытачоў. Дарэмна! Яго кніга адразу трапіла да французскіх фашыстаў і стала разам з аўтарам, іхным фашысцкім сцягам. І што асабліва навучальна для Іспаніі,—аддаючы сабе справаздачу ў сімпатыях мас да Іспанскай рэспублікі, апасаючыся наклікаць на сябе гнеў чытачоў, Андрэ Жыд змясціў у глухім кутку сваёй кнігі некалькі невыразных слоў, адабраючых Совецкі Саюз за яго адносіны да антыфашысцкай Іспаніі. Але гэта маскіроўка не ашукала нікога. Кніга была перадрукавана цалкам у радзе нумароў галоўнага органа Франко—„Дыарыо дэ Бургос“. Свае пазналі свайго!

Таму мы патрабуем ад пісьменніка сумленнага адказу: з кім ён, на якім баку фронта барацьбы ён знаходзіцца? Ніхто не ў правах дыктаваць лінію паводзін мастаку і творцу. Але ўсякі, хто жадае лічыцца сумленным чалавекам, не дазволіць сабе гуляць то на тым, то на гэтым баку барыкады. Гэта зрабілася небяспечным для жыцця і смяротным для рэпутацыі.

Вы ведаеце, што для нас,—пісьменнікаў совецкай краіны,—праблема ролі пісьменніка ў грамадстве ўжо даўно вырашана зусім інакш, чым у краінах капіталізма. З таго моманту, як пісьменнік сказаў „так“ свайму народу, будуючаму соцыялізм, ён робіцца поўнапраўным перадавым стваральнікам новага грамадства. Сваімі творамі ён робіць непасрэдны ўплыў на жыццё, штурхае яго наперад і змяняе яго. Гэта робіць наша становішча высокім, пачэсным, але цяжкім і адказным. Наш пісьменнік Собалеў сказаў,—і ў гэтым ёсць частка праўды,—што совецкая краіна дае пісьменніку ўсё, апрача аднаго: права дрэнна пісаць. Рост нашага чытача апераджае часам рост пісьменніка. Аўтару трэба напружваць усе разумовыя творчыя сілы, каб не аказацца ззаду сваіх чытачоў, не страціць іхнага давер'я і проста ўвагі.

Мы не прамяняем наша становішча ні на якое другое больш лёгкае месца. Мы ганарымся сваёй адказнасцю і цяжкасцямі, якія

адчуваем, таму што яшчэ ніколі ў гісторыі пісьменнікаў не быў даверany народам больш высокі гонар—пры дапамозе і садзейнічанні дзяржавы выхоўваць мастацтвам дзесяткі мільёнаў людзей, фармаваць душу чалавека вольнага, соцыялістычнага грамадства.

Сталінская Канстытуцыя,—гэты найвялікшы дакумент у гісторыі вызвалення чалавечай асобы,—адкрывае новыя, велізарныя творчыя магчымасці для пісьменніка. Нам трэба будзе зрабіць усё, каб аказацца на вышыні гэтых магчымасцей.

Тут, на кангрэсе, ёсць людзі, якія здзіўляюцца рашучасці, з якой мы, совецкія пісьменнікі, падтрымліваем цвёрдыя і бязлітасныя захады нашага ўраду ў адносінах здраднікаў, шпіёнаў і ворагаў народу. Яны думаюць,—ці не трэба было-б нам хоць-бы і добрым совецкім патрыётам, але мірным і бескрыўдным дзеячам пяра,—аддаць гэту справу суровым органам улады, а самім адыйсці ў бок, не блытацца ў гэтую справу, або хоць-бы прамаўчаць пра яе, а не гаварыць на ўвесь голас на старонках нашага друку. Не, калегі і таварышы, гэта справа нашага гонару!

Справа гонару совецкіх пісьменнікаў быць у першых радах барацьбы супроць здраднікаў і шпіёнаў, супроць усякіх замахаў на свабоду і назалежнасць нашага народу. Мы падтрымліваем і цэнім наш урад не толькі за тое, што ён справядлівы і вядзе краіну да багацця і шчасця. Мы цэнім яго і за тое, што ён моцны, за тое, што рука яго не дрыжыць, распраўляючыся з ворагам.

Максім Горкі сказаў: „Калі вораг не здаецца,—яго знішчаюць“. Чаму можна біцца з Франко, калі ён ступіў на іспанскую зямлю з чужаземнымі легіёнамі, з мараканскай пяхотай, з германскай авіяцыяй і чаму нельга было гэтага зрабіць раней, калі той-жа Франко толькі яшчэ рыхтаваў свой напад? Колькі соцень тысяч чалавечых жыццяў было-б захавана ў Іспаніі, колькі соцень мільёнаў патронаў, колькі тысяч знарадаў і авіяцыйных бомб не зрабілі-б сваёй смяротнай справы, калі-б у належны момант ваенны суд і узвод салдат знішчылі б змову генералаў-здраднікаў!

Наша краіна поўнасцю застрахавана ад авантур вялікіх і маленькіх Франко. Яна застрахавана сваёй пільнасцю і рашучасцю, застрахавана тым, што пры першым жа кроку троцкісцкіх Франко ім перагараджаюць шлях органы совецкай безапаснасці, іх карае ваенны суд пры падтрыманні ўсяго народу. Дзеля мірнай соцыялістычнай працы нашых гарадоў і вёсак, дзеля спакою нашых жонак і матак, дзеля бесклопатнага смеху нашых дзяцей, каб ім ніколі не пагражалі бомбы чужаземных паветраных бандытаў, дзеля росквіту культуры і творчасці нашага і брацкіх нам народаў мы, совецкія пісьменнікі, заўсёды гатовы самі, выконваючы прыгавор суда, узняць вінтоўку і знішчыць троцкісцкі авангард фашызма і капіталістычнай рэстаўрацыі.

Ці трэба растлумачваць пазіцыю совецкіх пісьменнікаў, як і ўсяго нашага народу, у адносінах да барацьбы з Іспаніяй? З гонарам за нашу краіну, мы, совецкія пісьменнікі, паўтараем словы Сталіна: „Вызваленне Іспаніі ад прыгнёту фашысцкіх рэакцыянераў не ёсць

прыватная справа іспанцаў, а—агульная справа ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва“.

Мы ганарымся гэтымі словамі не толькі таму, што яны самі з'явіліся аўтарытэтнейшым заклікам да ўсяго сумленнага, што ёсць у свеце, падтрымаць іспанскі народ, але яшчэ таму, што калі наш Сталін гаворыць, то гэта не толькі словы, але і справы. Гэта ведае наша краіна, гэта ведае Іспанія.

Антыфашысцкі характар і склад удзельнікаў нашага кангрэса вызваляюць ад патрэбы гаварыць яго дэлегатам пра неабходнасць барацьбы з фашызмам. Але сама гэта барацьба, сама абарона культуры ад яго злейшага ворага не вядзецца яшчэ дастаткова энергічна. Наша Асацыяцыя яшчэ не пераканала дастаткова шырокія колы пісьменнікаў у шырыні сваёй базы і праграмы, у сваёй рашучасці і энергіі ў барацьбе за абарону культуры. Напад быў заўсёды лепшай формай абароны. Грамадзянская вайна і перамога народаў Расіі, дыктатуры фашызма ў Германіі і Італіі, грамадзянская вайна ў Іспаніі зрабілі пісьменнікаў гэтых краін барацьбітамі і саратнікамі сваіх народаў у барацьбе за іх свабоду і культуру. Пісьменнікі Францыі, Англіі, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі, Скандынавіі, Чэхаславакіі, члены нашага кангрэса запытайце сваіх калег і субрацццяў па рамяству чаго яны чакаюць? Таго, каб вораг узяў іх за глотку, каб у іх было так, як тут, калі германскія бамбавозы і італьянская артылерыя громяць прыгожы, чысты, вясёлы Мадрыд? Ці яны чакаюць, каб вораг вось гэтак-жа падступіў да Лондана, Стакгольма, да Прагі?

Я ніколі не забуду страшных лістападаўскіх дзён тут, у Мадрыдзе, калі пісьменнікі, мастакі, вучоныя і сярод іх старыя, хворыя, з дзецьмі на грузавіках пакідалі свае дамы, свае студыі і лабараторыі, каб толькі не трапіць у рукі ворага, абы не здацца на расправу Гітлера — Мусаліні — Франко. Тады міліцыянеры Пятага палка, байцы народнай арміі, некаторыя з іх малапісьменныя сяляне з клопатамі і любоўю везлі іх ад небяспекі, як самае дарагое, як залаты фонд краіны.

Мадрыд абараняецца ад фашысцкага звера. Ён акрываўлены, змучаны, гэты цудоўны горад, але ён вольны і нават аказвае нам, пісьменнікам усяго свету сваю благародную і скромную гасціннасць.

Але небяспека для Мадрыда яшчэ не мінулася. Палова Іспаніі вытаптана ботамі фашысцкіх заваёўнікаў. Яны спрабуюць ісці далей, яны пойдуць, калі іх не спыняць. Злачынная бяздзейнасць і так званае неўмешванне будуць і далей заахвочваць іх азвярэлую нахабнасць. У Эндэйе, каля іспанскай мяжы, я бачыў пагранічныя знакі Французскай рэспублікі, падрапаныя кулямі германскіх кулямётаў. Фашызм хапае свет за горла. Наступаюць рашаючыя гістарычныя часіны.

Пісьменнікі і ўсе сумленныя інтэлігенты свету! Займіце свае месцы, падыміце забралы, не хавайце сваіх твараў, скажыце „так“ або „не“, „за“ або „супроць“! Вы не схаваецеся ад адказу. Адказвайце-ж хутчэй!

А табе, благародны і чулы іспанскі народ, табе, акрываўлены рыцар сумнага вобраза, табе—наша захапленне і любоў, табе—нашы думкі і сілы. Мы будзем з табой і гэтак-жа, як і ты, мы верым, што твая аднойчы разагнуўшаяся спіна ніколі больш не схіліцца перад прыгнятальнікам, што ты ніколі больш не дасі пагасіць свяцільнік тваёй свабоды. На гербу Дон Кіхота Сервантэс напісаў: „Post tenebras spero lucem“—„Пасля цемры спадзяюся на святло“.

*Аляксей Талстой*

# РАЗДУШЫЦЬ ДЗІКІ КАШМАР ФАШЫЗМА

(*Прамова на кангрэсе*)

Нам кроўна блізкая гераічная барацьба іспанскага народу за незалежнасць і свабоду. Жыццё мысліма толькі ў свабодзе. Свабода раскрываецца толькі са знішчэннем эксплаатацыі чалавека чалавекам.

Грамадства, дзе знішчана эксплаатацыя і тым самым спынена наўзаўсёды панурая барацьба за існаванне, такое грамадства вызваляе ўсе свае сілы для мірнай творчасці жыцця і будаўніцтва ўсеагульнага шчасця. Рэвалюцыі—гэта штурмы, якімі чалавецтва прабіваецца да свайго вышэйшага, бяскласавага стану.

Нельга ўявіць сабе народу, які ніколі не адважыўся-б паўстаць супроць прыгнятальнікаў. Няма такога народу! Хаця іменна пра такое маўклівае пакорлівае чалавецтва і марыць баявыя генералы фашызма. Але мы пакідаем ім, для іх барабаннага мастацтва, вобраз панурага раба.

Наш герой—той, для якога лепш смерць, чым пакорлівасць. Наш герой сёння—іспанскі салдат рэвалюцыйнага фронта.

Рэвалюцыйная барацьба—гэта творчая вясна народу. Дарогай у Валенсію я бачыў высокую сівую старую ў чорным. Яна сурова ішла за плугам, які цягнулі два срабрыстыя валы. Сыны яе пайшлі на вайну, і яна, старая і гордая, знайшла ў сабе сілу і адна, пад спякотным сонцам, ішла па баразне, каб гэта прыгожая зямля накарміла сыноў рэвалюцыі.

Зямля такога народу гатова для творчага жніва.

У народных масах закладзены невычарпальныя вытокі творчасці. Гэта было адным з тэзісаў Леніна.

У Кастрычніку 1917 года народныя масы ў Расіі, бачучы перад сабой далёкую, але рэальную мэту, сваю соцыялістычную радзіму,—прабіліся да яе ўдарамі штыкоў. Перамога дасталася нялёгка. На баку ворага—белых армій, якія шырока забяспечваліся інтэрвентамі, было ўсё: зброя, хлеб, паліва, машыны, грошы. На баку Кастрычніцкай рэвалюцыі былі арганізатарская сіла большэвіцкай партыі, творчасць мас і воля да перамогі. Вораг быў разбіты.

Праз дваццаць год Сталінская Канстытуцыя сфармулявала ўсе творчыя намаганні і соцыяльныя заваёвы народу, узняўшага рэспублікі Савецкага Саюза з жабрацтва сярэднявечча на вышыню сусветнай дзяржавы.

Вось чаму нам кроўна блізкая гераічная барацьба іспанскага народу. Ваша барацьба—гэта раскрыццё ўсіх творчых сіл іспан-

скага народу, які даў свету геніяльных жывапісцаў, драматургаў і паэтаў. Цяпер увесь ваш народ стварае новыя соцыяльныя формы, і ў гэтым—зарука вашай перамогі. Фашызм збірае ў свае фалангі ўсю сволач чалавечую. Рыхтуючы салдат для сусветнай вайны, ён пакідае адно пачуццё—прагу разбурэння. Гэтыя сыны ваўчыцы і сцервятніка бамбяць мірныя іспанскія гарады, трэніруючыся для знішчэння дзяцей і жанчын у больш шырокіх памерах. Вялікія дзяржавы ўсё яшчэ спрабуюць выгандляваць у абнаглеўшага фашызма права хоць-бы на самае жалкае існаванне. На большае ў еўрапейскай буржуазіі не хапае мужнасці. Не, шлях толькі адзін, каб раздушыць гэты дзікі кашмар, што навіс над светам. Гэта шлях, абраны гордай Іспаніяй.

Ніколі чалавецтва не прамяняе свабоду разняволенай працы на працоўныя лагеры фашызма. Маманты, насарогі, пячорныя мядзведзі былі, здавалася, куды якія магутныя. У пірынейскіх пячорах геній чалавека пакінуў няўмiручыя малюнкі пераможанага ім свету страшыдлаў. Хіба гэта адно не дае нам падставы для вялікага аптымізма? Кажуць, што вялікае мастацтва не супадае з рэволюцыйнымі эпохамі. Мастацтва, якое адлюстроўвае горыч расчаравання, мастацтва лятуценнасці, што не знаходзяць сабе прытулку ў гэтым жыцці, негатыўнае мастацтва да гэтага часу нібы супадала з часамі соцыяльнага і палітычнага зацішша.

Але тое было. Гэта справы мінулыя. Скарбы мастацтваў і гуманітарнай думкі—наша спадчына.

Мы—пакаленне вялікага рубяжа, калі стары свет, перад тым як рухнуць назаўсёды, агрызаецца, як мацеры воўк, на чатыры бакі. Мы будуем мастацтва рэволюцыі, мастацтва новага чалавека. Няхай яно будзе здавацца ўтончаным людзям Захаду яшчэ сырым, тэхнічна недасканалым, але ў ім кіпіць і б'ецца асвяжаючай вільгаццю новы гуманізм. Яно ўзнята масамі. Яно—іхнае мастацтва, яно чалавекалюбівае. І нашы чытачы іменна ў імя велічы паняцця мастацтва—пазбавілі, напрыклад, такога стыліста, як Андрэ Жыд, годнасці народнага пісьменніка. Наша мастацтва рэалістычнае, як зямля пад яркім сонцам, гэта мастацтва рэалістычнае, як тая суровая жанчына, што ішла па баразне, гераічна, як баец, які аддае жыццё на шчасце радзімы, аптымістычна, як маладосць; гэта мастацтва ўсенароднае, таму што яно ствараецца творчымі імпульсамі народных мас.

У старой Расіі было да 80 процантаў непісьменных. Тэатрам, музыкай і жывапіссю карыстаўся толькі невялікі клас інтэлігенцыі. У вялікіх пісьменнікаў XIX стагоддзя—пастаянная і тужлівая нота: „Народ нас не чуе".

Кастрычніцкая рэволюцыя шырока расчыніла перад народам дзверы мастацтва. Сёння ў нас да 60 мільёнаў чытачоў мастацкай літаратуры. Опера, драматычныя тэатры і кіно абслугоўваюць увесь народ. Совецкія будаўнікі ствараюць цэлыя архітэктурныя комплексы новых гарадоў. Шырокія масы народаў прымаюць удзел у стварэнні мастацтва. Яно робіцца неадлучным ад усёй творчасці жыцця. Яно ўваходзіць у жыццё як яго значная складальная частка. Яно больш не ўпрыгожанне, не забыццё, не бесплённая

лятуценнасць. Мастацтва — гэта летапіс маральных і працоўных заваёў народу. Мастацтва—гэта пазнанне, гэта высокая школа для душ, якія фармуюцца. Мастацтва—гэта тая духоўная атмасфера, у якую мільёны за мільёнамі ўцягваюцца народныя масы.

Вам зразумела тая ўсеагульная ярасць, з якой сустракаецца кожная фашысцкая бомба, што ўзрываецца на іспанскай зямлі. Вам зразумела тая вялікая радасць, з якой у нас сустракаюць кожную перамогу народнага рэволюцыйнага фронта, перамогу перадавой арміі гуманізма.

Нам яшчэ і яшчэ раз хочацца паўтарыць, што адна з самых небяспечных зброй фашызма—гэта начны цень, што падкрадваецца таемна, каварна, каб правакацыяй, дыверсіяй і шпіянажам зрабіць тое, чаго не ў сілах зрабіць вораг у адкрытым баю. Трацкізм павінен быць бязлітасна растаптаны ва ўсім свеце. Пры ўдзеле шырокіх мас народу трацкізм павінен быць выяўлены і вырваны з коранем, як і ў нас у СССР.

Ёсць два паняцці інтэрнацыяналізма. Адно—арганічнае, уласцівае пролетарыяту,—калі пачуццё радзімы расце і шырыцца ў адчуванні чалавецтва. На гэтым інтэрнацыяналізме выхоўваюцца дзеці ў СССР. Па гэтаму шляху—праз глыбокае прыйманне сваёй нацыянальнасці і ўключэнне сябе ў бяскласавае грамадства—ідзе наша літаратура.

Ёсць другое паняцце інтэрнацыяналізма, ілжэ-інтэрнацыяналізма: гэта абыякавасць, і ад абыякавасці—адмаўленне нацыянальнасці. Гэта—шлях авантурыстаў, ворагаў народу. Такі быў Троцкі.

Ён пагарджаў народамі Расіі, таму што ад іх пахла аўчынай і чорным хлебам. Ён не верыў у творчыя сілы народных мас.

Народ яму не верыў, народ хацеў сам, сваімы рукамі, для сябе, зараз будаваць соцыялізм. Троцкі насіў маску. Яна сарвана з яго трыма судовымі працэсамі, дзе яго агенты прызналіся,—я гэта чуў сваімі вушамі, я глядзеў у іхныя твары,—яны прызналіся ў забойствах, у шпіянажы, у падрыхтоўцы разбурэння і пагібелі нашай радзімы.

Услед за эканамічным крызісам безасабовыя каралі цяжкай індустрыі выпусцілі сваіх крывавых псоў—фашыстаў на народныя масы. Троцкі і яго агенты самкнуліся з фашызмам, каб ісці да ўлады любой цаной. Фашызм аддаў ім галіну правакацыі, шпіянажа і дыверсіі, галіну ім зразумелую і ім уласцівую.

Я праехаў па дарогах Іспаніі ад Портбу да Валенсіі і Мадрыда, і я адчуў, што за гэту прыгожую краіну лёгка памерці. Але не памерці трэба, а перамагчы!

Увесь свет, у імя гуманізма, у імя дабра свабоды, у імя ўсяго, што ёсць прыгожага і творчага ў нашым жыцці, павінен грудзямі стаць на абарону гордага народу прыгожай Іспаніі.

*Вс. Вішнеўскі*

# МЫ ЗНІШЧЫМ ЦЯБЕ, ФАШЫЗМ!

17 дзён мы разам у Валенсіі, Мадрыдзе, на фронце, у Парыжы, людзі 28 краін свету, пісьменнікі і гуманісты, якія вырашылі словам, справаю, прыкладам паказаць сваю баявую гатоўнасць, сваю адданасць народным масам, рабочаму класу. Гэты кангрэс—духоўная мабілізацыя інтэлігенцыі свету. На гэтым кангрэсе пісьменнікі пад агнём кінулі фашызму: не баімся, пагарджаем, абвінавачваем! Але мала сказаць „абвінавачваю"... Не раз гэты ўсклік „ж'аккюз" („Я абвінавачваю") быў чуцен у гісторыі сусветнай літаратуры. На гэтым кангрэсе пісьменнікі дадалі да „ж'аккюз", да абвінавачванняў, на адрас рэакцыі, контррэвалюцыі, фашызма, новае і гістарычнае слова—яны кажуць: „Не баімся, пагарджаем, абвінавачваем і знішчым цябе, фашызм". Гэта будзе так! І наша слова: XX стагоддзе, стагоддзе вялікіх рэвалюцый у Расіі, стагоддзе нараджэння сусветнага народнага фронту, будзе і стагоддзем пагібелі фашысцкіх дыктатур, тупых, змрочных і чалавеканенавісніцкіх.

Мы былі ў Іспаніі: у гарадах, вёсках, акопах... Наш кангрэс зліўся з бурным і імклівым парывам іспанскага народу. Армія Мадрыда наступала і гнала фашысцкіх фалангістаў, рэкетыстаў, германскіх і італьянскіх наймітаў... У шэрагах наступаючых ішлі і немцы, інтэрнацыяналісты, батальён Тэльмана, ішлі гарыбальдзісты, ішлі палкі гераічных унукаў Дамброўскага, ішлі югаславы, балгары, ішлі амерыканцы і англічане, ішлі нарэшце, парыўчастыя і гарачыя французы. За Іспанію ўзнімаюцца лепшыя людзі Еўропы, лепшыя людзі свету. Я падняў на полі бойкі палявую кніжку забітага байца, амерыканца-мастака. Ацаніце самі маўклівы подвіг гэтага радавога амерыканца, які без пашпарта скрозь кардоны і аблавы перасякае акіян, каб ісці ў пяхотны ланцуг у імя выратавання Іспаніі... Ідуць і гінуць. Нам Байран даў прыклад ахвярнага і благароднага подвіга. Ён змагаўся за незалежнасць Грэцыі. Гэта было рэдкім прыкладам. Прайшло крыху больш за стагоддзе, і тысячы перадавых пралетарыяў, сялян і інтэлігентаў узняліся да подвіга Байрана. Ён існуе, духоўны ўздым чалавецтва! Ён хуткі, ён імклівы... Чалавечая воля, парыў думак, парыў сэрцаў б'юць далей, чым фашысцкая артылерыя. Берліну і Рыму давядзецца перагледзець свае ваенныя, тактычныя і тэхнічныя разлікі. Фашысты з цяжкасцямі трымаюцца каля ўскраін Мадрыда, перадавы-ж свет дасягае любых пунктаў земнага шара: з Чылі едуць на кангрэс, сам кангрэс перасоўваецца па Еўропе з узорнай дакладнасцю, рухавасцю. Наш кангрэс бачны і чутны ўсяму свету... За нашай

работай сочыць і Паўночны полюс, бо там большэвікі, людзі культуры і пільнай увагі да жыцця.

Што запомніў я назаўсёды ў Іспаніі? Свяшчэннае гарэнне народу, невычарпальную, неперадаваемую жыццёвую сілу мас... Руіны, копаць, бруд, бой і шыпенне цяжкіх знарадаў, начныя нервуючыя налёты авіяцыі. Але народ жыве. Мадрыд велічны. Ён у шрамах, але ён падцягнуты, як добры стары салдат. Дым пажару засланяе далягляд, але горад не змяняе сваіх прывычак: ён жыве, працуе, кахае, танцуе, спявае, змагаецца...

Я запомніў назаўсёды ў Іспаніі парыўчастую, трапяткую, поўную пульсуючай крыві і слёз любоў да Савецкага Саюза да вялікай большэвіцкай Расіі. Мы былі ў вёсцы Мінгланілья паміж Валенсіяй і Мадрыдам. Старыкі, старухі, дзяўчаты, дзеці акружылі нас, сціскалі ў абнімках і толькі паўтаралі адно слова: „Русо, русо“. Тэрмін „міжнародная салідарнасць“ тут быў дадзены самім жыццём, самім быццём. Іспанскія сяляне браталіся з намі. Мы змяшалі пот, слёзы, пацалункі і словы адданасці.

Вам цяжка ўявіць сабе ўсе пакуты, іспыты, праз якія прайшоў наш народ... З цягам часу наша новая літаратура раскрые ўсю эпапею, шматвяковую эпапею рускага народу і брацкіх народаў, што пайшлі з ім. Я раскажу вам, таварышы, мае сябры і браты, некалькі эпізодаў з рэволюцыйнай барацьбы рускага народу.

Рускі народ грымеў мецяжамі, сялянскімі паўстаннямі з даўных часоў. У імя вызвалення і незалежнасці ён ішоў на пыткі скрозь кастры, не скараючыся нічым чужаземным сілам і парадкам. Ён разбіваў, адкідваў варожыя полчышчы і орды. Народ наш з свяшчэннай упартасцю ішоў да свайго вызвалення...

Народ наш жыў усімі помысламі перадавога чалавецтва. Ён браў лепшае ад думкі і спраў Францыі, Англіі і Германіі і ўносіў сваё кроўнае арганічнае: размах, напорыстасць, найвяікшую стойкасць, вядомую ўсім.

З нетраў гэтага народу выйшлі правадыры, якія неслі ў сабе лепшыя якасці народу, яго геній, яго дабрату, вечнае імкненне да праўды, любоў да працы, дапытлівасць і беззаветную адвагу. Гэтыя правадыры—наш Ленін і наш Сталін...

Правадыры нашай рэволюцыі ішлі з байцамі ў адных шэрагах. Вы павінны ўявіць сабе Леніна на рабочых сходках, пад смяротнай пагрозай шашак, бізуноў, рускай паліцыі, блізарукай і бязлітаснай. Вы павінны ўявіць сабе Леніна ў турмах, дзе ён стварае свае неўміручыя кнігі, вы павінны бачыць яго ў сібірскай ссылцы заўсёды з таварышамі, заўсёды бадзёрага, заўсёды працуючага, ні на хвіліну не трацячага агульнай карціны свету. Праследванні, удары, турмы, Сібір,—нішто не магло спыніць большэвікоў... Тэрор цара таксама нічога не мог зрабіць з імі. Сорак тры тысячы павешаных і расстраляных, сто тысяч сасланых на Поўнач у Сібір не зламалі ў 1905 годзе волю народу і яго партыі большэвікоў. Большэвікі ведалі—перамога будзе, што-б там ні было: трэба ўзяць! Ленін уходзіў з Расіі праследваемы...

Наперадзе была начная небяспека Балтыйскага мора. Лёд падламаўся, трашчэў, чорная вада шыпела каля ног... Ленін ішоў з

ільдзіны на ільдзіну, падбадзёрваючы фінаў праваднікоў... Ён не баяўся, ён жыў у імя найвялікшай справы, у імя ўсіх нас.

Сталін! Наш Сталін! У яго жыцці ёсць выпадак, які павінен зрабіцца здабыткам усёй сусветнай літаратуры. Сталін вадзіў пад агнём першыя рабочыя дэманстрацыі больш за трыццаць год таму назад... У вачах людзей гарэў агонь будучай вялікай Чырвонай арміі. Сталін! У турме ён быў цэнтрам духоўнага супрацiўлення, прыкладам найбольшай вытрымкі і валявой накіраванасці... Быў дзень, калі адміністрацыя выклікала войскі, каб наладзіць збіванне непакорлівых палітычных зняволеных. Іх прагналі скрозь строй... Удары сыпаліся на плечы, грудзі і галаву... Або па вачах... Сталін узяў кнігу, заціснуў яе пад руку, зірнуў на атупелых, успацелых, цяжка дыхаючых катаў і пайшоў скрозь строй пад сотні ўдараў. Сталін ішоў моўчкі, роўным крокам... Так ён прайшоў гэты шлях, не сагнуўшыся, не крыкнуўшы.

Наша краіна прайшла крызіс двух вялікіх войнаў: імперыялістычнай і грамадзянскай. Апошнюю мы вялі пяць год, пяць доўгіх і не забываемых год. Арміі чатырнаццаці дзяржаў інтэрвенцыяністаў хацелі паставіць Расію на калені, хацелі прадыктаваць ёй старыя, да д'ябла намі выкінутыя законы, хацелі зрабіць з нас пакорлівых рабоў. Расія і брацкія народы Украіны, Беларусі, Грузіі, Азербайджана, Узбекістана і іншых нашых рэспублік змялі і парвалі ў клочча варожыя арміі. У нас часта не хапала зназражэння. Мы адбіралі яго ў ворага. Варашылаў і Будзённы пад Царыцынам пісалі на просьбу даць патронаў: „Такавых няма. Дастаць у працiўніка. Аб выкананні данесці". І Чырвоная армія можа данесці працоўным, у тым ліку, вам, кангрэсу, што ў пяцігадовую вайну 1917—1922 г.г. яна галодная, змардаваная, задушаемая блакадай, абліваемая паклёпам, здраджваная некаторымі генераламі—адолела ўсе перашкоды, прайшла горы, снягі, тайгу, агонь, здабыла зброю, вырвала яе рукамі і зубамі ў ворага і разнясла яго ў пясок, у пыл! Памятайце, што так змагаўся стомлены ад імперыялістычнай вайны народ.

Памятайце, што такіх вынікаў дасягнула „тая" Расія—без тэхнікі, адным гарэннем, дысцыплінай, беззаветнай адданасцю вялікай ідэі, сувяззю народу з правадырамі, якія зліваюцца з народам, вядучы яго.

Мы дамагліся перамогі, на яе ў нас працавала ўсё.

За два-тры пяцігоддзі краіна наша пераўтварылася. Вырасла новае пакаленне... Хлынулі новыя сілы. Наша тэхніка ідзе ўпарта і няўхільна да сусветных вышынь. Наша авіяцыя вам вядома: гэта Масква—Паўночны полюс—Сан-Франциско... Заўтра гэта будзе палёт яшчэ больш далёкі і няхай падужаюцца з намі „Капроні", „Фіаты", „Юнкерсы", „Гейнкелі"!

Ворагі—у шаленстве і злосці ад факта вольнага існавання соцыялістычнага 170-мільённага народу. Яна існуе—магутная, велізарная краіна на двух кантынентах, ад Балтыкі да Тіхага акіяна, ад полюса да граніцы Індыі. Яна існуе—незалежная, стварыўшая свае парадкі, свой стыль, сваю літаратуру, сваё кіно, сваю музыку, сваю тэхніку, сваю гаспадарку, свае звычаі, славечкі, пры-

вычкі... У яе спрабуюць страляць. Нас спрабуюць прадаць і нам здрадзіць... То адзін, то два, то восем здраднікаў спрабуюць прадаць і здрадзіць новаму свету. Адным махам рукі народ убраў і знішчыў гэтую дрэнь. Салдаты (тут іх шмат на кангрэсе, сярод пісьменнікаў) ведаюць: вош б'юць. Мы іх б'ём. Нам дзіўна: гэта-ж у Еўропе часам ад гэтага непакояцца і шумяць. А ў нас не змяняецца ні на іоту рытм жыцця, хада народу, яго ўсмешка... Была спроба шайкі трацкістаў і тухачэўскіх. Шайка знішчана. Вораг хоча нашкодзіць нам. Адказалі мы рашуча і проста. І зробім так і ў будучым. Вораг хацеў падарваць абарону вялікай краіны. Народ адарваў галовы здраднікам... А ў дадатак за некалькі дзён даў Ураду СССР 4-5 мільярдаў рублёў на абарону! Вы ведаеце, што такое СССР у баі! Пры новай спробе ворага, вораг будзе адкінуты і знішчаны. Пісьменнікі свету, вы павінны ведаць, што ў выпадку новай вялікай вайны СССР да сябе на тэрыторыю ворага не пусціць. Ворага мы будзем біць на яго тэрыторыі. Наш народ прайшоў велізарную школу барацьбы, рад войнаў і тры рэвалюцыі. Мы ведаем, што, як і чаму мы будзем рабіць.

Наш кангрэс сабраўся ў навальнічную пару. Небяспека вайны насоўваецца ўсё бліжэй. Пісьменнікі свету ў прадбачанні блізкіх падзей лічаць гэты кангрэс толькі папярэдняй нашай мабілізацыйнай падрыхтоўкай. Мы бачылі твар новай вайны ў Іспаніі. Рыхтуйцеся да таго, каб вытрымаць іспыты, яшчэ больш глыбокія і сур'ёзныя, правярайце і трэніруйце сябе для дасканалай і вялікай барацьбы на вялікіх прасторах. Лёс можа зрабіць так, што ўсім нам давядзецца зноў сустрэцца на франтах. Яшчэ больш умацуем сябе ідэйна, прафесіянальна, тэхнічна і фізічна для будучай барацьбы. Паставім сабе мэтаю ўліць у нашы шэрагі новыя сотні новых сяброў, пісьменнікаў свету. Рушым у ход нашы новыя кнігі, паэмы, фільмы... Не будзем траціць ні аднаго дня! Пойдзем уперад без страху, адкідваючы ворагаў, здраднікаў, трусаў...

Хай будзе так, каб у час новай барацьбы сусветная арганізацыя пісьменнікаў, абаронцаў культуры, без прымусу, без маруджання абрушыла на фашызм рад смяротных удараў. Хай будзе так, каб пісьменнікі свету адзначылі эпоху і сябе кнігамі, імклівымі, як атака, і актамі магутнага асабістага ўдзелу ў барацьбе. Мы аднолькава гатовы пісаць за сталом і страляць куля ў кулю, паснайперску, у акопах, весці людзей, быць камандзірамі і камісарамі.

Брацкае прывітанне вам з Масквы! Перамога сярод нас... Мы можам яе дасягнуць, мы можам яе ўзяць. Мы зробім наша 20-е стагоддзе стагоддзем вялікай вызваленчай сусветнай рэвалюцыі.

---

# ХРОНІКА

## У ПРАЎЛЕННІ ССП БССР

Паседжанне Праўлення Саюза Совецкіх Пісьменнікаў БССР 9 жніўня пачалося ўступным словам тав. Лынькова, які расказаў аб шкодніцкай, шпіёнскай дзейнасці ворагаў народу ў БССР. Тав. Колас зачытаў пастанову СНК СССР і ЦК ВКП(б) „Аб аказанні дапамогі калгаснаму сялянству Беларускай ССР і аб ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў справе калгаснага ўпарадкавання".

Выступаючыя пасля пісьменнікі адзначылі выключныя клопаты комуністычнай партыі і таварыша Сталіна аб калгасным сялянстве і ўсіх працоўных нашай краіны. Прыводзячы факты дзейнасці ворагаў народу, выступаючыя заклікалі пісьменнікаў павышаць рэволюцыйную пільнасць, мацаваць сувязь з масамі.

На паседжанні праўлення заслухана пытанне аб магчымасці прабывання ў радах ССПБ Александровіча. Пісьменнікі, якія выступалі па гэтаму пытанню, фактамі і прыкладамі яшчэ раз пацвердзілі шкодную дзейнасць Александровіча.

Выступаўшыя ўказвалі на творы: „Цені на сонцы," „Векапомныя паходы", „Напор", „Дваццаць", „Нараджэнне чалавека", якія напоўнены варожымі выпадамі супроць комуністычнай партыі і совецкай улады, ідэалізуюць кулака, фальсіфікуюць нашу совецкую рэчаіснасць.

Дэталёва разгледзеўшы ўсе гэтыя факты, Праўленне ССПБ пастанавіла выключыць А. Александровіча з членаў саюза совецкіх пісьменнікаў.

## ЧЫТКА П'ЕСЫ М. КЛІМКОВІЧА

8-га жніўня ў Менскім Доме Пісьменніка адбылася чытка п'есы М. Клімковіча „Кацярына Жарнасек". На чытцы прысутнічалі пісьменнікі, паэты і крытыкі.

Усе выступаючыя адзначылі, што „Кацярына Жарнасек"—значнае дасягненне беларускай драматургіі. У творы багата фальклорных матэрыялаў, ярка абмаляваных персанажаў.

Выступаючыя адзначылі і рад істотных недахопаў твора. Тэкст залішне перагружаны доўгімі дыялагамі, маналогамі і песнямі. Ёсць некаторыя заганы ў мове. Пасля выпраўлення недахопаў п'есу безумоўна можна рэкамендаваць для пастаноўкі ў нашых тэатрах.

## У ДЗІЦЯЧЫМ ТЭАТРЫ БССР

Толькі што вярнуўся з свайго месячнага падарожжа па рэспубліцы калектыў дзіцячага тэатра БССР.

У часе гастроляў тэатр наведаў піянерскія лагеры, чырвонаармейскія часткі, раёны Полацкай акругі. Усяго тэатрам дана 30 спектакляў і абслужана каля 18000 гледачоў. Выступленні тэатра праходзілі з вялікім поспехам і ўздымам. Тэатр пабываў у аддаленых пагранічных калгасах і соўгасах, на пагранічных заставах.

Пасля адпачынку калектыў тэатра прыступіць да работы над юбілейным спектаклем „Як гартавалася сталь" па раману Н. Остроўскага, інсцэніроўка Рафаловіча. Гэты свой спектакль тэатр прысвячае XX гадавіне Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Спектакль будзе ставіць мастацкі кіраўнік тэатра—заслужаны артыст рэспублікі А. Е. Міровіч. Другой пастаноўкай гэтага сезона намячаецца п'еса беларускага драматурга І. Гурскага „Валодзя Вярбіцкі".

## ВЫСТАЎКА РАБОТ МАСКОЎСКІХ МАСТАКОЎ

У Менскім Доме Чырвонай Арміі імя Варашылава адкрыта новая выстаўка жывапісу і графікі маскоўскіх мастакоў. Выстаўка адкрыта па ініцыятыве Маскоўскага Цэнтральнага Дома Чырвонай Арміі імя М. В. Фрунзе.

На выстаўцы прадстаўлены работы больш за 75 мастакоў, у тым ліку буйнейшага совецкага баталіста М. Б. Грэкава, выдатных пейзажыстаў Бялыніцкага-Бірулі, Якаўлева, Бакшэева, буйнейшага партрэтыста В. Н. Мешкова і іншых.

## У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ УКРАІНЫ

Тры дні пісьменнікі Украіны абмяркоўвалі на сваім сходзе пытанне пра барацьбу з трацкісцка - авербахаўскім атрэп'ем, якое не мала нашкодзіла украінскай літаратуры.

У выступленнях рэзка крытыкавалася дзейнасць былых кіраўнікоў ВУСПП і „Маладняка“, якія прадаўжалі да апошняга часу трымацца шкоднай пазіцыі, што ВУСПП—гэта адно, а РАПП—гэта другое.

Разам з гэтым не ўсе выступаўшыя гаварылі пра свае памылкі на ўвесь голас. Перш за усё гэта тычыцца Тардова, Пацека, Торына.

Не ўдалося ворагам расхістаць рады совецкіх украінскіх пісьменнікаў—заявіў у сваёй рэзалюцыі сход, які абавязаўся рашуча выкарчаваць усе рэшткі варожай агентуры ў літаратурных арганізацыях.

Сход спаткаў бурнымі апладысментамі прапанову пасдаць прывітальную тэлеграму правадыру народаў вялікаму **Сталіну**.

## НАПЯРЭДАДНІ 750-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ШОТА РУСТАВЕЛІ

Грузінскі рэспубліканскі Камітэт па правядзенню 750-годдзя з дня нараджэння Шота Руставелі вырашыў выпусціць да юбілейных урачыстасцей акадэмічнае і масавае выданне паэмы „Віцязь у тыгравай скуры“, а таксама рад навуковых артыкулаў і мастацкіх твораў, прысвечаных Руставелі.

Акадэмічнае выданне паэмы павінна выйсці з друку 15 лістапада, масавае—15 кастрычніка гэтага года. Навукова-даследчы інстытут імя Руставелі выдае зборнік навуковых артыкулаў аб славутым паэце.

Арганізуецца юбілейная выстаўка, у якой будуць прадстаўлены быт, эканоміка, мастацтва і літаратура эпохі Руставелі. У юбілейныя дні ў тэатрах сталіцы адбудуцца пастаноўкі, прысвечаныя паэту.

У Абхазіі, Аджарыі, Паўднёвай Асетыі і буйных раёнах Грузіі ствараюцца камітэты па правядзенню юбілейных урачыстасцей.

## ШОТА РУСТАВЕЛІ Ў ФАЛЬКЛОРЫ

Гэтымі днямі ў Тбілісі вярнулася з Месхетыі і Джэвахетыі арганізаваная навуковым інстытутам імя Руставелі фальклорная экспедыцыя. Экспедыцыя наведала звыш 30 пунктаў у Ахалцыхскім, Аспіндскім, Ахалкалакскім і Адыгейскім раёнах, дзе запісала да 30 народных паданняў пра „Віцязя ў тыгравай скуры“.

Цікавы слоўны біяграфічны матэрыял пра Шота Руставелі, атрыманы ў сяленні Удэ ад Стефана Гзірышвілі, Паўле Очыгашвілі і іншых. З гэтых матэрыялаў складваецца звязная слоўная біяграфія найвялікшага грузінскага паэта, складзеная народам.

Экспедыцыяй запісаны таксама паданні пра царыцу Тамару, Саргізе Тмогвелі (па паданню—брат жонкі Шота Руставелі, Ніны), да 250 казак і 150 загадак і прыслоўяў. У Ахалцыху знойдзен рукапіс паэмы Руставелі, які адносіцца да 40-х гадоў мінулага стагоддзя.

## РАСШЫФРОЎКА РУКАПІСАЎ Н. Г. ЧЭРНЫШЭЎСКАГА

У доме-музеі Н. Г. Чэрнышэўскага ў Саратаве захаваны багаты рукапісны архіў вялікага пісьменніка. Частка рукапісаў ранняга перыяду яго творчасці (універсітэцкія лекцыі, славуты „Дзённік“ і інш.) напісаны шыфрам, вельмі складаным, які цяжка чытаць, нават калі ёсць да яго ключ.

Пасля смерці М. Н. Чэрнышэўскага, сына пісьменніка, які падрыхтаваў да друку некалькі шыфраваных рукапісаў свайго бацькі, майстэрствам чытання шыфра Чэрнышэўскага ўладае толькі Н. А. Алексееў, стары большэвік.

Нядаўна ў часопісу „Чырвоны архіў“ ён надрукаваў артыкул „Шыфр Чэрнышэўскага“. У сучасны момант Н. А. Алексееў, які працуе над падрыхтоўкай тэкстаў для поўнага збору твораў, што выдае Дзяржлітвыдат, прыехаў у Саратаў, каб у доме-музеі Чэрнышэўскага закончыць рад сваіх работ па расшыфроўцы рукапісаў вялікага пісьменніка.

## РУКАПІСЫ ПУШКІНА

У выніку трохгадовай старannай работы Акадэміяй Навук складзена першае поўнае апісанне ўсіх рукапісаў і аўтографаў Пушкіна, якія захаваны ў Ленінградскім Пушкінскім доме.

Выкарыстаны чарнавікі вершаў і прозы, копіі тэкстаў з асабістымі папраўкамі, канчатковыя тэксты, пісьмы і чарнавікі пісьмаў, запісы ў альбомы, рысункі і кнігі з паметкамі вялікага паэта.

Поўнае апісанне ахапляе 823 рукапісы і аўтографы, якія характарызуюць усе перыяды творчага жыцця Пушкіна—ад

ранніх ліцэйскіх твораў да апошняга аўтографа—пісьма Пушкіна да А. О. Ішымавай, напісанага ў дзень дуэлі 27 студзеня 1837 года.

## ГОРКІ ПРА РЭЛІГІЮ

Выдавецтвам „Маладая гвардыя" падрыхтавана да друку кніга „Горкі пра рэлігію".

У ёй сабраны артыкулы, выказванні і афарызмы вялікага пісьменніка пра рэлігію.

У літаратурным раздзеле кнігі даецца ўрывак з „Фамы Гардзеева".

## ЗБОР ТВОРАЎ Л. ФЕЙХТВАНГЕРА

Дзяржлітвыдат рыхтуе выданне поўнага збору твораў Леона Фейхтвангера. Памер выдання—чатырнаццаць тамоў, у яго ўвойдуць усе важнейшыя творы пісьменніка.

У наступным годзе выйдуць першыя шэсць тамоў. Змест іх: „Брыдкая герцагіня", „Яўрэй Зюс", „Іудзейская вайна", „Сыны" „Сем'я Апенгейм" і першая частка трылогіі „Поспех".

Дзве апошнія часткі „Поспеха", раман „Ілжэ-Нерон", трэцяя частка трылогіі „Іосіф Флавій", п'есы і навелы, а таксама том крытычных і публіцыстычных артыкулаў будуць выдадзены ў 1938—1939 гг.

## ДРУГОЕ ВЫДАННЕ КНІГІ КОЛІНЗА

Кніга славутага амерыканскага лётчыка Джыма Колінза—„Лётчык-выпрабавальнік" шпарка знікла з паліц кніжных магазінаў. Поспех кніжкі зусім зразумелы. Ён тлумачыцца і трагічным лёсам яе аўтара, звычайным для пілотаў капіталістычных краін, і выдатнымі літаратурнымі якасцямі навел пра небяспечнае, поўнае ўсялякіх прыгод, жыццё лётчыкаў-выпрабавальнікаў.

„Сусветная бібліятэка" выпускае другое выданне „лётчыка-выпрабавальніка", якое выходзіць пад рэдакцыяй і з уступным артыкулам героя Совецкага Саюза М. Вадап'янава.

У кнізе будуць змешчаны і водгукі пра яе герояў Совецкага Саюза В. Чкалава і Г. Байдукова.

## ВЫБРАНЫЯ АРТЫКУЛЫ Н. Я. МАРРА

Чацверты том „Выбраных прац" акадэміка Н. Я. Марра выходзіць у выдавецтве Акадэміі Навук СССР.

У том уключаны артыкулы, накіраваныя супроць расісцкіх тэорый пра паходжанне, развіццё мовы, што прапаведваюць фашысцкія мракабесы.

## НАВІНКІ ВЫДАВЕЦТВА ДЗІЦЯЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ

У серыі гістарычнай бібліятэкі выдавецтва дзіцячай літаратуры ЦК ВЛКСМ выйшлі чатыры кнігі: „Дзевяноста трэці год" В. Гюго, „Квенцін Дорвард" Вальтэр-Скотта, „Хроніка часу Карла IX" П. Мерыме і „Спартак" Р. Джыованіолі.

У школьнай серыі выпушчаны: „Хаджы Мурат" Л. Талстога, „Гора ад розуму" Грыбаедава, „Квенцін Дорвард" Вальтэр-Скотта, „Тры мушкецёры" А. Дзюма, „Спартак" Л. Джыованіолі і „Марсельцы" Ф. Гра. З совецкіх аўтароў: К. Пастоўскі „Кара-Бугаз", А. Гайдар „Ваенная таямніца".

## РОМЭН РОЛАН ПРА ПАСТАНОЎКУ „АННЫ КАРЭНІНАЙ"

11 жніўня ў Парыжы ў перапоўненым тэатры Елісейскіх палёў адбыўся трэці гастрольны спектакль Маскоўскага ордэна Леніна Акадэмічнага Тэатра „Анна Карэніна".

Сярод прысутных шматлікіх прадстаўнікоў французскай літаратуры і мастацтва быў вялікі пісьменнік Францыі Ромэн Ролан.

Пасля таго як заслона апусцілася ў апошні раз і доўга не змаўкаючыя апладысменты пачалі заціхаць, Ромэн Ролан прышоў за кулісы. Бурнай авацыяй спаткалі яго ўсе артысты тэатра на чале з пастаноўшчыкам „Анны Карэнінай" народным артыстам СССР В. І. Неміровічам-Данчэнка.

Ромэн Ролан выказаў работнікам тэатра сваю падзяку за пастаноўку любімага французамі талстоўскага рамана.

— Ігра акцёраў,—сказаў ён,—дае гледачу магчымасць адчуць самую атмасферу найвялікшага тварэння геніяльнага рускага пісьменніка.

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, К. Чорны.*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68. Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394**

ЗМЕСТ

Рэдактар *М. Лынькоў*

Здана ў набор 10/VIII—37 г. Падпісана да друку 8/IX—36 г.
Аб'ём $8^1/_2$ друк. арк. Знакаў у друк. арк. 52.000. Папера $62 \times 94^1/_{16}$.
Тыраж 3150 экз. Зак. № 1189. Уп. Галоўлітбела № К—2596.

Друкарня імя Сталіна, Менск, Дом Друку.

